# ПОЛЫМЯ

КРАСАВІК—МАЙ

№ 5—6

МЕНСК—1923

*Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ПОЛЫМЯ

## БЕЛАРУСКАЯ ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКАНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

**№ 5—6**

КРАСАВІК—1923—МАЙ

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ». МЕНСК, 1923.

# Хто мы?

Мы—сыны
Новых дзён!
    Мы пракокі-ваякі за волю.
    Пяруны
З бліскавіцамі значаць наш шлях
    Ад нядолі мінуўшых вякоў
    На чырвоны лунаючы сьцяг
        Усясьветнай Камуны.
    Нас вядзе
Да яе нястухаючы імпэт адвагі,
Як пяўца—слухаць гучныя струны
    Няўміраючай сагі,
Як сьцярпеўшага мукі ад смагі
        К вадзе.

    Цьвёрды грунт
Нам вабіла па шляху цярпеньне;
Дакранёмся нагамі—ўлягае камсньне,
Ночы змрок разьлятаецца чорны
    I гуляе прасторны,
    Вялікі, упорны
        Наш бунт.

    Дзе відаць,
    Дзе стаяць
Векавыя устоі няволі,
Дзе яе уміраюць ахвяры—
Мы там шлём
Буру й гром!
Без спагады-патолі
Аддаём мы заслужныя кары.
    Мы—сыны
    Новых дзён!
Сьветлай долі працоўным—тварцы.
Мы Ўсясьветнай Камуны—ганцы-
        Вястуны!

**Цішка Гартны.**

9/V 23, Менск.

# Будаваньне.

Зьліта, згушчана, зьяднана,
Як цамэнтам, прагным пэнтам
Да змаганьня
Будаваньня
Скалыхнулася грамада
Промэтэем—
Вяліканам!
І кранула
З громам, гулам
Нястрыманым
Вадаспадам,
Паднялася
Пяруновай агнявеяй!
І ўздыбіла
Перад намі
Прытаёнае вякамі—
Трохвярстовымі хібамі
Хвальмі ўзбуранага мора...
Вочы ўгору!
Гучней стукі!
Зьлітна, згушчана, зьяднана
Пад націскам вялікана
Стогне-рвецца слой цалінны
Векавечнае дзярніны
Загартованым нарогам...
І грымоча перад богам
Падлятаючае рэха
Волютворчага пасьпеху...
Раскалыхэнай грамады
Непарухныя пасады
Нікнуць, гінуць, прападаюць...
Толькі вогнішчам палаюць
Разгарачаныя вочы!
Ды ляскоча
Молат важкі сілай грому...
І сьмяюцца маладому
Аднаўленьню,
Будаваньню
Сонца яснага праменьні
Й зор бліскучае міргаsucceedньне.

**Цішка Гартны.**

23/IV—23 г.

# Пакуль жыу—для мяне.

Зоры й месяц ў вышыне
Для мяне, для мяне!
Пекнасьць дзіўная палёў,
Песьні пташак, шум гаёў,
Неба сіняе наўкруг,
Увабраны травой луг,
Сьвежы ветрык, што сапне
Над палямі—для мяне,
Для мяне!
Зірк дзяўчыніных вачоў,
Зыкі песьняў яе й слоў,
Першай любасьці пазыў,
Што прыветны зірк ўлажыў
Ды ўскалыхнуў раптам кроў;
Наша першая любоў
Ўся ў праменьні, ўся ў агне—
Для мяне, для мяне!
Кветкі ў садзе, зелень, пах,
Мак чырвоны на градах,
Срэбнасьць раньняе расы,
Сьвіст сярпа і звон касы,
Рэзвы стук цапоў ў гумне—
Для мяне, для мяне!
Ўсё, што бачыцца вакол:
Неба сінь, зялёны дол,
Рэчка, горы, гай між ніў—
Для мяне, пакуль я жыў,
Пакуль сэрца ў грудзях б'е
Ўсё красуе, ўсё пяе;
Ўсё гаворыць мне бяз слоў,
Каб я жыў, бы пан з паноў,
Каб на хвілю я ня нік,
А на кожны жыцьця зык
Змог-бы чула адгукнуць...
Бо, пакуль ня ўсьпеў заснуць
На сьмяртэльным тапчане,
Ўся прыгожасьць для мяне,
Для мяне!
Там, за мною—берагі,
Сьвет інакшы, сьвет другі,
З якім буду гаманіць,
Як жыцьця парвецца ніць,

Як на зьмену днём жывым
Нябыцьцё расьцеле дым,
І разьляжа нала мной
Змрок сьмяртэльнаю шатой.
А цяпер, калі жыву,
Калі рухаю, лаўлю
Кожны подых, кожны ўзьвей
Жыцьця радаснага дзей
На зямлі і ў вышыне—
Ўся прыгожасьць для мяне.
Для мяне!

**Цішка Гартны.**

Пецярбург
30/VII, 14.

# Вясьняны кліч.

Крыльлі раскінуты, моцныя крыльлі,
Вабіць блакітная даль,
Скінуты путы цяжкога бясьсільля,
Сэрцу няведамы жаль.

Шырака дзьверы расчынены к сьвету—
Кратаў няволі няма.
Сэрца імкнёцца да шчасьця прывету—
Сэрцу абрыдла зіма.

Кіньма няволю, умсўнасьцяў краты!
К сонцу ўзьляцім на прастор;
Сэрцы ў нас шчырым каханьнем багаты,
Пойдзем па шчасьце да зор.

Гучную песьню з табой запяём мы—
Ў сэрцы пануе вясна...
Гукі тэй песьні даўно нам знаёмы—
Гымнам завецца яна:

Гымнам каханьню, вясьне ды свабодзе.
Досыць нясьмела чакаць!
Лёс свой бяздольны цярпелі ўжо годзе.
Чуеш, як сьпевы гучаць?..

Усё аджывілася з сонечнай ласкай,
Люд узбудзіўся ад сну.
Сьвет нам здаецца чаруючай казкай,
Сьвет апявае вясну.

Кіньма-ж няволю, умоўнасьцяў путы!
З сэрца далоў ланцугі!
Доўга былі нашы душы закуты,
Сон панаваў там даўгі.

Досыць на жыцьце глядзець праз вaконца!
Моцны каханьнем сваім,
Ў ясны блакіт, да яскравага сонца
Шчасьця шукаць мы ляцім

**Хмарка.**

# Надыход лета.

Звоны авадзёна у паветры носяцца
Над цьвітучай нівай збожжа-ярыны,
І трава касіцца ў касавіцы просіцпа,
Дзесь над канюшынай чутны кос званы.

Адусюль паволі над лугамі, палямі
Мёдам пах разносіцца, пах салодкіх сот;
Жыта, пасьпяваючы, хваліцца куколямі,
А над рэчкай галкі выпусьціў чарот.

Ўсё скрозь лятуценіцца, неба сінь праменіцца,
Шле свае вітаньні мору каласоў
І ўсяму, што стрэнецца, што цьвіце, зяленіцца;
Цені распаўзьліся ад густых лясоў.

Ганарыцца возера, серабрыцца люстраю,
А над ім палошчуцца качкі, качуры,
Ластаўкі—мух ласаўкі—над ім ўюцца шустрыя,
Да прастор турбуюць грайкі-дудары...

**А. Гурло.**

27/III—23 г.

# Дачакауся.

## I.

Раман Шулдзяк толькі-што адпрог з плуга каня і пусьціў яго папасьвіцца ў маладым дубняку над ярам, а сам разьлёгся пад ценем разьвіслага дуба.

Эх, люба ты, часіна сапачынку пасьля працы! А Раман такі папрацаваў: ужо на полі, ходзячы за плугам, спаткаў ён усход сонца. Спачатку работа ня ладзілася—проста ня было ахвоты працаваць, бо яго надзел быў самы горшы. Але як гэты надзел дастаўся яму па жэрабу, то й ня было на каго наракаць. Ды ўсё-ж такі трэба было спагнаць сваю злосьць хоць на кім ці на чым-небудзь. І праўда, Раман, праводзячы першыя баразны, кіпеў злосьцю на новыя парадкі, а больш за ўсё на гэту «камунію», бо вельмі-ж было крыўдна, што яна лічыла яго кулаком; асабліва гэты басяк, Кандратаў Хведзька, дапякаў яму. Ну, хоць-бы чалавек, а то проста лодар, прагуляў сваю зямлю яшчэ да вайны, а потым пайшоў бадзяцца па капальнях, нідзе не затрымаўся, у Сыбір пераехаў, і там не асеўся, а цяпер вось вярнуўся, засеў у панскім доме і крычыць: «Я—пралятары, а вы—кулакі, забралі ўсё і смокчаце маю кроў!» Падабраў сабе хаўрусьнікаў, зрабіўся „прадсядаталем“ камітэту беднаты; сам нічога ня робіць, толькі ходзіць з сваёю кампаніяй па заможных гаспадарох, каб дзе што ўзяць і заткнуць сваё паганае горла. Нябось ваяваць за камунію ня хоча йсьці. «Мы—кажа—больш патрэбны тут, у тылу, чым на фронце.» Дадумаўшы свае думкі аб Кандратавым Хведзьку да таго моманту яго жыцьця, калі гэты самы Хведзька папаўся на хабарах і з гэтае прычыны быў скінуты з пасады «прадсядаталя» і аддаены пад суд, Раман крыху заспакоіўся. Работа памалу ўцягнула яго ў сваю абладу. Ён шпарка хадзіў за плугам і толькі на заваротах выціраў рукавом свой мокры лоб, адсоўваючы на патыліцу шапку. І толькі тады, калі сонца

ўгрэла, як мае быць, а конь і сам ён парадкам натаміліся, ён выпраг каня, каб пахадзіў па траве, і сам прылёг пад гэтым дубам.

Дзень быў ясны, цёплы.

На полі зачыналі ўжо зацьвітаць грэчкі.

Колькі моманту Раман ляжаў нярухліва, адчуваючы прыемнасьць і асалоду сапачынку, ляжаў, заплюшчыўшы вочы. Проста, не хацелася нават і паварушыцца. Але нярухомасьць цела прышлося ўсё-ж такі парушыць, бо чулася, як ціснулі аборы, уядаючыся ў яго стомленыя, ацёкшыя ад хады ногі. Раман прысеў, каб разуцца.

Павольна, не сьпяшаючыся, разьвязаў ён аборкі, зьняў з ног цяжкія вераўчаныя лапці, якія чамусь называліся «керанскімі», вытрас з іх чорныя грудкі зямлі і шпурнуў на сонца прасушыцца. Цяпер было зусім добра, вольна.

Рамана марыў сон. Ён глянуў на каня санлівымі вачамі, як-бы штосьць разважаючы. Конік весела згрызаў маладую пахучую траву і громка пырхаў.

— Здароў, малы!—адказаў Раман на гэта пырханьне і лёг сьпіною на зялёны дзірван, выцягнуўшыся ва ўсю даўжыню свайго здаравецкага цела.

Ён заплюшчыў вочы і ўжо пачынаў драмаць. Як нейкія цені, у галаве яго прасунуліся ўспаміны—вобразы даўно перабытых часаў. Прасунуліся і зьніклі.

— Гу-у-р-рр!

Дзесь далёка, як-бы з-за зямлі, да вушэй Рамана данёсься нейкі глухі гром.

«Няўжо ўстае хмара і зьбіраецца дождж?» падумалася Раману.

Паварушыцца і паглядзець на неба яму не хацелася, бо так добра было ляжаць. Ён зноў сьцішыўся, гатовы заснуць.

Гром пракаціўся яшчэ раз і ціха ўскалыхнуў паветра. Цяпер гэты гук быў многа выразьнейшы. Раман пачуў, што яго як-бы нешта штурханула з сярэдзіны, бо ў голасе гэтага грому пачулася штосьць новае і страшнае.

Ён прысеў і прыслухаўся.

Неба было яснае, спакойнае. Там-сям па небе стаялі камячкі белаватых хмурынак, як адзнакі добрае пагоды. Зрэдка павяваў невялічкі паўднёвы ветрык, ціха калышучы лісьце дуба. Раман прыслухоўваўся нядоўга: таемны гук грымнуў і ў трэці і ў чацьверты раз.

Ну, цяпер ясна: гэта грымелі гарматы, і гук іх даносіўся як-раз з поўдня.

Сон разьбіўся. Раман сядзеў і слухаў, як грымелі далёкія стрэлы гармат, і ў яго душы падымаліся нейкія хвалі многалучнага пачуцьця і нейкага нявыразнага настрою. Перш за ўсё адчуваўся страх, але разам з тым было і штось прыгожа-павабнае ў гэтым далёкім грукатаньні, і нейкая няясная надзея калыхала сэрца Рамана. Якая гэта была надзея, на што накіроўвалася яна, якая была яе істота—Раман ня мог разабрацца. У яго выабражэньні пачалі выяўляцца малюнкі вайны, ён стараўся вызначыць тое месца, дзе грымелі гарматы, і ўжо пачаў вылічаць, калі да іх ціхага сяла дакоціцца хваля вайны.

А страшныя гукі, так моцна калышучыя душу, усё грымелі й грымелі, то кароткія, то працяжныя. Яны парушалі звычайную плынь жыцьця Рамана, яны прыносілі новыя пачуцьці і выклікалі цэлы шэраг новых пытаньняў.

Раману хацелася падзяліцца з кім-небудзь сваімі ўражаньнямі, сваімі думкамі. Ён абвёў вачамі поле. На полі было ціха і пуста, ні душы. Яму здавалася, што і поле, і гэтыя яры з іх хмызьнякамі і дзікімі грушамі, і гэтыя невялічкія ляскі, раскіданыя там-сям цёмна-сінімі кудзеркамі, таксама мелі цяпер нейкую нязвычайную выразу, як-бы іх засмуціла зусім новае і неспадзяванае пытаньне. Вярсты дзьве па той бок яру стаяла іх сяло, а з аднаго і з другога боку цэлы рад ветракоў з занямелымі крыльлямі. Вецер заспакоіўся, і некаму было вярцець іх крыльлі, хоць у апошнія часы і пры добрым ветры стаялі яны нярухома, бо ня было чаго малоць.

Раману стала маркотна. Ён падняўся, падыйшоў да коніка. Конь старанна згрызаў сакаўную траву, аганяючы хвастом надаедную заедзь. Убачыўшы каля сябе гаспадара, ён прыветна падняў галаву, хрумстаючы траву. Раман лёгка, з любасьцю патрапаў па шыі коніка і прамовіў:

— Эх, ты, конік мой, конік! Дурны ты, брат! Там гарматы гудуць, а ты нічога не разумееш і вухам не вядзеш. Скаціна ты, скажу табе, неразумная.—

Конік шаргануў разоў два галавою аб руку гаспадара ды зноў пачаў скубсьці траву. Раман яшчэ пастаяў трохі каля свайго коніка, пазіраючы на яго, і чагось уздыхнуў, а потым запыніўся за разложыстым арэхавым кустом, дзе гук гарматных стрэлаў адбіваўся яшчэ выразьней.

— І здорава-ж бухаюць!—ціха прамовіў Раман і сам сабе паківаў галавою.

Па сьцежачцы, што вілася прамкамі ад лесу і бегла праз гэтае поле, павольна пасоўваліся як-раз сюды дзьве чалавечыя фігуры. Сьцежачка злучала сяло Ліпавец з воласьцю

Да воласьці адгэтуль было ня больш, як чатыры вярсты. Заўважыўшы людзей, Раман ажывіўся і значна павесялеў. Там, у воласьці, напэўна дачуліся яны якіх-небудзь навін. Цікава будзе пагаманіць з людзьмі і абсудзіць гэтае новае палажэньне рэчаў, аб якім так грозна загаварылі гарматы, бо толькі такім чынам, шляхам агульна-грамадзкага высьвятленьня пытаньня, складаецца сталая грамадзянская думка. Раман прызіраўся, стараючыся згадаць, хто гэтыя людзі. Аднаго ён ужо пазнаў: то быў недалёкі сусед, сталяр Пятро Мазалеўскі. Праўда, і пазнаць яго было нятрудна, бо ня было другога такога чалавека ва ўсім Ліпаўцы, так бедна адзетага і наогул такога горкага бедака, як гэты сталяр Пятро. Яго аблезлая круглая шапка даўно ўжо страціла ня толькі свой былы надворны выгляд, але загубіла і самую гісторыю свайго пахаджэньня. Яна нязьменна сядзела на галаве свайго ўладцы, зрабіўшыся як-бы часткаю гэтае галавы. Кароткі кажушок, калісь меўшы белы колер, цяпер быў зямліста-шэры, аблеплены латкамі рознае велічыні, гатунку і формы. Тут былі латкі палатняныя, кажурынкавыя, суконныя, раменныя. Полы кажушка сканчваліся пашматованамі абтрэпанымі лахманамі, якія пры хадзе і пры ветры рабілі вельмі сьмешныя і замыславатыя рухі.

І трэба зазначыць, што ва ўсім сяле ня быо другога чалавека, такога прыхільнага да новае ўлады, як Пятро. Ня гледзячы на тое, што рэвалюцыя падсекла яму крыльлі, зьнішчыўшы яго грошы, якія зарабіў ён сваёю сталяркаю, жывучы дзесь у Кацерынаславе, і палажыў іх на кніжку, Пятро зусім не наракаў за гэта на рэвалюцыю. Гэта прыхільнасьць да новае ўлады выплывала ў яго ад бескарыснага сэрца, яна паланіла, захапляла яго веліччу і хараством ідэі, калі людзі будуць мець роўнае права на карыстаньне дабрабытам, калі ня будзе гэтага абіраньня чалавекам чалавека, і зьнікне гэта векавечнае прыгнячэньне багатым беднага. Дык што значаць яго прапаўшыя грошы ў параўнаньні з тым новым ладам жыцьця, які зараджаўся на яго вачох, і якому пагражалі тысячы ворагаў з усіх бакоў і пад рознымі лёзунгамі? Хіба ў такія моманты можна думаць аб гэтых грошах! Ды будзь яны тры разы праклятыя!

У хаце Пятра была страшэнная беднасьць. Дзеці сядзелі на печы голыя, босыя. Аб хлебе і гаварыць ня прыходзілася. Хлеб замяняўся бульбаю, просам. Ня было, нават, дроў, і ў той час, калі сяляне, меўшыя коні, вазілі і завальвалі дубамі свае двары, Пятро мусіў на ўласных плечах насіць дровы. Але з

лесу іх многа не наносіш, бо лес быў далёка. Прыходзілася проста адкопваць з-пад сьнегу пні, каб нашчапаць сабе дроў.

Прабаваў зьвярнуцца за дапамогаю да Хведзькі Кандратава, каб паджыцца хлебам. Але хіба то быў чалавек? Хіба меў ён спагаду, сумленнасьць? Сам-то ён еў хлеб, сеяны на самае тонкае сіта, а для Пятра не знаходзілася ні аднаго пудзіка.

З гэтым Пятро яшчэ пагадзіўся-б: ну, што рабіць, калі хлеба няма, калі сама Масква, дзе жыве душа і мозг рэвалюцыі, галадуе? Туды трэба даваць хлеб, трэба падтрымаць тых, у чыіх руках знаходзіліся лёсы рэвалюцыі. Але куды-ж ішоў хлеб, рэквізаваны ў багатых гаспадароў? Ён расходзіўся па руках спэкулянтаў, яго адвозілі ў Рыбінскія Буды і выменьвалі на самагон. І ўсё гэта рабілася з ведама Хведзькі Кандратава. І гэта называецца камітэт беднаты?

— Вось, хто капае магілу савецкай уладзе!—у абурэньні душы казаў Пятро:—такіх сволачаў трэба гнаць, расстрэльваць такіх гадаў!

Спадарожны Пятра быў Захар Палянскі, мужык сярэдніх гадоў, досыць заможны гаспадар.

Раман сядзеў пад дубам, то прыслухоўваючыся да грому гармат, то паглядаючы на падарожных. І цікава: у тыя моманты, калі заціхалі гарматы і доўга ня чуваць было іх грому, Раман чагось маркоціўся, як-бы для яго нешта трацілася; калі-ж іх грукат зноў дрыгацеў у паветры, калышучы і поўнячы яго грознаю музыкаю зьнішчэньня, Раману зноў рабілася страшна і разам з тым і прыемна, бо ў гэтым грукаце чуецца нейкая моц, ёсьць бура жыцьця, а кожная бура і палохае і захапляе.

II.

Пятро і Захар ужо былі недалёка. Раман разьвязаў кісет у той надзеі, што ўжо адзін выгляд гасьцінна разьвязанага кісета зьверне на сябе ўвагу падарожных і паслужыць яшчэ аднэю зачэпкаю для таго, каб Захар з Пятром прыселі тут, тым болей, што тутун меўся ня ў кожнага, бо трудна было даставаць яго.

І ён не памыліўся. Пятро і Захар падыходзілі сюды, сур'ёзныя і задуменныя.

— Чуеце, як грукоча?—такім запытаньнем спаткаў Раман падарожных.

— Здарова жарацЬ!—адказаў Захар, здароўкаючыся з Раманам.

Пятро, пануры, заклапочаны, моўчкі апусьціўся на дол.

— І дзе-б гэта магло быць?—запытаў Раман.

— А ўжо на гэты бок Белгараду,—прамовіў Захар.

— Белгарад ужо забралі?!—у нязвычайным зьдзіўленьні аж крыкнуў Раман.

— Гэ, Белгарад! Ужо вёрст на пятнаццаць сюды, за Белгарад, прасунуліся!

— А-а-а!—зьдзіўляўся Раман:—мусіць-жа вялікая, брат, яго сіла—столькі гарадоў забраў!

— Афіцар'ё азьвярэлае прэцца,—глуха прамовіў Пятро: —ня могуць яны пагадзіцца з новым парадкам; ім патрэбен цар, ім хочацца зноў пасадзіць сваё дваранства на нашу шыю.

— А ці ня ўсё табе роўна, хто будзе па табе езьдзіць?— адказаў Раман:—наўперад езьдзіў пан, а цяпер езьдзяць Хведзькі Кандратавы. У мяне, к прыкладу, забралі дваццаць пяць пудоў; многа табе з іх далі? Як сядзеў, дык і сядзіш бяз хлеба. Даўней хоць мог зарабіць і жыць, як чалавек. А цяпер што? Зарабаткаў няма, народ зноў пазьбіваўся па вёсках. Забаранілі гандаль, ня можна двух пудоў хлеба прывезьці з Украіны. А ў яго, кажуць, вольная таргоўля.

— Там, брат, таргуюць. Хлеба белага хоць заваліся. Былі там. Вось нядаўна вярнуўся з Украіны Родзечка з Гахава, каваля нашага сват. Запынілі яго дзянікінцы ў вадным месцы. Распыталі, адкуль, і пусьцілі. „Толькі, кажуць, глядзі, каб свае не абабралі. Мы, кажа, праз месяц усю вашу Куршчыну ачысьцім ад вашых камітэтаў“.

— Дык яны, значыцца, народу ня крыўдзяць?—запытаўся Раман.

— Не, не чапаюць! З камуністымі і з камітэтамі, праўда, распраўляюцца. Зловяць, дык ужо і ведай порцыю: адлічаць табе дваццаць пяць шомпалаў ды йдзі. А хто паважней— расстрэл.

— Знайшоў дурань чарапок і сьмяецца,—з горкаю ўсьмешкаю азваўся Пятро:—слухаю вас, хлопцы, і дзіўлюся: чаму вы радуецеся?!—раптам мяняючы тон, накінуўся Пятро: —таму, што вас будуць біць шампаламі? Галавы-ж вы капусьцяныя: як гэта вы ня можаце зразумець, што Дзянікін, царскі гэнэрал, нясе вам ланцуг, нагайкі, паліцыю і крываваю расправу!

— А за што ён будзе са мною распраўляцца?—запытаў сярдзіта Раман:—разумеецца, тым не паздаровіцца, хто нарэзаў сабе пасаду ў садох Харланавых, Мархаўцоў і іншых.

Пятро зразумеў, на вошта ківаў Раман: і яму, Пятру, адвялі кусок саду Харланава для будаваньня.

— А ты-ж сам—сьвяты?—пытаньнем адказаў Пятро:—а дубы, якімі пазавальвалі вы свае двары і выганы, адкуль вы бралі? А хто паразвалакаў маёнткі, павыдзіраў апошн'я юшкі ў печах? Што-ж ты думаеш: той пан, які прыдзе з Дзянікіным, падаруе вам гэта? Сам прынясеш яму апошні гвозд, што выдралі са сьцяны панскага дому, ды ў ногі будзеш яму кланяцца. Але справа і ня ў гэтым. Ты кажаш: „Наўперад езьдзіў на нас пан, а цяпер езьдзяць Хведзькі“. Што пан езьдзіў і будзе езьдзіць, калі прыдзе Дзянікін, гэта—шчырая праўда. А Хведзька многа наезьдзіў? Хто стаўляе пана і хто ставіў Хведзьку? Як-жа ты гэтага ня можаш зразумець? Хведзька аказаўся дрэнь—яго выкінулі, як гнілую падэшву, гадзіны лішняе не аставаўся, пад суд аддалі. А пана ты зьменіш?.. Ды што гаварыць? Адна справа, калі *над табою* гаспадараць, а другая, калі ты *сам* гаспадарыш. Вы пачулі пра шампалы і ўзрадаваліся, даведаліся аб белым хлебе і ўсьцешыліся. Шампалоў-то яны вам дадуць, а вось белым хлебам не пакормяць і будуць гаспадарыць самі і біць будуць вас па мардасах, бо вас можна купіць за белую булку, бо вы няздольны быць гаспадарамі свайго жыцьця... Народ, народ!—

Пятро яшчэ хацеў штосьць сказаць, але яму было так горка і крыўдна, а яго слухачы так далёка былі ад таго, што ён ім казаў, што Пятро ня мог далей гаварыць, падняўся, уздыхнуў і пайшоў па сьцежачцы. Праз колькі крокаў сьцежачка зьбягала ў яр, густа заросшы кустамі і травою, а ў гэтых кустох разам са сьцежачкаю схавалася і акрытая лахманамі фігура Пятра.

Захар нейкі час яшчэ сядзеў і гутарыў з Раманам. Яны ўжо не зварачалі ўвагі на тое, што гарматы грымелі і рабілі там нейкую справу. Цяпер Захар казаў аб навінах, якія чуў ён у воласьці. Першая і самая грунтоўная навіна—у іх воласьць гэтымі днямі прыдзе дывізія войска, якое, разумеецца, будзе стаяць па вёсках. У іх-жа Ліпавец прыгоняць цэлых два палкі. Дачуўшыся аб гэтым, Раман моцна задумаўся і яшчэ мацней пачухаў патыліцу. Лёгка сказаць—два палкі! Гэта, значыцца, паставяць у двор па 10—15 чалавек і трэба іх карміць. Ну, але раз трэба, то трэба—нідзе ты ня дзенешся. Дрэнна толькі тое, што салдат любіць часам і ў пограб зазірнуць і ў кубелец з салам залезьці. Таксама не адкіне ён і мёду, а ў Рамана быў добры пчольнік, вульлёў на сорак. Усё гэта моцна засмучала Рамана. Апрача таго, па вёсках пачалі зьяўляцца вайсковыя атрады і вясьці строгую расправу з дызэртырамі. Забіралі каровы, коні з тых двароў, дзе былі гэтыя дызэртыры, бо становішча для рэспублікі ствара-

лася небясьпечнае, прыходзілася прыймаць надзвычайна строгія меры.

І тут трэба было Раману паламаць галаву: яго Іванюха таксама дызэртыр.

— Эх, галоўка ты мая!—уздыхаў Раман:—калі-ж гэта людзі прыдуць да чаго-небудзь аднаго? Калі скончыцца ўся гэта суматоха?

— Як-небудзь, брат, будзем жыць,—разважаў Захар,—а там відаць будзе. Ня можа-ж быць: будзе які-небудзь парадак, і вайна гэта скончыцца, хто-небудзь, а возьме верх. А наша, брат, дзела што? Мікалай быў—мы зямлю аралі; зьявіўся Керанскі—аралі, пры бальшавіках таксама аром, Дзянікін прыдзе, чорт, д'ябэл—мы ўсё будзем у зямлі капацца.—

Захар падняўся і пайшоў да сяла, а Раман яшчэ крыху пасядзеў пад дубам, а потым пайшоў да сваіх калясень, зьбіраючыся ехаць да дому.

Новы клопат, новыя думкі агарнулі Рамана.

А гарматы, прыціхшы на нейкі час, зноў грымелі грозна і страшна. Цяпер іх размова мела для Рамана больш вызначаны сэнс. На душы было неспакойна, трывожна. Прынесеныя Захарам навіны моцна засмучалі Рамана. А горш за ўсё гэтыя атрады. Ужо даўно цягнецца гэта гісторыя з дызэртырамі. Многа разоў прысылаліся грозныя прыказы з ваенных камісарыятаў аб дызэртырах. Многа разоў хадзілі яны ў павет і зноў варочаліся дадому праз месяц ці колькі нядзель. Цяпер-жа, відаць, моцна палажана зрабіць канец дызэртырству.

«Наскочыць атрад, захопіць Івана, тады прахам пойдзе твая гаспадарка,» думаў Раман: «трэба што-небудзь думаць, бо йначай—бяда!»

Раман запрог каня, палажыў на драбінкі плуг і мернаю ступою паехаў па-ўскрай яру. Дарога, агібаючы яр, забірала ў поле, потым зноў павярнула канец свае дугі ў бок сяла. Перад самым сялом цягнуўся роўны, пасторны выган. Каля платоў па выгану віднеліся высокія круглыя кучы наваленага гною. У апошнія гады гаспадары перасталі вазіць яго на поле. «Што вазіць яго», разважалі яны: «я ўгнаю поле, а на другі год ім будзе карыстацца другі». Так і валяўся гной па выгане бяз усякае карысьці. На гэтым-жа выгане стаялі ветракі, спыніўшы свае крыльлі. Раман таксама меў вятрак. Ён стаяў зусім блізка ад дарогі і меў вельмі прыгожы выгляд. Асабліва многа хараства прыдаваў яму самы верх, накрыты чырвоным зялезам. Але ў гэту мінуту ён ня цешыў Рамана і меў так-

сама смутную выразу свайго аблічча, як-бы ён спагадаў свайму гаспадару.

Праехаўшы крыху выганам, Раман зьвярнуў да свае клуні. Каля клуні быў Іван. Іван моўчкі стаў выпрагаць каня. Колькі мінут бацька й сын маўчалі. Раман скоса, украдкам, паглядаў на сына. Яму хацелася пагаварыць з ім аб тым, што ён —дызэртыр і якія вынікі можа мець гэта дызэртырства для іх гаспадаркі.

Выпраглі каня. Прывязалі каля «кармушкі.» Іван вынес з клуні ў кашалі сечкі.

— Чуў,—зьвярнуўся Раман да сына:—дзянікінцы ўжо Белгарад забралі.

— Па гарматах чуваць, што па гэты бок Белгараду бой ідзе,—адказаў Іван, высокі, шырокаплечы дзяцюк, адзеты напалавіну ў казённае.

Раман пачухаў патыліцу.

— Але вось што, Іванькя,—вымаўляючы слова «Іванка» на курскі лад, сказаў Раман:—па вёсках, кажуць, зьяўляюцца вайсковыя атрады, ловяць дызэртыраў, а гаспадарку іх нішчаць, не захапілі-б і цябе.

— Такія выпадкі ўжо былі,—панура адказаў Іван:—на Данскім хутары з трох двароў пабралі каровы і коні; дзядзя Кандрат сказываў.

— Пабралі?!—апаўшым голасам спытаў Раман:—бач ты, якія дзела!

Памаўчалі.

— Нічога, баця, не паробіш, а йсьці-та трэба.

Раман уздыхнуў.

— Ах, ты, грэх які! э-хэ-хэ!—

Цмакаў Раман і чухаў патыліцу.

— А ты, Іванькя, глядзі, з розумам рабі: убачыш, што дзела ня выходзіць, дык ты... таго.

— Ведаю, баця, вайсковую службу,—усьміхаючыся прамовіў Іван:—варон страляць ня буду, а прымяніцца да меснасьці, як вучыць салдацкая мудрасьць, здарэньня не прапушчу.—

Так разважаючы, бацька і сын чулі нейкую фальш і craраліся не глядзець адзін другому ў вочы.

— Якая гэта вайна,—стараўся Раман знайсьці якое-небудзь апраўданьне:—хіба гэта вайна?

У хаце за сталом яшчэ пагутарылі аб тым, што Івану трэба йсьці на службу. Бабка Параска, жонка Рамана, трохі плакала аб Івану, але ня моцна, бо ўжо прывыкла да яго частых мабілізацый. „Маладайа“ Матрона, Іванава жонка, бы-

ла маўкліва. Іван толькі зімою пажаніўся з ёю, і жылі яны надта згодна. Матрона была высокая, стройная, прыгожая жанчына. Відаць, яна вельмі маркоцілася, што Іван заўтра пойдзе. Яны часта заставаліся ўдваіх і ціхенька перакідаліся словамі. Меншыя браты й сёстры Івана, папалуднаваўшы, пайшлі на вуліцу. А на вуліцы было так цікава. Сталыя мужчыны зьбіраліся ў гурткі і разважалі аб вайне, якая насоўвалася на іх. Тут-жа расказваліся вельмі цікавыя навіны, падымаліся гарачыя спрэчкі, наогул жыцьцё біла з кожнага кута. Па сяле хадзілі самыя няскладзістыя чуткі.

## III.

На другі дзень раніцаю, чуць толькі паказалася сонца з-за таго лесу, што стаяў каля воласьці, Іван ужо быў гатовы да паходу. Цяпер ён зусім выглядаў салдатам. За плячамі ў яго быў досыць пакаўны мяшок з хлебам і скорамам, прыладжаны на палаценцы. Яго спадарожныя, тры таварышы, такія-ж, як і ён, ваякі, ужо пастукалі ў вакно, клічучы Івана да свае кампаніі.

— Я даганю вас, хлопцы; ідзеце памалу,—сказаў ім Іван. Папрашчаўся з бацькамі.

Раман, Параска і Матрона правялі яго на двор. Ісьці вуліцаю было нейк нялоўка. Іван пайшоў дваром каля клуні. Тут яшчэ затрымаліся, а Раман сказаў на дарогу сыну колькі слоў, сэнс якіх зводзіўся да таго, каб усё рабіць з розумам.

— Ну, шчасьліва,—прамовіў апошнія словы Раман і павярнуў у клуню. Маці стаяла яшчэ колькі мінут і пазірала на Івана. Матрона пайшла з Іванам.

— Падыйду з табою да гэтага лесу,—сказала яна, заглядаючы з любасьцю ў вочы Івану.

Гародамі выйшлі яны на выган і павярнулі па дарожачцы, што йшла каля плоту.

— Не даюць нам, Іванка, спакойна жыць. Хоць-бы дзянёк таго спакою. І дома ты, а сэрца не на месцы. А пойдзеш, —і таго горай.

У Івана таксама на душы было цяжка, а ў галаве варушыліся цэлым роем думкі. І хацелася сказаць, многа сказаць маладой жонцы, і нават думкі добрыя былі, толькі слоў не знаходзілася адпаведных. І Іван ішоў радам з Матронаю, заглядаў ёй у вочы і толькі вачамі і сьмехам выказваў ёй свае думкі.

Дайшлі да лесу. Лес, праўда, пачынаўся недалёка ад выгану. Праўду кажучы, гэта й ня лес быў, а проста так зваўся па старой памяці.

— Глядзі-ж ты, Матрона, ня вельмі-та па вуліцах вечарамі разгульвай,—сказаў, прыпыніўшыся, Іван.

— Ну, што ты, Іванка! як-жа я, мужняя жонка, гуляць пайду?

І паглядзела на Івана з такім дакорам.

Іван абняў яе моцна-моцна і крэпка пацалаваў у сьвежыя сакаўныя губы.

Пацалаваў і шырокімі крокамі пусьціўся даганяць сяброў.

Матрона, смутная, пастаяла трохі, покі не схавалася фігура Івана за выступам яру, куды павярнула дарога, а потым пайшла на свой гарод зьбіраць зельле, падаткнуўшы спадніцу.

Шкода было Раману сына, але-ж за тое было і шмат спакайней. Бяз пэўнае думкі расчыніў ён у клуню вароты, вайшоў туды, аглядзеў сьцены, зірнуў на кучы саломы і вышаў на двор. Крыху пастаяў, зайшоў у пчольнік, прайшоўся між вульлёў. Ніякае работы на гэты дзень ён яшчэ не назначыў сабе. Ды й ахвота нейк адпала за дзела брацца. Яго пацягнула на вуліцу. На тым баку яру—па сярэдзіне сяла цягнуўся глыбокі і шырокі яр—з вуліцы чуўся гоман. Раман ужо хацеў пакіравацца туды, але так добра знаёмы са ўчарашняга дня гук зноў пачуўся Раману. Ён зайшоў за клуню і стаў слухаць. Грозны гук паўтарыўся ясна і выразна. Ціхае і вільготнае паветра раніцы прыдавала яму яшчэ большую сілу. Здавалася, што гарматы грымелі цяпер шмат бліжэй.

Каля Бажковай клуні таксама стаяў і Пятро Мазалеўскі. Свае клуні Пятро ня меў.

Раман пайшоў да Пятра. Паздароўкаўся.

— Мне здаецца, што сёньня гарматы як-бы аддаліліся,—прамовіў Пятро.

— Дзе ты бачыў, аддаліліся—зусім блізка грукацяць!—

Як-бы прыпыняючы іх спрэчку, пракаціўся густы, выразна акруглены гук.

— Чуеш?— сказаў Раман.

— Што-ж?—прамовіў Пятро:— пры стычках усяк бывае. Зарвецца дзе іх банда, вось і выбіваюць.

— Банда то банда, але глядзі, куды дайшлі... Нічога, мусіць, брат, ня будзе, калі ў іх парадак моцны, дысцыпліна, бранявікі, танкі і ўсё, што хочаш.

— Ну, бранявікі!—а ў нас, ты думаеш, бранявікоў няма?

Прагналі-ж Калчака. Цяпер з таго фронту сюды гоняць войска. Яшчэ, брат, рана ім казырыцца, яшчэ ўсё можа быць.

— Не, Пятро,— круціў Раман галавою:— штось на гэта не паказвае. Чуткі ёсьць, што ўжо і Курск вывозіцца. Трудна, брат, з імі змагацца.—

Пятро маўчаў. Ды й што тут казаць? Хіба ты яго перакинаеш? Радуецца кулаччо, бо не па нораву яму новая ўлада.

Раман пайшоў на вёску паслухаць, што гавораць людзіі Пятро таксама павярнуў у свой двор. Стаяць на вуліцы : слухаць гэту кулацкую гутарку яму было прыкра.

«Ах, вы, жылы, жылы!» разважаў сам з сабою Пятро. „чакаеце Дзянікіна, ня люба вам, што бедната галаву падняла. Каб часам-жа і самі не заплакалі".

Нявесела было на душы ў Пятруся. Перш быў за дзела ўзяўся, плот паставіў на сваім надзеле, падгатаўляў мясьціну, каб перанесьці туды сваю хату. Думаў пачаць памалу будавацца. Цяпер жа ўсё гэта спынілася.

„Задушыць, усё задушыць і зьнішчыць могуць, сволачы".

Так і спыніў сваю работу Пятро, бо нашто рабіць? Калі прыдуць дзянікінцы, то ўсё будзе зьнішчана ды яшчэ і самога калаціць будуць. Але ня гэта страшна—страшна, што стары парадак можа вярнуцца.

Заможнае сялянства пачало падымаць галаву. То там, то сям стаялі гурткі заможнікаў, якія так ці йначай лічылі сябе пакрыўджанымі беднатою, і ў глыбі душы, хоць аб гэтым яшчэ не адважваліся казаць у голас пры ўсіх, былі рады прыходу Дзянікіна. Цішком перадавалі адзін аднаму аб добрых зьменах жыцьця, якія будуць тады, калі ня будзе ўлады чырвоных. Раман колькі разоў абменьваўся думкамі з людзьмі і яшчэ болей праконваўся ў тым, што верх возьме Дзянікін, і ўжо пачынаў чакаць яго.

Тымчасам прыбліжэньне фронту і сур'ёзнасьць палажэньня адчувалася моцна. Прыходзіла войска, разьмяркоўвалася на больш-менш доўгі час, а праз дзень-другі яно кудысь выходзіла. Прыбывалі новыя вайсковыя часьці, але доўга не затрымліваліся і перакідваліся то на адзін, то на другі пункт фронту. А гарматы грукацелі бліжэй.

Раман чутка прыслухоўваўся да ўсяго, што рабілася вакол. Вайна была ўпартая, і часта фронт хістаўся то ў адзін, то ў другі бок, а разам з гэтым то падымаліся, то ніклі надзеі заможнікаў і беднаты. Калі ўдача была ў чырвоных, ажывала бедната і паказвалася на вуліцы. Тады можна было па-

бачыць і Пятра. Ён выходзіў на вуліцу, шырока раставуляў ногі і казаў:

— Не, брат, зьбілі Калчака—таксама далёка зайшоў; саб'юць і Дзянікіна. Усяго народу не ашукаеш і за белы хлеб ня купіш... Што тут талкаваць? Рана вам радавацца,— і Пятро кідаў вочы на крытыя пад залеза хаты заможнікаў.

Пры спатканьні з Раманам Пятро ня мінаў сказаць:

— А гарматы ледзь-ледзь ужо чуваць.

А Раман дыплёматычна адказваў:

— І дзякуй богу. Ты-ж думаеш, добра было-б, каб фронт прайшоў праз наша сяло?—

Так казаў Пятру, а сам думаў ня тое і адчуваў засмучэньне, асабліва пасьля таго, калі яго залучылі ў абоз чырвоныя і пратрымалі яго з тыдзень, а ў гэты час невядомыя ласуны крыху пахадзілі каля вульлёў без дазволу Рамана.

Раман зноў зьбіраў навіны і, нават, заходзіў да бацюшкі пагутарыць аб справах вайны. Бацюшка стаяў у самым асяродку навін і на справу пазіраў сьветлаглядна.

— Думаеш, яго сілаю прымусілі адыйсьціся?— казаў бацюшка:— сам адступіў, бо правае крыло на фронце Ўрангеля адстала, а левае залішне высунулася. Але туды паслалі гэнэрала Шкуро. Гэта, брат,— гэнэрал! Другі Сувораў!

Раман весялеў—што значыць вучоны чалавек!

Такое хістаньне вайны цягнулася колькі месяцаў. Раман проста змучыўся, чакаючы рашучых вынікаў вайны. Паміж заможнікаў зламыўся, нават, пагляд, што Дзянікін ня йдзе проста дзеля таго, каб даць людзям сабраць з палёў.

Раз пад канец лета, калі гармат колькі дзён зусім ня было чуваць, Раман пачуў, як яны зноў ажылі і загрымелі часта й моцна.

Убачыўшы Пятруся, ён сказаў:

— А чуеш, як блізка зноў грукацяць?

— А мне здаецца,— адказаў Пятро,—што яны ўсё на адным месцы.

Але выраза твару Пятруся казала за тое, што гарматы ня вельмі далёка.

Пад вечар таго-ж самага дня стала вядома, што Дзянікін перайшоў раку Псёл, а да Псла адгэтуль было ня болей, як дваццаць вёрст. Гарматы грымелі ўжо так, што зямля дрыжала. Блізкасьць вайны адчувалася цяпер усімі. Сярод вайсковых часьцей замячаўся нязвычайны рух. Відаць было, што чырвоныя войскі адыходзілі. Цэлы шэраг фурманак пацягнуўся на поўнач у кірунку на Курск; за фурманкамі праз нейкі час адыходзілі назад і баявыя ланцугі. Палажэньнэ

станавілася вельмі напруджаным. Дзесь ня вельмі далёка тухкалі кулямёты, а на горцы ў полі пачалі ўздымацца высокія слупы дыму і пылу. Гэта—выбухі ад снарадаў. Людзі пахаваліся; сяло, здавалася, апусьцела.

Раман чуў, як нейкі страх агарнуў яго душу. На яго вачох выяўлялася разьвязка вялікага змаганьня, сэнс якога ён ня мог ахапіць розумам, але ў сэрца закрадвалася цёмная трывога.

Змоўклі гарматы, сьціхла частае тухканьне кулямётаў. Зрабілася ціха і пуста. Чырвоных ужо ня было, а белыя яшчэ не паказваліся.

Раман стаў разглядацца і патрошкі прыходзіць у сваю звычайную плынь жыцьця. Ён выйшаў на двор, аглядаючы свой будынак і сваю гаспадарку. Зрэдка грукацелі гарматы, але ўжо збоку і ў другім месцы. Абярнуўся Раман назад і абамлеў: з вуліцы ў двор уварвалася нейкая яшчэ ня бачаная ім банда ўзброеных людзей. Не спадзяючыся нічога добрага, Раман, моцна перапалоханы, падаўся ў патайны кут двара. Сэрца яго крэпка забілася.

У хаце была жонка і нявестка Матрона.

Банда ўвалілася ў хату. Матрона забілася ў цёмны куток сяней і ўся дрыжала.

— Болшавік няма?— пытаў адзін з шайкі нейкаю ломанаю моваю, а вочы бегалі, як у злодзея.

— Няма, няма,— запэўняла перапалоханая гаспадыня.

Банда борзда крутнулася па хаце, акідаючы куты і набытак, потым выйшла ў сені. У сенях стаяла скрыня Матроны. У гэтай скрыні былі схованы яе лепшыя рэчы: адзеньне, палотны, абрусы, залатыя пярсьцёнкі, рублёў дваццаць срэбра і дзьве залатыя пяцёркі.

Адзін з шайкі, чорны, калматы, як зьвер, узламаў шаблю скрыню і пачаў перабіраць і выкідаць з скрыні тыя рэчы, якія яму больш падабаліся, а больш дробныя і каштоўныя клаў у кішэню. Другія падбіралі з зямлі хусткі, абрусы.

— Што вы, падлякі, робіце?!—крыкнула Матрона і выскачыла з кутка.

Грабежнікі зьнячэўку прышлі ў замяшаньне.

Чорны, акінуўшы Матрону вачамі, расплыўся ў нядобрую ўсьмешку.

— Карош баба! карош баба!

Ён кінуў скрыню, падыйшоў да Матроны і раптам абняў яе крэпкімі рукамі.

Матрона ў гневе, у страсе стала крычаць, адбівацца але чорны трымаў яе моцна.

— Пайдэм, дюша мая, пайдэм!—і павалок маладзіцу ў глыб двара.

Матрона баранілася з усіх сіл, біла яго па твары, чаплялася рукамі ў яго бараду, крычала, клікала людзей. Але ніхто не паказваўся і ня йшоў бараніць.

— Нычаво, нычаво, ны бойся!—казаў чорны, а вочы яго гарэлі дзікім агнём.

Ён згроб яе на рукі і панёс у клуню. Матрона змаглася і замлела. Чорны нагою адчыніў клуню і панёс маладзіцу туды.

Раман ня мог болей хавацца. Ён схапіў вілы і кінуўся ў клуню, як зьвер, ратаваць сваю нявестку.

— Погань разбойная, што ты робіш?— наляцеў Раман з віламі на свайго ворага, гатовы прасадзіць яго.

Грабежнік кінуў Матрону, выхапіў шаблю і спрытна адбіў удар, пры гэтым расьсек Раману пальцы. Вілы выпалі з рук Рамана. На яго шчасьце пачалі зьбягацца людзі, падняўся крык, лямант.

Чорны, дзіка азірнуўшыся, моцна таўхануў Рамана ў грудзі, зьбіў яго з ног і, махаючы шабляю, пабег да свае банды. Аграбіўшы Раманаву хату, банда пайшла на другі бок сяла праз яр.

Прайшло з месяц часу. Сялянства на ўласных гарбох адчула ўсю асалоду дзянікінскіх парадкаў. Не па аднэй сьпіне загуляла паліцэйская нагайка. Земляўласьнікі шчыра сталі зьбіраць свой набытак, адбіралі ад сялян кароў, коней, цягалі іх па судох за сьсечаны лес.

І вось, калі зноў пачуліся стрэлы гармат, на гэты раз ужо з поўначы, а Раман і Пятро стаялі і слухалі іх, і калі Пятро сказаў:

— А ці не здаецца табе, што гэтыя стрэлы раз-по-раз чуюцца бліжэй?—

Тады Раман з сьвятлеючым тварам і ад шчырага сэрца адказаў:

— Так, так: гром падбліжаецца.

Тарас Гушча.

# Мільён.

*(Поэма).*

I.

Чырвоная ночка.
Бялюткі сьнег.
Ні хаты, ні хлявочка,
Ні жартаў, ні пацех...
Эх, прытулі сыночка.
Эх, грэх, эх—грэх!

* * *

Дык-жа на ўсім сьвеце
Вецер, братка, вецер,
Завіруха круціць.
—«Хлопцы, спрытны будзьце!
«Зьбіў саўсім падноску,—
Каб на вёску, ў вёску!»

II.

Вёска, ці маёнтак...
—«А-ну, адчыняй,
Пакідай ложка!»
А з хаты хрыпіць контак:
—«Пачакай, пачакай трошку...»

* * *

—«Матка боска,
Колькі іх, колькі!»
Шэпча старая,
Дзьверы адчыняе.
У адказ армеец чырвоны:
—«Кінь старыя паклоны,
Кінь матку боску,
Сядай цётка, закурым папіроску
Дык пройдуць і ойкі і болькі,—
Ці-ж мы паны?—
—„А то не!—Я думала: яны.
Ну, дзякуй богу, дзякуй“...

—«Добра! Ня ўжываеш табакі?»
—«Не, родненькія, не:
Старэнькая ўжо, сівенькая...
Пайду паклічу дзеда і сына
(«Ва імя ойца і сына!»)
Схаваліся, думалі: паны-палякі,
Аж гэта свае палкі»...
—«Ну і цётка,—
Далі-бог, як тая малодка!»
—«Паклічу, прынясуць саломкі»...
—«Нясі, нясі,—
Спаць будзе ёмка...
Толькі да сябе не прасі:
Змарыліся.
Ха-ха-ха!»

* * *

Вясёла ім, молада...
Пагаварылі, пакурылі,
Улажыліся,
Шэрымі дзіркамі прыкрыліся:
Ці-ж ім пужацца холаду?

III.

У хаце ночка,
За вакном сьнег.
Сьпяць у куточку,
Сьпяць без пацех...

* * *

Цік-цік... цік-цік,—
Гадзіньнік за сьценкай
Б'е свой час.
Зьнік-зьнік, яшчэ зьнік...
—«Зьмілуйся, панбуг, абарані нас!»
Бабуля моліцца за сьценкай,
Як заўсягды,
Як і тагды,
Калі была паненкай.
А Езус, зьвісшы ў куту,
Глядзіць на сьпячых чараду.
Да модлаў ён здаўна прывык.
Дык вось сталёвы, мокры штых
Рабрыну панбугу падпёр:
З прасонку пхнуў ружжо Рыгор...

* * *

Ўкруг ног Ісуса пацеры
Дзядоўскія вісяць.
Сыны зямліцы-мацí
Далей упокат сьпяць.

Бягуць ад іх «пагонныя»,
За імі ўсьлед чырвоныя.
Дык трэба-ж ім спрасоннае
Пусьціць слаўцо ўздагоннае,
Каб хоць слаўцом дагнаць:
«Бяжы, там Вісла—маць!»

IV.

Сьпіць пад сьнегам раніца,
Сінь-лясок туманіцца...
—«Што-ж я выйшла, ды куды?
Ці-ж пазбыцца мне нуды?»
—«Дзеўча, ўзімку вёсанька!
«Хай чакае кросанька;
«Ты Алеся, я—Рыгор.
«Сьпяць армейцы, сьпіць і двор!
«Глянь-зірні на зорачкі,
«Вочкі пакажы,
«Не сьпяшайся ў порачку
«Ціху, не бяжы!
«Во, і спатыкнулася на азорачку»...
—«Пусьці!»
—«Адзін пацалунак, дзяўчына,
«Апошні ад роднай краіны;
«А там, у здагонку за панам
«Мы пойдзем, і хто яго знае,
«Што братку-Рыгора чакае»...
Сказаў і глыбока так глянуў
Нібы прадчуваў тую рану...

* * *

Дзяўчыніна сэрца «тук» блізка.
Схілілася вочкамі нізка...
—„Пя хочу! Ня верыш ты ў бога!"
Рыгор у адказ ёй: „Ў якога?"
—«Ну, бога, звычайнага бога»...
—«Іх многа, галубанька, многа»...
—„Які ты! У пана Езуса!"
Усьмешка скацілася з вуса,
І вырас прад дзеўчай Чырвоны
І рушыць пачаў забабоны.

* * *

Пачаў ён, як Шатан праклённы,
Зьдзіраць прад вачыма заслоны.
Ды часам, каб сэрцу даць згоду,
Паказываў ёй на прыроду.
—«Майсей, твой пан Езус, ды Буда
«Далі нам слоў пекных аж груду,
«Але тыя словы бясьсільны
„Зьмяніць гэты холад магільны,
„Пазбавіць хваробы і сьмерці,—

«Ці верце вы ім, ці ня верце»...
—«Бяз бога ня можна, ня можна!»
А сэрца дзяўчыны «тук» блізка.
Стаіць перад ім асьцярожна.
Во, зорка скацілася нізка...
—„Галубка, гавора так кожны,
„Пакуль не пазбудзецца жаху
«Прад сумнай, няпэўнаю доляй.
«А як запануюць на полі
«Ў павэтры, у лесе, на горах,
«А як пабудуюцца гмахі
«Двардцы—палацы аб'яднаньня
«І моцы навукі і знаньня—
«Па ўсіх па зямельных прасторах,—
«Тагды хіба часам прысьніцца
Той бог, што цяпер па капліцах
Вісіць на крыжы, бледаліцы"...
—„Ня можна!" Схапілась маланкай
І раптам—да ганку.
—„Ня хочаш—ня трэба!
„Мы звыклісь бяз хлеба
„Па сьнегу, пад сьнегам з вінтоўкай.
„Ідзі, даглядай за кароўкай.
„Хай толькі, як будзеш маліцца,
„Табе гэта ночка прысьніцца!"

* * *

Зьнікла дзеўча, а Рыгор
Абыйшоў наўкол дазор.
Зноў у хаце, на мяжу
Лёг ля самага крыжу.

* * *

Сьпіць бабуля, дзеўча моліцца,
Але нешта не здаволіцца;
Шэпчуць вусны модлы-верую,
Вочкі бачаць вочы шэрыя...
І словы ідуць мімаволі,
Якіх ня ўжывала ніколі:
—«Пан Езус, чаму-ж ты ня з намі?
«Чаму-ж ты дагэтуль з панамі,
«А нас, мазалістых з зямліцы,
«Пакінуў чамусь, бледаліцы?
«Ня хочу маліцца, ня хочу!
«Што рабіці мне ў ноччу?»

* * *

Чырвоная ночка.
Бялюткі сьнег.
Сьпяць у куточку
Модлы і грэх...

V.

«Уперад, уперад! Кідайце салому!
«Уперад да *бойкі*—крыві!
«Дадзём сёньня жару тым птушкам арлом мы,—
Іх сьцягі з арламі—лаві!
Уперад з песьнямі-прадвесьнямі!
Уперад з гіканьнем.
Пакуль ня выганім!

* * *

Вось і бойка. Куля з шаблямі,
Штых з гарматай паспрачаліся.
Гэта біліся-стараліся
Белапан з чырвоным парабкам—
Зраньня біліся-стараліся,
Па сьнягох-лясох бадзяліся...

* * *

«З дрогі прэч,
«Хлоп'я цеч—
«Я тут ваявода!
«Стрэльбу жуць
«Разам - круць:
«Шабляй скіну у блота!»

* * *

«Пачакай, пачакай,
Найясьнейшы пане!
«Лепш скідай,
Тут скідай
«Ты сваё убраньне!
Бо мы тут.
Наш «статут»—
Нас амаль мільёны.
З вёсак мы
«З куляй мы,—
Будзе: «пахвалёны!»

* * *

Схапіліся людзі
Ля крыжу;
Схапіліся людзі
Ля слупу дарожнага.
Чырвоную жыжу
На сьнег выліваюць
І лаюць, бяскроўныя, лаюць адзін аднаго,
Бязьлітасна варожныя...

* * *

Рыгор наперадзе,
Пан перад ім, як у нераце.
«Хай жыве!»
«Нех жые!»
«Здавайся!»
«Ня лайся!»

* * *

І шабля-маланка
Па шыі лізнула;
А штых, нібы сьвідар, заеўся.
Куды жвавы воблік падзеўся!
Чакайце Алеся, Ганка!
Іх коўдра сьнягоў прыгарнула..

* * *

Глядзі-ж, глядзі-ж:
Той самы крыж
Ляжыць ля іх у сьнег нічком,
Нібы скасіла пяруном.
Ці шабляй забіты,
Ці штых сярдзіты
Праткнуў яго?
Па полю рэха:
Ого—го!
Па полю громы-пяруны.
Бягуць і нашы і паны...

* * *

«Матка боска, колькі іх, колькі!»
Шэпча старая,
За ёй маладая.
—«Няма майго Янкі. .
«Шукалі-ж мы столькі!»..
—«Кінь, цётка, кінь, малодка!
«Калі не памерці,
Дык дзень сьцерці!»
Сьмяецца Чырвоны,
Адкінуўшы ўсе забабоны,
І плача матуля старая.
Шукае свайго маладая...
А там, ля узгорку
Рыгорка ляжыць.
Ён сьпіць, і панок нейкі побач з ім сьпіць.
І сьніцца абодвым,
Што час настае,
Калі ўжо ня будзе мо' бойкі тае,
Калі мо' апошні праб'е барабан,
Каб зьнішчыць апошні пануючы стан...
І з глебы, угнойнай чырвонай крывёй,
Чароўныя кветкі ўзыйдуць над зямлёй.

**Міхайла Грамыка.**

Менск, 10/5—23 г.

# „Больш за усіх“.

Калі Платон пераступіў парог хаты, то пачуў гэткую гутарку бацькоў:

— Дыхнуць вольна немагчыма. Што тут чаўпецца—сам чорт ногу зломіць... Толькі збавіліся ад адных, як—на табе, другія,—паціскаючы плячыма ды ківаючы галавою, недаволіўся Юрка, Платонаў бацька.

Юзя, маці Платона і гаспадыня ў хаце, крышыла ў запечку на лаўцы зельле і раз-по-разу падмацоўвала словы мужа: „Але, але! Дай-жа ты рады! Баламуціца нейкая, а ня жыцьцё. Дыхнуць не даюць“.

І Юрка і Юзя так удаліся ў гутарку, што й не заўважылі сына; нават не паглядзелі ў дзьверы, калі Платон увайшоў і стаў каля вушака.

— Гэта-ж проста хоць гвалт крычы. Падумаць, жартачкі! Кінь-рынь хату, гаспадарку і едзь няма ведама куды... На ліха нам здалася тая Варшава! Хай-бы яна згарэла там з панамі разам! Блізкі сьвет! Папрабуй даехаць. Касьцей ня вернеш! Каб гэта яшчэ Платон быў вольны, то паслаў-бы яго, а то і ён-жа прывязаны тут...

Юрка міжвольна адвярнуўся на дзьверы і нібы жахнуўся, угледзіўшы Платона:

— А-а-а... І ты ў хаце? Якім-жа чынам увайшоў, што мы й ня чулі?—запытаў ён сына.—Хіба ты, Юзя, яго прымеціла, да мне нічога не сказала?—абярнуўся Юрка да жонкі.

— Н-не-э, я й сама не заўважыла. Чула, як-бы нехта стукнуў, але, думаю сабе, мала што—мо‘ вецер сеняшнімі дзьвярыма... Цьфу, прымха нейкая!—зьдзівілася Юзя.

Платон, пасьмейваючыся, падыйшоў да стала й прысеў на ўслоне.

— У чым гэта рэч? Гэтак загаварыліся, што й мяне не заўважылі—абярнуўся ён з запытаньнем да бацькоў.

— Х-ха-і...—у адзін голас памкнуліся казаць абое з бацькоў, але Юрка спыніўся і пераняў жонку:

— Ты маўчы, Юзя, дай мне сказаць.

— Чаму мне маўчаць? Я таксама пакуль магу казаць. Яшчэ язык не адсох,—вырачылася Юзя на мужа.

— Не адсох, не адсох... Залапатала-а!..—засярдзіўся Юрка: высахне, калі ня высах. Уся сохнеш... Абое пасохнем... Не адсох, не адсох...

—Ша-ша, бацька, не сварэцеся!—пераняў бацькоў Платон: —Кажэце, ў чым справа?

— У чым справа! Да ты, пэўна, ведаеш і сам. Чуў, нябось, сынок? Га?

— Што-о, што-о?

— Ліха ведае што! Вунь толечкі што прыходзіў Майсей і вялеў заўтра зьбірацца ў падводы... З гэтым вось палком... На Варшаву, кажа. Ці чуў тое? Гэта-ж ліха ведама навошта здалося... Маеш бітку, дык мусіш і яе адцурацца.

— Мажа-б ты, Платонка, што-кольвечы зрабіў. Табе-ж, мабыць, хлопцы гэты з чырвонае арміі знаёмы? Такіта-ж ты лічышся камуністым іхнім, праз увесь час столькі папацярпеў, папахаваўся... Няўжо бо нельга было бацьком якое-колечы ільготы зрабіць...

Платон якую хвіліну памаўчаў, як-бы дабіраючы словы да гутаркі, пасьля ўстаў з услону і паважна замовіў:

— Ведаеце што, бацькі? Я мажа-б і меў-бы магчымасьць што-кольвек зрабіць, але—я не хачу... Едуць усе—трэба й нам ехаць. Хто можа чым-кольвечы пасабіць—мусіць гэта зрабіць. Тут справа ня чыя чужая, а свая. Наша сялянская, кроўная справа.. Ды нельга, каб які-кольвечы Грышка ці Павал паказвалі пальцам увесь час ды казалі: „а чаму Гічка не паехаў? Чым ён лепшы нас?“ Ехаць трэба ўсім. Толькі грамадаю мы адаб'ём ворага. Паны гэта ведаюць і трымаюцца дружна. Вы не паедзеце, другія не паедуць, дык як-жа тады быць? Пакінуць войска без абозу?.. Ня можна. Гэта значыць —праз тыдзень вярнуць палякоў... Гэта значыць—праз тыдзень пачуць іх крык і пугу, праз тыдзень папасьці пад іх прыгон. Трэба ехаць, тата! Едзьце—і ні слова... Хай не паказваюць на нас пальцам... Прыдзецца пацярпець—пацярпім, як і ўсе. Нам не прывыкаць... Цярпелі для другіх, трэба і для сябе.—

Юрка ўважліва слухаў сына. Перш нездавальняюча ківаў галавою і разводзіў рукамі, а пасьля супакоіўся, удумаўся ў кожнае слова Платона і, відаць было па твары, пераканаўся ў праўдзе Платонавых слоў. Затое Юзя ніяк не хацела згадзіцца з сынам і нэрвова, пакуль Платон казаў, пазірала на

мужа, крывілася і памыкалася перабіць сына, і толькі Платон змоўк, як Юзя накінулася на яго:

— Ах, які ты ўжо шчыры стаў! Так і рымсьціць, так і трасецца, каб ня сыйсьці са сьцяжынкі. Падумаеш, дзякуй вялікі маеш за свае стараньні... Цалюткі год хаваўся, на валаску ад сьмерці ліпеў, а тут капейкі ў хаце ня было; бацьку даводзілася за пяцьдзесят вёрст у дарогу езьдзіць, каб якую капейку зарабіць. А хіба хто ўвагу зьвярнуў ды памог? Дастанеш! А гэта, вось, ізноў: падыйшло жніво, трэба сабраць сёе-тое з поля—дык бяры і едзь няма ведама куды... А тут—перасьпявай на коласе, гінь, прападай... Каб ужо ды сам ты хаця быў пры хаце, а то ў кожную хвілю мусіш пакінуць нас. Падумай, гэта лёгка сказаць, а паспрабуй... Ды што казаць! Ты ўжо ў нас гэткі праведнік!.. Увесь век, толькі стаў на ногі, як усё за гэтым удараеш. Усё на кагосьці стараешся, бегаеш, езьдзіш, як-бы ў цябе нічога й нікога няма. Вось-жа й Тамаш Яўсігнееў лічыцца сацыялістым, а паглядзі ты: і за палякамі спакойна жыў і цяпер... устроіць так, што ні ў абоз не паедзе, ні, крый чаго, з Маргоў не ўцячэ... Бо, вядома, дбайны.—Раззлаваўшыся, як сьлед, Юзя не магла далей казаць і, абарваўшы гутарку, павярнулася да свае работы.

Юрка маўчаў і пазіраў у вакно.

— Не гарачэцеся толькі, мама,—тым-жа роўным спакойлівым голасам, падыйшоўшы да печы, пачаў Платон:—Вы мне праз дзесяць, калі ня болей, гадоў даеце свае рады. І прыпомніце, ці хоць-бы раз яны падыходзілі да ажыцяўленьня? Так і цяпер. Нельга так разважаць, кажу я. Не паказвайце на другіх. Тамаш Яўсігнееў тут ні пры чым. Ён адно—а я другое. Хай сабе ён робіць пасвойму.—Бачачы настойнасьць сына, Юзя захацела спагнаць злосьць на мужу.

— Та ты-ж чаго маўчыш?—абярнулася яна да Юркі:— Пэўна ўжо й гатоў ехаць? Угаварыўся...

Юрка адвярнуўся ад вакна, сур'ёзным поглядам абвёў жонку і цьвёрда выказаў:

— Так. Такі я мушу ехаць... Калі трэба—та трэба. Платон праўду кажа. Не паеду я, не паедзе другі—дык што тады? Наша павіннасьць памагчы ім. Можа не памагчы Ігнась ці Саўка—ім панч лепш, а нам гэта кроўная справа.—

Юрка паказаў пальцам на Платона:

—Яны, глядзі, ня толькі для сабе робяць, а і для нас... Пан вораг іх і вораг наш.

— Падумаеш! Дабра табе нарабілі! Вось паскубаюць, толькі ў гэтым іх дабро.

— Ша-а, Юзя, маўчы,—пераняў Юрка жонку.— Ужо,

сапраўды, ты вельмі вырасьціла свой язык. Раз трэба ехаць—то трэба. Паном езьдзілі, чаму-ж нашым адмаўляцца! Усё-ж—выбавілі нас. Мала мы панацярпелі? Колькі ты сама паплакала!

— Выбаўляць... Выбавяць... Так выбавяць, што ворагам закажам.

— Кіньце, маці,— усур'ёз пераняў мацеру Платон:— ці ня брыдка плявузгаць ліха ведае што!—

Юзя змоўкла й нэрвова зачасьціла стукі сечкаю па лаве. Юрка, не зважаючы на злосьць жонкі, падыйшоў да Платона і пачаў радзіцца на-конт таго, як і што заўтра зьбірацца ў дарогу.

— Я думаю, сынок, нас далёка не пагоняць. Не магчыма-ж, каб я, стары, да Варшавы ехаў. Вось мо' толькі да Вільні правядом і вернемся. Дык, я думаю, вазьму гэтыя старэнькія калёсы з нарадам, палажу палукашак— і добра будзе... Як ты кажаш?

— Да ўжо, вядома, як-кольвечы, як магчыма!.. Хто ведае, як там будзе,— адказаў Платон;— можа правядзіцё да Вільні, а мо' й таго бліжэй. Толькі— раз прыходзіцца, то трэба...

Платон не даказаў: падыйшоўшы да вакна Пiліп Хрэн пераняў яго воклікам:

— Ці ты дома, Платон? А я ўжо каторы раз наведваю і ўсё не застаю цябе ў хаце.

— Чаго ён ужо пляцецца сюды?— сказала нездаволена Юзя;—пэўна, да цябе, Платон. Прыяцель вялікі знайшоўся... Ты, адно, сынок, не зважай на яго. Паддобрывацца будзе.

— Гледзячы, што будзе казаць!

— Хоць бы што,—буркнула Юзя...

Піліп увайшоў у хату. Яго шырокі аброслы барадою й бакамі твар, з вузкім вострым носам і сінімі вачыма, насупярэч заўсюдашняму вясёламу выгляду, быў спакойна, нават, крыху сур'ёзна настроены. Агледзіўшы хату і прывітаўшыся, ён адразу ня мог перайсьці да гутаркі і хвілін са дзьве прастаяў моўчкі. Але ад гэтага стала яму ня ёмка, бо і Платон, і Юрка і, нават, Юзя зьдзіўлена глядзелі на яго, чакаючы, што будзе казаць.

— Я, ведаеце, суседзі, да Платона прыйшоў,—пачаў Піліп, стоячы на адным месцы:—справа гэткая, што хоцькі ты тапіся...

— Ідзі прысядзь, Піліп... А то стаў у парозе, як які незнаёмы і стаіць,— пазваў Юрка.

— Дзякую, — адказаў Пілiп і прысеў на лаўцы ў мыцельніку.

— Я прышоў, ведаеце, прасіць Платона, ці ня мог-бы ён як-кольвечы памагчы мне,—нерашуча замовіў Пілiп.

— У чым?— запытаў Платон.

— Ай, у чым,— Пілiп пачухаў бораду:— Да ўсё ў гэтым абозе. Падумай, браток, забяруць коней, а тут і сена прападзе і збожжа хто-ж тут зьбярэ з поля, як я з хлопцам мушу ехаць?.. Дома — адна хворая жонка з двума малымі. Што-ж яна магчыме зрабіць? Проста бяда!.. Як сказалі мне, каб назаўтра зьбіраўся, дык праз цэлы дзень рукі не падымаюцца... Вось давай, думаю, забягу да Платона, няўжо-ж такі ён не пасобіць мне. Такіта-ж ён у начальстве. Га, Платон?— лісьлівым голасам запытаў Пілiп.

Платон засьмяяўся.

— Што сьмяешся? Пэўна зьдзівіўся, што да цябе зьвярнуўся з просьбаю. Мабыць успомніў нашу сварку пры немцах? Забудзь, братка. Мала што тады было. Дурасьць нейкая запала была ў галаў... А каб гэта я за што іншае—павер, што не! Я ніколі на сацыялістых не даносіў знарок і цяпер бальшавікоў шаную... Гэта-ж куды лепей за паганых паноў. Свае... Ты, Тамаш Яўгеняў, Хаімаў хлопец— усё-ж свае. Век зьбекавалі ў суседзях...

Юрка закурыў люльку й паважна смактаў яе, пускаючы дым, як з коміна. Спакойная міна яго, здавалася, адбівала сабою гэткі-ж спакой у яго нутры. Тое, што ў вуснах Пілiпа лічылася суседзтвам, калісьці добра давалася ў знак Юрку. Го-о, каб то на другога— ён-бы ў хату ня пусьціў Пілiпа. Юрка-ж быў чалавекам мяккім і дабрадушным. Калі хто яго крыўдзіў, то ён ня больш гадзіны трымаў у сябе злосьць на крыўдніка, а пасьля зразу дараваў крыўду й адыходзіў сэрцам. А калі хто прасіў прабачэньня, то таму Юрка ня толькі дараваў, а, нават, і шкадаваў яго. Пілiп мала таго, што не перапрашаў за частыя крыўды Юрку, а як-бы знарок час-адчасу аднаўляў іх. Але варта было стрэцца Юрку з Пілiпам на другі дзень пасьля ўцёку палякоў і пачуць ад яго мяккае слова, як Юрка напалову дараваў яму сваю крыўду. Цяпер-жа вось, калі Пілiп зайшоў у хату і гэткім пакорліва-лісьлівым голасам пачаў сваю гутарку, Юрка сядзеў і думаў: «усё-ж Пілiп—чалавек, як чалавек. Мала што калі з дуру зрабіў! Ці-ж варта злаваць на яго». І Юрку захацелася, каб сын не адказаў у просьбе Пілiпу. Што ён багаты, што паехаць у фурманку для Пілiпа нічога няўтратна, бо й жонка яго ня так ужо хвора і малыя дзеці ня так ужо малы— гэта

ўсё было дарма й незаўважна Юрку. Так пакорліва ўжо просіць Піліп! Юрка з цікавасьцю аглядаўся на сына, чакаючы, што ён адкажа Піліпу. Юрку лісьціла за Платона, за яго становішча і хацелася бачыць, на колькі ён мае вагу зрабіць ці не зрабіць тое ці іншае. Паказаць Піліпу дабрату,— то-б сьведчыла, што ён залежыць ад Платона. Калісьці, гадоў пяць назад, Платон быў у Піліпа самым зьненавісным чалавекам. Дзе сьлед, а дзе ня сьлед, Піліп яго лаяў, выдаваў, паскудзіў і абяцаў розныя кары. Хай-жа цяпер пераканаецца, як апасьліва бывае займаздароў, бяз дай-прычыны ганьбіць чалавека.

— Не, дзядзька, я вам нічога не пасоблю,—адазваўся Платон, калі Піліп кончыў:—Я, па-першаму, мушу выпаўняць прыказ старшага вайсковага начальства, а па-другому, я вось і роднага бацьку выпраўляю. Я гляджу так: калі вы муселі, а ня то й вольна памагалі палякам, то не павінны адказвацца зрабіць дапамогу й нашым,— тым болей, што вы гэта можаце зрабіць: маеце пару коні, маеце сына...

Юрку як-бы стала няёмка, што сын так проста й адкрыта выказаўся перад Піліпам, і ён адвярнуўся ў вакно.

— Няўжо такі ты напраўду не паможаш нічога бацьку?— хітра падышоў Піліп:—Мне ўсё-ж такі думаецца, што ты бацьку выбавіш... Вунь я бачыў Мікіту Брушку, і той мне хваліўся, што яго сын Паўлусь, бач, зрабіў так, што не паедзе ні ён, ні яго брат. Паўлусь прыпісаў іх да рэўкому і так затрымаў. Пэўна й ты бацьку выбавіш... Што-б табе за адно й мяне! Га, Платон? Я-б за гэта табе аддзякаваў удвойчы. Хоць бы аднаго каня заставіць...

— Ды што ты, Піліп,—азвалася дасюль маўчаўшая Юзя: —ён у нас да таго верны служака, што й на ногаць ня хоча ў свой бок перадаць. Навошта дарэмна казаць. Другія, глядзі, вунь... і зямлі набяруць, і кароў, і ўсякая ўсячына.

— Вось ты хаця маўчы,—пераняў жонку Юрка:—мала хто як вядзе сябе. У Платона сваё разуменьне. Ужо-б, пэўна, ён зрабіў-бы што-небудзь Піліпу, а, бачыш, нельга, значыць...

Піліп ліхамысна скрывіў міну, пачасаў затыліцу й адказаў:

— Тут, мабыць, ня што іншае, як аддзяка мне за ранейшае. Што-ж, нечага рабіць—выбачайце!

Піліп падняўся:

— Гэткі ўжо сьвет цяпер: хто дужшы—той прутшы. Прышлі бальшавікі—ваш верх. Але яшчэ невядома, чым кончыцца...

— Прашу не абражаць Савецкае ўлады,—перабіў разззлавана Платон:—яна прышла не прыгнятаць, а вызваляць бедных людзей і іх краіну. І лаяць яе я не дазволю...—Платон зьнізіў голас:—трэба вам, дзядзька, зразумець, што тут не гандаль, які вядзецца, а аддаецца павіннасьць агульнай справе. Чаго-ж ухіляцца ад гэтае павіннасьці...

— Н-ну-у-у, як разумееш!

Піліп вышаў з хаты. За ім усьлед—Юрка.

— Вось, бачыш, ніякага сораму ня мае,—адазвалася Юзя:—здавалася-б і ў вочы брыдка паказацца, а тота-ж—прыйшоў, як нібыта той. Пасоб, памажы...

— У тым-то й рэч. Астанься бацька ўдому, дык тады пальцамі затыкаюць. І цяпер, вось, што гавораць. Думае, што я памшчуся, калі не раблю таго, чаго яму хочацца, а бацьку застаўлю дома... Хітрыя, кулаччо!..

Юзя змоўкла. Платон задуменна прайшоў некалькі разоў па хаце і пасьля вышаў на двор.

На вуліцы стаяў гоман і беганіна. Каля суседняй хаты сабралася грамадка мяшчан, якія пільна й клапатліва развалі пытаньне з фурманкамі. Раптоўнасьць гэтае прыгоды вельмі занепакоіла ўсіх.

Кожны выказваў свае погляды на трапленае і намячаў выйсьце. Угледзіўшы Платона, некалькі чалавек з грамадкі зьвярнуліся да яго з запытаньнем:

— Платон, ці нельга было-бы прасіць у цябе заступніцтва?

— Не, мужчынкі, тут я ўжо вам не пасаблю нічога. Прыдзецца ехаць. Пасобце чырвонай арміі. Гэта ваша—павіннасьць для саміх сябе...

— Гэ, яго бацька астанецца, яму няма чаго неспакоіцца,—упікнуў адзін з грамадкі.

Некалькі чалавек падмацавала яго голасным «але, але! што-ж дзіўнага!».

Платон, нездаволена матнуў рукою і вярнуўся ў хату.

II.

Назаўтра Гічкава сям'я прачнулася раньняй раніцаю. Юрка пачаў зьбірацца ў дарогу. Платон яму пасабляў. Юзя ўвіхалася каля печы, каб згатаваць сьнеданьне. Праз ноч яна адышла ад злосьці й прымірылася з пастановаю мужа й сына— ехаць няйначай. Ня прыходзілі ў голаў думкі, каб яшчэ паспрабаваць угаварыць сына заставіць Юрку дома.

Юзя ведала нораў аднаго й другога і лічыла дарэмным пачынаць усякую гутарку: „насталі—то зробяць“.

Юзю непакоіла адно— не застацца-б ёй і без Платона. Яна, як і большасьць мяшчан, ня верыла ў цьвёрдасьць становішча. Тым болей ня пэвен быў каля яе Платон. Што-ж будзе, калі яна застанецца аднэй? Юзі хацелася абгаварыць гэта пытаньне пры мужу й пры сыне. Ходзячы каля печы і гатуючы сьнеданьне, яна раз-по-разу пазірала ў вакно, каб упэўніцца, ці ў двары мужчыны. На вуліцы чуўся крык і суятня. Хаця-б не пагналі раптоўна, ня даўшы якраз сабрацца? Каб гэтага ня здарылася, Юзя рашыла мужчын зазваць у хату.

— Юрка, Платон, дакуль вы там ня ўходзіцеся? Ідзеце ў хату, зараз сьнеданьне будзе,—пагукала яна настойна.

Мужчыны ўвайшлі.

— Вось што, родныя мае,—абярнулася да іх Юзя:—Час ідзе, а мы-ж яшчэ не парадзіліся, нават, як будзе хата? Адзін едзе зараз, а другі—ў кожную хвіліну таксама можа пакінуць мяне. Дайце абгаворым, што прыдзецца мне рабіць?

Юрка прысеў каля стала і, падумаўшы, адказаў:

— Што-ж я! Я—нічога! Няхай Платон кажа. Калі я паеду— пэўна ён тут магчыме застацца... Чуеш, сынок? Дагледзіш ты хаты й мацеры?

Платон упэўнена адказаў:

— Трэба будзе.

— Ну, а калі самога пагоняць куды?—запыталася Юзя.

— Нічога. Тады рэўком пасобіць... не бядуйце.

— Ой, глядзі, Платонка. Ты дарэмна так запэўняеш,—сумелася Юзя:—Паедзеш куды, а мне—пропадам прападай.

— Ня бойцеся, маці, я ня дам прапасьці... Ну, давайце сьнедаць, да трэба ехаць,—каб не зацягваць каразьлівае гутаркі,—папрасіў Платон.

Юзя паслухна падала на стол сьнеданьне, а сама задуменнай вышла ў сені.

Юрка з Платонам прыняліся есьці.

## III.

Пасьнедаўшы, Платон з бацькам паехалі да рэўкому. На вуліцы і на рынку ня відаць было ніводнае фурманкі. Яны пад'ехалі да будынку рэўкому і прыпыніліся. Юрка застаўся на возе, а Платон пайшоў у канцылярыю.

У канцылярыі было ўжо некалькі чалавек з рэўкому, у тым ліку Тамаш Яўгеньняў, Сіман Хаімаў ды іншыя. Угледзіўшы Платона, Тамаш запытаў яго:

— Ну, як з фурманкамі? Зьбіраюцца?

— Пакуль, ня відаць... Толькі мой бацька вунь стаіць.

Яны прайшлі ў асобны пакой і паселі каля стала.

— Стараешся ты, Платон, як я бачу,—гіранічна выказаў Тамаш.

— Чаму,—зьдзівіўся насур'ёз Платон.

— А вось, бацьку першым выпраўляеш. Пэўна хочаш паказаць гэтым, што...

— Выбачай, браце... Я гляджу так, што тут не павінна быць ніякіх льготаў. Ня пусьціш ты свайго бацькі, ня пушчу я—тады што выйдзе? Кожны будзе пальцам паказваць на нас, кажучы: «Вось табе роўнапраў'е і свабода». Не, брат, нам патрэбна другім прыклад даваць. А то, вось, ужо ўчора да мяне прыходзіў адзін сусед і прасіў, каб я пасобіў яму застацца й не паехаць. І калі я сказаў, што я й бацьку выпраўляю, дык ён, думаеш, паверыў? Хай-жа бачаць, што я ў абавязках да справы не знаходжу розьніцы між бацькам і чужым...

— А ты думаеш, што гэта пасобіць? Нічога! Усё роўна будуць казаць усякія плёткі. Кулаччо—ласьне яно паверыць у тваю шчырасьць? Ня думай—адказаў Тамаш:—Куды табе раўняцца! Твой бацька стары, маці старая... я-б, ведаеш, не радзіў-бы справаджаць бацьку ў фурманку. Мала што можа трапіцца ў дарозе, а ад гэтага...

Платон крыху задумаўся і памаўчаў.

— Ведаеш, Тамуля, я ўсё-ткі не магу гэтага зрабіць,—адказаў ён:—трэба пасабляць, чым мага. Ідэю трэба ажыцьцяўляць і, ажыцьцяўляючы, даваць прыклад другім... Вось паглядзі ты...

Платон спыніўся, ня ведаючы, выказаць ці не перад таварышам чутае аб ім. «Скажу, што-ж дрэннага ў тым», парашыў ён. Але пакуль пасьпеў адчыніць рот, як Тамаш яго папярэдзіў, улавіўшы Платонаў намер.

— Ну, ну, кажы. Што ты спыніўся?

— Ды тут, бач, нічога такога няма. Я хацеў толькі сказаць, што... ўжо ходзяць чуткі, нібы-то Паўлусь Брушка вызваліў ад фурманкі ня толькі бацьку, а й дзядзьку.

— Чу-уткі-ы? Ласьне гэта на карысьць справе? Чорт яго ведае, гэтага Паўлуся. Як ён ня можа нічога цішком зрабіць. Ды, галоўнае, і дзядзьку! Вядома, што так нельга. Гэта-ж запраўдны кулак,—занедаволіўся Тамаш.

— Ну, вось бачыш...

Платон не даказаў. Стук у дзьверы каморкі, дзе ён сядзеў з Тамашом, перабіў іх гутарку. Платон ускочыў з месца й адчыніў дзьверы. За дзьвярыма стаяў яго бацька.

— Што ж ты так засядзеўся тут,—дакорліва сказаў Юрка:—я чакаю-чакаю, а цябе няма. Трэ' было-бы яшчэ парадзіцца аб сім аб тым перад ад'ездам, а ты тут увесь час прасядзеў...

—Дык давайце,—згадзіўся Платон.

— Куды там давайце? Ужо людзі паехалі. Я забег сказаць, што й я еду...

Яны ўдваіх, пакінуўшы Тамаша, выйшлі з рэўкому на пляц. На пляцы стаяў цэлы кірмаш фурманак. Грамадкамі між вазоў, паадзяватыя ў дарогу, з клумкамі стаялі мяшчане. У напрамку павятовага шляху адмячаўся руплівы рух. З-за мястэчка з боку-ж таго самага шляху даносіўся заціхаючы сьпеў войска.

— Бацька,—абярнуўся Платон да бацькі:—ты далёка ня едзь. Правядзі да Слоніма і варочайся. Адпрасіся—ты-ж стары...

— Да ўжо, там убачым. Буду старацца праз дзён пяць вярнуцца. А вось ты тут... Не пакінь, нябожа, мацеры; яна адна прападзе, у выпадку чаго. Не пакідай яе... Наймеце якіх пару жанцоў і сажнеце жыта, пакуль я вярнуся—парадзіў Юрка.

Ён хацеў яшчэ дапамянуць на-конт гумна нешта, але з-заду падалі крык:

— Займай чаргу, стары.

Юрка ўзяў каня пад аброць і ўехаў у агульную чаргу.

Платон стаў на ўзгорку збоку і глядзеў усьцяж шляху, па якім, мо на дзьве вярсты працягам, шэраю вужакаю віліся падводы. Густы слуп пылу, каламуцячы паветра, падымаўся ўгору.

IV.

Першыя два дні пасьля ад'езду бацькі, Платон настолькі быў захоплены работаю ў рэўкоме, што да хаты паказваўся ня больш, як на дзесяць хвілін, каб перакусіць, і зноў зараз-жа варочаўся ў рэўком.

Юзя гневалася на яго, злавала, што ён зусім пакінуў гаспадарку й забыў пра яе, а сьвету ня бачыць за рэўкомам.

— Хай-бы ты, сынок, хоць часіну аддаў для мяне: трэба-ж парадзіцца, трэба агледзецца. Ты-ж мусіш за гаспадара ў хаце быць: бацькі няма. А табе, як чужому, няма ні мацеры, ні дому. Гэта-ж трэба так моцна ўесьціся ў сваё гэта бальшавіцтва. То-ж сьвет мо ня бачыў такіх шчырых і заўзятых служакаў, як ты. Няўжо табе трэба больш, як усім. Няўжо цябе царом зробяць, калі ты так будзеш старацца...

— Маці, маўчы,—на хаду закідаў Платон:—мне трэба ня больш, як усім. Мне, нават, зусім нічога ня трэба. Я мушу аддаць, што магу, тэй думцы, якая арудуе мною ўсё жыцьцё.

— Ах, які ты ўпарты, сынок!—пускала Юзя ўдагон Платону.

Але Платон ужо ня слухаў. Трэ' было пасьпяшаць у рэўком і абгаварваць там пытаньне аб арганізацыі ўлады па ўсяму раёну.

Чырвоная армія праз кожную гадзіну аслабаняла ўсё новыя абшары краю. У кожную вёску трэ' было пасылаць хоць па два чалавекі. А іх так мала было! Шмат выдзяляла работнікаў чырвоная армія, але трэба было кожнага намеціць, куды пасылаць, на якое месца назначыць, каб ён адпавядаў яму.

Да позьняе ночы цягнуліся пасяджэньні, натужныя, нэрвовыя. Платон слабеў, таміўся і, вярнуўшыся ўночы, хутка еў і кідаўся ў пасьцель.

Толькі на чацьвёрты дзень як быццам-бы гарачка крыху спала, і Платон, пасядзеўшы ў рэўкоме да абеду, пайшоў да хаты. Ён ужо ня думаў вярнуцца ў рэўком, а рашыў другую палову дня застацца ў дому, адпачыць і разам абгаварыць з мацерай дамашнія справы. „Ды, к гэтаму", думаў ён, ідучы: „павінен бацька хутка вярнуцца. Ня мусіць-жа ён ехаць бясконца"... Падвязе вярстоў са сто, а там ужо зьменяць другія. Яно-б хай-бы сабе ехаў і далей, толькі стары замучыцца ў доўгай дарозе. А тут яшчэ гэта жнітво... Запраўды, што-ж маці зробіць, калі мне прыдзецца куды выехаць!"

Прышоўшы дадому, Платон мацеры не застаў: яна нездоўга перад абедам пайшла ў жытні палетак, паглядзець, у якім становішчы жыта. Платон сам знайшоў яду, паабедаў і сабраўся прылегчы. Але толькі ён пасьпеў разуцца, як знадворку пачуў гутарку. Ён барджджэй назад усьцягнуў боты на ногі і падбег да вакна. У сенцы якраз уходзіла маці і сторaж рэўкому, Яўхім.

— Навошта ён вам? Дайце хаця паабедаць вольна,—казала расьсерджаным голасам Юзя.

— Я ня ведаю нічога. Мяне паслалі, і я прышоў. Пільна патрабуюць,—адказваў Яўхім.

«Што за ліха! Навошта я ім?—падумаў Платон, абярнуўшыся да дзьвярэй і чакаючы ўваходу Яўхіма:—Нядаўна нікога ня было, а гэта вось насьпела: дыхнуць ня могуць без мяне. Галава трашчыць—а й гадзіны нельга супачыць»...

— На, вось, ты мо даўно ня бачыўся, дык маеш,—пераступаючы парог і паказваючы на Яўхіма, які йшоў сьледам,

злосна выказала Юзя:—Чаго такі табе так пільна патрэбна там быць? Ласьне ты даўно ўжо ў доме?

— Чакайце-э... толькі, маці...

Платон узяў ад Яўхіма запіску, прачытаў і ў голас выказаў:

„Што за прымха! Надало яму прыехаць. Тут ужо нечым пахне. Пэўна якое-кольвечы экстранае здарэньне“, падумаў Платон.

— Ну, ідзеце, дзядзька, скажэце, што я зараз прыду,— прамовіў Платон да Яўхіма.

Яўхім павярнуўся і вышаў з хаты.

— Што гэта там? Якая такая справа, што ажно пада-слалі?—пацікавалася Юзя і, пакруціўшы нездаволена галавою, дадала:

— Вунь людзі ўжо жнуць. І наша жыта ажно шамціць— сьпелае. Трэба жаць, а то колькі яго ёсьць і тое гатова прапасьці.

Яна памаўчала з хвіліну.

— А ў мяне на бяду штосьці так пачало калоць у баку, што сагнуцца нельга... Платонка, няхай-бы ты як-кольвечы выпрасіўся на дзень да справіўся з жанцамі... Няўжо там не абыйдуцца й дня без цябе. Га?.. Ты-ж і так...

— Добра, добра... Я гэта пастараюся зрабіць... Можа заўтра ўранку...

— Заўтра?! Чаму-ж ты так кажаш? Чаму заўтра? Жанцоў сягоньня трэба заладзіць, каб заўтра ўжо ўпэўненым быць... А то яшчэ дзень-другі—і жыта перастаіць, паломіцца, асыплецца... Ты зайдзі вось зараз да Міхаліны й да Алены і папрасі іх...

— Не, не! Цяпер я не магу. Я вечарам, толькі вярнуся з рэўкому.

— З рэўкому! Ай, гэты мне твой рэўком омегам вылазіць,—чуць ня ўкрык вымавіла Юзя і хутка кінулася ў сені, сярдзіта стукнуўшы дзьвярыма:—Ты й бацьку выправіў, як у пекла... Паўлусь, нябось, хоць таксама рэўкомец, а глядзі, вунь, бацьку дома затрымаў... Тамаш таксама,—крычала яна ў сенцах.

Платон моўчкі абышоў мацерын крык і пасьпешна панёсься ў рэўком.

## V.

— Таварыш Гічка, вы ня шчыра адносіцеся да справы, дазьвольце вам сказаць,—сустрэў Платона прыежджы з павету таварыш:—мы ўжо вас чакаем болей паўгадзіны. Ведаеце, што справы не чакаюць.

Платон ускіпеў ад злосьці і перш хацеў падаць адпаведную спрэчку за незаслужаную вымову, але ў рашучую хвіліну стрымаўся і змаўчаў.

— Ужо ўсе?—запытаў у Тамаша той-жа таварыш з павету:—можа можна пачынаць?

— Яшчэ няма Паўлуся Брушкі,—адказаў Тамаш:—але ён павінен скора прысьці, так што чакаць далей ня варта.

Усе—было каля дзесяці чалавек—перамясьціліся да стала, сьціснуліся рашчыльна адзін к другому і настаражыліся слухаць, што скажа прыежджы таварыш. Платон, абражаны раней, сеў з краю й штосьці думаў асабістае.

— Таварышы!—пачаў прыежджы таварыш:—мяне прыслалі з павету да вас, каб я тут зрабіў мабілізацыю камуністых. У вас на мястэчка вялікіх сілаў не патрабуецца, між тым вялікая патрэба ў людзях. Не хватае людзей у павятовыя рэўкомы, у рэўкомы многіх мястэчак і гарадкоў. З цэнтру націскаюць, каб давалі людзей... Вось на пасяджэньні павятовага камітэту і рашано забраць ад вас хоць-бы двох чалавек. Ну, што вы скажаце на гэта?

Нейкі час ніхто не адазваўся. Толькі падазрона адзін на другога паглядзелі. Пасьля, каб згладзіць няёмкасьць, Тамаш спакойлівым голасам падаў:

— Калі, то аднаго таварыша; дваіх ніяк ня можна. У нас таксама шмат работы.

— У вас-жа, вось, цэлая капэльля людзей!—выказаўся прыежджы таварыш:—што вам тут усім рабіць? Вы забываеце, таварыш, што Беларусь ня месьціцца ў вадным вашым мястэчку. Тут вы трымаеце столькі лішніх людзей, што трэба дзіву давацца, ды яшчэ супярэчыце мабілізацыі двух таварышаў. І гутаркі не павінна быць—двух таварышаў я мушу ўзяць з сабою абавязкова.

Рашучасьць, з якою казаў прыежджы таварыш з павету, ясна сьведчыла, што рашэньне ўзяць з мястэчка Маргі двух чалавек было цьвёрдым. Адгаварвацца й супярэчыць далей было дарэмна. Тут ішла рэч аб пастанове камітэту, аб справах рэволюцыі. Гэта адчулі ўсе, як адзін, і моўчкі выказвалі сваю згоду адпусьціць дваіх. Але каго? Прапанаваць другога, таго ці іншага, ніводзін не хацеў. Усе чакалі прапазыцыі з боку прыежджага таварыша.

— Дык вось, таварышы!—не дачакаўшыся адказу, выказаў павятовы таварыш:—нам сёньняка патрэбна выехаць. Каб ня траціць часу, намячайце кандыдатаў. Пакуль яшчэ яны зьбяруцца... Хто ў вас менш заняты й без каго можна было-бы абыйсьціся пакуль-што?

Рэўкомцы пераглянуліся і зноў ня ведалі, што сказаць.

— Вы-жа павінны ведаць, таварыш,—абярнуўся прыежджы таварыш да Тамаша.

Тамаш сумеўся і, каб мінуць нерашучасьць, сказаў:

— Платон Гічка і Лукаш Цяўе, бадай што лепш другіх падходзяць.

Тамаш пытальным поглядам кінуў у вочы супроціў яго сядзячаму таварышу, Аўсею. Той паціснуў плячыма й змаўчаў.

— Чаму няйначай Платону?—раптам запытаў Платон:—ласьне я менш заняты за цябе? Хай скажуць таварышы. Ды да гэтага яшчэ, маё дамашняе становішча, як табе ведама... Бацька адправіўся ў абоз, а дома адна старая маці... Жніво падасьпела...

Прыежджы таварыш чэрства паглядзеў на Платона, кіўнуў галавою й сказаў:

— Таварыш! Нам няма чаго чапляцца за розныя прычыны. Сям'я, дамашняе становішча—гэта буржуйныя забабоны, з якімі нам не належыць лічыцца. Рэволюцыя вышай усяго. Калі вы шчыры рэволюцыянэр, вы не павінны былі-бы...

— Так, я шчыры рэволюцыянэр!—узьнятым ад крыўды голасам выгукнуў Платон, перарваўшы дакорлівы монолёг прыежджага таварыша:—маю шчырасьць можа кожны з таварышаў засьведчыць. Я цэлы год працаваў падпольна, соткі разоў быў на валасочку ад сьмерці. А ў гэты час бацькі бяз хлеба сядзелі. І сам я ня меў каліва дапамогі. А другія ў той час лаўнікамі служылі ў палякоў... Вы абмыляецеся, таварышу, калі кажаце так...

Ніхто нічога ня мог адказаць Платону на гэтыя яго словы. «Другія лаўнікамі служылі»—то адносілася да Тамаша, які пачырванеў на твары ад гэтых Платонавых слоў. А прыежджы таварыш бачыў па мінах многіх, што яны хоць маўчаць, але спагадаюць Платону. За свой няўтрымны выказ ён адчуваў нейкую няёмкасьць. Яму ўжо хацелася выкупіць сваю віну адказам мабілізаваць Платона, замяніўшы яго другім. І ён задумаўся, як ямчэй зрабіць адыход ад сваіх слоў.

— Ды ўжо, калі гэтак, я гатоў,—пасьля некаторай маўчанкі праказаў Платон, перабіўшы думку прыежджага таварыша:—я ніколі ня здраджваў тэй справе, якой больш дзесяці гадоў шчыра служу, і ня здра-а-джу-у. Патрэбен ёй—бярыце. І думаць, нават, не дазволю нікому гэтага. Я згодзен ехаць! Думаю, што і Лукаш Цяўе зробіць тое самае.

Каб зьмягчыць настрой, таварыш з павету сказаў:

— Таварыш Гічка! пэўна, калі ваша гэткае становішча— бязумоўна вам трэба застацца на месцы. Вас могуць замяніць другія.

— Нне-э! Ужо няма чаго далей зацягваць: я еду! Вось пайду зьбяруся й прыду.

Дэмонстрацыя Платона перабіла далейшыя гутаркі. Так ужо склалася становішча, што нельга было ні пярэчыць рашэньню Платона, ні адмяняць мабілізацыю. Трэ' было спыніцца на тым, што ёсьць—і нарада на тым спынілася.

Платон з Лукашом пакінулі рэўком і пасьпяшылі да хаты.

На вуліцы цямнела.

## VI.

„Як у клетцы б'ецца птушка, так мусіць біцца ў гушчы жыцьцёвае будзёншчыны чалавечае сумленьне. Агонь рэвалюцыі, які паліць усё на сваім шляху, пакуль не расплаўляе яе. Закаранелая, чарствая—яна плям'іць яскравыя галы праменных пазываў. Колькі гэтай будзёншчыны сабралася ў людзкой душы за часы векавое нявслі! Колькі агню, якога прыску патрабуецца на тое, каб яе спаліць нашчэнт і абмыць чалавечае нутро ад тоўстага пласту яе атрутнага пылу. Буйны повей вогненай буры змыў пакуль павярхоўны наслой яе, а там, у нутры нашым, яшчэ многа-многа засталося падонкаў мінулага. Мне сэрца баліць, калі я чую хоць-бы ад Тамаша ці ад гэтага прыежджага таварыша іхнія словы. Яны не разважаюць так, як то трэба было-бы новаму, апаленаму рэволюцыяй ваяку, а ўсё з пагляду акружаючага жыцьця. Буржуйныя забабоны! Дзе трэба, а дзе ня трэба пікуюць іх і думаюць, што ў гэтым захаваны ўвесь сакрэт справы...»

Уваходзячы ў гушчу думак усё глыбей ды глыбей, Платоп не заўважыў, як апынуўся каля хаты. Аб тым, што абяцаў мацеры зайсьці заладзіць назаўтра жанцоў, ён забыў суйздром. Яго непакоіла за мацеру. «А што, калі бацька прабудзе там тыдняў са два? А што, калі, крый чаго, ды няшчасьце якое здарыцца? разважаў Платон, міжвольна прыпыніўшыся ў сваім двары:—Добра-б было, каб мне скора вярнуцца! А то ўсяк можа быць. Увойдзеш у працу—і ніяк нельга будзе кінуць яе... Не паехаць бы? Не—гэтага нельга дазволіць. Немажліва пакінуць бязьлюдным месца, дзе патрэбна замацоўваць уладу. Запраўды, нас тут досыць і пяці чала-

век. Адчыняюцца новыя абшары, сьвежыя, патрабуючыя многа сіл і працы. Вядома, не паехалі-б знарок за людзьмі, каб ня экстраная патрэбнасьць у іх. Так! Трэба ехаць! Я мушу ехаць! Не паеду я, другі—як-жа тады быць?»

Платон рашуча ўвайшоў у хату. Маці ляжала на палку ў запечку й паціху стагнала. На прыпечку сьвірэла газьнічка.

— Што з вамі, маці? - палахліва запытаў Платон.

Юзя енкнула мацней і зацяжным, перарыўным голасам адказала:

— О-ох, сынок! Вельмі моцна ў баку закалола. Якраз назмроку пачула; перш ціха, зьлёгку, а пасьля ўсё горай і горай, а зараз—слова сказаць трудна... Скажы-ы, Платонка,— перайшла яна на другое:—ты ня стрэўся з Макарэм Плеўкаю? То-о-лечкі вышаў. Ізноў прыходзіў па справе з агародамі... Прасіў перадаць табе, што ён аддзякуе, калі толькі ты зробіш што-колечы, каб ён мог яго напалову зжаць...

— Ах, як ён мне надаеў, гэты Макар!—злосна вылаяўся Платон:—што, ён думае, пэўна, што я гандлюю савецкім правам! Бессаромны-ы! Лай-дак! Абабраў беднага чалавека і думае, што па галоўцы яго буду гладзіць...

— Казаў, ведаеш, Макар, бач,—асьведамляла Юзя сына, енчачы:—што ён ужо перагаворваў з Ладымерам Цэўкаю... Той, кажа, згадзіўся...

— Усе-э, яны гэткія... Цэўкі, Брушкі-ы... Назо-ала. Момантам карыстаюцца—ня болей! А яшчэ дым пускаюць у вочы аб сваёй рэволюцыйнасьці...

Платон падыйшоў да вакна, паглядзеў на двор, памаўчаўшы крыху, пасьля спакойлівым голасам зьвярнуўся да мацеры:

— Матка! Ведаеце што? Я мушу сёньня ехаць у павет. Няйначай. Пастаноўлена. Вы ўжо тут як-небудзь дайце знаць гэтым жанком, каб прышлі жаць, хоць пазаўтра. А я буду прасіць Тамаша—хай пасобіць зьвязсьці. Ён павінен гэта зрабіць... Ды, я думаю, бацька прыедзе хутка...

Выслухаўшы сына, Юзя разгорнілася, завойкала часьцей і пачала наракаць на Платона:

— Як табе, ня сорамна, сынок... пакідаць мяне адну ды хворую... Што ты сабе думаеш... Няўжо-б ты ня вытрываў на гэты раз?.. Няхай-бы без цябе абмінулі... А каб то ня было цябе, што-б тады рабілі? Эх, Платонка, і ня сорам табе рабіць так? Гэта-ж людзям на пасьмешышча будзе. Скажуць: мацеру адну пакінуў уміраць, а сам усё з гэтаю рэволюцыяй... Адумайся, апамятайся. .

Апошнія словы Юзі перайшлі ў балючы зацяжны енк. Платон, чуючы яю, ня меў мажлівасьці ўседзець на месцы й пачаў тупаць па хаце. Ён ня ведаў, чым суцешыць маці, чым даць ёй зразумець пераважнасьць спраў рэволюцыі над справамі сям'і. Побач з гэтым перад ім мігнула думка, ці не ўзваліць віну на ўвесь рэўком, які ня прыняў на ўвагу яго сямейнае становішча, але тут Платон баяўся зыйсьці з рэволюцыйнага разуменьня пытаньняў. Яму здавалася, што рэволюцыянэр не павінен мець жаднае спагады. Усё, што пабач рэволюцыі, то бязумоўна ніжэй яе па значнасьці. Так Платон думаў праз доўгі час свайго сьвядомага жыцьця. Дзеля яе ён ахвяраваў пачуцьцём каханьня, пакінуўшы без адказу просьбу каханай дзяўчыны не выяжджаць на падпольную працу пры немцах. Дзеля ідэі рэволюцыі ён забываў бацькоў, ня ведаючы, як і што яны жывуць, як іх становішча пад палякамі. З гэткім пачуцьцём Платон падаў сваё рашэньне ў рэўкоме ехаць яму першаму. Але цяпер, калі прышоў дамоў, каб сабрацца ў дарогу, і застаў хворую маці, адну-адзінюткую ў хаце; цяпер, калі ў муках болю старая застаецца бяз нікога, хто-б правёў яе можа на сьмерць,—цяпер Платон мусіў крануцца ў непарушнасьці сваіх думак. Набягалі навеі сумненьня, зьявілася хаценьне знайсьці тую ці іншую аслабнасьць у пазывах свайго парашэньня ехаць. «А мо й назаўтра застацца? Няўжо нельга прапусьціць і аднэй ночы? Часта-ж бывае, што пры зборах трацяцца цэлыя дні. А ўсё-ж становішча вытрымоўвае, як-бы чакае. Ніхто ня кажа, што так добра; гэта вада, гэта недастача. Але бяз гэтага ня мнае. Ну, дазволіць, што я загадзя адзнаў гэта і не павінен-бы быў папускаць сьвядома. Дык бываюць увагі на ўсё. Бываюць сур'ёзныя ўвагі. Вось гэткая ўвага стала й перада мною. Хто можа сказаць, што мною кіруюць буржуйныя забабоны? Хто асьмеліцца западозрыць мяне ў няшчырай адданасьці справе рэволюцыі?»

Усё гусьцей і гусьцей аплятали Платона гэткія думкі. Зацягвалі ў сябе, як дрыгва, зачынялі яснасьць сузнаньня.

Маці ня сьціхала балюча а ўсё зацяжней ды зацяжней войкаць і ўздыхаць; штосьці неразборна выказвала да яго а Платон ня чуў. Яго сьвідравала пытаньне: што сказаць мацеры, чым суцешыць яе і як апраўдаць свой ад'езд.

—Плато-он!—раптам пачуў ён у дваровым вакне.

То быў Лукаш Цяўё...

Платон раптам азірнуўся да вакна і, забыўшыся аба ўсім, што думаў, адказаў:

— Я! Іду вось!

І тут-жа адзеўся ды намерыўся йсьці. Але, зрабіўшы колькі крокаў да дзьвярэй, Платон вярнуўся, падышоў да мацеры, зазірнуў ёй у твар і, бачачы, што яна нібы суцешылася крыху, падумаў: «А вось, можа ды ёй лягчэй стане. Заскочу да Глыкваў і папрашу каго-кольвечы зайці пераначаваць». Падумаў так і вышаў з хаты. Газьніцу аставіў гарэць.

— Лукаш,—пазваў ён таварыша.

— Я тут!—азваўся Лукаш.

—Пачакай толькі крыху, я яшчэ...—папрасіў Платон і, стаўшы на прызьбе, прытуліўся вухам да вакна.

— Чаго ты прыслухоўваешся?—запытаў Платона Лукаш.

— Маці, брат, мая вельмі моцна занядужала; я, вось, слухаю, ці...

— Як! калі?—пацікавіўся Лукаш.

—Сёньнека... Я прышоў з рэўкому і застаў яе лежучы... А тут яшчэ бацькі няма ў доме і я ня ведаю...

— Дык чаму-ж ты так настайваў, каб ехаць? Як-жа ты кінеш мацеру адну? Ці-ж бы Тамаш, або Паўлусь, або Бэрка не паехалі?

Платон памаўчаў, стоячы на месцы: штосьці трымала яго ў двары, як прыкаваўшы да зямлі.

— Я й сам ня ведаю, што рабіць, — спусьціўшы колькі часу, сказаў Платон:—Не паехаць—здрадзіш Рэвалюцыі, нарушыш дысцыпліну і... бачыш, як думаюць другія. А паехаць — можаш мацеру пахаваць... Каб то ведаў, што ня так сьпешна—пераначаваў-бы і заўтра...

— А мо ёсьць каго папрасіць, каб пасядзелі каля мацеры?—спагадваў далей Лукаш Платону.

— Няма такіх... Вось хіба адны Глытвы; я ўжо думаў зайсьці да іх... Хадзем...

Яны вышлі з двара і павярнулі направа. На вуліцы было ціха. Толькі ў рэдкіх хатах сьвірэў агоньчык; большасьць мяшчан спалі, каб заўтра з раніцы йсьці на жніво. Дзесь у канцы вуліцы брашчала варта й сьвістаў сьвісьцёл патруля.

Платон з Лукашом моўчкі прайшлі невялічкі кусок, мінуўшы хат са тры.

— Чакай, Лукаш, я зайду да Глытваў: яшчэ ня сьпяць,—папрасіў Платон таварыша, супыніўшыся ля чацьвертае хаты.

Лукаш прысеў на прызьбе, а Платон пашоў у двор.

— Я скора,—падаў з двара Платон і стукнуў дзьвярыма.

Лукаш падняўся з прызьбы і адыйшоў на вуліцу.

«Цікавы, усё-ж, гэты Платон», разважаў ён, уваходзячы ў становішча таварыша:—«Гэткае заблытанае становішча ў

хаце, а рвецца, першым пражэцца адгукнуцца на прызыў. Вось дык натура! Пашукаць! Не раўня гэтым нашым...Каб гэткіх ды больш! Го!.. Тады-б можна было сьвет перавярнуць. Столькі пэнту, адвагі! Мне—дык проста пазавідваць...

Лукаш прайшоў некалькі разоў каля хаты Глытваў і зноў намерыўся прысесьці на прызьбе, як раптам пачуў:

— Лукаш?

— Я!—адгукнуўся Лукаш, рушыўшы йсьці.

— Дык едам, брат. Прузына Глытвіха згадзілася даглядзець мацеру,—заспакоеным тонам выказаў Платон:—Добрыя, ведаеш, людзі, гэтыя Глытвы. Ніякія сваякі—а заўсёды адгукнуцца, калі трэба.

Яны сьпешным шагам пайшлі ўздоўж вуліцы.

Якраз каля рэўкому Платон з Лукашом спаткалі Яўхіма. У цемнаце ночы ён пазнаў іх і абазваў:

— Таварыш Платон! Таварыш Лукаш! гэта вы?

— Мы,—адказаў Лукаш:—а ў чым справа?

— Я сьпяшу па вас. Ужо прачакаліся. З паўгадзіны, як коні гатовы...

— Прачакаліся—а! Пасьпеюць,—адказаў Платон.

Усе ў траіх пайшлі ў рэўком. Слабое сьвятло ў вокнах быўшай мяшчанскай управы, а цяпер рэволюцыйнага кутку мястэчка, клала сьвятляны нарыс вакна на паламаныя платы гародчыку, захопліваючы краем нізшае шыбы зад драбін. Раз-по-разу мігалася між вакна чалавечая цень.

— Падводчык ужо нарыхтаваўся якраз, — выказаўся Яўхім, калі яны падышлі да рэўкому,— і ў канцылярыю ня хоча зайсьці; неадступна стаіць ля каня ды вас чакае.

Яны прайшлі між нявысокага росту ў зімовай шапцы й паўшубку, з пугаю ў руках, чалавека, які штосьці парадкаваў на возе.

— Ці ня вы паедзеце са мною?—запытаў падводчык, калі яны прайшлі ў двор і сталі паднімацца на ганак.

— Зараз, зараз,—адазваўся Яўхім і прачыніў у рэўком дзьверы.

У рэўкоме Платон з Лукашом засталі толькі прыежджага таварыша з Тамашом. Прыежджы сядзеў пры стале на зэдліку, а Тамаш патупваў па хаце. Чутно было знадворку, як яны вялі аб нечым гарачую гутарку між сабою, але перарвалі яе ў тую хвілю, калі прачыніліся дзьверы.

— Ну, вось і гатова. Зараз можна ехаць,—сустрэў увайшоўшых Платона, Лукаша, Яўхіма Тамаш:—а мы ўжо тут прачакаліся; думалі, што вы ня прыдзеце,—дадаў ён.

— Дарэмна думалі,—адказаў Платон.

— Ды не бяз рацыі,—уставіў Лукаш:—Платону зусім нельга ехаць?

— Чаму?—зацікавіўся прыежджы таварыш.

— А таму, што яго маці зусім хворая. На добры лад яго трэ' было-бы замяніць другім. Я ня ведаю, чаму гэта ён так упарты...

— Выбачай, Лукаш,—пераняў Лукаша Платон:—раз ужо ўсё вырашана—значыць годзе. Рэволюцыя не павінна цярпець ад таго, што ў мяне баліць што, або ў сям'і якое няшчасьце; мы мусім аддавацца ёй да апошняй мажлівасьці.

— Я ведаю, толькі... у нас можна абысьціся. Каб то які раптоўны выпадак, калі ўсім станавіцца пад ружжо, тады, я разумею, не павінна быць ніякіх адгаворак... А ў нас справа йдзе ўсяго аб двух таварышох, каторых якраз ёсьць мажлівасьць выбраць паміж цябе...

— Не, годзе, Лукаш,—настойчыва прамовіў Платон:—ты не разумееш становішча. Тут патрэбны людзі, не як людзі, а найболей сталыя, цьвёрдыя й шчырыя рэволюцыянэры. Хто ня можа растацца з самотным жыцьцём, з яго патрэбамі, той не патрэбен на адказным месцы. Кожны момант ён можа здрадзіць і ад гэтага пацерпіць агульная справа. Вось што, таварышы!—абярнуўся Платон да ўсіх:—я толькі аднаго прашу: няхай рэўком дапаможа маёй мацеры, калі з ёю будзе кепска. Хоць пакуль бацька вернецца з абозу.

— Тамаш, гэта я даручаю табе!—абярнуўся прыежджы таварыш да Тамаша:—рэўком павінен узяць апеку над мацераю таварыша Гічкі. Таксама павінны пасобіць і бацьком таварыша Лукаша. На тваю, Тамаш, адпаведнасьць... А цяпер—пойдам, хлопцы. Ужо позна, а нам трэба раніцаю быць у павеце.

Усе разам рушылі ў дзьверы.

## VII.

У павеце Платон дастаў назначэньне ў Горадню. Некалькі разоў камітэт партыі абгаварваў яго кандыдатуру, та мерачыся даць працу ў валасным размаху, та ў павятовым. Ужо перш пастанавіў быў паслаць Платона ў Слонім, разам з Лукашом, а пасьля гэта перарашыў і спыніўся на Горадні. Недастача работнікаў з аднаго боку і вялікая патрэба ў іх—з другога заставілі камітэт пашкадаваць Платона для павету. Ды к гэтаму яшчэ прывёзшы яго таварыш даў пахвальны водзыў аб Платоне, як разумным чалавеку і, галоўнае, як шчырым рэволюцыянэру, падданым камунізму таварышу. Атры-

маўшы гэта назначэньне на другі дзень па прыезьдзе ў павет, Платон быў вельмі палешчан гэтым высокім давер'ем да сябе з боку вышэйшае ўстановы партыі. Думкі й клопат аб хворай мацеры, з якімі ён выяжджаў і аб чым нясупынна паведваў ехаўшым з ім таварышом, разрэдзіліся, аслабелі ў сваёй натужнасьці і пачалі згладжвацца ў гострасьці. Платону сталі малявацца розныя пляны яго наступнай работы, заraіліся вялікія казачныя самазаданьні. Горадня, з губэрскім размахам работы, новая, амаль непачатая глеба для рэволюцыйнага будаўніцтва, самы характар яго ў гарадзкіх абставінах узьнімалі Платона да натхненьня. Ужо ня было ніякага сумненьня ў сваіх сілах і здольнасьці. Шырокае поле абяцала выявіцца ўсёй яго шчырасьці, усяму пэнту й гарачнасьці, для якіх малы быў разьмер местачковае працы. Платон з усёю палкасьцю хапіўся за сваё назначэньне, цешыўся і разам, баяўся, каб якія-кольвечы староньнія выпадкі не паперашкодзілі яму ажыцьцёвіць яго.

З гэтае прычыны Платон на другі дзень пасьля пастановы камітэту ня дбаў ні аб чым, толькі-б хутчэй выбраць усе належныя паперы і рушыцца ў дарогу. Ня сьнедаўшы, пасьля маласоннай, патрачанай на разважаньне й плянаваньне прадстаячае працы, але памятнай для яго, ночы, Платон пабег у камітэт за мандатам. Каля дзьвюх гадзін прамарудзіў там, пакуль сабраў патрэбныя подпісы. Пасьля, з мандатам, пайшоў за харчамі й грашамі на дарогу. Дзеля гэтага таксама змарнаваў каля трох гадзін. Утаміўся, аслаб, пазлаваў на многіх і з многімі паагрызаўся.

Пасьля свайго назначэньня, Платон яшчэ шчырэй пачаў глядзець на абавязкі рэволюцыянэра і каразьлівей адносіцца да іх. Калі раніцай ён і мог дапусьціць некаторую нясьпешнасьць, то цяпер яму кожная хвіліна, кожны міг важыліся на кошт золата. Чакаючы подпісу мандату ў канцыляры камітэту ці просячы выдачы харчоў, гневаўся на кожнага таварыша, хто не паягонаму варушыўся за работаю. Дынамічнасьць, рухавасьць, як'я даходзілі ў яго да нэрвовасьці, Платон хацеў-бы перадаць кожнаму, з кім даводзілася яму мець справу. Ён разьлічваў ноччу, што яму прыдзецца патраціць на выбарку дакумантаў і ўсяго іншага для камандзіроўкі, ну, гадзін дзьве—ня болей. А тут аказалася страта цэлага дню! Гэта вельмі абурыла яго. Платон не хацеў супакоіцца і казаў сам сабе: „Ну, я ня так наладжу работу ў сябе! Яна пойдзе ў маім ведамстве, як машына. Дзе што намерыцца мінтрэжыць яе ход—агнём тое выпеку. Тут мусіць быць рэволюцыйная рашучасьць і залезная настойнасьць“...

Гэту сваю самаўцеху Платон пераліў у настойную рашучасьць, калі выведаў на станцыі чыгункі, што прапусьціў цягнік, з якім меўся ехаць. Ён адышоў з эшалонам чырвонаармейцаў якраз у той час, калі Платон тырчаў за харчамі. «Навошта яны былі мне!» наракнуў Платон сам сябе: «Гэта-ж—ах! шкурніцтвам пахне! Нельга дараваць мне гэтага... Сказаць сорамна! Там кожная хвіліна дзесяткі жыцьцяў каштуе, а я тут за кавалак хлеба й фунт цукру дні трачу. Навошта ўсё гэта? Нашто тая валакіта? Два дні чакаць! Два дні—гэта-ж вечнасьць!.. Ці-ж магчыму я іх так карысна ўжыць, як то-б я зрабіў у Горадні?»

Ад ахапіўшай яго зласьлівасьці Платон ня мог крануцца з месца і з гадзіну стаяў на станцыі. Глядзеў то ў адзін, то ў другі канец чыгункі, кідаў узрокі за лес, за горы, зьмяраў запасныя пуці—усё шукаючы цягніка ці хоць-бы дыму, які-б сьведчыў, што гэты цягнік дзе-кольвечы гатуецца да адходу. Некалькі разоў дапаўняўся ў камэнданта станцыі, ці праўда, што праз дзень толькі выйдзе чародны поезд. Зьмяраў у думках адлегласьць да Горадні, думаючы пра коні... У гэткім неспакойлівым, парушаючым настроі Платон адышоў ад усяго на сьвеце: як-бы ўвесь сьвет жыў для яго ў Горадні—ня тэй, бач, што была на соткі вёрст ад яго, а ў тэй, дзе будзе ён наладжваць сваю рэволюцыйную працу. Каб у гэты момант хто асьмеліўся сказаць Платону, што адна асоба наогул мала пасобіць у справе супольнай творчасьці, чымсьці ёсьць рэволюцыя, то ён знарок, насупроціў філёзофіі марксызму, крычаў-бы настойна, што яго асоба, як шчырага рэволюцыянэра, ня роўна другім. Сказаў-бы і падмацаваў гэта многімі прыкладамі з яго багатага жыцьця.

К вечару, спусьціўшы гадзіны тры пасьля звароту са станцыі, Платон патрошку супакоіўся. Усё роўна яго абурэньне трацілася задарма, як гаснуць іскры ў паветры. Колькі ня злуй, колькі ня нэрвуй—цягнік пойдзе толькі на другі дзень. Як-жа быць з гэтым часам?—выявіў сабе Платон пасьпелую ўнутры, падбіваўшую яго на абурэньне думку. І толькі крануўся таго, як яму будзе правясьці вольны да ад'езду час, як раптам, быццам хтось жывасілам яму паднёс гэта, Платон ахапіўся ўспамінамі аб хворай мацеры ў доме. Ён здрыгануўся ад гэтае балючае раптоўнасьці, хапіўся рукамі за голаў і чуць ня ўскрыкнуў - ні то ад сполаху за лёс мацеры, ні то ад радасьці, што ў яго асталося столькі вольнага часу, каб можна было й наведаць яе.

Як і што сталася з мацераю за гэтыя два дні? Ці выздаравела яна, ці яшчэ ляжыць хворая? Калі ляжыць, то як там

са жнівом? Пэўна жыта перасьпела, паклалася ды травіцца гавядаю? Каб-жа бацька вярнуўся, то яшчэ-б паўбяды, а то можа й яго няма. Што-ж тады яна будзе рабіць? Ні аставацца у доме, ні ехаць?

Гэтыя трывожныя пытаньні вострымі мячамі праразалі Платонаву душу, як расплаўленае залеза, капелькамі падалі ў яго сэрца. Хвіля ад хвілі ён трапятаўся ўсёй істотаю ад нейкага балючага ўздрыгу, натужваў думкі, кідаючы іх праз дваццаці пяці вярстовую адлегласьць у сваё мястэчка і ловячы выбражэньнем выгляд вобразу свае мацеры. А поруч з гэтым настойная, не ўкантактоўная прага, як найхутчэй апынуцца каля яе, гнала яго ў дарогу. Платону ня йшло ў голаў ні аб ядзе, ні аб некаторых яшчэ нявырашаных справах, зьвязаных з яго назначэньнем. Пасьпяшаючы, як перад трывогаю якою, ён аднёс паёк, атрыманы на дарогу, да Лукаша і, ня хочучы пытацца падводы, пехам пусьціўся да хаты.

* * *

Платон ня йшоў, а бег усю дарогу. Не аглядаўся назад, ня лічыў слупоў ад тэлеграфу. Уваходзіў у ляскі й пералескі, не прымячаў ні ценю, ні дрэўцаў. Спатыкаў фурманкі ці пешаходаў, не заўважваў, бадай, іх. Вёскі, якія стаялі пры гасьцінцы, не разьбіраліся ім. Праз увесь час, пачынаючы з павету, Платон бачыў перад сабою жоўты пясочак ці засохшую гліну гасьцінцу. Апусьціўшы вочы, ён выбіраў гладчэйшыя мясьціны і, як заведзены калаўротак, мянціў нагамі. Тулавам падаваўся ўперад і матаў праваю рукою, як-бы разганяючы паветра, каб лягчэй было йсьці, каб скараціць яго. Часта дыхаў, але ўсё яшчэ недаволіўся скорасьцю хады. Платон глядзеў на час, і яму кожная хвіліна здавалася днём, а то й больш.

Прайшоўшы палову дарогі, ён страціў каля дзьвюх гадзін, а яму здавалася, што дарога адняла ў яго больш за паўдня. А чым бліжэй падыходзіў да свайго мястэчка, тым час здаваўся даўжэйшым, і руплівасьць узмацоўвалася. Пачынала паколваць у баку і тысячамі іголак парола ў пяткі ног; па скронах твару беглі рагі поту, убіраючы ў сябе пыл і робячы брудныя пасачкі на целе. Але Платон не зважаў, ды ня мог ён зважаць, бо ўсе думкі прыбрала да сябе хада, і ім ня было мажлівасьці адвярнуцца на другое. Уперадзе яго, як маглі захапіць апушчаныя пад простым кутом вочы, стаяў вобраз мацеры, цёмны, нявыразны, які бег ад яго, уцякаў і, уцякаючы, цягнуў яго за сабаю.

Толькі на краі свайго мястэчка, пры карчме Міселя, а шэрай гадзіне Платон адняў ад зямлі вочы і агледзіўся, дзе й што ён. Тое, што нарэшце ён быў дома, зусім недалечка ад хаты, усё-ж не завесяліла яго й ня спыніла ў разгоне. Платон сьпяшыў роўным тэмпам, дзівячы стрэчных мяшчан.

У пяць хвілін ён перайшоў Прадоўжную вуліцу і апынуўся каля хаты. Павярнуў у двор, акінуў яго поглядам, шукаючы адзнакаў бацькавага прыезду, і, не знайшоўшы іх, зразу-ж спусьціў гэта з думак і кінуўся ў дзьверы.

Ужо ў сенцах Платон пачуў ажыўленую гутарку ў хаце. Яго сэрца забілася мацней і балючэй; ахапіў жар; зараіліся страшныя мысьлі. Ці не якое няшчасьце з мацерай?—мігам устала перад ім вострае жудаснае запытаньне. Ён ня чуў, як адчыніў дзьверы ў хату і пераступіў парог.

— Вось і Платон! Якраз у пору!—сустрэў яго голас Кандрата Плота:—А маці ўжо думала, што ты й не наведаеш.

Некалькі жаночых галасоў падмацавалі яго словы.

— Чаму, што?—запытаў Платон, шукаючы вачыма маці.

Юзя, якая сядзела на палку ў запечку, раптам загаласіла наўзрыд.

— Мама, мама, чаго вы? У чым рэч? Вам цяжка? Вы... Даруйце, што не астаўся, я мусіў ехаць, я павінен быў ехаць...—кінуўся яе суцяшаць Платон.

— Платонка-а мой, сынок мой. Мне нічога, я буду жыва... Але... На-ашага бацькі-ы няма ўжо-о. Памёр пад Ваўкавыскам ад тыфусу... Вось Кандрат сам бачыў... Што-ж я цяпер буду адна рабіць?.. Хоць ты ня едзь, хоць ты... Нашто табе больш за ўсіх...

Юзя не магла выгаварыць і апусьцілася на пол, стукнуўшыся моцна локцем аб печ.

Платон ня мог падтрымаць яе. Цяжкая жаласьць раптам спаралізавала ўсе яго сілы. Ён апусьціў моўчкі галаў і спагадліва праказаў:

— Вот табе й раз!

**Цішка Гартны.**

# Беларусь.

I.

Цябе вякі, як мумію, спавілі
Папоўскай цьмой і панскім бізуном.
Сярод жывых ляжала ты ў магіле
Паміж славян— між каласоў залом.

А над табой жрацы, бы ў ночы совы,
Сьпявалі кант і жудасна раўлі.
Выцьцё званіц глушыла шум дубровы,
Задушак шэпт палохаў шыр ральлі.

Касьпёл, царква жар-сонца затулялі,
Туманіў мозг вядзьмарскі забабон.
А зьдзек-груган з высотаў, зьнізу, з даляў
Ірваў твой сьпеў—«мужыцкі, хамскі» стогн.

Страшным судом хрыстовым запалоханы,
Нявольнік-«хлоп» для пана ліў кроў-пот.
Ў нядзельны час бядак крахтаў і вохаў—
Было ў царкве з грахамі шмат клапот.

Як п'явак жмут, сасуць твой карк бажніцы,
А гандляроў—як плойма дымных хмар.
Радзіны, сьмерць, хаўтуры ці жаніцца—
Два макляры пры гэтым: поп, карчмар.

Застыгла ты, як той вулкан, знадворку,
Ўся пад куцьцёй «задушачак дзядоў».
Была ты ўся курганам-лысагоркай,
Музэем цьмы пазгубленых гадоў.

II.

А пад старой пад шматвяковай сьвіткай
Кіпела кроў бунтарская ў грудзёх,
Хоць гнулі карк, цягнулі жылы ў ніткі
Зьдзіракі тры: і пан, і цар, і бог.

Прыгоньнік-раб загартаваўся ў полі;
Ўся Беларусь абрасла мазалём.
А пушча-лес русаліўся аб долі,
Трывожыў сны падземны буралом.

Дняпро, Вільля, Дзьвіна, лайбовы Нёман
Шапталі сказ, раздольны сьпеў вясны;
Паміж лясоў, лугоў бурлілі гоман,
Аб вольных днёх наш лірнік бачыў сны.

Ён бачыў сны: герой радзіўся з зораў,
Пайшоў у бой за гарапашны люд;
Там булавой сталёвай на прасторы
Гадзюку біў, чыніў за цудам цуд.

Як гарбузы, качаліся галовы
Зьмяёў, страшных кашчэяў па зямлі.
А чарадзей ледзь шапярнуў два словы—
Галовы зноў да целаў прырасьлі.

І вырас мост на дзесяць вёрст мядзяны,
На ім дубы—разбойнікі стаяць,
Паднялі крык, страхоцьце на палянах,
Асілка рве, калечыць злая раць.

З аблоку ўніз мільгнула палатнішча—
То казак пар—чароўны самалёт.
На ім пястун народны на ігрышча
Да сонца ўвысь узнёсіў горны ўзьлёт.

Імчыць стралой, а хтосьці ў лузе грае;
Жаўронка сьпеў ці трэлі хтось пляце;
То пастушок дзьме ў дудку каля гаю,
Канцэрт дае авечай грамадзе.

Падобен ён Афінскаму Амуру,
Што выдлубаў на мармуры разьбяр;
А сьпеў яго—і смутны і пануры:
Якраз бы наш нядаўных дзён пясьняр.

Як наш пясьняр з эпохі адраджэньня,
Якога кат цанзурны цікаваў.
Між апцугоў было яго імкненьне—
Ён горкі лёс сьлязьліва апяваў.

Ня мог тады поэт сьмяяцца ў песьнях,
Бо спавядаў душу яго жандар.
А пры цары ў абшарах было цесна,
Няволі плач труціў пясьнярскі дар.

З нямой тугі, з глухой недагаворкі
Гусьлярскіх струн будзіўся наш ратай.
У ночны час поэт глядзеў на зорку,
Вучыў любіць ён вукрадкам свой край.

Вяла ігру благая доля з намі,
Як варажбіт калодай старых карт.
Аднак народ пяўпа свайго уцяміў:
«Тутэйшы» люд здабыў патрэбны гарт.

III.

Праз грукат-хрып сусьветнай дзікай бойні,
Праз груды цел, праз алавяны стогн,
Праз пустыры разрытых родных гоняў,
Праз мора сьлёз, праз царскі, трухлы трон,

Праз дым пажар магнацкіх гнёзд прынадных,
Праз крык, праз гнеў і праз бясьсільля злосьць
Паноў, мяшчан пры Керашчыне здраднай
Да нас Акцябр прымчаў—чаканы госьць!

Бы Сьветагор славутны з казкі сівай,
Ён родны крайператварыў у дзіў;
Свабоды гымн запеў на рабскай ніве,
Ён прышлы час раптоўна спарадзіў.

Як гэній зор, Акцябр зірнуў у сенцы—
Пакіраваў свой бег усьцяж назад.
Эўропа—стук панамі у вакенцы:
Ты адчыні ім браму, хоць ня рад.

IV

У першы раз—Вільгэльм тут еў сьняданьне,
У раз другі—Пілсудзкі зводзіў звод.
Буржуй быў рад: «Пануй-жа тут, мой пане!»—
І піў да дна свой келіх наш народ.

Сярмяжны гнеў як бухнуў буйнай бурай—
Пачалі мсьціць дзяцюк і стары дзед.
Магнат дрыжыць, трасецца яго скура:
Шмат вілаў, кос забрызгалі ў багнэт.

Паўстанчы край і вечарам і ўранку
Глядзеў на сьмерць, на груды цел, на кроў,
Зрываў з паноў арлістую «пазнанку»
І спраўдзіў сказ—паданьне гусьляроў.

Таіў наш бор сьпяваньне партызанаў,
Таіў кляцьбу—прысягу пры агнях.
Бор знае моц савецкіх атаманаў,
У зброі ўсе ды з лірай у руках.

V.

І зноў Акцябр зазьяў, сакол магутны:
Зазвалі к нам чырвоныя з Масквы.
Яны былі галодны, неабуты,
Яны былі адважны, нібы львы.

Акцябр у нас наводзіць лад у хаце:
Працоўных друг і рупны гаспадар.
Пануе ўсюль асьвета, творчасьць, праца,
Макцьветны сьцяг шатром абняў абшар.

Іржу вякоў скрыбе Акцябр чырвоны,
Зрывае з воч халопскую лускy.
Штыхом, мячом запісаны законы,
З якіх карысьць на вёсцы бедаку.

Замест каляд, Акцябр адзначыў эру:
Сусьветны Май - наш пралятарскі фэст,
Замест «сьвятой» часоў паганскіх веры—
Здабылі мы Камуны маніфэст.

Брыдзе, імчыць ад вёскі і да вёскі,
Брыдзе ў палёх, далінах, пустырох;
Грымяць усюль адгукі-адгалоскі,
Шуміць-гудзіць па местах-гарадох.

Нябёсны «пуд» ён рупна камсамоліць,
Трасе царквой, здымае «божы» звон.
А словы—гром, а словы—гучны молат.
Юнак—прарок бязбожніцтва—то ён.

На шматы рве эвангельлі, караны,
Дрыжаць жрацы і ўюцца, як ўюны.
Адкрыты ўсе духоўнікаў абманы.
Поп, рабін, ксёндз—сяйбіты цьмы яны.

Знаходзіць пуд працоўны у навуцы,
У радыё—ўсе фокусы багоў.
І на'т дзяды у храм навукі рвуцца,
І пастухі—сыны лясоў, лугоў.

Наш край цяпер чытае рупна кнігу,
Варожаць слух казаньні лектароў;
Гарбар, шавец і гарапашнік з нівы,
Жанчыны ўсе бяруцца за пяро.

Царкву, касьцёл, мэчэт і сынагогу,
Дзе фальш лунаў у храмах блуду, цьмы,
Народ бярэ назад ў ідола-бога
Пад школу, клюб «нябёсныя дамы!»

VI.

А Беларусь бязбожніцаю стала,
Цьвіце, расьце, партыйкай маладой
Глядзіць у даль—ў Эўропу капітала,
Трасе сярпом і молатам з гразьбой.

На ёй блішчаць і літары і кропкі
Ў агні сьцягоў савецкіх установ.
Рабочы там і селянін ў атопках
Вартуюць край ад дзікіх грызуноў.

О, шчасьця шмат над быўшай лысагоркай
Тут быўшы «хлоп» знайшоў сабе цяпер.
Варожыць цьвет пяцікантовай зоркі,
Абліт красой узор С. С. С. Р.

О, колькі ў тых у літарах значэньня!
За іх сыноў шмат лепшых палягло.
Тут не адно людзкое пакаленьне
Сваіх байцоў за волю аддало.

Няхай наш сьцяг спрабуе зьдзёрці з мейсца
Ганебны пан, сусьветны капітал:
Тады мы ўсе—чырвоныя армейцы,
Тады мы ўсе—чырвоны, страшны шквал.

VII.

А Беларусь зрабілась будаўніцай,
Куе свой лёс, будуе новы быт.
Усюль кіпіць магутная крыніца,
Ніводны кут у краі не забыт.

Куе ў адно і гарады і сёлы,
Ў адзін саюз, у творчы, моцны чын.
Працоўны люд сьпявае гімн вясёлы,
І мазалю тут лішне супачын.

Наш селянін у пух пратворыць глебу
Імпэтам сіл спружынавых канёў;
Акрыліць край і заваюе неба
Шматкрыльны ўзьлёт сталёвых жураўлёў.

Сьмялей, Заход! Ня плачце, нашы землі
Пад каршуном ачумленых паноў!
У хуткі час мы пад чырвоным вэльмам
Разлучны край у цэлы влучым зноў.

**Ясакар.**

15-V—23 г.
Менск.

# „ЧЫРВОНЫЯ КВЕТКІ БЕЛАРУСІ“

## Драма ў 4-х дзеях.

(*З жыцьця ў часы польскай окупацыі*)

### ПРАДМОВА.

Добра помніць беларус часы польскай окупацыі. Гвалты і зьдзекі панавалі ў кожным куточку Беларусі. Рэдка хто ня прыняў вадохрышча бізуном ці шомпалам. І вось ускалыхнулася моладзь Беларусі. Як веснавы першы гром, пракаціўся кліч: «Помсга катам!» У шмат мясцох закладаліся *організацыі*. Адна з такіх істнавала і ў Ігуменскім павеце. Асяродкам яе было *м. Дукоры*. Прышлося жыць з ёю пляча ў пляча. Але вясной у 1920 годзе палякі выкрылі. Наехала карная экспэдыцыя, і гвалты перайшлі меру. Апошнім страшэнным нумарам паноў *быў растрэл адзінаццацёх чалавек моладзі.* Усё гэта адбылося на маіх вачох, што і дало магчымасьць напісаць п'есу «Чырвоныя кветкі Беларусі.»

*Аўтор.*

### АСОБЫ:

АНДРЭЙ—малады вясковы хлопец, быў у матросах.
НАДЗЕЯ—надта прыгожая маладая дзяўчына.
АГЕЙ—бацька Андрэя, гадоў 60.
СЫМОН—бацька Надзеі, гадоў 50.
ПАНІЧ—памешчык-паляк з суседняга двара, гадоў 30.
ГАННА, НАСТА, АЎДУЛЯ і інш. — таварышкі Надзеі.
МІРОН, ПАНАС і інш. — таварышы Андрэя.
ТОДАР, ПЯТРОК, АСТАП і інш. — вясковыя мужчыны.
МІХАСЬ, САМУСЬ — дваровыя хлопцы
МІХАСЬ РУДОВІЧ—студэнт Марына-Горскага Тэхн., прыгожы.
ЗОСЯ— сястра Рудовіча, маладая дзяўчына.
ХЛОПЧЫК.
ПАРУЧНІК.
Салдаты-палякі, чырвонаармейцы, народ.

## ДЗЕЯ I.

Лес. Сьветлы, цёплы, *веснавы* дзень. Пяюць птушкі, кукуе зязюля. Як адчыняецца заслона, чутна песьня, якую пяюць, зьбіраючы *грыбы*, дзяўчаты.

„А ў лесе, лесе
Ды на верасе...
Вясна-красна на ўвесь сьвет.
Там хлопчычак ды каня пасе.
Вясна-красна...
Яму дзевачка ды абед нясе.
Вясна-красна...
Сядам, хлопчычак, паабедаем.
Вясна-красна...
Паабедаўшы, скажу табе дзіва.
Вясна-красна...

*Песьня спыняецца; чутна, як крычыць адна з дзяўчат:* „Вой, заяц!“ *Зараз-жа чуваць, як заяхкаў сабака. З двух бакоў выбягаюць дзьве дзяўчыны.*

### ЗЬЯВА I.

Надзея. Аўдулька, любка, як-жа я спужалася! Ледзьледзь не наступіла на зайца. Як падскочыць ён—ды бегчы! Зараз-жа ззаду ў мяне сабака: „Гаў, гаў! Ях, ях!“ І чый гэта сабака? Вялізны, кудлаты. У нашай вёсцы такога няма. Няўжо гэта з двара? Можа, паніч выйшаў на паляваньне?

Аўдуля. Ай! Во дабрычок сядзіць. (*Кідаецца к кусту ялоўца*). Які-ж харошанькі!

Надзея. Ну, а я-ж зусім не набрала грыбоў. Табе — вось дык шанцуе. З-пад носу ў мяне хапаеш.

Аўдуля. Каму што: мне шанцуюць дабракі, а табе дзяцюкі. Адзін Андрэй Агеяў чаго стоіць! А тут яшчэ і паніч з двара. Шчасьлівая ты, Надзейка.

Надзея. Кінь, Аўдулька, мне завідваць. Праўда, Андрэя я люблю. Не такі ён нейкі, як другія хлопцы. Калі скажа слова, дык яно адразу ў сэрца і лезе. А ў вачох — столькі чароўнасьці і каханьня! Іншы раз задумаецца: стаіць, як дуб малады, ні адна галінка не скранецца. Глядзіш – і бачыш, што на твары ў яго вялікая, вялікая думка. Не, Аўдулька, кажы, што хочаш, а сакрыта нешта ў яго грудзёх... А гэты... паніч... Ня ведаю, чаго ён да мяне чэпіцца. Колькі разоў гаварыла, каб ня лез, а ён... як той смоўж... Андрэй ужо ведае аб гэтым. Чуе сэрца, што быць бядзе. (*Чуць шорах*).

А ў д у л я. Ой, нехта йдзе! (*Углядаюцца абедзьве*).

Н а д з е я. Ён! Бяжым! (*Зараз-жа выскаквае паніч са стрэльбай*).

З Ь Я В А 2.

П а н і ч. Гэ, не ўцечаце! Ды чаго вы баіцеся? Хіба я воўк! (*Падыходзіць да Надзеі і дае ёй кветкі*). Вось, Надзейка, як хораша пахнуць. Дзеля цябе ў самую нетру лазіў. (*Аўдуля адыходзіць*).

Н а д з е я. Ніхто не прасіў вас, каб лазілі, і ня трэба мне вашы кветкі: захачу—сама нарву.

П а н і ч. І чаго ты заўсёды гэткая злосная? Няўжо і з Андрэем ты такая?

Н а д з е я. Панічу няма ніякага дзела, якая я з Андрэем. А вас апошні раз прашу—не чапайце мяне, ўсё-роўна нічога з гэтага ня будзе.

П а н і ч. Эх, Надзейка! Сама сваё шчасьце ад сябе адпіхаеш. Ты падумай, чым-бы ты стала? Паглядзі, якая ты цяпер: і босая і ўчарнелая. А тады ты цьвіла-б, як рожа.

Н а д з е я. Не клапацецеся аба мне. Цяпер я хоць і босая, але здаровая, хоць і ўчарнелая, але вясёлая. Ды ня ўмею я хадзіць па вашых коўзкіх падлогах. Лепей хай мяне сонца ў полі пячэ, чымся халадкі церці ў вашых пакоях.

П а н і ч. Дурная, дык дурное й пляце.

Н а д з е я. Дык навошта-ж вам з дурнымі чапацца? Шукайце сабе жа такую, як і самі.

П а н і ч. Ну, ня сердзься. Яшчэ раз кажу табе: паслухаеш—будзеш паняй хадзіць па пакоях. Вось ты цяпер прыйшла ў грыбы. Ці ты-ж сьмела ходзіш? Усё аглядаешся, каб лясьнік ня ўбачыў. Тады-ж, як добрая гаспадыня, хадзіла-б тут з парасонам.

Н а д з е я. Не хачу я вашых багатых пакояў. Жыць у іх боязна. Сколькі там загублена людзей вашымі дзядамі і прадзедамі! Упоўнач яны павінны кішэць замучанымі мужчынамі і згвалтованымі кабетамі. Ня жыцьцё, а пекла ваш палац!

П а н і ч. Ха-ха-ха! Дык вось якое страхацьцё ты гаворыш. А я вось жыву і нічога гэтага ня чую і ня бачу. Начаўплі табе з малых гадоў усяго гэтага. Вось прыдзі заўтра, сама пабачыш, што ўсё гэта—выдумкі. (*Хоча абняць Надзею, тая б'е яго па руцэ і адбягае*).

Н а д з е я. Прэч панскія свае рукі! Думаеце, што ў лесе ды са стрэльбаю, дык усё й зрабіць можаце? Памыліліся.

Паніч (*злосна*). А, дык ты вось які! Мяне біць! Пачакай-жа! Вон з майго лесу! Цяпер-жа знай: калі хто прыдзе сюды ў грыбы—атрымае добры гасьцінец. Для гэтага ў мяне ёсьць добрыя майстры.

Надзея. Ведаю, ведаю, што вашы хваленыя пакоі кішаць цяпер жандарамі, якія, як ня трэба ляпей, пісяжаць шкуру мужыка. Хваліцца, здаецца, няма чым. (*Пайшла*).

Паніч (*адзін*). Вось чортава насеньне! Нічым не дагодзіш. Усе ўжо спосабы перапробаваў. Засталося толькі сілаю ўзяць. Але як і дзе? Гэты праклятый Андрэй мяшае. І як бы да яго дабрацца? Вось нацешыў-бы рукі. Аж цяпер сьвярбяць. (*Чуваць—пяюць дзяўчаты*):

Хвалілася каліна, ў густым лесе стоячы:
«Ніхто мяне да ня высеча
Без мяча, бяз тысячы,
Бяз вострае шабелькі».
Абазваўся марозе: «Не хваліся, каліна,
Я цябе так высеку: без мяча, бяз тысячы,
Бяз вострае шабелькі».
Хвалілася Надзейка ў свайго роднага таткі:
«Ніхто мяне да ня вывезе бяз мёду саладзенькага,
Бяз віна зеляненькага».
Абазваўся Андрэйка: „Не хваліся, Надзейка,
Я цябе так вывезу: бяз мёду саладзенькага,
Бяз віна зеляненькага».

(*Паніч стаіць і слухае. Дзяўчаты выходзяць, бачаць паніча, кідаюць пець і, спуджаныя, глядзяць на яго*).

## ЗЬЯВА 3.

Паніч. А вам хто тут казаў хадзіць? На, цю, на! (*Чуваць сабака брэша*). На, Марс, на! Кусі іх! (*Дзяўчаты з крыкам разьбягаюцца; некаторыя, нават, кідаюць кошыкі. Чуваць, як да ёкі недзе стукае сякера аб дрэва. Паніч пільна прыслухоўваецца, потым хутка йдзе ў той бок, адкуль чуцён стук сякеры. Зараз-жа выбягаюць дзьве дзяўчыны спуджаныя*).

## ЗЬЯВА 4.

Ганна. Ой, любачка, дай аддыхацца.

Наста. Хай ты не дажджы! Ну, і спужала-ж ты мяне.

Ганна. У мяне ў самой аж зелена ў ваччу стала. Ты паслухай: толькі сагнулася грыб браць, ажно чую—нехта мяне за сярэдзіну бярэ. Падымаю галаву, гляджу—і ледзь не

абамлела: пан Тадэуш, гэты зьвер, з нагаем, за поясам, чырвоны, як бурак, зубы выскаліў ды рагоча, як жарабец. Ня памятаю, калі я ўцякла, кошык кінула і хусту згубіла.

Наста. Ты так немя закрычала, што я падумала, ці не гадзюка цябе ўкусіла. Калі-ж пабачыла, хто каля цябе, сама давай наўцекі.

Ганна. Я цяпер ня ведаю, нават, у які бок дамоў. Што, калі нас знойдзе той гвалтоўнік. (*Боязна азіраюцца*). Ціха! Нехта йдзе і моцна гаворыць. (*Як маланка, хаваюцца ў лесе. Чуваць галасы: «Дык вось як, лес красьці!»—«Ды не, панічок, дальбог-жа мы толькі асінку хацелі сьсекці». Выходзяць паніч і Андрэй з бацькам*).

## ЗЬЯВА 5.

Паніч. Так, так, Андрэй! Рукі ў цябе хоць куды: і каля Надзеі ўмеюць хадзіць і каля панскага лесу.

Андрэй. Ня ваша дзела!

Паніч. Як гэта не маё дзела: што і мой лес сячэш, дык мне і тут няма ніякага дзела? Вот дык сьмяхоцьце!

Андрэй. Чаму гэта ваш лес? Вось вы—разумны чалавек, вучыліся за граніцай. Растлумачце нам, цёмным мужыком, чаму гэты лес ваш? Чаму вось мой бацька, які бачыў, як кожны кусьцік тут вырас, ня мае права сказаць, што гэты лес яго?

Агей. А запраўды, чаму гэта панічоў лес? Ніколі я да гэтага не дадумваўся. Ты, Андрэйка, разумна пытаеш.

Паніч. Мужычно! Як вы сьмееце гаварыць так са мною! Паглядзім, што жандары ў вас будуць пытаць.

Агей (*спужаўшыся*). Панічок, дарагенькі, зьмілуйся, даруй нам. Ніколі больш ня будзем. Я і цяпер бы... але, ведаеце, трэба было: Андрэйку на Сёмуху жаню, ганак новы думалі зрабіць.

Паніч. Цікава. Ці не з Надзеяй?

Андрэй. Няма чаго цікавіцца, на вясельле ўсё роўна не пазаву. А ты, тата, годзі стагнаць. Ён перад табою блазьнюк, а ты яму ледзь у ногі ня кланяешся. Няхай пасылае жандараў. Няма чаго нашай мужыцкай шкуры баяцца—ні бізуноў ні шомпалаў: мы ўжо раджаемся на гэты сьвет з пісягамі на ёй.

Агей. Дык як-жа, сынок? Каб жандары прыйшлі да нас? Няўжо-ж гэта можа быць? А, курачкі мае, а, парасятачкі мае! Няшчасныя-ж вы!

Андрэй. Кінь, тата. Парасят шкадуеш, а сваёй шкуры ня шкода.

Панiч. Ага, а табе шкода сваёй? Вось мы яе пашкадуем. Гэтак, па мякiшу—хлясь! цок!

Андрэй. Эх, вы, вучоны! А яшчэ чапавекам хоча звацца. Мала дзяды вашы нацокалi? Цокайце i вы. Пацерпiм, пакуль што.

Агей. Вось слухаю я, панiчок, ды чую, што вы аб нейкiх тут цоках гутарыце. Нядобрыя, знаць, гэтыя цокi. Адпусьцеце нас, дарагенькi. Няўжо-ж вы забылiся, як я для вас, маленькага, калісь ночы ня спаў, а ўсё ў садзе сядзеў пад яблынаю, каб злавiць тую жар-птушку, пра якую вы ў казцы чулi ды ўсё хацелi, каб злавiлi яе ў вашым садзе.

Панiч. Ты, стары, iдзi сабе. А сына не адпушчу. Вельмi ён у цябе разумны.

Агей. Дык, як-жа, панiчок, гэта... Я-ж вам казаў, што жаню свайго Андрэйку на Сёмуху. Няўжо-ж вы ня зьлiтуецеся над iм? Гэта-ж як пачуе Надзея, што з Андрэйкам зрабiлi, дык яшчэ ня пойдзе за яго замуж.

Андрэй. Ня бойся, тата, яна тады яшчэ мацней мяне пакахае.

Панiч. Пакахае! А калi я перашкоджу.

Андрэй. Ня страшце. Я ведаю Надзею, Надзея ведае мяне. Перашкодзiць нам нiхто ня здолее, адна хiба сьмерць.

Панiч. Добра! Пабачым. Надта не бярыся. Хваляцца з кiрмашу едучы. Ну, а цяпер хадзем, стары. Сын хай сабе тут застаецца. Думаю, у Амэрыку не ўцячэ. А калi i хацеў бы ўцячы, дык Надзея памяшае. (*Iдуць у лес*).

Андрэй (*адзiн*). Скуль ён ведае, што мы з Надзеяй любiмся? Няўжо яна яму сказала? Ну, што-ж, тым лепей. Значыцца, вось адкуль гэта яго злосьць на мяне. Пачакаем, паглядзiм. Нiчога, паночкi! Пацешцеся яшчэ трошкi. Зараз за вамi чарод. Вы, як п'яныя, напiўшыся крывi мужычай, ня чуеце, што зараз гэты абсмактаны мужык перагрызе вам горла. Не дагадваецеся вы, нават, што тут-жа, супольна з вамi, расьце сiла страшэнная. Мы гаворым з вамi, а вы ня здолееце прыслухацца, што ў нашым голасе чутна скорае адмшчэньне. (*Вылятае перапуджаная Надзея*).

## ЗЬЯВА 6.

Надзея. Андрэйка, хавайся, цябе жандары шукаюць.

Андрэй (*спакойна*). Хай шукаюць, хаця i гэта лішняе: я сам к iм пайду.

Надзея. Пойдзеш у лапы к гэтым тыграм? Апамятайся!

Андрэй. Што-ж, уцякаць? Гэта я мог-бы зрабіць. Але што-ж тады яны зробяць з маім старым, з табою? Не, ляпей аддацца ім... А ты, Надзейка, тады, як мяне... скрываваяць... будзеш любіць?

Надзея (*кідаецца яму на шыю*). Яшчэ мацней, мой каханы Андрэйка! Ніхто цяпер не адарве мяне ад тваіх прыхільных грудзей!!

(*Заслона*).

## ДЗЕЯ II.

Гара каля лесу. Усюды трава, кветкі, пяюць жаваранкі. Сьвеціць сонца. На дзьвюх бярозах павешана гушкалка. Як адчыняецца заслона, Надзея ходзіць па гары, зьбірае кветкі і пяе:

Вясна-красна на двары,
А я хаджу па гары.
Хочу кветак я нарваць,
Каб вянок мне з іх зьвязаць.
Я надзену той вянок
У апошні ўжо разок.
Хай паглядзіць Андрулёк,
Як хораша мне вянок.

Цяпер трэба паваражыць, ці любіць мяне Андрэй. Любіць, ня любіць, к сэрцу прыжме, к чорту пашле, плюне, пацалуе. О, к сэрцу прыжме! Значыцца, любіць. А як хораша, калі ён прыціскае к сэрцу! Слухаеш, а яно: так... так... Але чаму ён часамі гэткі сумны? Што ў яго на думках? Сколькі разоў пыталася—зьверне, збочыць, што як-бы ўсё надта добра. Бач, вельмі нешта цікавае і сакрэтнае. Сягоньня канешне дапытаюся. (*Садзіцца на ўзгорку, задумваецца. Чуваць дзесьці песьня дзяўчат*):

Ты, калініца,
Ты, малініца,
Гэй, ты ня стой, ня стой
На гары крутой!
Ня спускай гальля
На сіне мора;
Гэй, па сіняму мору
Карабель плыве!

(*На гару з сьмехам і крыкам узьбягаюць шмат дзяўчат, паміж якіх Ганна, Наста і Аўдуля. Усе абкружаюць Надзею і пяюць*):

Любка-Надзька,
Што з табой?
Скажы хоць славечка.
Хочаш—зробім карагод,
Супакой сярдзечка.

Надзея (*адпявае*).

Ах, вы, дзевачкі мае!
Не магу я пеці,
Бо апошні разок мне
З вамі ўжо сядзеці.

Дзяўчаты. Хіба стаў ужо ня люб
Твой Андрэйка мілы?
Не жадаеш брацьз ім шлюб?
Любіць няма сілы?

Надзея. Ах, скарэй бы ўжо часы,
Каб з Андрэйкам жыці.
Шкода-ж дзявочай красы,
Ды мне ня з вамі быці.

Дзяўчаты. Усіх нас, знаць, такі лёс:
Дзеўкай не пражыці,
Калі трохі ўжо падрос,
Трэба йсьці служыці.

Ганна. Дзевачкі, давайце гушкацца! (*Усе згаджаюцца і падбягаюць к гушкалцы. Ганна, Наста і Надзея лезуць на апошнюю. Другія дзяўчаты іх гушкаюць і ўсе пяюць*):

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Няма майго Андруля.
Гу-шкі, гу-шкі!
Йдзі, Андрэй, на падушкі.
Гай-да-да, гай-да-да!
Без цябе, Андрэй, нуда.

Наста. Даволі ўжо. Аж галава закруцілася. Давайце Надзеі апошні вянок саўём. (*Усе зьбіраюць кветкі і пяюць*):

Маладая Надзейка,
Ўсё тваё да мінаецца:
Дзявоцкая пагуляньнейка,
Хлапецкая жартаваньнейка.
Годзе табе з намі быці,
Каб вяночкі ўсё віці
Да таночкі вадзіці.
Ідзі сьвякрусе служыці.

(*Назьбіраўшы красак, дзяўчаты садзяцца навокал Надзеі на ўзгорку, і Ганна пачынае віць вянок, гаворачы*).

Ганна. Ведаеце што, сястрыцы, мне цётка Агата казала, што калі, плятучы вянок перад Сёмухаю, зломіцца хоць адна кветка—быць вялікаму няшчасьцю. (*Усе пільна глядзяць на работу Ганны, зацікаўленыя*). Ну, тут пакуль-што ўсё добра. Каб гэтак і далей.

Надзея. Ах! Гора-ж мне!

Усе. Чаго ты, Надзейка? Што з табою здарылася?

Надзея. Вы глядзіце на вянок там, дзе ўплятаюцца кветкі, а чаму-ж ня бачыце, што з самага пачатку. (*Дзяўчаты глядзяць і ўскрыкваюць: з самага пачатку ледзь ня ўсе кветкі пераламаліся, і кончык вянка павіс бяспомачна*).

Надзея. Што-ж чакае маю галоўку? І ў самым пачатку супольнага жыцьця з Андрэем!

Наста. Ды кінь, Надзея. Мала чаго людзі нагавораць. Калі вам ужо добра ня жыць, дык каму-ж тады? Андрэя ўсякі ведае, што ён за чалавек. Кожная з нас была-б рада на тваім месцы. (*У лесе кукуе зязюля*).

Наста. Надзейка, запытайся ў зязюлі, ці доўга замужам будзеш.

Надзея. Зязюлька сівая, скажы праўду шчырую, колькі засталося мне жыць? (*Зязюля змаўкае*). Дзевачкі, чуеце? Змоўкла. Што-ж гэта сягоньня? І чаму я такая гаротная? Няма мамкі, а ніякай радні. А тут яшчэ кветачкі і птушкі процiў мяне. Якая-ж доля мяне чакае? (*Чутна песьня хлопцаў і йгра на гармоніку*):

Па лугох вада разьліваецца.
Ой, да лю-лі, лю-лі, разьліваецца!
На вайну хлопцы ўсе зьбіраюцца.
Ой, да лю-лі...
Яны з роднымі ўжо прашчаюцца,
Ой, да лю-лі...
Вось прашчай-жа ты, уся радзіначка.
Ой, да люлі, люлі...
Ўся радзіначка—бацька, матачка.
Ой, да лю-лі, люлі...

Дзяўчаты. Вось і хлопцы йдуць. Супакойся, Надзейка. Забудзься пра ўсё. (*Паказваюцца хлопцы і бягуць да дзевак з крыкам. Тыя абступаюць Надзею і паўстаўлялі кулакі супроць хлопцаў*).

Мірон. Браткі мае, глядзеце: наш вораг у штыхі йдзе.

Ганна. Няма чаго сьмяяцца. Падступецеся толькі—павылятаюць зубы.

Мірон. Ах, ты, ваяка! Ці-ж штыхам у зубы поруць?

Ганна. Да ўжо-ж, глядзець ня будзем: куды пападзе, а Надзею ўсё-ж не аддамо.

Мірон. Чуеш, Андрэй? Ну, ідзі, братка, мяркуйся з імі.

Андрэй. Кіньце, дзеўкі, спрачацца. Пагодзімся.

Ганна. Бач, які скоры. Ну, якая-ж ваша згода?

Андрэй. Нічагусенькі. Я ня ведаю, чаго вам трэба (*Махае рукою*).

Мірон. Дык няма чаго й рот разяўляць. Як бачу, трэба самому ўзяцца за гэта дзела.

Ганна. Падумаеш, які зыхар найшоўся. Паглядзім!

Мірон. Ну, ты надта не выстаўляйся з сваім розумам. Добра ведаем, што ты Ганна Ціхона—ды яшчэ Затыкі.

Ганна. А мы яшчэ ляпей ведаем, што ты Мірон Гаўрылы—ды яшчэ Глёза. (*Дзеўкі рагочуць*).

Мірон. Па чым дурняў пазнаюць? Па рогату.

Ганна. А разумных—па рыжай галаве? (*І дзеўкі і хлопцы рагочуць яшчэ мацней*).

Мірон. Залатыя валасы — значыцца, багаты жаніх. Толькі памані, дык Ганна адразу пабяжыць.

Ганна. Не завідны жаніх, калі ўсё багацьце наверсе галавы, а ў сяродку—макацёр гліняны.

Панас. Ну, і язычок! можна добра дзеду Анупрэю лапці падшываць: і шыла ня трэба.

Ганна. Ці-ж тваёю шкураю падшыць, што два тыдні назад палякі сьпісяжылі.

Наста. Ганна, як табе ня сорам успамінаць аб гэтым, кратаючы балючае месца? (*Ганна апамятвалася, але позна*).

Ганна. Панаска, братка, выбач мне, што ня стрымала свайго бабскага языка. Сказалася—і сама ня ведаю як. (*Хлопцы стаяць хмурныя*).

Андрэй. Трэба заўсёды думаць, што гаворыш, асабліва ў цяперашнія часы.

Мірон. Ну, дагаварылася, Ганна? Цяпер, можа, памірымся?

Ганна. Добра. Што дасьцё?

Мірон. Наша дзела даць выпіць, а ваша—закусіць. (*Дастае бутэлькі*). Згода?

Усе дзеўкі. Згода! Згода! (*Бяруць клумачкі, што прынесьлі з сабою, раскладаюць на траве закуску і садзяцца кругом, памяшаўшыся з хлопцамі. Надзея з Андрэем*).

Мірон (*налівае чарку, падымае яе, а ўсе глядзяць на яго*). Сягоньня я бачыў, як у нас на крышы галубок з галубкаю буркаваў. Як хараша абымаў ён яе крылом! Галубка аж дрыжала ад радасьці і шчасьця. Дык хай-жа, як тыя галубкі, буркуюць і наш Андрэйка з Надзеяй усё сваё жыцьцё, і абсыплюць хай іх дзеткі, як ігрушу вясною кветкі! (*Кукуе зязюля*).

Наста. Пастойце, запытаемся ў зязюлі, колькі будзе дзетак у іх. Зязюлька сівая, колькі дзетак будзе ў Андрэя з Надзеяй. (*Зязюля змаўкае. Усе спахмурнелі. Надзея бялее і туліцца да Андрэя, як-бы шукаючы ў яго абароны*).

Андрэй. Дык чаго-ж вы змоўклі? Калі зязюля нам не жадае шчасьця—мы самі его здабудзем! Сябры, я жадаю найскарэйшага выпаўненьня таго, што задумана намі!

Надзея. Андрэй, што вы задумалі? Кажы, не палохайце нас. (*Дзяўчаты глядзяць на хлопцаў з пытаньнем*).

Мірон. Ды нічога цікавага. Думаем, каб як залезьці ў панічоў садок і кветак вам нашчыпаць.

Ганна. Загаварвай зубы. Знаем мы вас! Э, ды кінем гэта, мала што задумаюць гэтыя вар'яты. Давайце ляпей павесялімся, каб знала Надзея, калі была дзеўкаю. (*Ускаквае, за ёю ўсе, апрача Андрэя з Надзеяй*).

Ганна. Давайце ў матыля! (*Бяруцца па двое за рукі, твар к твару, выпучваюцца і круцяцца надта шыбка. Андрэй з Надзеяй прытуліліся адно да аднаго і глядзяць, як весяляцца*).

Панас. Паглядзіце, паглядзіце, што гэта за два старэнькіх там сядзяць. (*Падыходзіць да Андрэя з Надзеяй*). Дазвольце вас паварушыць.

Андрэй. Не чапай нас, браток. Можа, ня прыдзецца больш так блізенька сядзець адно к другому. (*Панас адыходзіць*).

Надзея. Чаму ты так гаворыш? У кожным тваім слове я чую нешта нядобрае.

Андрэй. Э, Надзейка, мала чаго ў жыцьці можна чакаць. Сягоньня так, а заўтра можа быць зусім інакш. Кінам пакуль гэта, давай глядзець, як весяляцца тыя, якія ня так адчуваюць у сябе пытаньні жыцьця.

Наста. Дзеўкі і хлопцы! Давайце ў „гару" (*Становяцца парамі і гуляюць*).

Ганна. Хлопцы, і навошта вы музыку бялі? Няўжо для таго, каб гармонік яго ляжаў ды нудзіўся?

Усе. Скокі! Скокі! (*Музыка пачынае йграць, а моладзь скакаць усялякія скокі. Нагуляўшыся, яны йдуць у лес, каб*

*прахаладацца. На ўзгорку застаюцца Андрэй з Надзеяй. З лесу чутны песьні і крык*).

Надзея. Андрэй, вось мы прычакалі часіны, калі адны. Ня мучай мяне, скажы, што з табою? Я чую сэрцам нешта нядобрае.

Андрэй. Ня ведаю, як табе сказаць. А трэба. Сягоньня ці ніколі. Заўтра наша вясельле. Ня хочу абманваць цябе. Калі прызнаюся табе ўва ўсім, то ня позна яшчэ будзе адступіцца ад мяне.

Надзея. Ды што ты? Каб я ад цябе адказалася? Ды ці ёсьць на сьвеце такая сіла, якая-б нас разьяднала? Не, любы мой Андрэйка, не затым я цябе палюбіла, каб кінуць. Хай сабе няма ведама якое няшчасьце страсецца над тваёю галавою.

Андрэй. Гэта праўда? О, які я шчасьлівы! Знай, Надзейка, ты мяне падмацавала, і я пайду сьмела і цьвёрда к сваёй мэце.

Надзея. Якая-ж твая мэта? Адчыні мне сваю душу. Можа, я буду тваёю шчыраю падарожніцаю?

Андрэй. Слухай, яшчэ нядаўна Ганна скрыўдзіла Панаса, напомніўшы, што паны яго шкуру сьпісяжылі. А Рыгора Тодаравага? А Зьмітрука Язэпавага? А ўчора мяне? Да ці мала крыўды? Уся Беларусь стогне ад іх бізуна і шомпала. Як адкормленыя парсюкі, ходзяць гэтыя паны „вяльможныя“ па нашай роднай глебе, размахваючы бізуном. Ці-ж мы жывом? Вот сабраліся хлопцы і дзяўчаты, каб павесяліцца. А ці-ж яны весяляцца, як трэба? Кожны аглядаецца, ці не стаіць у яго за плячмі жандар. А мы з табою? Хіба мы можам сьмела, адкрыта любіцца? Вось, здаецца, як шыпячая гадзіна, з гэтай травы пакажацца бязьлітасны, зьвярыны вобраз нашага пана-паляка. Дык дакуль-жа цярпець? Чаго чакаць? Прыдзе хто-небудзь і вызваліць нас з няволі? Чырвоны ўсход зіхаціць і пасылае свае праменьні на захад. Але, як загрыміць вялікі гром і разгуляецца навальніца, трэба, каб мы былі гатовы. І вось бядацкая, працоўная моладзь Беларусі ўскалыхнулася. Ня ведаю я ні аднэй вёскі, дзе-б не адчуваўся гэты рух. У нас самы асяродак гэтай арганізацыі. Я—самы адпаведны працаўнік у нашай воласьці. На мне ляжыць цяжкі абавязак прыглядацца, каб усё гэта было ў сэкраце да часу. Гэтыя шпэхі лазяць паміж нас, а нічагусенькі ня ведаюць. О, каб яны ведалі!

Надзея. Дык вас-бы тады пастралялі?

Андрэй. Каля гэтага. Па галаве не пагладзілі-б.

Надзея. Андрэйка, як гэта страшна! А вы верыце, што гэтага яшчэ ня ведаюць палякі?

Андрэй. Пакуль-што ўсё добра. Боязна вось аднаго: у сваю арганізацыю мы прынялі шмат такіх сяброў, якія па сваёй наіўнасьці могуць прагаварыцца. Але да гэтага часу йдзе ўсё надта добра. А заўтра будзе яшчэ ляпей, бо ты будзеш навекі мая! (*Прыцягвае да сябе Надзею і абымае яе*).

Надзея. Які цяжкі абавязак на табе, мой ясны саколе! За гэта я яшчэ мацней люблю цябе... І гэтыя блакітныя вочы, у якія я цяпер гляджу, з такою вялікаю мэтаю! (*Цалуе іх. З лесу бягуць перапуджаныя дзяўчаты, наперад за ўсіх Ганна*).

Ганна. Сядзіце тут і ня чуеце, што ў лесе здарылася!

Андрэй і Надзея. А што? (*Ускакваюць з зямлі*).

Ганна. Нашы хлопцы з палякамі пасварыліся.

Андрэй. Як гэта было?

Ганна. Гулялі мы ў лесе, аж выходзіць насустрач паніч ды кажа: «Чаго, быдла, лес бэксьціце!» Мірон і адказвае: „Хіба-ж, паніч, не дабачыце: мы такія, як і вы, на дзьвёх нагах. Вось там, глядзіце, на балотцы, дык, праўда, быдла ходзіць“. І трэба было Мірону паказаць у той бок, адкуль якраз выйшла пяць палякоў, якія былі на паляваньні. Як закрычыць паніч: „А, дык вы палякоў быдлам завіцё!“, і пазваў апошніх. Тыя падскочылі, і пачалося. Мы спужаліся і — ходу.

Дзяўчаты. Ой, боязна! Ці тут быць ці бегчы дамоў?

Андрэй. Чаго вы баіцеся? Зараз прыдуць, можа, хлопцы.

Ганна. А вунь яны йдуць. Нешта моцна гамоняць. Да з імі-ж і паніч з палякамі. (*Усе дзеўкі зьбіраюцца ў кучу. Падыходзяць хлопцы з гасьцямі*).

Паніч. А, Надзея, як маешся? Нацалавалася з Андрэем?

Андрэй. Абы ня з панам.

Паніч. А можа, пацалуеш і мяне. (*Падыходзіць да Надзеі, тая хватаецца за Андрэя*).

Андрэй (*адштурхвае паніча*). Адступіся, блуднік! Прэч свае паганыя губы! (*Паніч зачапіўся за стрэльбу і кідаецца*).

Паніч. А, ты вось як! Добра! Папрабаваў-бы цокаў і сягоньня, але заўтра жэнішся—трохі ранавата дарыць. (*Падымаецца і ўходзіць, за ім палякі*).

Надзея (*з страхам*). Андрэй, чуе маё сэрца, што быць бядзе!

А н д р э й (*ашчаперыўшы Надзею*). Не забывайся, мая галачка: няма сілы, якая-б нас разьняла!

(*Увесь гэты час хлопцы й дзеўкі стаяць хмурыя*).

(*З а с л о н а*).

## ДЗЕЯ III.

Вёска. Сёмуха. Усюды маладыя бярозкі. Народ ходзіць па вуліцы вясёлы і прыбраны. Васельле ў Сымона і Агея. На пярэднім пляне хата Сымона. На прызьбе каля хаты сядзяць дзеўкі і хлопцы).

### ЗЬЯВА I.

Г а н н а. Ці ведаеце што, дзевачкі, мне дык усю ноч лез Тадэуш у галаву. Толькі зачыню вочы, а ён, здаецца, з-пад лавы і лезе: вочы па яблыку, рот, як вароты, лупы, як каўбасы. Паўзе да мяне ды нешта мармоча. Як закрычала-ж я, дык усіх у хаце пабудзіла.

Н а с т а. Гэта нядобры знак. Каб Тадэуш лез на сьцяну ды нема роў, вось гэта добра было-б.

П а н а с. А калі гэта нема равуць ды на сьцяну лезуць?

Г а н н а. Як жывот баліць.

П а н а с. А чаго балець жывату ў пана?

М і р о н. Абапіўшыся крыві мужыцкай.

Г а н н а. Ціха! Чаго разявіў свой млын. Ці ня хочаш учарашняга?

М і р о н. А што там учарашняе... Хіба мы спужаліся? Нябось, калі цыкнулі на паноў, дык не асьмеліліся сунуцца, хоць і з ружжамі былі. Яны толькі сьмелыя каля зьвязаных з бізуном хадзіць.

Н а с т а, Ведаеце, мне дык аж шкода было паніча ўчора. Гэтак штырыў яго Андрэй! І ўладзіў-жа сесьці—зусім не папанску: на войстранькі корчык. Як ішоў дамоў, дык усю, знаць, дарогу чухаў.

М і р о н. Няўжо-ж толькі нам чухаць! А калі, Насьця, вельмі шкода было паніча, дык трэба было дагнаць ды пастудзіць. (*Усе рагочуць. Выходзіць Надзея з распушчанымі валасамі пад хусткай*).

Г а н н а. Надзейка, хадзі сюды, пасядзі з намі.

М і р о н. Чаго, Надзея, часта на вуліцу выбягаеш? Жджэш не дажджэшся свайго Андрэя? Пачакай. Зараз зайграюць скрыпкі, зазьвіняць званкі, і ты ўбачыш свайго сокала яснавокага.

Н а д з е я. Дзевачкі, сястрыцы мае, і чаму маё сэрца так неспакойна? Хаджу—ногі мяне ня слухаюць; гляджу—нічагу-

сенькі ня бачу. Тата гэтак сама з ног зьбіўся. Усюды адзін. Няма роднай мамачкі—няма ніякага парадку. (*Пачынае плакаць*). А тут... учора... яшчэ гэткае здарылася. Адмсьцяць яны Андрэю. (*Дзяўчаты пачынаюць пець*):

Ой, знаці, знаці па вясельлейку,
Што дзевачка сірацінка.
Да двор вялікі, збор невялікі,
Ня ўся яе радзіначка.
Ой, каго наняць да каго паслаць
На ўкраіну па радзіну?
Салавеечку шчабятлівага
На той сьвет па мамачку.
Салавей ляціць—не далятае,
А мамачка адказуе:
Не магу ўстаці к свайму дзіцяці
Да парадачку даці.
Не магу ўстаці к свайму дзіцяці
Да парадачку даці:
Сырая зямля дзьверы залягла,
Вакенечка заступіла.

Ганна. Кінь, Надзейка, плакаць, усё добра будзе. Трэба быць вясёлаю: ты-ж сягоньня маладая.

Мірон. Ты-б, Надзея, паглядзела, які сягоньня Андрэй: вясёлы, прыгожы! Усе ня зьдзівяцца. Вось павінна і ты такою быць, каб была роўная пара.

Наста. Паглядзіце, як Мірон умее пары дабіраць. А сабе вось дык ніяк не падбярэ.

Мірон. З каго-ж выбіраць? Ну, пачнём з цябе хоць. Усім добра вядома, што валасы ў цябе даўжэйшыя, як ува ўсіх дзевак. Значыцца разум самы кароценькі. Другая: хатка мая маленькая, палоска вузенькая—значыцца, і ў хату ня ўпрэшся і на загончыку ня ўтоўпішся.

Наста. Дык хай-жа табе трапіцца такая, для якой хатка твая будзе надта прасторнай, а загончык—вельмі шырокім.

Ганна. Ды годзі вам!.. Чаго гэта дзеці бягуць з таго канца? Ці не заручыны йдуць? (*Усе ўскакваюць з прызьбы і глядзяць у той бок, адкуль бягуць дзеці і крычаць: „Заручыны!“ „Заручыны“!*)

Усе. Праўда-ж ідуць. (*Надзея, Ганна і Наста бягуць у хату; астаецца некалькі дзевак і хлопцы. Чуць, як іграе музыка і гамоняць людзі. З хаты выходзяць Сымон, Пятрок і яшчэ некалькі мужчын, а к ім зараз падходзяць Агей, Андрэй, Астап, Панас, музыка і шмат народу. Астап з біклашкай на плячох*).

ЗЬЯВА 2.

Астап. Дзень добры, людцы, вам! Ці рады будзеце нам?

Пятрок. Мы ня ведаем, хто вы будзеце і чаго ад нас патрабуеце?

Астап. Мы людзі далёкія, дарогі нашы шырокія. Прыйшлі-ж мы ў госьці да аднэй ягамосьці.

Пятрок. Да якой-жа гэта ягамосьці?... Ці ня скажаце, якой яна масьці? А можа, ведаеце, як яе зваць? Тады і мы можа будзем знаць.

Астап. Зваць яе Надзея, на яе ўся наша спадзея. Калі толькі яна занатурыцца, то адзін з нас панурыцца. (*Глядзіць на Андрэя*).

Пятрок. А, дык ідзеце-ж у хату, там будзем гаварыць пра плату. Ды ўбачыце тую, таргаваць прыйшлі якую. (*Усе йдуць на двор, адтуль зараз-жа чутна песьня*).

Наляцела сівых галубоў поўны двор,
Наехала сем заручнічкаў за наш стол.
Пазнай, пазнай, малада Надзейка, каторы твой.
Ці што на куце ў белым кажусе —
Ці то твой?
Ці на ўслончыку ды на кончыку—
Ці то твой?
Ці ля прыпечку йграе ў скрыпачку—
Ці то твой?
Ці у запечку лапіць шапачку—
Ці то твой?
— Што ля ваконца зьяе, як сонца,
Дык то мой!

(*Бяжыць утомлены Міхась, дваровы хлопец. Пазірае на двор ды некаму махае рукою. Выбягае Мірон*).

ЗЬЯВА 3.

Мірон. Чаго ты такі страшны, Міхась? Што здарылася? Гавары скарэй! Ня пужай!

Міхась. Трэба, каб ніхто ня чуў. Адыйдзем у бок. (*Адыходзяць*).

Мірон. Ну, пачынай!

Міхась. Кепскія, браток, паперы. У двор наехала шмат палякоў. Два аўтамабілі равуць каля ганку. Прыехала, значыцца, нейкае вялікае начальства. Рыгораў Самусь, што служыць пры панічу, чуў, аб чым гаварылі прыехаўшыя. Спачатку яны шапталіся, а потым самы таўсты моцна сказаў: «Трэба, каб адразу іх накрыць—і так, каб ня вылецела

ніводная птушка. Кепска будзе, калі ўцячэ хто й паведаміць другія вёскі.» А паніч і адказвае: «Сягоньня самы падыходзячы момант: усе яны гуляюць вясельле свайго правадыра». Самусь зараз-жа прыбег ка мне і ўсё перадаў. Я шапку на галаву і сюды. Усю дарогу бягом. Сэрца як ня выскачыць.

Мірон. Што-ж гэта значыць? Чаго зьляцеліся сюды груганы? Пачулі, знаць, пах крыві.

Міхась. Трэба скарэй Андрэю сказаць. Што ён на гэта адкажа? Але як яго з хаты вызваць? Яшчэ могуць дагадацца.

Мірон. Эх, не хацелася-б трывожыць яго. Што з ім сягоньня робіцца, зразумець не магу. Такое шчасьце на твары напісана, што сядзіць ён і, здаецца, праменьні ад яго разыходзяцца... А сказаць Андрэю трэба, і зараз-жа. Ты пабудзь тут, а я як-небудзь выманю яго сюды. (*Пайшоў*).

Міхась. Вот каб ведалі паны, што я тут раблю—заплацілі-б добра. І на дзетак хапіла-б, каторыя яшчэ ня скора ў мяне будуць. Цікава, што popстануць рабіць хлопцы! Калі задумаюць хавацца, дык трэба, каб ужо гэта рабілі... А шкода Андрэя. Яму, больш як каму, патрэбна хоць капелька шчасьця, хоць на адзін тыднік. (*Глядзіць на двор*). Вунь яны йдуць. Праўда, які ён сьветлы, прыгожы. Знаць, не дагадваецца, чаму вядзе яго Мірон. Твар не паказвае гэтага.

## ЗЬЯВА 4

Андрэй (*вясёлы*). Ну, чаго ты мяне зваў, Мірон? Што табе так карціць? Ня мог, нават, сягоньня пацярпець.

Мірон. Ждаць некалі. Справа ёсьць. Вунь Міхась прыйшоў.

Андрэй (*убачыўшы Міхася*). А, Міхась! Здароў! Дзякуй, што на вясельле прыйшоў.

Мірон. Пачакай дзякаваць. Можа, ён не на вясельле прыйшоў, а бяду прынёс.

Андрэй (*мяняецца ў твары*). Што?! Якую бяду? Гавары!

Мірон. У двор наехала палякоў... На аўтамабілях... Самусь падслухаў... Нас усіх хочуць пахватаць.

Андрэй (*к Міхасю*). Гэта праўда? Можа, ты папалохаць захацеў, як умоўлена было ў нас: хоць рэдка дарэмна палохаць, каб прывыклі не баяцца.

Міхась. Што ты, Андрэй! Ды ці стаў-бы я ў такі для цябе дзень глупствам займацца! Усё праўда. Рабіце скарэй што-небудзь, каб позна ня было.

Андрэй. Рабіць?.. Што-ж рабіць?. Няўжо дазналіся аб нашай арганізацыі? (*Стаіць, задумаўшыся*). Так... Зна-

чыцца, недаканчанае дзела... Як гэта балюча! Хаця-б яшчэ месяц. (*Адразу рашуча*). А, можа, гэта пачатак канца? Тады трэба канешне прычакаць яго. А дзеля гэтага нам трэба хавацца. Шкода бацькоў і гаспадарак, але нічога ня зробіш: ці так ці гэтак—прапашчыя мы. (*Бяжыць Аўдуля й махае рукамі*).

### ЗЬЯВА 5.

Аўдуля. Уцякайце, хавайцеся! Палякі йдуць, ланцугом ачапілі Харавічы! (*Мірон і Міхась, спалоханыя, самі ня ведаюць, што рабіць. Андрэй спакойны*).

Андрэй. Ужо?.. Стараюцца... Выгаладаліся. Крыві зажадалася. (*У хаце заметілі, што на вуліцы неспакой, і сталі выбягаць людзі*).

### ЗЬЯВА 6.

Ганна. Чаго ты, Аўдуля, размахалася, як вятрак? Што такое?

Андрэй. Ганна, дзе Надзея?

Ганна. Яна ў каморцы... Чаго вы ўспалоханыя? Кажэце!

Аўдуля. Палякі йдуць, нікога з вёскі ня пускаюць.

Ганна. Вось табе й вясельле!

Андрэй. Дык бяжы-ж, Ганула, к ёй і затрымай яе ў каморцы... А вы, хлопцы, на двор за мною. (*Бягуць на Сымонаў двор. Зараз-жа з ружжамі выбягаюць палякі. Усе раступаюцца. Салдаты падбягаюць к варотам, каторыя завалены, і стукаюць прыкладамі. З двара гаворыць Андрэй: «Пакажы толькі каторы сваю паганую морду, палучыш кулю ў лоб». Палякі адыходзяць ад варот і йдуць к паручніку, які выйшаў з суседняга двара*).

### ЗЬЯВА 7.

Салдат. Пан паручнік, гэтыя лайдакі страшаць кулямі.

Паручнік. А калі так, то спаліць вёску.

Астап. Паночак, за вошта-ж маюць гінуць маленькія дзеткі і неразумная жывёла?

Паручнік. А за тое, што вы, псякрэў, нарадзілі такіх лайдакоў. Скажэце ім, каб не стралялі—ня будзем паліць вёску.

Астап, Пятрок і Агей (*падыходзяць к варотам*). Хлопцы, пашкадуйце сваіх бацькоў і матак з маленькімі бра-

тамі і сёстрамі. Усё роўна гэтым вы нічога не даб'іцёся. (*Зараз адчыняюцца вароты, і адтуль выходзяць Андрэй, Мірон, Панас, Міхась і інш.*).

ЗЬЯВА 8.

Андрэй. Вось хто перашкодзіў нам пагаварыць з вамі з-за варот. (*Паказвае на старых*). Ну, чаго-ж вы стаіцё? Бярыце! Напэўна прагаладаліся?

(*Палякі злосныя падыходзяць к хлопцам і з ружжамі на згатоўцы абкружаюць іх*).

Агей (*з плачам у голасе*). Сыночак мой, Андрэйка, а як-жа вясельлейка? Усё-ж паглуміцца: і парсючка забіў, і бычка зарэзаў. Думаў, як людзі, справіць.

Андрэй. Дабаў, тата, што і апошняга сынка страціў... Дарма, не гаруй. Гэта страта прынясе вялікую карысьць працоўнаму народу. На глебе, угноенай нашай крывёю, узрасьце моладзь, якую ніхто і ніколі ня страціць. Яна ня будзе ў гэткім сталяным коле.

Паручнік (*салдату*). Чаго стаіш, галган. Прытрымай яму язык. (*Салдат б'е прыкладам у грудзі Андрэя. Той адразу спыніўся; у яго з горла пацякла кроў*).

Агей (*кідаецца к абідчыку з люлькай у руках*). Завошта-ж ты, гіцаль, так яго выцяў. Я табе... (*Салдат штырхае ад сябе Агея; той ляціць потырч на каменьне. Чуваць, як бразнулі старыя косьці. Агей ляжыць і цяжка стогне. З крыкам вылятае з варот Надзея. Яна бяз хусткі, з распушчанымі валасамі*).

ЗЬЯВА 9.

Надзея. Чаму-ж вы мяне не завіцё? Няўжо-ж вы хацелі, каб я ня ўбачыла свайго яснага сонейка! (*Глядзіць на Андрэя*). Што з табою? У цябе кроў на вуснах? Скуль гэта?

Андрэй. Запытайся вось у гэтага (*паказвае на салдата. Надзея дагадалася. Яна, як дзікая кошка, кідаецца на паляка і шчапіла яго за валасы; другі салдат схапіў яе за валасы і стаў адцягваць ад сябра. Надзея ня пускае і цягне за сабою ворага, пакуль не падскочыў паручнік і сьвіснуў па руках Надзеі бізуном. Тая бясьсільна апусьціла рукі і кінулася на камні; з яе вуснаў вырвался праклясьце*).

Надзея. Зьвяры! Каб над вамі вашы дзеткі родныя так зьдзекваліся.

Паручнік. Ідзеце да маёнтку. (*Махнуў рукою, салдаты ўводзяць арыштаван.*).

Н а д з е я *(кідаецца ўперад з крыкам)* Андрэй, агляньcя! Дай хоць разок яшчэ паглядзець на цябе!

А н д р э й (*слабы*). Надзея, будзь цьвёрдая. Калі растапталі наша шчасьце, дык аддамо сваё жыцьцё за лепшую будучыну другіх! (*Салдат пхае Андрэя ззаду, той чуць ня кідаецца, і ўсе хаваюцца за будынак. Тыя, што засталіся, стаяць некалькі часу, як акамянелыя*).

Н а д з е я (*ломячы рукі*). Прапала маё шчасьце! Зайшло маё яснае сонейка! Схапілі чорныя груганы майго сівакрылага галубка! Усё збылося... Які-ж канец? (*Думае, потым з страхам*). Вы ведаеце, што з імі зробяць? (*Стогне Агей*). Хто гэта? Дзядзька Агей?! (*Падбягае да яго*). Што з вамі? Вы на каменьні? Хто гэта?

А г е й (*ціха*). Выцяў ён... смаркач... Андрэйку вельмі моцна... Я хацеў... яму люлькаю, смаркачы падцерці... ажно ён... трохі спрытнейшы... А што яны з імі зробяць? А?

Г а н н а. Паніч ідзе! (*Усе, зьдзіўленыя, глядзяць у той бок, адкуль ідзе паніч надта вясёлы*).

## З Ь Я В А 10.

П а н і ч. Чаго гэта сабраліся? Чаму-ж не на вясельлі ў Агея? А гэта што? (*Глядзіць на Агея і Надзею*). Чаго гэта табе, Агей, прысьпела лажыцца на каменьні? (*Сьмяецца*).

А г е й. Панічу грэх сьмяяцца... з старога Агея. Усю моладасьць, усё лепшае жыцьцё я аддаў табе. І вось за гэта... як бяздомны сабака, я павінен паміраць на гэтай пасьцельцы... Панічок, дарагенькі, за ўсю маю працу, паложаную на цябе, зрабі мне хоць напканец майго жыцьця добрае дзела: заступіся за Андрэя, вярні яго мне. Хай-бы мой любы сынок зачыніў мае старыя вочы.

П а н і ч. Ну, ты, стары, многа хочаш. Андрэя не адпусьцяць ні за вошта. Ён вялікі праступнік. Расставіў пасткі паляком, але сам у іх папаўся. Гэткім, як Андрэй, ніколі і ніхто не даруе. Іх, напэўна, пастраляюць.

А г е й. Андрэйку... застрэляць... Сыночка майго... адбяруць ад мяне назаўсёды... Ай... цяжка мне...

Н а д з е я. Шыпячая гадзіна! Мала вам маладых ахвяр. Дабіваеце і старых, якія на руках выгадавалі сваіх палачоў. Вас-бы пастраляць! Зямельцы цяжка ад вашых гвалтаў!

П а н і ч. Чаго злуеш, Надзея? Бачыш, які я добры: хоць ня звала на вясельле, але я сам іду.

Надзея. Не вясельле, а хаўтуры вам трэба. Да іх у вас вялікая магнасьць. Вось чаму вы заўсёды нясіцё за сабою сьмерць.

Паніч. Няпраўду кажаш, Надзея. Тваёй сьмерці я не жадаю. Наадварот, мне вельмі шкода было-б цябе.

Надзея (*дзіка сьмяецца*). Шчырае дзякуй паніčу за літасьць да мяне! Але праглынеце вы гэтую літасьць! Ведаю я, чаго вы лістам сьцелецеся перада мною. Мала вам, што адабралі ў мяне маё шчасьце, маё жыцьцё,—яшчэ ласуецеся на маю чэсьць дзявочую! Не дажджыцё-ж вы! Я хутчэй горла перагрызу вам! (*Хапае камень*). Ідзі з вачэй маіх, валацуга! (*Замах. кам.*)

Сымон (*хватае за руку Надзею*). Дачушка, апамятайся! Што ты робіш? Гэтым ты нічога не паможаш.

Надзея. Нам ужо ніхто не паможа. Ды ня трэба. Адна ў нас з Андрэем сьцежка.

Паніч. А калі я зьвярну цябе з гэтай сьцежкі?

Надзея. Ты? Гэткі раскірака? Цьфу на цябе! (*Плюе яму ў вочы. Паніч сьвіснуў; з суседняга двара выскачылі два салдаты*).

Паніч. Бярэце гэту суку і вядзеце ка мне ў пакоі. (*Салдаты падступаюць к Надзеі; тая кідаецца на аднаго; вырывае стрэльбу і махае ёю кругом сябе. Усе з страхам глядзяць на ўсё гэта*).

Паніч. Дык гэта вы яшчэ і салдатамі завіцёся: з бабаю не здалееце зладзіць! (*Падскаквае к Надзеі; тая замахнулася, але другі салдат ззаду схапіў за стрэльбу; паніч хапае Надзею за рукі, і некаторы час яны тузаюцца, пакуль салдаты ня зьвязваюць ёй рукі*).

Сымон. Дык вы Надзейку маю будзеце вязаць! Не дажджыцё-ж вы! (*Кідаецца к дачцэ, але яго адштырхваюць*). Што-ж вы стаіцё? Мужчынкі, ратуйце! (*Тыя стаяць - не крануцца: баяцца*).

Агей (*ціха*). Паніч... ня кратай Надзею... Прашу цябе аб гэтым. Яна... толькі... Андрэйкава.

Паніч (*рагоча*). Хіба, можа, табе яе адказаў сын? Не, старэнькі, табе вось здыхаць пара, а ня з бабамі нюхацца... Ну, вядзеце скарэй! (*Салдаты цягнуць Надзею; тая, як звар'яцеўшая, крычыць*):

Надзея. Татулька, благаславі мяне на пасад; я-ж да шлюбу йду. (*Дзіка рагоча*). Дзевачкі, чаму-ж вы не пяеце: «Да ляцелі гусачкі церез сад, да вялелі Надзейцы на пасад».. (*Гэта яна пяе; дзеўкі стаяць і моцна плачуць; старыя вы-*

*ціраюць сьлёзы. Надзею ўводзяць; за імі йдзе паніч. Чутна, як Надзея пяе: „А што-ж вам, гусачкі, да таго; ёсьць у мяне татачка для таго».., а потым дзіка рагоча).*

(*Заслона*).

## ДЗЕЯ IV.

Маленькі лясок. Раніца. Вясковыя мужчыны рыюць роў.

### ЗЬЯВА I.

Пятрок. Яшчэ чэрці на кулачкі ня браліся, а нас сюды прыгналі гэты роў капаць. Навошта ён, каб хто ў іх запытаўся. Ці ня здохлых коняў закопваць?

Тодар. Ці коняў ці сабак—гэта ўсё роўна. Але вось вярнуліся часы прыгону—вось што кепска!

Астап. Горш прыгону. Толькі і бачыш—бізун да шомпал. Крыўдзяць і гвалтуюць каго папала. За старых, нават, узяліся. Ну што ім зрабіў Агей? За сына закінуў слова, і вось за гэта не сягоньня—заўтра памрэ.

Пятрок. А што, Сымон, пра Надзею нічога ня чуў? Звар'яцела яна, відна... Вось дзе крыўда!

Сымон. Учора, як павялі яе, я думаў рукі на сябе налажыць. Потым апамятаўся і пайшоў к панічу. Ня пусьцілі. Я да позьняй ночкі путаўся там каля пакояў. Думаў, можа голас яе пачую. Ажно ўбачылі мяне паскуды і прагналі. Ня ведаю, што зрабілі там з маёю ластавачкаю.

Астап. Кажуць, з Марына-Горкі прывезьлі аднаго. Вучоны і надта разумны хлапец. Трымаецца сьмела і з сьмехам на ўсё адказвае. Як ні стараліся, каб выведаць усё аб таварышох—нічога не дабіліся.

Тодар. Во, з гэткімі можна было-б чаго-небудзь дастукацца!

Пятрок. Кажуць, сягоньня судзіць будуць. Што чакае нашых дзяцюкоў?

Астап. Добрага чакаць няма чаго. Вельмі ўжо разьеліся паны.

Сымон. Мужчынкі, дакуль-жа цярпець такую крыўду? Была надзея на моладзь—прапала. Скарэй-бы свае прышлі!

Астап (*шэптам*). Чуў я, што бальшавікі зараз тут будуць. Багушэвічы ўжо нашы.

Пятрок. Эх, каб пасьпелі яны вызваліць нашу моладзь! А то сколькі можа легчы маладых галовак!

Сымон. Паглядзеце, нехта к нам бяжыць. (*Усе прыглядаюцца*).

Тодар. Ды гэта-ж Ганна Ціхонава. Чаго яна гэтак бегчы завіхаецца?

ЗЬЯВА 2.

Ганна (*падбягаючы*). Дзядзечкі, родныя, што-ж гэта ў двары нарабілася! Прапалі мы!

Астап. Да гавары ты хутка! Чаго мелеш дарма!

Ганна. Надзея панічу... горла перарэзала.

Сымон. Ай, прапала-ж мая дачушка. (*Усе глядзяць адзін на аднаго*).

Астап. Як гэта было, ты ня ведаеш?

Ганна. Самусь расказваў, что паніч пачаў прыставаць к Надзеі. Тады яна сказала, што, калі паніч разьвяжа ёй рукі, яна на ўсё згодзіцца. Замасьліліся яго вочы. Разьвязаў рукі ды згэмтаў Надзею. Тая як-бы пакарылася, ды просіць давесьці яе да канапы, каля якое на стале ляжаў вялізны нож. Вось Надзея схапіла нож і, калі паніч ад вялікага жаданьня нічога ня бачыў, зарэзала яго. Зрабіўшы гэта, яна вельмі спужалася і стала моцна крычаць. Прыбеглі салдаты, схапілі яе і цяпер б'юць на стайні.

Сымон. Рушылася апошняя надзея. Думаў, можа зьлітуецца паніч: пастрашыць ды пусьціць. А цяпер—прапала мая галоўка! Дык ці стоіць пасьля гэтага жыць? Мужчынкі, закапайце мяне вось у гэты роў. Засыпце вочы мае сырою зямелькаю, каб ня бачылі яны, як зьдзеквацца будуць над маім родным дзіцяткам. (*Садзіцца на зямлю і плача*).

Астап. Кінь, Сымон, выць. Думаеш, адзін ты такі няшчасны. А хто ведае, які лёс чакае нашых сыноў? Можа, усе мы будзем роўна пакрыўджаныя.

Ганна. Каля стайні страшна прайсьці: і крык, і стогн, і плач, і сьвіст. Калі праходзіла міма, няма ведама чыя рука прасунулася ў ваконца і кінула вось гэту паперку. (*Паказвае; мужчыны глядзяць з цікавасьцю, але ня могуць прачытаць, круцяць галовамі з жалем, што няпісьменныя*).

Ганна. Пастойце, тут за ўзгоркам хлапцы коні пасьвяць. Я клікну якога-небудзь. (*Хутка бяжыць*).

Тодар. Вось, браткі, што значыць быць цёмнымі. Можа тут (*паказвае на паперку*) што і надта важнае; можа ў гэтых радкох крыецца збаўленьне нашых дзетак. А ты стой, як слуп, і лупай вачыма.

Астап. Затое ад гэтага вялікая карысьць паном. Зачым-жа й школы нашыя ўсюды пазачынялі? Калі будзеш ву-

чыцца папольску—на табе школу. Нават ксёндз прыяжджае і дае цукеркі дзецям, каб тыя добра стараліся вучыць польскую абэцэдлу. Усё мужыцкае ў загоне. (*Бяжыць Ганна з хлапцом*).

### ЗЬЯВА 3.

Г а н н а. Ледзь упрасіла вось гэтага грамацея. «Не пайду і чытаць ня буду—палякаў баюся». Наледзьве растлумачыла, што ніякіх палякаў тут няма.

А с т а п. Ня бойся, хлопчык, нікога. Бачыш, тут усё свае. Прачытай нам вось гэта. (*Дае яму паперку*).

Х л о п ч ы к (*разьбіраючы па складох*) «Хто па-ды-ме гэту-ю па-пер-ку, хай зараз-жа дасьць знаць у Пя-рэ-джа-ра, каб сягоньня ка-не-шне тут бы-лі род-ныя. Нас асу-дзі-лі на растрэл». (*Мужчыны павыпускалі з рук лапаты і стаяць, як громам аглушаныя*).

Г а н н а (*ломіць рукі і плача*). Што-ж гэта робіцца? Калі паражыць гэта страхацьцё! Адзінаццаць чалавек! О! хайбы ляпей усяго гэтага вушы ня чулі й вочы ня бачылі.

Т о д а р. Значыцца, і майго Рыгорку! Ах, сынок мой, а гы-ж усё мне гаварыў: „Пачакай, тата, трохі. Вы вось сьмяецёся, што мы глупствам займаемся, а паглядзіце, што гэта глупства зробіць шчасьце на зямлі». Не давядзецца, маё дзіцятка, убачыць табе гэтага шчасьця.

Х л о п ч ы к. Ай, паляк ідзе! (*Кідаюцца з Ганнаю ў лес. З правага боку выходзіць салдат*).

### ЗЬЯВА 4.

С а л д а т. Што, ужо гатова? Цяпер можаце йсьці да хаты.

Т о д а р. Можа, пан, ведае, навошта мы гэты роў капалі?

С а л д а т. Навошта? А каб здохлых сабак закапаць.

А с т а п. Хіба-ж у нашага паніча сабакі паздыхалі?

С а л д а т. Сягоньня ўсё будзеце знаць. (*Мужчыны і салдаты уходзяць. Сцэна некаторы час парожная. Потым выбягае Ганна*).

### ЗЬЯВА 5.

Г а н н а. І навошта яны прымусілі выкапаць гэты роў і няпрыменна бацькоў арыштаваных? (*Падыходзіць к рову*). А які-ж шырокі і глыбокі! Усё-роўна, як тая магіла, у каторую

нашы хлопцы зарылі пяцёх таварышоў, забітых палякамі пры наступе. Якая там цяпер прыгожая магіла! Цьвітуць заўсёды ўлетку кветачкі, кругом зроблены лавачкі. Кожнае сьвята сколькі там перавернецца моладзі! Спачатку старыя коса глядзелі на адзінокую магілку, але цяпер яны перамянілі сваё адносіны да яе. Падойдзе другі, паківае галавою ды скажа: «Няма ведама адкуль і хто найшоў супакой сваім костачкам на чужыне. Можа, дзе татка з мамкаю чакаюць—не дачакаюцца свайго сынка. Эх, дзеткі, дзеткі!» Нават сьляза пакоціцца па твары. (*Выбягаюць спуджаныя Аўдуля і Наста*).

## ЗЬЯВА 6.

Абедзьве разам. Ганнулька, ці ня бачыла, дзе тут хлапчаты коні пасьцяць?

Ганна. Чаго вы гэткія перапуджаныя? Вы цяпер з Харавіч? Ці не парабілася там із ноў чаго?

Аўдуля. Прыйшлі палякі коняй адбіраць. Калі разьнюхалі, што коні на пашы, дык зрахаваліся там іх пахватаць.

Ганна. Дык бяжыце-ж хутка за гэты вот лясок: там коні. (*Аўдуля і Наста бягуць*).

Ганна. Няўжо-ж я не дачакаюся Самуся? Казаў, што каля паўдня будзе тут і раскажа ўсе навіны. Хаця-б не падвёў ён мяне? Але, здаецца, ня зробіць ён гэтага, тым болей са мною. (*Глядзіць убок*). Хто гэта там так моцна йдзе? Нейкая кабета. (*На сцэну выбягае маладая і прыгожая дзяўчына. Яна вельмі запыленая і стомленая*).

## ЗЬЯВА 7.

Дзяўчына (*убачыўшы Ганну*). Сястрыца, родная, як гэта дайсьці да двара Дукоры?

Ганна. Хіба-ж ты ня тутэйшая? Вось гэтаю дарогаю трэба йсьці проста, вярсты дзьве будзе—ня больш.

Дзяўчына. Дзякуй табе, зязюлька! Першы раз давялося тут хадзіць.

Ганна. А якая патрэба табе тут?

Дзяўчына (*моцна заплакаўшы*). Няшчасьце прыгнала мяне сюды. Я з Пярэджара. Пачулі, што ў Марынай Горцы арыштавалі палякі нашага Міхася і прыгналі сюды. (*Ганна дагадалася, аб якім Міхасю гаворыць дзяўчына і з цікавасьцю і жалем глядзіць на яе*). Як пачулі мы гэтыя весткі, дык мама ледзь на той сьвет не пайшла, ледзьве адхаялі. Я зараз-жа

сюды сабралася. Ці давядзецца нам убачыць свайго роднага братка?

Ганна. Сягоньня ўночы іх судзілі. Ня ведаю, ці пусьцяць цябе к яму.

Дзяўчына (*спалохаўшыся*). Ужо судзілі?.. А ты ня ведаеш, к чаму прысудзілі? Гавары, золатка, не таіся.

Ганна. Не... я нічога... ня чула... Ды іх, знаць... р... выпусьцяць. (*Зусім зьбілася з панталыку*).

Дзяўчына. Ой, маніш ты нешта, чуе маё сэрца. (*Бяжыць у бок двара*).

## ЗЬЯВА 8.

Ганна. Як шкода яе! Ды як не шкадаваць іх. Маладзенькія, уся надзея бацькоў. Страшна, нават, падумаць, што іх сягоньня чакае! (*Хапаецца за галаву і бясьсільна апускаецца на траву. Сядзіць гэтак некаторы час. Скора чутна, як дзесьці недалёка хруснула галінка, другая; з-за куста паказваецца Самусь, бачыць Ганну і падбягае да яе*).

## ЗЬЯВА 9.

Ганна. Ай! Як я спуджалася. Не чакала я цябе з гэтага боку.

Самусь. Ну, супакойся, Ганнулька. Трэба было так рабіць, каб ніхто ня бачыў.

Ганна. Гавары, якія навіны. Праўда, што пастраляюць арыштаваных?

Самусь. Скуль ты гэта бедаеш?

Ганна. Калі прабягала я каля стайні, дык з вакна выпала паперка. Напісаў яе гэты марынагорац. Піша, што быў суд, і іх усіх пастраляюць. Просіць, каб далі знаць родным, хоча пабачыцца. Я думала сама бегчы ў Пярэджара, ажно толькі-што тут прабягала дзяўчына, якая пыталася ў мяне дарогі ў двор. І вось я даведалася, што гэта сястра Міхася.

Самусь. Праўда, Ганнулька, куля чакае нашых хлопцаў. Не з Надзеяй, а з ёй ажэніцца наш Андрэй. Калі сказалі ім аб гэтым, дык некаторыя сталі плакаць, іншыя павар'яцелі, а Андрэй з Міхасём трошкі толькі пабялелі і зараз-жа сталі пяяць рэвалюцыйныя песьні. І што за чалавек гэты Міхась! Нават палякі яго паважаюць. На кожнае іх пытаньне толькі засьмяецца ды скажа: «Ня турбуйцеся і не пацейце

я застаюся барацьбітом». Яго, нават, ні разу ня білі. Вось каб гэткія ўсе, як ён і Андрэй, нічога гэтага ня было-б.

Ганна. А Надзея? што з ёю зрабілі?

Самусь. Да паўсьмерці засеклі на стайні. Цяпер яна зноў у пакоях зьвязаная. Баяцца, каб яшчэ каго не зарэзала. Згубілі зусім дзеўку. Усё панічу грозіць і кліча да сябе Андрэя.

Ганна. Што нарабілася—страшна падумаць! А што яшчэ сягоньня будзе!... Не, і я звар'яцею!

Самусь. Кінь, сонейка маё, без ахвяр ніколі нічога ня бывае.

Ганна. А ты, Самусь, ня ведаеш, дзе іх будуць страляць?

Самусь. Баюся, каб не напалохаць цябе.

Ганна. Ты, не гаворачы адразу, яшчэ больш палохаеш мяне. Гавары!

Самусь. Бачыш гэты роў? Ворагам нашым захацелася, каб самі бацькі сваім сынком выкапалі агульную магілу.

Ганна. Ай, мне кепска! Самусь... (*Кідаецца яму на рукі; Самусь бярэ яе асьцярожна і вядзе ўбок, каб дзе знайсьці вады. Сцэна пустая. Праз некаторы час чуваць, як здалёк далятае песьня:* «Ад веку мы спалі»... *Песьня спыняецца; чутно—гамоніць шмат людзей:* «Скора йдзеце, галганы!»—„А чаго нам сьпяшацца. Дайце ў апошні раз надыхацца, наглядзецца на гэту чароўную прыроду".—„Цяпер прырода ўжо не для вас".—„Хіба для вас? Дык яна-ж ад вас хмурнее і апранаецца ў чырвоны колер".—*Выходзяць на сцэну асуджаныя на сьмерць хлопцы, Андрэй і Міхась у сяродку. Усіх іх абкружаюць узброеныя салдаты*).

## ЗЬЯВА 10.

Міхась. Вось, сябры, наша апошняя прыстань. Ранавата прыехалі мы да яе. Думалася, што пры другіх акалічнасьцях прыбудам да яе. Не давялося. У самым пачатку нашага жыцьцёвага шляху наляцеў бязьлітасны сівер і зьняў яшчэ добра нерасьцьвіўшыя кветкі. Жыцьцём паплаціліся тыя, што асьмеліліся выткнуцца з травы. Але ў апошняй засталося вельмі многа маладзенькіх красачак, якіх ня ўбачыла варожае вока. Зараз гэтыя красачкі, палітыя нашай крывёю, узмацняцца і сьмела сустрэнуць злы сівер. Не здалець будзе яму іх. (*Збоку паказваецца шмат народу. Сястра Міхася паміж імі; яна моцна галосіць*):

Зося. Міхаська наш дарагі! А хто-ж нас будзе цешыць? Мамка мая родная! А ты-ж ня ведаеш, што твой любы сынок ужо больш цябе не развяжыць. А хаця-ж бы ты на яго паглядзела ў апошні разок! (*Уся грамада плача наўзрыд*).

Міхась (*уціраючы сьлёзы*) Зоська, падыйдзі да мяне. (*Тая падыходзіць. Міхась бярэ яе за галаву і цалуе ў твар і вочы*), Скажы, сястра, мамцы, што я пайду ў гэты роў, любячы яе. Хай ня плача. Так трэба было. Скажы таварышом па школе, што я паміраў, сьмела гледзячы сьмерці ў вочы і верачы, што яны адмсьцяць за мяне. Ну, а цяпер ідзі, ня плач.

Зося (*ашчаперваe Міхася за галаву і крычыць*). Я не адыйду ад цябе! Хай і мяне страляюць разам з табою. Усё роўна нам без цябе ня жыцьцё!

Паручнік. Будзе! (*Салдаты адрываюць сястру ад брата сілаю. Зося, як п'яная, апускаецца на зямлю і да самага канца ломіць рукі*).

Андрэй (*зусім хворы*). Грамадзяне! Зараз пагібнам мы, але не загіне наша справа. Наша сьмерць будзе васкрасеньнем для многіх. Скажэце майму бацьку і Надзеі, што за мяне і іх адмсьцяць так, што зямля задрыжыць.

Паручнік. Стройся! (*Салдаты строяцца ў рад і бяруць стрэльбы на згатоўку. Асуджаных ставяць з краю рова, задам к яму. Народ адганяюць прэч, але ён стаіць і здалёк з страхам глядзіць на тое, што робіцца*).

Паручнік. Гатоўся! (*Салдаты цэляцца. Міхась пяе: «Мы дружна устанем з касамі, з сярпамі, прагонім з зямлі палачоў».*)

Паручнік. Страляй! (*Раздаецца залп. У гэты-ж час з боку двара вылятае бяз хусткі, з распушчанымі валасамі, уся абадраная, страшная Надзея*).

## ЗЬЯВА 11.

Надзея. Андрэйка, я тут! (*Андрэй рынуўся ўперад, але падае з прастрэленымі грудзьмі; апошнія хлопцы падаюць у роў*).

Надзея (*дадбегшы к Андрэю і схапіўшы яго за галаву*). Андрэйка, устань! К шлюбу будзе позна. (*Глядзіць у вочы, якія ўжо заплюснуліся*). Ужо і сонейка заходзіць. Сьцюдзёна робіцца. (*Дрыжыць і прыпадае да трупа Андрэя*). Галубок

мой, чаму-ж ты мяне ня грэеш? Абыймі мяне сваёю ласкавай рукою. (*Бярэ руку і хоча абвіць сваю шыю, але рука адваліваецца*). Што, ты мяне ня любіш? (*Дзіка крычыць*). Ай паніч... увесь у крыві! Ратуйце! (*Ашчаперває труп Андрэя*).

## ЗЬЯВА 12.

Салдат (*які бяжыць з двара*). Панове, уцякайце! Бальшавікі йдуць! (*Палякі, як ашалелыя, з страху кідаюць стрэльбы і разьбягаюцца ва ўсе бакі. Народ радасна ўскрыквае*).

Надзея (*падымае галаву*). Няма... Пабеглі... І паніч з імі. Уставай, Андрэйка, ня бойся, усё глупства. (*Бярэ Андрэя за руку і цягне, хоча, каб той устаў; потым выпускае руку; Андрэй кідаецца на зямлю; Надзея прыглядаецца пільна, пазнае, у чым справа, і дзіка рагоча*). Заклявалі шулякі галубка! А галубка жывая. Крыльцом абыймае галубка. (*Абыймае рукою*). А ён і ня дыша. (*Хукае яму ў твар і трэ рукамі*).

## ЗЬЯВА 13.

(*Выбягае некалькі чырвонаармейцаў, народ іх радасна прывітае*).

Тодар. Прыйшлі нашы. Адчыніўся сьвет нам! (*З лесу выбягаюць Ганна з Самусём. Ганна застаецца каля Надзеі і хоча ёй нешта растлумачыць, але тая, як пень, нічога не разумее*).

Чырвонаарм. Товарищи! Мы в имении узнали, что сюда повели расстреливать молодых людей. Неужели мы опоздали? (*глядзіць на ўсіх з нецярплівасьцю*).

Тодар. Спазьніліся, дарагенькія. Усіх іх праглынула сырая зямелька, толькі адзін вунь застаўся наверсе: не хацелася яму ў зямельку цёмную, ён цягнуўся ўсё да сьвету.

Чырвонаарм. А что это там за две женщины? Что они там делают?

Тодар. Ня пытайцеся, таварыш, вельмі балюча расказваць. Пасьля аб усім даведаецеся. (*Чырвонаармейцы падыходзяць да рова і скідаюць шапкі, за імі ўсе робяць тое самае*).

Надзея. Ганнулька, гэта на вясельле прыйшлі? Што гэта за людзі? (*Глядзіць на чырвонаармейцаў і сьмяецца.*) Не, гэтых я не баюся, яны ня злосныя (*падыходзіць і адным пальцам кратае штык; потым адбягае, садзіцца каля Андрэя, ўе вянок, прымервае на галаву і пяе: «Ці вы мяне на пасад вядзеце, ці вы майго татачку знайдзеце»*).

Чырвонаарм. Теперь мне все понятно. Бедняжка! Товарищи! вы видите перед собой угасших преждевременно

несколько молодых жизней от руки насильников и эту помешавшуюся девушку. Так разве мы не дадим над этими дорогими нам трупами торжественной клятвы отомстить извергам человечества за все это?!

У с е. Месть! Месть! Адмсьцім! Адмсьцім! Хай жыве чырвоны сьцяг! Хай жыве Чырвоная Армія і ўсе, хто трымае гэты сьцяг у руках!

(*З голымі галовамі пяюць*: «*Вы жертвою пали в борьбе роковой...*» *Надзея выцягвае галаву, пільна слухае, потым, ціха сьмяючыся, пляскае ў ладкі*).

ЗАСЛОНА ЦІХА АПУСКАЕЦЦА.

**Васіль Гарбацэвіч.**

**Увагі аўтора.**

1) Было-б надта добра, каб палякі гаварылі папольску. Ня зроблена гэта затым, што сам я нямоцны ў польскай мове.

2) Песьня „А ў лесе, лесе ды на верасе...»—веснавая.

3) Песьня «Наляцела сівых галубоў поўны двор»—вясельная, пяецца звычайным вясельным матывам.

4) Песьня «Ой, знаці, знаці па вясельлейку...»—самая цікавая (аўторам далучаны да гэтай песьні ноты, але дзеля тэхнічных труднасьцяў яны тут ня зьмешчаны. *Рэд.*).

# Сьмелым крокам.

Сьмелым крокам ў змроках шару;
Языкі схавала
Сонца па абшару,
Дзень замкнула ноч-завала.

Рэзгіны сутоньня
Спавілі калыску ночы;
Толькі сьпеў адзін сірочы
Цягне лес спрассоньня.

Толькі неба сінім сітам
Змрокі падсявае,
Ды часамі хмурным плытам
Захад пазяхае.

Толькі жабы з крэктам невад
Валакуць ў балота,
Ды кідае тонь паўзьбераг
Вільгаці сівота.

Сьмелым крокам ў змроках шару
На курган на росны,
Дзе калыска ад цяжару
Апусьціла кросны.

**Лясун.**

24/IV-23 г.

* * *

Краса, краса! табе мой сьпеў!
Табе грыміць мой гымн пявучы,
Табе душы агонь бліскучы!
Краса, краса! табе мой сьпеў!
У небе зьяюць зораў кучы,
Між іх Сітцо і вечны Леў.
Краса, краса! табе мой сьпеў,
Табе грыміць мой гымн пявучы!

**Аркадзь Моркаўка.**

# Пара пісаць гісторыю рэволюцыі.

За намі астаецца болей шасьці гадоў вялікай рэволюцыйнай чыннасьці рабочых і сялян Савецкае Беларусі. Гэта надзвычайны гістарычны час у разьвіцьці працоўнага народу, у разьвіцьці яго політычнага, экономічнага і культурнага жыцьця. За гэтыя гады рэволюцыі разам з суседнімі краямі Беларусь перажыла столькі буйных соцыяльных парушэньняў, сколькі не налічвае яе ранейшая гісторыя працягам сотняў гадоў. Болей таго, у перажытай політычнай сытуацыі на долю Беларусі выпала перацярпець шмат гэткіх крутых зьмен і цяжкіх перыпэтыяў у бегу рэволюцыі, якіх ня бачылі другія Савецкія рэспублікі. Блізкасьць фронту імпэрыялістычнай вайны, нямецкая і польская окупацыі, напад белагвардзейшчыны і інш. — унясло ў гісторыю Беларусі багата асабістых, адпаведных яе гістарычнаму разьвіцьцю момантаў. Шматлікая лічба гэтых спэцыфічных здарэньняў з дзядзіны нацыянальна-культурнага і нацыянальна-політычнага руху заняла ў гэтых шасьцёх гадох мінуўшчыны ня меншую часьціну агульна-рэволюцыйнага разьвіцьця Беларусі. Моманты гэткага роду тым болей цікавы, што, першае—яны служылі ўступамі да сучаснага становішча політычна-соцыяльнага выгляду Савецкай Беларусі, а, другое—што яны (моманты) прайшлі засуцэленыя пэрыяды свайго ўласнага жыцьця і адыходзілі ўбок. А бяз гэтых момантаў зусім нельга высьвятліць твар перажытых стадыяў комуністычнага руху на Беларусі.

Пакуль яшчэ досыць шпарка йдзе далей рэволюцыйны рух. Дынамічнае становішча перабудовы падставін соцыяльнага ладу ня спыняецца. Уздымы й пераскокі непамерна вялікага значэньня адмячаюць і сучасны нам шлях рэволюцыі. Калі прыглядацца да іх у хвілі цеганіны, у тэрмін адбываньня іх, то яны як-бы выглядаюць малымі, нават, мала прыметнымі. А толькі адыходзяць узад, як зразу вырастаюць у вагромністыя фактары. Але, ня гледзячы на іх вагромністасьць і адпаведную значнасьць, гэтыя фактары зацямняюцца клапотамі і працаю надыходзячых зьявішч. Так што, часта-густа, трэці-чацьвёрты ў парадкавасьці гістарычны момант нашай чыннасьці хаваецца з вачэй, зьнікае, а яшчэ ранейшы зусім памірае. Тым болей гэта адносіцца да нашага потэнцыяльнага часу. Наступнае разьвіцьцё рэволюцыі, адцягае на сябе ўсю ўвагу, пхэе ўперад, кідае па хібах бурлячых хваль. У гэтых хвалях губяць сілу, а часта й жыцьцё, многія з тых плаўцоў, якія прыкладалі сілы і энэргію на разгойдваньне хваляў рэволюцыі. Адзначаныя прычыны могуць зрабіць тое, што многія гістарычнай важнасьці моманты ў бегу рэволюцыі прападуць для яе гісторыі. Бурлівы час рэволюцыйнае натугі адбываўся часта ў гэткіх умовах, калі ня было ніякае мажлівасьці запісаць і захаваць яго цікавыя здарэньні. Далей нязьмерна многа згінула каштоўных дакумэнтаў.

Але, ня гледзячы на гэта, пакуль яшчэ маецца шмат мажлівасьцяў многа што выратаваць. Гэтыя мажлівасьці, перш усяго, заключаюцца ў настойнай патрэбе пачаць запісы перажытага. Павінен пераканацца кожны з удзельнікаў тых ці іншых значных для гісторыі і разьвіцьця рэволюцыі і работніча-сялянскага вызваленскага руху здарэньняў у тым, што кожны замах яго рукі патрэбен для гісторыі. Кожны нарыс, выпушчаны з агляду адпаведнага моманту, калечыць пэласьць гісторыі. Адна забытая думка траціць сэнс і значнасьць доўга абдуманага пляну. Найболей, калі ня ўсе, з тых, хто прымаў удзел у гэткіх чыннасьцях, могуць аднавіць іх у памяці і запісаць. Могуць, бадай, усе, але ня ўсе, далёка ня ўсе, адзнаюць карыснасьць гэтага для нашых пасьлядоўцаў, для іх дасканалага азнаямленьня з вялізарным здарэньнем у соцыяльным жыцьці чалавецтва, чым ёсьць Вялікая Расійская Рэволюцыя. Гэтага, да шкоды, у нас, у Савецкай Беларусі, балюча і ўтратна не дастае. Праўда, скажуць, што для многіх могуць знайсьціся тыя ці іншыя прычыны, якія вымушаюць пакуль сьціскацца, для якіх знаныя імі здарэньні казлытны ці занадта здаюцца сьвежымі, а таму й няцікавымі. Гэта адносіцца да галіны спэцыфічна нацыянальна-політычнага боку рэволюцыі на Беларусі. Панашаму гэта не правідловы пагляд. Як мы ўжо адмячалі, многа момантаў гэтага роду адыйшлі ў гісторыю і яны ня могуць быць прыкрымі цяпер для нікога, бо зразумела кожнаму, што абставіны для іх навекі зьнішчаны. Для прыкладу возьмем хоць-бы гісторыю нямецкай окупацыі і політыку пры ёй беларускай рады, ці адносіны Бунду да ўстаноўчага збору і яго разгону, або вядомы Ўсебеларускі конгрэс у сьнежні 1917 году і яго роспуск і г. д. Адпаведных успамінаў у расійскай прэсе можна налічыць дзесяткамі (Колосов—«Былое»,—Майскі—«Красная Новь», Н. Суханаў—Расійская Рэволюцыя, асоб. выданьне і інш.).

Што-ж датыча здарэньняў, належачых да агульна-рэволюцыйнага характару, то тут пытаньне «щекотливости» зусім адпадае і ня мусіць нікога стрымліваць.

Болей таго, калі мы кранем тут пытаньні аднаўленьня для запісу ў гісторыю болей раньніх момантаў рэволюцыйнага руху на Беларусі, напрыклад, з часу заснаваньня Бунду або з часу народавольніцтва—то тут ня можа быць ніякіх думак і на цень прыкрасьці для таго, хто запісвае. Усё-ж яшчэ дагэтуль не пачата раскопка і ў гэткіх багатых аналах непарушных скарбаў. Ляжыць нярухомым сыры матар'ял, троху занесены на паперу, якая ці гіне ці, у лепшым выпадку, ляжыць у пуках, перавітай (або й не) шпагатам і схованай з вачэй падкага на гэта чытача, троху ў жывой памяці ўміраючых і ўносячых яе ад нас.

Калі мы паглядзім у бок варожага нам лягеру, у бок белагвардзейшчыны й контр-рэволюцыі, то мы ўбачым, як старанна і ўважліва вядзе яна запісы гісторыі свае чыннасьці. Няма ніводнага дзеяньня контр-рэволюцыйнай буржуазеі, каб яна не да дробкі поўна не занесла яго на старонкі гісторыі... вядома, у сваім ружовым асьвятленьні. За якія два з нямногім гады, з часу «вялікага ўцёку» белагвардзейшчыны з падпаленай агнём рэволюцыі, замучанай ёю Расіі, яна (белагвардзейшчына) запаланіла заграпічны кніжны рынак выданьнямі ўспамінаў розных вайсковых і грамадзянскіх правадыроў контр-рэволюцыі, пачынаючы ад Дэнікіна і канчаючы В. Чарновым. Канец самаўладзтва (Успаміны Родзянко), бунт і паўстаньне Карнілава (Гуль—Ледзяны паход), яго ўцёкі (Успаміны—гэн. Лукомскага), Рух Калчака, Дэнікіна (уласныя ўспаміны), Урангеля; наступ Юдэніча (запіскі Родзянко), інтэрвэнцыя, задушэньне юльскага паўстаньня бальшавікоў, наступ Керанскага на Пецярбург (запіскі Керанскага), бунт чэха-славакаў, яраслаўскі мяцеж (успаміны

Савінкава) і г. д. і г. д. Тоўстымі томамі асобных выданьняў, спэцыяльнымі зборнікамі (Архіў рэволюцыі), артыкуламі ў тоўстых і тонкіх часопісях («Современник», «Русская Мысль», «Русская Воля»). І няма сутрыманьня ў далейшым пісаньні й друкаваньні, у падрабязным вызнаньні.

Праўда, з леташняга году, з часу пастановы комуністычнай партыі закласьці цэнтральны «Істпарт», у цэнтры й на мясцох зьвернута ўвага на выданьне зборнікаў і аб гісторыі партыі, а побач, пэўна, і гісторыі рэволюцыі. Дзякуючы гэтаму ў Маскве і ў Пецярбурзе выдаюцца месячнікі ці двухмесячнікі: у Маскве—«Пролетарская Революция» (14 л.), у Пецярбурзе—«Красная Летопись». Апрача гэтага, выдана асобнымі назвамі да 30 выданьняў. Дзе-ня дзе (як Харкаў, Саратаў, Вітабск) таксама выпушчаны (у Харкаве выпушчаецца пэрыадычна) адзінкавыя зборнікі, але ўсяго гэтага так мала, што і ў тысячнай долі ім нельга вычарпаць таго, што выявіла сабою расійская рэволюцыя. Аднак і гэта многа, многа лепш, як нічога не зрабіць!

У нас, у Беларусі, бадай, нічога яшчэ ня зроблена ў гэтым кірунку. Усе напластаваньні рознагалінага рэволюцыйнага рабочага руху амаль не закрануты апісаньнем, калі ня лічыць некаторых спробаў, складаючых некалькі, зьмешчаных у «Былое» (Заслаўскі) і ў «Красная Летопись» (Бухбіндер), артыкулаў. Ды то адмечаныя аўторы кратаюць у сваіх артыкулах двухтрох момантаў работнічага руху на Беларусі да 1917 году. З гэтага часу, бадай, не напісана ніводнае абстойнае (грунтоўнае) працы, успаміну ці абгляду з так багатай рэволюцыйнай чыннасьцю Беларусі. Ці пішацца кім што зараз—ня чутно. На шкоду ня ладзіцца пакуль і з арганізацыяй «Істпарта» Беларусі.

Дакуль-жа чакаць? Час не дазваляе адкладваць. Трэба брацца за пісаньне гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі! Ужо й так мы адсталі ад другіх на вельмі многа і ня рупіцца нагнаць—шкодна для самае справы рэволюцыі і для яе пазнаньня. «Хто не знаём з мінулым—ня варты сучаснага».

Дык будзем-жа выносіць на сьвет рэволюцыйны поступ мінулых дзён, каб можна было на чым пазнаваць.

**З. Жылуновіч.**

# Сявец марксызму.

30 мая гэтага году прайшло 5 гадоў з таго дня, як адыйшоў ад жыцьця бацька расійскага марксызму—Юры Валянтынавіч Пляханаў.

Пляханаў—адна з найясьнейшых галоў расійскага соцыялізму, адна з самых выдатных фігур у гісторыі міжнароднага рабочага руху. І ўсё ж такі аб Пляханаве ў шырокіх народных масах ведаюць мала, вельмі мала. Пяцёхгадовыя памінкі па Пляханаве хай будуць лішнім повадам, які дасьць нам магчымасьць падзяліцца з чытачом «Полымя» — беларускім рабочым, селянінам, інтэлігэнтам—хоць-бы кароткімі весткамі аб вялікім мысьліцелі і сталым волаце за рабочую справу, які сорак гадоў працаваў, як той араты, марксавым плугам.

Пляханаў радзіўся ў часы Севастопальскай кампаніі — 26 лістапада 1856 году ў маёнтку Гудалаўцы Ліпецкага павету Тамбоўскай губэрні. Яго бацька—дробны шляхціц, адстаўны афіцэр, чалавек цяжкага характару, з вялікім бзікам; матка—ціхая й гуманная кабета, пляменьніца гэніяльнага крытыка Бялінскага.

Пляханаў атрымаў звычайнае для дробнашляхецкай сям'і выхаваньне. Аднак, яшчэ дзіцём ён выяўляў некаторыя асаблівыя рысы свайго характару: так, напрыклад, ён заўсёды чужаўся дзяцей свайго кола—барчукоў і ўвесь час праводзіў на задным падворку з дзяцьмі крапасных, з якімі ён цесна здружыўся.

Дзесяцёхгадовым хлапцом ён паступіў у Варонежскую ваенную гімназыю, дзе добра вучыўся й якую дасканала скончыў. Тая прыхільнасьць да народу, якую выявіў Пляханаў дзіцём, у гімназыі ня толькі ня згінула, але, наадварот, узмацнілася. Вось характэрны ў гэтых адносінах выпадак. Посьле сьмерці старога Пляханава, жонка яго пастанавіла прадаць маёнтак. Зьбіраліся маёнтак гэты купіць сяляне, але раптам зьявіўся нейкі кулак-купец, запрапанаваў вялізную цану, і матка Ю. В. пастанавіла прадаць маёнтак купцу. Калі аб гэтым даведаўся Юры, ён прыйшоў да маткі і горача заявіў ёй, што не дазволіць, каб бацькаўскі маёнтак папаў у рукі купца. «Калі прадасьцё кулаку», сказаў ён, «то я спалю першае жніво і сам пайду на катаргу. Выбірайце!» Зямля дасталася сялянам.

Скончыўшы гімназыю, Пляханаў выехаў у Пецярбург, дзе паступіў спачатку у Канстантынаўскае Інжынернае вучылішча, а потым перайшоў у Горны Інстытут. Будучы студэнтам-гарняком, Пляханаў уваходзіць у сувязь з перадавымі рабочымі пецярбурскіх фабрык і паступова ўваходзіць у рэволюцыйную працу.

Калі сярод піцерскіх рэволюцыйных рабочых паўстала думка арганізаваць рабочую проціўурадавую дэмонстрацыю, Пляханаў з захапленьнем аддаўся ажыцьцяўленьню гэтай думкі. У рэзультаце й адбылася 6 сьнежня

1876 году славутная дэманстрацыя пры Казанскім саборы, калі пад разгорнутым чырвоным сьцягам з надпісам „Зямля і воля“. Пляханаў вымавіў поўную рэвалюцыйнага жару і захапленьня прамову. Толькі была скончана прамова, як дэманстрантаў акружыла паліцыя, і толькі шчасьлівы выпадак збавіў Ю. В. ад паліцэйскай расправы. Арыштаваныя дэманстранты цяжка расплаціліся за сваю дэманстрацыю. Але Казанская дэманстрацыя, якая зьявілася поўхам паліцэйскаму рэжыму ў яго, здавалася-б, няпрыступнай фартэцы, зрабіла вялізнае ўражаньне на шырокія масы Расіі.

Пасьля Казанскай дэманстрацыі Пляханаў цалкам аддаецца рэвалюцыйнай працы і ў хуткім часе робіцца адным з самых дзейных сяброў таварыства „Зямля і Воля“.

У канцы 70-х гадоў, як вядома, рух народнікаў перажываў цяжкі крызыс. Пад уплывам знадворных няўдач і паліцэйскіх рэпрэсый сярод народнікаў пачала пашырацца думка, што трэба адмовіцца ад шырокай масавай агітацыі і „ад хаджэньня ў народ“, што рэволюцыянэрам трэба пайсьці па шляху тэррорыстычнай барацьбы з урадам.

Думка аб адпоры ўраду ўзброенай рукой паасобных пэрсон спаткала ў асобе Пляханава пераканананага праціўніка, які лічыў, што рэволюцыя можа перамагчы толькі шляхам агітацыі сярод мас і іхняй арганізацыі І вось, калі ў 1879 годзе сабраны ў Варонежы зьезд «Зямлі і Волі» пастанавіў пайсьці па тэррорыстычнаму шляху, Пляханаў выйшаў з партыі і разам з сваімі сябрамі па думцы з'арганізаваў самастойную групу пад назвай «Чорны перадзел». Тыя-ж землявольцы, якія засталіся ў партыі і стаялі на пункце погляду Варонежскага зьезду, пачалі называць сваю групу «Народнай Воляй».

Як вядома, пасьля забойства Аляксандра II «Народная Воля» была разбурана. Ня лепшая, аднак, доля выпала і на „Чорны перадзел“. У студзені 1880 году была арыштавана друкарня «Чорнага перадзелу», і ў рукі паліцыі папаў сьпісак з прозьвішчамі сяброў організацыі.

Ратуючыся ад катаргі, Пляханаву прыйшлося ўцякчы заграніцу.

Заграніцай, будучы адарваным ад практычнай працы, Пляханаў заняўся тэорыяй навуковага соцыялізму. Ён пастанавіў праверыць, наколькі навуковы соцыялізм падтрымлівае вучэньне народнікаў. У рэзультаце вялікай зробленай ім працы і знаёмства з марксыцкай літаратурай, Пляханаў прыйшоў да цьвёрдага пераконаньня, што тэорыя народнікаў у цэлым радзе пунктаў—памылковая. Галоўнай і асноўнай з гэтых памылак была вера ў тое, што Расія робіць нейкі ўласны, асобны, самабытны гістарычны шлях, іншы, чымся шлях народаў Заходняй Эўропы. Народнікі верылі ў тое, што Расія, дзякуючы захаванай у ёй сялянскай суполцы-грамадзе («община»), патрапіць беспасрэдна перайсьці да соцыялізму, ня ведаючы капіталізму. Народнікі верылі ў тое, што галоўным ядром рэволюцыйнага пачатку ў Расіі зьяўляецца селянін, а што рабочы, дзякуючы адсутнасьці ў Расіі капіталізму, ня можа мець ніякага ўплыву на лёсы рэволюцыі.

Вывучэньне марксызму давяло Пляханава да зусім адваротных вывадаў. Ён прыйшоў да перакананьня, што капіталізм ня міnue Расіі і што капіталізм утворыць у Расіі тую клясу, якая зьнішчыць увесь стары парадак, г. ё. пролетарыят.

Посьле надта вострага і балючага крызысу Пляханаў афіцыйна парваў з народнікамі і ў 1883 годзе пры яго блізкім удзеле ўтварылася першая марксыцкая соцыял-дэмократычная група «Звальненьне Працы». Першымі крокамі новай групы зьявіліся брошуры Пляханава «Соцыялізм і палітычнае змаганьне», «Нашы рознагалосьсі». Абодвы гэтыя творы зрабілі вялікі ўплыў на разьвіцьцё соцыялізму ў Расіі: яны далучылі яго да марк-

сызму. У гэтых выдатных творах Пляханаў выказаў тую думку, якую ён у будучыне (у 1889 годзе) на Парыскім конгрэсе Інтэрнацыяналу формуляваў сваімі вядомымі словамі:

— «Рэволюцыйная справа ў Расіі пераможа, як справа рабочай клясы, або яна ніколі не пераможа.»

Патрэбна было шмат гадоў, якія прывялі да перамогі Вялікай Расійскай Рэволюцыі, каб Пляханаў, вярнуўшыся ў Расію, меў права сказаць:

— Мая вера ў расійскі пролетарыят аказалася ня ўтопіяй, а рэчавістасьцю. Кожны раз, калі мне гаварылі аб утопіі, я казаў сваім супрацоўнікам: нашы ідэалы, наша ўтопія—гэта рэчавістасьць заўтрашняга дню. І вось гэты заўтрашні дзень стаў сёньнешнім днём.—

Пляханаў на працягу дзесяцёхлецьцяў быў неўгамаваным і палкім абаронцам рэволюцыйнага марксызму ад покусаў на яго з боку шматлікавых ворагаў, у якія-б вопраткі гэтыя апошнія ня ўбіраліся і якімі б лёзунгамі яны не прыкрываліся.

Калі група расійскіх, так званых суб'ектыўных, соцыолёгаў выступіла ў дзевяностых гадох проці гістарычнага матар'ялізму і навалілася на яго за „сухасьць“ і «аднабокасьць» Марксавай тэорыі, то Пляханаў адказаў ім сваёй славутнай кнігай „Да пытаньня аб разьвіцьці моністычнага пагляду на гісторыю». Кніга гэтая давала яркае асьвятленьне Марксавай тэорыі, якая дагэтуль прадстаўлялася расійскаму чытачу ў вельмі скажаным выглядзе. Яна мела выключны ўплыў на розумы і ў высокай меры дапамагла распаўсюджаньню ідэй марксызму ў Расіі.

Блізка ў той самы час, калі Пляханаў змагаўся з суб'ектыўна-соцыолёгічнай школай, яму прыйшлося накіраваць свае стрэлы ў новага ворага. Гэтым ворагам быў так званы „рэвізыонізм“. У дзевяностых гадох у нямецкай соцыял-дэмократыі абазначыўся рух, выбраўшы сабе мэту «праверыць» Марксава вучэньне і зваліць яго ад тых памылак, якія, нібы-та, туды папалі. Пачатая гэтай групай «рэвізыя» марксызму давяла да замены рэволюцыйнай сутнасьці марксызму рэформавымі плянамі і да падмены клясавай барацьбы ідэяй аб паступовай зьмене капіталістычнага грамадзянства. Правадыром рэвізыонізму выступіў вядомы нямецкі соцыял-дэмократы Эдуард Бэрнштэйн.

Пляханаў быў ня толькі ў расійскай, але і ў міжнароднай соцыял-дэмократыі першым з марксыстых, які зганіў «рэвізыю» Бэрнштэйна, як рэнэгацтва ад марксызму, і які выступіў на самае бязьлітаснае змаганьне з гэтым рэнэгацтвам.

Пляханаў зьяўляецца тым правадыром-ідэолёгам, якога высунула ў Расіі паўстаўшая рабочая кляса. Ю. В. быў «пачынаючым» навуковага соцыялізму ў Расіі, і ў той самы час першым „заходнікам“ у гісторыі расійскага рэволюцыйнага руху. Разумеецца, калі-б ня было Пляханава або калі-б ён васемнаццацёхгадовым хлапцом быў павешаны дзе-небудзь у Шлісельбурскай крэпасьці, дык наш рабочы рух усёроўна далучыўся-б да марксызму, уліўся-б у супольны струмень міжнароднага рабочага руху. Значэньне Пляханава ў тым, што ён *першы* знайшоў у расійскім грамадзянстве тыя прадпасылкі, якія высоўвалі рабочую клясу Расіі на ролю кіраўніка рэволюцыйнага руху. Без пераўвялічаньня можна сказаць, што Пляханаў быў аднэй з цэнтральных фігур ня толькі расійскага, але й міжнароднага рабочага руху. Будучы нязьменным прадстаўніком расійскай соцыял-дэмократыі ў Інтэрнацыянале, прыймаючы ўдзел ва ўсіх яго конгрэсах, выступаючы на іх у якасьці дакладчыка па асноўных пытаньнях. Пляханаў быў адным з самых аўторытэтных і ўлюбёных правадыроў Інтэрнацыяналу.

Той вялізны аўторытэт, якім Пляханаў карыстаўся ня толькі сярод сваіх сяброў, але й нават сярод непрыяцеляў, зьяўляецца вынікам ня толькі выключнай і рознастайнай тэорэтычнай веды, але таксама й яго пэрсональнай вабнасьці, яго красамоўнага таленту, яго здольнасьці опонэнта. Ю. В. ніколі не аграмічваўся тым, што адбіваў варожую атаку на тую ці іншую пазыцыю навуковага соцыялізму, але заўсёды сам пераходзіў у наступ. Публічныя выступленьні Пляханава, яго манера прамовы, невычарпальны досьціп, пекнасьць формы,—усё гэта рабіла на слухачоў нявымоўнае ўражаньне, якое застагалася ў іх на доўгія гады.

Пасьля рэволюцыі Пляханаў вярнуўся ў Расію. Прыехаўшы ў Пецярбург, Пляханаў з асаблівай палкасьцю выступіў у абарону таго пагляду на вайну, які ён бараніў з самага яе пачатку. „Абарончаская" пазыцыя Пляханава, яго лёзунг «вайна да пабеднага канца» вызваў незадаваленьне ў масах і давёў да разрыву рабочай клясы з бацькам расійскага марксызму.

Пляханаў у сямнаццатым годзе перажыў вялікую трагэдыю ідэёвай адзіноты; трагэдыя гэтая была тым больш глыбокай, што яна адбывалася ў момант перамогі той справы, якой Пляханаў ахвяраваў усё сваё жыцьцё.

У канцы семнаццатага году ў Пляханава выявіўся стары тубэркулёзны працэс. Яго вывезьлі ў санаторыю. У той час, як гэрманскі імпэрыялізм накінуў свой аркан на шыю Савецкай Расіі, Пляханаў паміраў у санаторыі Тэркіярві—глухім кутку Фінляндыі, дзе спраўляў тады сваю крывавую оргію кат фінскіх рабочых—гэнарал Манэргэйм.

30 мая 1918 году Пляханаў памёр. Яго пахавалі 9-га чэрвеня ў Пецярбурзе на Воўкавых могілках.

Часовая, але вострая разьбежнасьць Пляханава з рэволюцыйнай рабочай клясай Расіі, у момант яе сьмяротнай бойкі з варожымі сіламі старога сьвету, ня можа засланіць ад расійскага пролетарыяту значна прыметны вобраз чалавека, які на працягу блізка паўсталецьця на ўсіх фронтах навукі й політыкі змагаўся за рабочую справу.

Рабочая кляса першай у сьвеце Рабоча-Сялянскай Рэспублікі патрапіць шанаваць і любіць сваіх правадыроў. Сярод іх адзін з першых—Юры Валянтынавіч Пляханаў. Пецярбурскі пролетарыят у асобе Пецярбурскага Губ. Выкан. Камітэту нядаўна пабудаваў Пляханаву помнік на Воўкавых могілках. Але існуе яшчэ адзін помнік, які наш пролетарыят будуе Пляханаву. Гэты помнік — імкненьне ажыцьцёвіць тыя пачаткі рэволюцыйнага марксызму, якія першы у Расіі агаласіў Пляханаў. Сорак гадоў араў Пляханаў марксавым плугам. Яго праца ня згінула дарма. Савецкая рэспубліка пажне плады гэтай працы.

**С. Вольфсон.**

# Пытаньне беларускай культуры і шлях беларускай інтэлігэнцыі.

— А як-жа? Кім будзем звацца?
Як будзе вось гэта ды тое?

(*М. Чарот*, «Босыя на вогнішчы»)

Пытаньне аб разьвіцьці беларускай культуры, як у колькасным, так і якасным стасунках, зьяўляецца вельмі важным чарговым пытаньнем сучаснага культурна-пролетарскага будаўніцтва ў Савецкай Беларусі, што з поўнаю яснасьцю паказала разважаньне па нацыянальнаму пытаньню на XII беларускай конфэрэнцыі комуністычнай партыі.

У рэзолюцыі, якая прынята конфэрэнцыяй па гэтаму пытаньню, прызнаецца, што «комуністычная партыя ў поўнай згоднасьці з сваёй праграмай павінна ў адносінах да нацыянальнага пытаньня прыняць усе меры аб наладжываньні работы ў беларускай мове, утвараючы нормальныя ўмовы для разьвіцьця беларускай культуры».

Адмячаючы, з аднаго боку, перавагу ў некаторых культурна-асьветных установах дробна-буржуазных, нацыяналістычна настроеных элемэнтаў, а з другога боку—няпрыхільныя адносіны да беларускай культурнай проблемы некаторых партыйных таварышоў, якія, выходзячы з няправільнага разуменьня або з суб'ектыўных паглядаў на нацыянальную культуру, прыўмяншаюць значэньне нацыянальных асаблівасьцяў насельніцтва Беларусі і, нават, вымагаюць на спыненьні якой-небудзь працы ў мясцовых мовах, конфэрэнцыя ставіць пытаньне аб неабходнасьці разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры ў катэгорычнай форме і прызнае кіраўніцтва працы ў гэтай вобласьці неадложнай задачай партыі.

Такім спосабам у сакавіку г. году комуністычная партыя Беларусі, як найбольш моцная ўнутрана-ідэйна і найбольш організаваная знадворна політычна-грамадзянская група, ясна, выразна і рашуча выказалася па беларускаму нацыянальнаму пытаньню і азначыла свой шлях у гэтым напрамку.

Пастаноўка беларускага нацыянальна-культурнага пытаньня на конфэрэнцыі комуністычнай партыі зусім зразумела, калі прыняць пад увагу, што беларуская культурная праца ў першыя гады рэволюцыі праходзіла большаю часткаю без непасрэднага ўдзелу з боку партыйных элемэнтаў, а між тым з працягам часу жыцьцё відавочна [паказала і пяпер зусім ясна,

што пытаньне разьвіцьця беларускай культуры мае асабліва важнае значэньне ў справе агульнай і комуністычнай культуры беларускага пролетарыя і селяніна.

Магчыма спадзявацца, што цяпер пры дапамозе з боку партыі праца ў вобласьці беларускай культуры будзе разьвівацца з большым посьпехам і пры больш нормальных умовах, чымся то было да гэтага часу.

Беларусам-культурнікам трэба прывітаць пастанову партыйнай конфэрэнцыі па беларускаму нацыянальна-культурнаму пытаньню.

Але для практычнага разьвязаньня беларускай нацыянальна-культурнай проблемы вельмі важна азначыць адносіны да яе з боку культурных слаёў беларускага грамадзянства.

Пытаньні разьвіцьця культуры ёсьць пытаньнямі культурнага парадку і могуць быць разьвязанымі толькі пры актыўным удзеле з боку мысьлячай грамадзянскай групы,—тэй самай групы, якая павінна быць дзейнай у сфэры разумовага жыцьця, і прызначэньнем якой зьяўляецца асмысьліваньне зьяваў рэчавістасьці.

Гэтая група звычайна называецца *інтэлігэнцыяй*.

Такім спосабам, магчыма паставіць пытаньне аб адносінах да беларускай нацыянальна-культурнай проблемы з боку сучаснай беларускай інтэлігэнцыі.

Кажучы некалькі іншымі словамі, мы можам формуляваць гэтае пытаньне такім спосабам: *якая* можа існаваць цяпер у Савецкай Беларусі інтэлігэнцыя, як група культурнікаў, *які шлях* адчыняецца перад ёй у яе дзеяльнасьці?

Для асьвятленьня пастаўленага пытаньня трэба заўважыць, што *інтэлігэнцыя тэй ці іншай эпохі зьяўляецца простым адбіткам суадносінаў экономічна-соцыяльных і політычных фактараў*, рэальнаданых у гэту эпоху.

Кожная эпоха і кожная кіруючая грамадзянская кляса мае сваю інтэлігэнцыю, якая разьвіваецца роўналежна разьвіцьцю сваёй клясы і зьнікае адначасна з яе заняпадам. Клясавымі інтарэсамі азначаецца і ідэолёгія і чыннасьць тэй ці іншай інтэлігэнцыі.

Гэта—агульнае правіла. Канечна, з яго бываюць і выключэньні: некаторыя найбольш выдатныя інтэлігэнцкія адзінкі, асабліва ў пераходную эпоху, чуцьцём узгадваюць заняпад сваёй клясы і прылучаюцца да іншай клясавай ідэолёгіі, але выключэньні, як вядома, пацьвярджаюць правілы.

І вось, калі падыходзіць з гэтага пагляду да інтэлігэнцыі, якая існавала ў Беларусі у дарэволюцыйныя гады, то, у згоднасьці з будоўляй клясаў і суадносінамі клясавых сіл і клясавых інтарэсаў у беларускім грамадзянстве дарэволюцыйнага часу, прад намі выразна адрозьніваюцца тры галоўныя інтэлігэнцкія групы з асаблівай клясава-соцыяльнай ідэолёгіяй. Клясавымі інтарэсамі гэтых груп азначаюцца і іх адносіны да беларускай культуры, да пытаньня аб адраджэньні гэтай культуры.

Першая група—расійская дваранска-урадна-консэрватыўная. Да яе далучаліся агулам ці наежджае—расійскае ці «тутэйшае» зрусіфікаванае беларускае грамадзянства, якое знаходзілася на дзяржаўных пасадах. Гэта—патрыётычная група, досыць начыненая «истинно-русским» душком. Згодна з клясавымі інтарэсамі дваранства, ідэалам «истинно-русской» інтэлігэнцыі зьяўлялася маскоўская культура часу красаваньня б. дваранска-царскай Расійскай імпэрыі, і ўжо подлуг прынцыпу «вялікадзяржаўнасьці» гэтыя «інтэлігэнты» з поўнаю няпрыхільнасьцю адносіліся да беларускай культуры. У часткавасьці, становішча менскіх чорнасоценных інтэлігэнцкіх кругоў выразна азначаецца полемікай проціў беларускага руху ў афіцыйных органах

друку дарэволюцыйнага часу і афіцыйнымі дакладамі на гэту тэму ў родзе напрыклад, дакладу Скрынчанкі аб беларускай мове з адмовай, нават, існаваньня такой мовы (!).

У рэволюцыйную эпоху паказаная інтэлігэнцкая група зьнікла ўжо ў пэрыяд лютаўскай рэволюцыі, што зразумела само сабой. Цяпер «истиннорусские» інтэлігэнты мінулага часу—запраўдна «быўшыя людзі», ня маючыя ніякай будучыны. Абнішчаўшыя матар'яльна і згубіўшыя ўсё ў рэволюцыю, яны поўнаю душою ненавідзяць і Савецкі парадак, і Беларускую культуру, але ня маюць магчымасьці зьвярнуць ход гістарычнага процэсу і ў грамадзянска-політычных адносінах прадстаўляюць сабой зусім «струпянелую» масу.

„Ворагі свабоды шэпчуцца паціху,
Чуюць, што надходзіць іх апошні дзень...
Страшна ў дзень расплаты: моляцца бяз дыху
І снуюць між намі, нібы мёртвых цень...

Другая дарэволюцыйная інтэлігэнцкая група ў Беларусі—так сама, як і першая, расійская, але буржуазна-лібэральная па свайму складу і ідэолёгіі. Гэта—група расійскіх і часткова беларускіх зрусіфікаваных дзеячоў, больш зьвязаных з гандлёва-прамысловымі кругамі, а таксама нязначная ў колькасным стасунку група мясцовай жыдоўскай інтэлігэнцыі: некаторыя доктары, юрыстыя, больш-менш сьвядомыя настаўнікі сярэдняй школы і інш. Тут быў ясна прыметным кадэцка-эсэраўска-меншавіцкі настрой. Як буржуазная па свайму складу або цягнуўшая к буржуазіі, гэта група па сваім культурным імкненьням і сымпатыям не магла быць якой-небудзь іншай, як не расійскай, і аднолькава з чорнасоценнай групай няпрыхільна адносілася да беларускай мовы й беларускай культуры: імпэрыялістычная па сваёй істоце буржуазія ня можа спагадаць разьвіцьцю дробна-нацыянальных культур. З гэтай самай групы ў пэрыяды нямецкай і польскай окупацый Меншчыны і выходзілі застрэльшчыкі проціў беларускай мовы й беларускай культуры. Незадарэмна ў час польскай окупацыі старшыня б. Менскай Земскай управы, потым дырэктар *Савецкага* Беларускага Політэхнікуму, цяпер знаходзячыся ў Туркестане эс-эр М. К. Ярашэвіч, *прывітаючы пана Пілсудзкага*, разам з тым робіць выступленьне проціў беларускай мовы. Для расійскай буржуазіі, нават, польская імпэрыялістычная культура аказваецца куды больш жаданай, чымся сялянская культура беларуская. Паміж дваранскай і буржуазнай ідэолёгіяй аказваецца блізкая чорнасоценная роднасьць.

У час лютаўскай рэволюцыі, калі буржуазія зьявілася кіруючай грамадзянскай клясай, і ў політычным жыцьці атрымалі перавагу эс-эры і меншавікі, калі лібэральна-буржуазная інтэлігэнцыя ў Беларусі, як і агулам у б. «керанскай» Расіі, гатовілася стаць кіруючай інтэлігэнцкай групай, тады, канечна, на доўгі час спынілася-бы нормальнае разьвіцьцё беларускай культуры.

Але пролетарская рэволюцыя, якая зруйнавала буржуазію, як клясу, раскідала і буржуазна-лібэральную інтэлігэнцыю.

Вядома, нельга адмаўляць таго факту, што і цяпер, пасьля разгрому буржуазнай клясы, некаторыя буржуазна-лібэральныя інтэлігэнцкія адзінкі прадаўжаюць, як спэцы, іграць ролю ў тых ці іншых савецка-культурных установах, у часткова сьці, у вышэйшай школе, праводзячы тут паступова лінію супраціўленьня разьвіцьцю беларускай культуры, і, нават, аказваючы ўплыў на партыйныя элемэнты (здаецца, што буржуазна-лібэральным уплывам тлумачацца і няпрыхільныя адносіны да беларускай культуры з боку некаторых партыйных таварышоў, аб якіх гаворыцца ў рэзолюцыі

партыйнай конфэрэнцыі); нельга адмаўляць і таго, што буржуазная кляса яшчэ не разгромлена канчаткова, а новая экономічная політыка, як быццам, адчыніла некаторыя магчымасьці перад буржуазіяй дробнай; аднак барацьба процїў буржуазнага ладу да яго канчатковага зруйнаваньня зьяўляецца прынцыповым заданьнем пролетарскай клясы, ад якой ён ня можа адхіліцца пры ўсякіх умовах, і дзеля таго ніякія захады адзіночных буржуазных элемэнтаў спыніць поступ пролетарыяту ня могуць мець выдатнага значэньня.

Буржуазная інтэлігэнцыя ў сваёй масе цяпер, калі ня зусім струпянела, то па меншай меры знаходзіцца ў становішчы паступовага паралюшу.

Трэцяя інтэлігэнцкая група ў дарэволюцыйнай Беларусі гэта—польская інтэлігэнцкая група—часткова фэодальна-панская, часткова буржуазная па свайму складу, але аднолькова польская па вобліку і польская па культурным спагаданьням. Ідэалам гэтай групы зьяўлялася польская культура часу красаваньня Рэчы Паспалітай. Як пераважна арыстократычна-панская, польская інтэлігэнцыя, як агульнае правіла, трымалася няпрыхільных адносінаў да беларускай культуры—культуры „хлопскай“ і ў значнай меры «ўсходняй».

У час белапольскай окупацыі Беларусі ў 1919—1920 гг. польская інтэлігэнцыя стала йграць значэньне кіруючай грамадзянскай групы, але ў гэты час якраз і выявіўся яе праўдзівы кірунак у беларуска-нацыянальна-культурным пытаньні. Хоць белапольская окупацыйная ўлада і прымушана была прызнаць беларускую мову, як дзяржаўную, і лічыцца з беларускім культурным рухам, але польская інтэлігэнцыя ўпарта трымалася тактыкі супраціўленьня гэтаму руху і йшла па сьцежкам расійскіх чорнасоценных інтэлігэнтаў. І незадарэмна, што ледзь ня першым застрэльшчыкам процїў дзеячоў беларускага руху ў час окупацыі зьявіўся выдатнейшы прадстаўнік польскай інтэлігэнцыі школьны інспэктар Краус.

Панаваньне польскай інтэлігэнцкай групы ўва Ўсходняй Беларусі было зусім кароткачасным...

Паны заграніцу
Давай бог ногі...
Гром... навальніца...
Босым дарогу...
Паўцякалі? Ну, так што-ж!

Так было ў ліпні 1920 году... Цяпер у Ўсходняй Савецкай Беларусі няма, нават, рэшты польскай фэодальна-буржуазнай інтэлігэнцыі, як няма і польскіх паноў.

· Паном даволі служыць...

Цяпер паны гаспадараць у Заходняй Беларусі і там вядуць барацьбу з беларускімі культурнымі дзеячамі і ўстановамі. Але блізкі, здаецца, той час, калі сама сабою струпянее і польская панска-буржуазная інтэлігэнцыя. Тады, бязумоўна, народзіцца пролетарская польская інтэлігэнцыя, якая іншым спосабам азначыць свае адносіны да культур нацыянальных меншасьцяў; аднак пакуль што такой інтэлігэнцыі не нарадзілася, нават, у Савецкай Беларусі, дзе маюцца толькі адзінкі польскія пролетары-інтэлігэнты.

Адмечаныя тры інтэлігэнцкія групы дарэволюцыйнага часу, як магчыма азначыць, характарызуюцца адмоўнымі адносінамі да беларускай культуры і ў ніякім разе ня могуць быць прызнаны беларускімі або, нават, проста спагаднымі да Беларусі.

Ня дзіва, што пры такім настроі кіруючых інтэлігэнцкіх груп квола разьвівалася або зусім не разьвівалася дарэволюцыйнага часу беларуская культура—культура селяніна.

Але ў глыбі народнай гушчы,
Ў адвечнай дзебрыне наўкруг,
Пацiхай рос валод магушчы,
Паўстанцкі ў ёй ўздымаўся дух.

Цяпер мы проста падыходзім да пытаньня аб беларускай інтэлігэнцыі.

Да рэволюцыі 1905 г. нельга прымеціць істнаваньня ў Беларусі ўласна беларускай інтэлігэнцыі. Тады былі толькі адзіночкі беларусы-інтэлігэнты, як, напр., Ф. Багушэвіч, Ян Няслухоўскі і інш.—выхадцы з розных грамадзянскіх станаў. Пасьля рэволюцыі 1905 г. першы раз беларусы выступаюць як організаваная грамадзянская група, маючая культурныя заданьні і інтэлігэнцкі воблік. Гурток „Нашае Нівы" можна прызнаць першым гуртком беларускіх інтэлігэнтаў. Але рэакцыя 1907—1914 гг. спыніла разьвіцьцё беларускага руху, і аж да рэволюцыі 1917 г. беларуская інтэлігэнцкая група заставалася вельмі нямногалікавай па свайму складу й ня мела выдатнага значэньня.

Рэволюцыя 1917 г. дала магчымасьць беларускім дзеячом ужо з лютага выйсьці з падпольля або вярнуцца з Сыбіры, а ад часу пролетарскай рэволюцыі, з кастрычніка, адчыніўся поўны прастор для беларускай культурнай працы.

Дзе быў пустыр, дзе быў палын,
Дзе ветры сіверу стагналі;
І шыр прывольную раўнін
Туманам змрокі адзявалі;
Дзе енк цяжарнае жальбы
Народу зьнішчанага чуўся—
Ў агні вялікай барацьбы
Ўстаў край—Савецкай Беларусі.

(*Ц. Гартны*)

У Беларусі толькі й можа істнаваць і разьвівацца беларуская інтэлігэнцыя, *толькі* цяпер *яна й мае будучыну*.

Аб беларускай—неврусіфікаванай і няспольшчанай інтэлігэнцыі, а запраўдна беларускай—і можа быць мова, калі ставіцца пытаньне аб разьвіцьці беларускай культуры.

Якая-ж будучына стаіць перад гэтай інтэлігэнцыяй, па якому яна пойдзе шляху?

Прадпасылкі для азначэньня будучыны дзеячоў беларускай культуры даны ў мінулым—у фактах узьнікненьня беларускага нацыянальнага руху.

Да гэтага руху можна падыходзіць з розных пунктаў пагляду.

Напр., гр. Ф. Турук у сваёй кніжцы «Белорусское движение» разглядае беларускі рух па схэме: спачатку інтэлігэнцыя, потым сялянская маса. Для яго ва ўсім беларускім руху аж да 1906 г., падасновай гэтага руху зьяўляецца інтэлігэнцыя, гуртаваўшаяся галоўным чынам каля „Беларускай Сацыялістычнай Грамады". «К концу 1906 г.» , зацьвярджае гр. Ф. Турук, «Б. С. Г. становится не только «застенковой» интеллигентской организацией, но и крестьянской: к ней постепенно примыкают и рабочие (минская и виленская рабочие организации) и чисто народная деревенская интеллигенция, народившаяся за эти годы» (стр. 15).

Трэба заўважыць, што такая трафарэтная схэма прымячаецца ня толькі ў Турука, але ў некаторых іншых асоб, якія пісалі аб нацыянальна-культурным руху беларускага народу.

Наколькі правільна з марксыцкай мэтодолёгіі падыходзіць «патурукаўску» да разгляду ўзьнікненьня нацыянальнага руху, аб гэтым магчыма

вясьці асабістую размову, але ў адносінах да беларускага нацыянальнага ўздыму лічыць яго з пачатку толькі інтэлігэнцкім уздымам—проста памылкова.

Правільна падыходзіць да гэтага пытаньня с. Зьмітрок Жылуновіч у артыкуле «Два бакі беларускага руху». Ён асабліва адмячае ўдзел у гэтым руху з боку шырокіх працоўных кругоў у самым пачатку яго ўзьнікненьня. «Звычайна ў гісторыі іншых народаў, хоць бы латышоў і літоўцаў ці другіх, гэту сітуацыю выкарыстоўвалі не працоўныя гушчы, а інтэлігэнцыя, дробная буржуазія ды разначынцы. У беларусаў... атрымалася так, што нямінучы ў гісторыі кожнай нацыі *тэрмін нацыянальнага ўздыму паў на працоўныя слаі беларускага народу**). Гэта ў свой чарод прывяло да таго, што беларускі нацыянальна-культурны рух зьліўся з сацыялістычным рухам і сумесна з ім захапіў беларускую сялянскую й рамесьніцкую інтэлігэнцыю. Рэдкія адзінкі дробна-буржуазнай інтэлігэнцыі, якія прынялі ідэю адраджэньня беларускага народу, яго культуры, *ня гралі значнае ролі.* У 1905-1906 гг., калі бурліў вызваленчы рух, які прайшоў па ўсёй царскай Расіі, нязначны лік дробна-буржуазнай культурніцкай інтэлігэнцыі зусім растаў у грамадзе перадавой сялянскай і местачковай моладзі. Апошняя шырока захапілася нацыянальна-соцыялістычным рухам і паступова пачала падбіраць яго пад свой уплыў. Свае поэты, свае культурна-асьветныя гурткі, аматарска-тэатральныя таварыствы ясна сьведчылі за тое, што беларускі вызваленчы рух датыкае галоўным чынам самыя нізы і ў той самы час самую базу беларускага народу—сялянства й рамесьніцтва з сельскай інтэлігэнцыяй у асобе сельскага настаўніка, паштовага чыноўніка, лясьніка і інш.»

Такім спосабам, беларускі рух утварыўся на грунце ўздыму працоўнай грамадзянскай стыхіі.

Беларуская інтэлігэнцыя выйшла ад нізоў грамадзянства, з гушчы работніцка-сялянскай масы.

Іначай і быць не магло. Справа ў тым, што самы беларускі культурны рух стаў нарастаць і разьвівацца ў момант вялікага соцыяльна-рэвалюцыйнага руху—у той момант, калі стаў выступаць на гістарычнай сцэне, як актыўная сіла, чацьвёрты грамадзянскі стан—рабоча-сялянская маса.

Канечна, сьціслая клясыфікацыя грамадзянскіх клясаў і груп—ня што іншае, як чыста штучнае адцягненьне. У рэчавістасьці, заўсёды да тэй ці іншай грамадзянскай клясы далучаюцца чужыя наносныя элемэнты. Асаблівую магчымасьць адчыняе для гэтага далучэньня рэволюцыйная эпоха, калі ўсё грамадзянства выходзіць з раўнавагі і знаходзіцца ў стане кіпучага бушаваньня, калі няма яшчэ зусім выкрышталізаваўшыхся груп, а цэлыя грамадзянскія групы ці, нават, адзіночныя асобы ўхіляюцца выкарыстаць чужыя лёзунгі для дасяганьня сваіх уласных мэт. Так запраўдна і адбылося ў беларускім нацыянальным руху. Адгэтуль прылучаюцца да беларускага руху такія асобы, як «абшарнік Скірмунт, княгіня Радзівіл, гэнэрал Кандратовіч і да іх падобныя», адгэтуль і зьяўляюцца два бакі, два кірункі беларускага руху, аб якіх гаворыць с. Жылуновіч, адзначаючы іх, як кірункі пролетарскі і буржуазна-рэакцыйны.

Характарызуючы буржуазна-рэакцыйную ідэолёгію, с. Жылуновіч так азначае яе мэты: «праз беларускую культуру да беларускай буржуазна-белагвардзейскай дзяржаўнасьці, праз незалежнасьць Беларусі да прыгону над беларускім працаўніком і селянінам».

---

*) Курсіў мой. М. Б.

Да гэтага азначэньня магчыма далучыцца, толькі з некаторымі дадаткамі, у гэткай, прыблізна, формулёўцы: праз беларускую культуру да *расійскай* ці *польскай* буржуазна-белагвардзейскай дзяржаўнасьці, праз незалежнасьць Беларусі да прыгону над беларускім працаўнікам і селянінам *і над іх уласнай беларускай культурай.* Запраўдна: у Беларусі не магло быць *беларускай* буржуазна-белагвардзейскай дзяржаўнасьці, бо беларуская буржуазія была ці зрусіфікаванай ці спольшчанай, а што беларуская культура не магла быць мэтай буржуазна-рэакцыйнай групы, гэта з неабходнасьцю вынікае з факту супярэчнасьці клясавых інтарэсаў паміж буржуазіяй і працуючай клясай, бо для апошняй уласная культура зьяўляецца магутным сродкам у разьвіцьці клясавай самасьвядомасьці.

У час окупацый, калі йшла барацьба паміж буржуазнай белагвардзейшчынай і пролетарыятам, бывалі моманты, калі здавалася, што ўва Усходняй Беларусі атрымлівае перавагу буржуазная кляса, і тады ў беларускім руху выразна выступалі чужыя нізовай народнай стыхіі наносныя элемэнты.

Але гэтыя элемэнты павінны былі адыйсьці ад галоўнага русла беларускага руху.

Дарэмны ўсе стараньні ўпартыя й патугі
Зблудзіць той рух жывы на бляск абманны.

Сілаю неабходных законаў гістарычнага процэсу ў Савецкай Беларусі ў вялікай барацьбе за вызваленьне перамог рабоча-сялянскі пролетары.

Гэтым азначаецца і твар нараджаючайся беларускай інтэлігэнцыі. Яна павінна быць інтэлігэнцыяй рабоча-сялянскай. Інакш ня будзе й быць ня можа. Ніякая другая інтэлігэнцыя ня мае ў Савецкай Беларусі пад сабой рэальнага экономічна-соцыяльнага грунту.

Ядро гэтай інтэлігэнцыі—тыя беларусы культурнікі, поэты і пісьменьнікі, якія выйшлі з працуючай сялянска-рабочай гушчы. Да іх далучацца і ўжо далучаюцца маладыя беларускія культурныя сілы. У вышэйшых вучэбных установах Беларусі, у тэхнікумах, рабфаках утвараюцца новыя беларускія інтэлігэнты.

Ты моладзь сьмела і магутна,
Ты—волі лепшай будаўнік...
Ты на ўспамогу йдзеш грамадай
На зьмену тым барацьбітам,
Што век таміліся за кратай
І вольны сьвет здабылі нам.

Яснымі рысамі азначаецца і ідэйны настрой гэтай маладой беларускай ітэлігэнцыі—яе ідэёвая плятформа. Ц. Гартны кажа:

Мы выйшлі з гразкае смуроднае лагчыны,
Дзе нас жыцьцё мінулае трымала,
І з ног сваіх страсьлі яго мы парушыну,
Якой яно нам вочы засыпала.
Наш шлях вядзе да ясных мэтаў сьветлай волі,—
Туды, дзе ў гучным трукаце пярунаў
На зьмен пакоры й дзікіх гвалтаў заступае
Ўладар жыцьця—Ўсясьветная Камуна.
На бляск яе, на зоў, ад сну нас паўзьнімаўшы,
Мы йдзём няўпынннымі, як хвалі мора,
Ў ёй аднэй мы бачым Будучыну нашу,
Аб ёй аднэй няўмоўчна мы гаворым.

(„Па дарозе да будучыны“).

І М. Чарот чакае «прыходу сусьветнай восені» («Плывём к прыгожа-сьветлай далі»), а Александровіч А. «п'яны надзеяй магутна-багатай»:

Што на сьвеце працоўны люд будзе ўладар,
Што настане дзень гэтага сьвята.

(«Раніца»).

І да выхаду першага нумару «Полымя», дзе так ясна, так яскрава выявіўся сьветагляд беларускіх пролетарскіх поэтаў, праўдзівых правадыроў беларускай пролетарскай інтэлігэнцыі і запраўдных выразьнікаў яе настрояў і пачуцьцяў, тыя самыя ноты чуваць ва ўсёй пролетарскай літаратуры часоў рэволюцыі.

Вось чаму й беспартыйны поэта Я. Журба, склікаючы на вялікае змаганьне працуючыя масы ўсяго сьвету, піша яшчэ ў 1920 г.

Грыміце-ж, як буры, пяруны
На ўвесь сьвет, працоўныя струны!
Ўсясьветных рабочых склікайце
І сьвет з ланцугоў вызваляйце!

Ён выразна прызнае сябе „сябром камуны вялікай“.

Да гэтых слоў можа далучыцца кожны працоўны беларус — селянін і рабочы.

Беларуская рабоча-сялянская інтэлігэнцыя ня можа ня быць *інтэрнацыяналістычнай і комуністычнай* па свайму ідэёваму настрою, па сваім канчатковым мэтам. Тут паміж правадырамі комуністычнай партыі і прадстаўнікамі маладой беларускай інтэлігэнцыі ня істнуе розьніцы. Дзеля таго беларуская інтэлігэнцыя, як такая, і *ня можа быць нацыяналістычнай*, а ўсякія нацыяналістычныя элемэнты знаходзяцца ў супярэчнасьці з пролетарскім рабоча-сялянскім сьветаглядам.

Але гэта толькі адзін, праўда вельмі важны і істотны, але яшчэ ня вычэрпваючы справы бок проблемы.

З пролетарскай прыроды сучаснай беларускай інтэлігэнцыі, у згоднасьці з прынцыпамі комунізму, узьнікае вельмі важны вывад, датычны да лініі трыманьня беларускага пролетарыя-інтэлігэнта ў вырашэньні пытаньня нацыянальнай культуры.

Каб быць рабоча-сялянскай інтэлігэнцыяй, маладая беларуская інтэлігэнцыя павінна цьвёрда стаяць на грунце мясцовай беларускай рабоча-сялянскай культуры, павінна быць *нацыянальнай* у вышэйшым сэнсе гэтага слова. Ня будучы *нацыянальнай*, беларуская інтэлігэнцыя ня будзе рабоча-сялянскай, адхіліцца ад нізавой стыхіі грамадзянства і, як вынік, адхіліцца і ад інтэрнацыяналізму. Тут, у Беларусі, паміж нацыянальна-культурным рухам і рухам інтэрнацыянальна-палітычным — залежнасьць ўзаемна-простая.

Дзеля таго й мае асабліва важнае значэньне, каб беларуская інтэлігэнцыя і гаварыла і думала на сваёй рабоча-сялянскай мове. Запраўдна, немагчыма, к прымеру, і прадставіць сабе цяпер расійскага інтэлігэнта, які гаварыў-бы і думаў пафранцуску, як такая недарэчнасьць была ў XVIII і пачатку XIX в.

Вось чаму для беларуса-інтэлігэнта заўсёды захаваюць сваё значэньне залатыя словы Янкі Купалы:

Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сьне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай

Ты песень навучыла мяне.
Загнанае слова, ты, роднае слова!
Грымні-ж над радзімай зямлёй:
Што родная мова, хоць бедная мова,
Мілей над багатшай, чужой!

Дзеля таго й неабходна, каб беларус-інтэлігэнт цаніў сваю родную беларускую літаратуру, хоць і маленькую, як кажа «Антон Белорусс» у сваім выпадзе проціў беларускай школы (гл. папяр. № «Полымя», арт. «Беларуская школа, як фактар культуры беларускага пролетарыяту»),—маленькую ў параўнаньні з «вялікай» расійскай, але ўзрослую ледзь ня выключна на рабоча-сялянскай глебе і адбіваючай быт, кастроі й пачуцьці селяніна (уся «народніцкая» літаратура) і рабочага (Ц. Гартны, М. Чарот), чаго нельга казаць аб вялікай расійскай літаратуры—літаратуры, у сваёй пераважнай частцы, дваранскай і буржуазнай. Запраўдна, расійская літаратура ўсяго XIX ст. для сучаснага пролетарыя можа мець значэньне толькі як матар'-ял для гісторыі расійскай культуры, або з тэхнічнага боку, як выдатныя ўзоры прыгожага пісьменства. Канечна, нельга казаць таго самага аб такіх пісьменьніках, як Максім Горкі, творы каторага й павінны былі-б звароч-ваць на сябе галоўную ўвагу—чаго, аднак, няма—у сучаснай пролетарскай школе. Творы М. Горкага, як і беларуская літаратура, гэта—адзнака прабудзіўшайся нізовай народнай стыхіі. І ня дзіва, што калісь-та выдаваўшыся ў м. Капылі Слуцкага павету беларускі рукапісны журнал „Голас Нізу" атрымаў, згодна з паказаньнем Ф. Турука, «самую лестную аттестацию Максима Горького» (Белорусское движение, стр. 15).

Такім спосабам новая беларуская інтэлігэнцыя ня можа ня прыняць актыўнага ўдзелу ў працэсе ўтварэньня нацыянальнай культуры беларускай сялянска-рабочай клясы. Пытаньні нацыянальнай культуры павінны для яе стаяць у роўнай вышыні з пытаньнямі інтэрнацыянальнай будовы рабочай камуны.

Сказаным, здаецца мне, досыць выразна адзначаецца шлях і наймень-не маладой беларускай інтэлігэнцыі...

Гэта—ня «зьмена вех», а лёгічны вынік з яе клясавай прыроды й з фактараў беларускага руху.

Урэшце адно запытаньне: як-жа будзе з рэштамі інтэлігэнцкіх груп дарэволюцыйнага часу? Ці яны прымуць спагадны нахіл у адносінах да ўтварэньня новай беларускай рабоча-сялянскай культуры?

Тут можа быць мова толькі аб адзінках-інтэлігэнтах мінулага часу.

Прад найбольш жыцьцёвымі адзінкамі, якія ня струпянеюць са сваімі групамі, стаіць заданьне зрабіць дзьве «зьмены вехам». Як быццам «зьмена вех» у пролетарскім кірунку сярод найбольш жыцьцёвых адзінак цяпер і прыкмячаецца, але другая «зьмена»—у беларускім сялянска-рабочым кірунку зьяўляецца лёгічным вынікам з першай. Калі напісаць «і»—трэба дапісаць і кропку.

**М. Байкоў.**

М. Менск.
1923-V-18.

Л. І. АКСЭЛЬРОД (Ортодокс).

# Курс лекцый па гістарычным мат'ялізьме.

## ЛЕКЦЫЯ І.

## Ці магчымы гістарычныя законы.

н

Матар'ялістычнае разумень е гісторыі ёсьць вельмі складаны і нязвычайна шырокі сьветагляд. Пачынаецца ён з філёзофічных пасланак і заканчваецца прынцыпамі соцыяльна-палітычнай тактыкі. Такім чынам гэты сьветагляд абымае сабою і тэорыю і практыку. тэорытычныя прынцыпы гістарычнага разьвіцьця і прынцыпы волі і дзейнасьці грамадзкага чалавека. Ён, значыць, злучае ў сабе тлумачэньне дзейнасьці тэорытычнага й практычнага розуму. Зусім зразумела, што гэты сьветагляд ня можа быць разгледжан цалкам закончана й вычэрпваюча. Самым поўным і праўдзівым выкладам матар'ялістычнага погляду на гісторыю быў-бы крытычны агляд усёй гісторыі культуры, г. зн. усёй гістарычнай дзейнасьці чалавецтва з погляду гэтага сьветагляду. Гэткае заданьне ня можа быць асілена, нават, выдатным гэніем, тым больш не павінен за яго брацца звычайны чалавек. Гэтае заданьне выпаўняецца часткамі сусьветным марксізмам, які дабіўся ўжо ў гэтым кірунку значных рэзультатаў.

Я пастараюся на падставе гэтых рэзультатаў разьвінуць перад вамі асноўныя прынцыпы мэтодолёгічнага характару, г. зн. тыя асновы і пасланкі, якія канечна патрэбны кожнаму марксістаму дзеля таго, каб мець магчымасьць мэтодолёгічна растлумачыць сабе гістарычныя і грамадзянскія зьявы й пытаньні.

Матар'ялістычнае разуменьне гісторыі імкнецца перш-на-перш да высьвятленьня гістарычных законаў—і ня толькі імкнецца, але яго вялікія закладчыкі—Маркс і Энгэльс гэтыя законы ўжо высьнілі. Паўстае, значыць, найперш пытаньне: што такое закон? Істотнасьць закону сформуляваў, на мой погляд зусім правілова, адзін з выдатных палітычных мысьліцеляў XVIII сталецьця—Монтэск'е. У яго вядомым творы «Дух законаў» Монтэск'е азначае істоту закону гэткім чынам: «Законы ў самым шырокім значэньні гэтага слова—гэта неабходныя адносіны, якія выплываюць з прыроды рэчаў, і ў гэтым сэнсе ўсё існуючае мае свае законы». Ніхто ў сучасны момант не пярэчыць, што ў галінах прыродазнаўства існуюць об'ек-

тыўныя законы, якія выплываюць з прыроды рэчаў і выражаюць сталасьць узаемных адносін гэтых апошніх. Вазьмеце закон прыцягненьня. Мы ведаем, што кожнае цела, якое падае з пэўнай вышыні, прыцягваецца цэнтрам зямлі. Гэты закон выведзен на падставе бязьмернага ліку паўторных зьяваў. Нам добра вядомы закон захаваньня матэрыі. Гэты закон кажа, што матэрыя ў часе рэакцыі не прападае і ня творыцца, а толькі зьмяняе свой выгляд, заўсёды і нязьменна застаючыся матэрыяй. Або, іншымі словамі, пры ўсіх хімічных зьменах вага матэрыі, што паддаецца рэакцыі, заўсёды роўна вазе матэрыі, што атрымалася ў рэзультаце рэакцыі. Інакш кажучы, агульная вага матэрыі, яе агульная маса захоўваецца. Або вось другі закон аб захаваньні матэрыі: якую-б зьяву або процэс, што адбываецца ў прыродзе, мы ні ўзялі, якім-бы зьменам не падлягала ў ім энэргія, заўсёды выходзіць, што сума яе ва ўсіх целах да процэсу, пасьля процэсу і ў любы момант процэсу застаецца заўсёды пастаяннай. Інакш кажучы, нельга ні ўтвараць энэргію, ні зьніштажаць яе. На ўсялякую колькасьць прыбываючай энэргіі адначасна ўбывае адпаведная, або, выражаючыся хімічным тэрмінам, эквівалентная колькасьць іншага віду энэргіі, і, наадварот, ніякая колькасьць энэргіі не прападае без таго, каб адначасна не ўтварылася эквівалентная колькасьць якой-колечы іншай яе формы. Гэтае абагульненьне зьяўляецца адным з асноўных законаў сучаснага прыродазнаўства.

Абодва законы выведзены на падставе дакладна праверанага досьледу пры розных умовах; але вось паўстае пытаньне, ці магчыма знайсьці і ўстанавіць такія агульныя і ўсімі прызнаныя законы ў гісторыі? Існуе цэлы шэраг такіх вучоных, якія наогул адкідаюць гэткую магчымасьць. Апіраюць свой погляд яны на гэткіх больш-менш падставах. Перш-на-перш, праявы прыроды адзначаюцца без параўнаньня меншай складанасьцю й заблытанасьцю, чымся праявы грамадзянска-гістарычнага жыцьця. Падругое, пры досьледах над процэсамі ў прыродзе мы заўважваем заўсёднае паўтарэньне адных і тых-жа зьяваў. Патрэцяе, прыродазнаўства карыстаецца экспэрымэнтам, г.зн. штучным адтварэньнем зьяваў. Мы маем магчымасьць у фізычнай і хімічнай ляборагорыях адтварыць (выклікаць) некаторыя з тых зьяваў, якія мы прасачылі і падслухалі ў жыцьці прыроды. Між тым пры высьвятленьні грамадзянскай і гістарычнай дзейнасьці чалавецтва мы гэтай магчымасьці ня маем. Нельга адтварыць у ляборагорыі Вялікую францускую рэволюцыю, няма магчымасьці адтварыць эпоху грэка-пэрсідзкіх войн або часы рэформацыі з усімі вынікамі гэтых нязьмерна-важных падзеяў, якія мелі нязвычайна глыбокі ўплыў на ход гістарычнага разьвіцьця. У гістарычным процэсе, кажуць далей праціўнікі магчымасьці гістарычных законаў, няма паўтаральнасьці зьяваў. Ніводзін гістарычны выпадак, ніводная гістарычная зьява не падобна да другой. У гістарычнай рэчаіснасьці кожнае здарэньне бывае толькі адзін раз. Апрача адзначаных прычын на гістарычныя падзеі могуць мець рашучы ўплыў выпадковасьці. Калі-б, напрыклад, ня было тае ці іншае выдатнае гэніяльнае асобы або таго ці іншага закону выдатнага дзяржаўнага дзеяча, магчыма, што ўся гісторыя мела-б іншы выгляд. З гэтага боку можа мець уплыў, нават, дробны і на пагляд зусім нязначны факт. Калі-б, падкрэсьлівалі гісторыкі старой школы, у эгіпецкай царыцы Клеопатры форма носа была іншая, ход разьвіцьця Рымскай імпэрыі прыняў-бы іншы кірунак, а разам з гэтым па іншаму шляху пайшла-б уся эўропэйская цывілізацыя. Або, калі-б у часы сямілетняй вайны, маркіза Дзюбары ня была-б фаворыткай Людвіка XV, вельмі магчыма, што ўсё заходня-эўропэйскае жыцьцё XIX сталецьця мела-б зусім іншы выгляд. Бо ў сямілетняй вайне Францыя і Голяндыя страцілі сваё значэньне на моры. А працяг і вынікі вайны залежалі ад няздольных францускіх генэралаў, якімі

апекавалася маркіза Дзюбары. Гэткім чынам выходзіць, што калі-б кароль Францыі не адзначаўся залішней прыхільнасьцю да жаночых павабаў, а маркіза Дзюбэры ня была гэтак павабна, гісторыя Эўропы пайшла-б іншым шляхам. Значыцца, такія дробныя непрадбачаныя і непадлеглыя ніякаму абрахунку выпадковасьці могуць пакіраваць у той ці іншы бок лёсы гістарычных падзеяў.

Аб значэньні выпадковасьці і аб уплыве асобы ў гісторыі я буду гаварыць асобна, калі будзе гутарка аб свабодзе і неабходнасьці, аб адносінах асобы да чыннасьці грамадаў і аб ролі выдатных людзей у поступе гістарычнага разьвіцьця. А цяпер затрымаемся на першых адзначаных закідах і пачнем з пытаньня аб складанасьці гістарычных падзеяў.

Бясспрэчны факт нязвычайнай складанасьці грамадзянскіх і гістарычных зьяваў і падзеяў ня можа служыць прынцыповай перашкодай да дасьледваньня і азначэньня гістарычных законаў. І ў шэрагу разьмяшчэньня прыродазнаўчых навук мы бачым пераходы ад простага да складанага і ад менш складанага да больш складанага. Хімія, напрыклад, больш складана за фізыку, бо яна замыкае ў сабе і законы фізыкі і плюс яе ўласныя законы; біолёгія больш складана за фізыку і за хімію, бо гэтая галіна пазнаньня замыкае ў сабе законы фізыкі, хіміі, анатоміі, фізіолёгіі і г. д. Гэтае самае датыча і псыхолёгіі, якая апрача, законаў з прыродазнаўства, павінна лічыцца з грамадзянскімі навукамі ў самым шырокім значэньні гэтага паняцьця.

Ня гледзячы на гэта, прадстаўнікі адзначаных навуковых галін не адмаўляюцца ад выяўленьня тых ці іншых законаў у біолёгіі і псыхолёгіі. Факт складанасьці тэй ці іншай галіны навукі не зьяўляецца мэтодолёгічнай перашкодай на шляху да адшуканьня законаў, а толькі вымагае, каб дасьледцца зразумеў труднасьць заданьня. Няма і ня можа быць ніякага сумненьня ў тым, што грамадзянска-гістарычнае жыцьцё ёсьць нязвычайна складаным ва ўсіх яго праявах. Але гэтая бясспрэчная рэчаіснасьць прымушае дасьледцу гэтае абшырнае галіны навукі ясна і дакладна разумець умовы свайго труднага заданьня і *быць вельмі асьцярожным у сваіх вывадах*. Тут вельмі карысна прыпомніць словы Бэкона, што трэба падвесіць валавяныя вагі да таго бязьмернага імкненьня, з якім розум рвецца абагульняць розныя зьявы. Гэтыя вымаганьні—вымаганьні сьвядомасьці і адказнасьці—вельмі вялікія і вельмі паважныя вымаганьні.

Пераходжу да другога закіду—да пытаньня аб паўтаральнасьці гістарычных зьяваў. Цьверджаньне, што быццам у гісторыі падзеі і зьявы не паўтараюцца—проста абмылкова. Наадварот, у гістарычным жыцьці народаў мы спатыкаемся з нязьлічоным лікам паўтарэньняў, якія далі падставу філёзафу пэсымісту Шопэнгаўэру жаліцца на дакучлівую нуду ў гісторыі чалавецтва. Возьмем спачатку дзеля прыкладу соцыяльна-экономічныя галіны навукі. У сучасны момант нам вельмі добра вядома, што амаль усім народам на першых ступенях іх грамадзянскага разьвіцьця ёсьць уласьцівы радавы комуністычны быт [1]). Мы ведаем гэтак сама, што гэты радавы комунізм меў усюды падобныя аднолькавыя прычыны—групавыя спосабы вырабу, якімі адзначалася і комуністычная форма разьмеркаваньня. Далей, нам вядома, што фэодальны лад перажыў усе Эўропэйскія дзяржавы і што, хаця ў крыху іншай форме і пры іншых географічных і гістарычных умовах, той-жа фэодальны парадак меў месца і ў расійскай дзяржаве. Калі затым кінуць погляд на палітычнае жыцьцё (заўважу ў думках, што мы адрываем

[1]) Паявіўся цяпер кірунак, які адкідае гэты факт. Довады гэтага кірунку будуць разгледжаны ў лекцыі аб нахаджэньні і разьвіцьці прыватнай уласнасьці.

палітычную галіну ад экономічнай структуры толькі для выгоды і што ў істоце гэтыя галіны неразлучны), то і тут нам кідаюцца ў вочы няўхільныя заўсёдныя паўтарэньні. Мы бачым, напрыклад, палітычныя рэволюцыі ва ўсіх амаль краінах эўропэйскага захаду і Расіі. Як-бы ня розьніліся сваім зьместам і характарам усе адбытыя рэволюцыі, ва ўсіх рэволюцыях можна адзначыць цэлы шэраг буйных і зусім падобных у сваёй істоце праяваў, якія даюць поўную магчымасьць выводзіць агульныя законы ў такой важнай галіне, як галіна рэволюцыйнага змаганьня і рэволюцыйных катастрофічных пераваротаў. І фактычна ўсе гісторыкі рэволюцый, незалежна ад таго, ці прызнаюць яны прынцыпова паўтаральнасьць гістарычных зьяваў, ці не прызнаюць,—заўсёды прыводзяць роўналежнасьці (паралельлі), якія даюць матар'ял для асталяваньня тых ці іншых гістарычных законаў.

Пойдзем далей і з гэтага пункту кінем беглы погляд на ідэолёгію. Да якой-бы галіны ідэолёгіі мы не падыйшлі, усюды мы бачым тую самую паўтаральнасьць. Вазьму дзеля ілюстрацыі гісторыю мастацтва ў яго культурна-закончаным выглядзе. Гэтая галіна найбольш вэм знаёма. Гэта—папершае; падругое,—мастацтва зьяўляецца такой галіной чалавечай дзейнасьці, дзе выпадковасьць, капрыз, настрой, натхненьне, інтуіцыя, або, нават, несьвядомасьць створцы мастацкіх каштоўнасьцяў зьяўляюцца бадай што агульна-прызнаным фактам. Аднак, і ў гэтай галіне зьявы наподзіў паўтараюцца. Беручы пад увагу самую істоту рэчы, у гісторыі мастацкае творчасьці паўтараюцца два жанры: клясычны і рэалістычны і другі жанр—рамантычны. Першы замыкаецца ў тым, што мастак імкнецца адтварыць тыповыя абагульненьні об'ектыўнай рэчаіснасьці. Гэта ёсьць рэалізм у запраўдным значэньні гэтага слова. Другі жанр—рамантычны—замыкаецца ў імкненьні мастака выявіць свой уласны суб'ектыўны настрой. Там перавагу мае об'ектыўны элемэнт, тут—суб'ектыўны момант. І вось гэтыя два галоўныя кірункі ў мастацтве паўтараюцца і часта чаргуюцца з відавочнай правіловасьцю, пачынаючы з старажытнай клясычнасьці і канчаючы нашай эпохай. Мы бачым эпохі, калі пануе рэалізм у мастацтве, і такія пэрыяды, калі пераважвае суб'ектывізм, г. зн. романтыка. Параўнальная правіловасьць чаргаваньня гэтых двох кірункаў у мастацтве дала магчымасьць Гэтэ зрабіць такое важнае і цікавае абагульненьне: У эпохі павышанай творчасьці жывых грамадзянскіх сіл, думаў найвялікшы сусьветны поэт-філёзоф, пануе рэалізм, а ў пэрыяды грамадзянскага заняпаду—суб'ектывізм-романтыка*).

Зьвяртаючыся да гісторыі філёзофіі, мы бачым, што і гэта галіна, галіна чалавечай адцягненай (абстрактнай) думкі, багата паўтарэньнямі. Філёзофскія сыстэмы паўстаюць, утвараюцца школы, распрацоўваюцца паасобныя яе проблемы, але праходзіць нейкі час,—сыстэма падлягае дашчэнтнаму зруйнаваньню, а затым і зусім забываецца. А пройдзе сталецьце, а часамі і больш значны працяг часу,—сыстэма адраджаецца і часта разглядаецца, як нешта цалкам новае і зусім орыгінальнае. Падаваць прыклады, якія-б пацьвярджалі гэтую думку, было-б зусім лішне, бо з гэтага боку гісторыя філёзофіі бадай-што ня ведае выключэньня.

Так, гісторыя багата паўтарэньнямі і ва ўсіх галінах. Закранаючы пытаньне аб магчымасьці гістарычных законаў і абвяргаючы довады тых, хто адкідае гэтую магчымасьць на падставе быццам-то непаўтаральнасьці гістарычных зьяваў, Вундт кажа ў сваіх «Уводзінах у філёзофію» наступнае:

„Гэтая формальная прымета (паўтаральнасьць зьяваў у прыродзе і быццам-то непаўтаральнасьць у гісторыі. *Орт.*) не правілова з дваякага

*) Справядлівей будзе з нашага погляду характарызаваць кірункі ў мастацтве не становішчам эпохі, а становішчам пэўнае клясы.

погляду: папершае, зусім несправядліва, што адзіночныя зьявы (das Singulare) ня граюць ролі ў прыродазнаўчых навуках. Напрыклад, амаль-што ўся геолёгія складаецца з адзіночных фактаў, аднак ніхто ня стане даводзіць, што дасьледаваньне ледавіковага пэрыяду дзеля таго толькі, што ён, праўдападобна, існаваў толькі раз, не адносіцца да прыродазнаўчай навукі, а павінна быць аддадзена гісторыку. Падругое, зусім несправядліва і тое, што ў гісторыі зьявы не паўтараюцца. Пачынаючы з Полібія, гісторыкі, калі яны не абмяжоўваліся толькі чыста хронікарскай чыннасьцю, рэдка прапушчалі выпадак, каб не адзначыць цэлага шэрагу аднačасных падзеяў і анолёгічных зьяваў, якія мелі месца ў розныя часы і якім уласьціва аднакая ўнутраная сувязь. Такімі гістарычнымі роўналежнямі (паралельлямі) гісторыкі карысталіся для пэўных вывадаў".

Гісторыя паўтараецца. Мала гэтага, яна падчас паўтараецца, як-бы з відавочным намерам даць пачуць і зразумець гістарычным дзеячом, што яе абмануць нельга. „Калі,—кажа яна,—вы ўчынілі або выклікалі здарэньне, якое не адпавядае яшчэ данаму становішчу грамадзянскіх сіл, вам прыдзецца паўтарыць, або, калі ваша моц і ўплыў вычарпаны да дна, ваша спроба адтварыць іх дарэмна і паўтарэньні дарэмны". Вельмі добра і вельмі ўдумна кажа знаменіты гісторык новай філёзофіі Куно Фішэр аб *значэньні* паўтарэньняў гістарычных падзеяў:

„Як відаць,—піша гісторык філёзофіі,—сусьветная гісторыя ў важных пытаньнях, ад якіх залежыць будучына сьвету, павінна паўтараць довады неабходнасьці або немагчымасьці супроцьлеглага, каб аканчальна асталяваць новае палажэньне; яна двойчы даводзіла неабходнасьць рымскага цэзарызму і бяскутэчнасьць забойства Цэзара: бойкаю пры Філіппах і бойкаю пры Акцыуме. Гэтак сама Бурбоны двойчы падлягалі выгнаньню, і Напалеон быў двойчы пераможаны".

Гісторыя гэтак сама багата экспэрымэнтамі, і ў пэўным сэнсе і яна зьяўляецца як-бы ляботорыяй, у якой адбываюцца досьледы. Але гістарычны экспэрымэнт адрозьніваецца ад прыродазнаўча-навуковага экспэрымэнту тым, што экспэрымэнтатар-прыродазнаўца, маючы дачыненьня з някывымі целамі або з жывёламі, добра разумее, што ён робіць *досьлед*, а дзеля гэтага з самага пачатку гатоў на няўдачу. Гістарычны дзеяч, кіруючы тымі ці іншымі падзеямі, зьяўляецца экспэрымэнтатарам бесьсьвядомым. Маючы дачыненьня з жывымі людзьмі, а не з пасыўным, бессьвядомым матар'ялам, ён павінен быць перакананым, што яго дзейнасьць будзе ўдачна, і з гэткім перакананьнем ён вядзе справу нават тады, калі досьлед закончыўся няўдачай. Да гэтага трэба дадаць, што ў гістарычным экспэрымэнце заўсёды так ці йначай прымаюць удзел грамады. Сьвядомасьць паяўляецца post factum. Сава Мінэрвы вылятае змрокам, як кажа Гегель.

Далей. Апрача адзначаных матываў, якія быццам то ўхіляюць магчымасьць устанаўленьня гістарычных законаў, высоўваецца суб'ектывістымі яшчэ адзін наймацнейшы з іх погляду довад супроць гістарычнага об'ектывізму.

Кожны гісторык або соцыолёг, як чалавек, прыналежыць да пэўнага стану, групы, партыі; ён—продукт свайго асяродзьдзя, выхаваньня; так ці йнакш, гісторык або соцыолёг—асоба зацікаўленая, а з гэтае прычыны ў гістарычнае дасьледваньне няўхільна ўносяцца суб'ектыўныя элемэнты, якія ахварбоўваюць у пажаданы колер дасьледваныя падзеі. А суб'ектыўная ацэнка падзеяў і фактаў натуральна прыводзіць да агульных суб'ектыўных памылковых вывадаў.

У нашай расійскай соцыолёгічнай літаратуры гэты закід высоўваўся і ўсебакова абасноўваўся закладчыкамі суб'ектыўнай школы ў соцыолёгіі

П. Л. Лаўровым і Н. К. Міхайлоўскім. Абодва мысьліцелі даводзілі, што кожная партыя і кожны яе прадстаўнік можа знайсьці ў гісторыі даволі фактаў дзеля апраўданьня і пацьвярджэньня свайго грамадзянскага ідэалу. Протэстант, дасьледуючы гістарычнае жыцьцё, знойдзе ў ім даволі фактаў, на падставе якіх ён патрапіць давесьці, што гісторыя чалавецтва мела сваёй мэтай зьдзейсьніць ідэю Лютара: католік у свой чарод прыйдзе гэтак сама на падставе паважных фактаў і падзеяў да вываду, што прынцыпы каталіцызму былі і зьяўляюцца галоўнымі фактарамі ў поступе гістарычнага разьвіцьця. Або рэволюцыонэр знойдзе зусім цьвёрды грунт дзеля абароны тэй ідэі, што рэволюцыйныя пераваротьі выклікаюць новыя творчыя сілы, руйнуючы дашчэнту спарахнелыя аджытыя соцыяльныя формы і дзяржаўныя ўстановы, якія ставяць перашкоды на шляху да поступу (прогрэсу). Консэрватар у свой чарод зьверне галоўную ўвагу на такія культурныя каштоўнасьці, якія канечна трэба захоўваць, а адгэтуль зробіць вывод, што поступ залежыць ад рупнага й ашчаднага захаваньня ўсяго істнуючага, і г. д. Апіраючыся на такі чыста суб'ектыўны погляд, прадстаўнікі расійскай суб'ектыўнай соцыолёгіі прыходзілі да агульнага вываду, што ўсялякае імкненьне ўстанавіць гістарычныя об'ектыўныя законы панясе поўную няўдачу.

Толькі буржуйныя вучоныя, казалі яны, стараючыся апраўдаць істнуючы парадак, могуць шукаць і пільна шукаюць грунту і падставы ў законах гісторыі, якія быццам-то ўстаноўлены навуковым шляхам. Чалавек-жа пaступова, соцыялісты, г. зн. запраўдны абаронца інтарэсаў народу й прогрэсу павінен зрабіць падставай свайго соцыялістычнага мысьленьня і практычнай программы не тэорытычны розум, не об'ектыўную гістарычную законастойнасьць, а розум практычны, г. зн. моральную волю. Моральная воля, што ствapae ідэальныя мэты, зьяўляецца галоўнай крыніцай і запраўднай філёзофскай падставай соцыялістычнага ідэалу, зьдзейсьніць які імкнецца крытычна-ўдумная асоба. Соцыялісты ацэньвае гістарычны ход разьвіцьця ня з погляду навуковай законастойнасьці, а бярэ за крытэрый свой моральны ідэал. Ён падае строгаму моральнаму суду гістарычнае зло, несправядлівасьць, усе формы эксплёатацыі чалавека чалавекам—з аднаго боку, а з другога боку—ён чэрпае сілу і натхненьне ў дадатніх ідэальных праявах і падзеях гістарычнай рэчаіснасьці. Моральны суд над злачынцамі ў гісторыі і захапленьне перад яе гэроямі —вось запраўдныя выхаваўцы крытычна-ўдумнай асобы, г. зн. соцыялістага, а ня немыя цыфры і голыя факты. Толькі гэты сьвядома суб'ектыўны мэтод, мэтод моральных ацэнак*) вядзе соцыялістага да запраўднае мэты. Навуковы-жа об'ектыўны погляд на рух сусьветнай гісторыі, погляд, быццам-то ў гістарычнай рэчаіснасьці пануе бязумоўная законастойнасьць, прыводзіць да пасыўнасьці, бясчыннасьці або, як любілі выслаўляцца нашыя суб'ектыўныя соцыолёгі, да квіэтызму.

Пытаньне аб адносінах практычнай дзейнасьці да навуковага разуменьня гісторыі мы пакуль што пакінем неразьвязаным. Аб гэтым даволі складаным пытаньні будзе яшчэ гутарка. У даным-жа выпадку нас цікавіць погляд, быццам гісторыязнаўства ня можа стаць запраўднай навукай з-тае

*) Гістарычная тэорыя Віндэльбанда-Рыкерта выяўляе вялікае падабенства да суб'ектыўнай тэорыі пашых суб'ектыўных соцыолёгаў. І ня дзіўна, бо філёзофская аснова суб'ектыўнай соцыолёгіі і гістарычная тэорыя памянованых нямецкіх мысьліцеляў маюць сваёй супольнай крыніцай этыку Канта. Тутака-ж адзначу, што ў пэўным сэнсе яшчэ большае падабенства да расійскай суб'ектыўнай соцыолёгіі мы заўважваем у этычным соцыялізьме марбурскай школы. Аб гэтых кірунках у філёзофска-гістарычнай мысьлі будзе гутарка ніжэй.

прычыны, што дасьледца-гісторык нямінуча і няўхільна будзе суб'ектыўна адносіцца да пытаньняў гармадзянскага жыцьця чалавецтва.

Гэты погляд ня вытрымлівае найменшай крытыкі з тае простае і відавочнае прычыны, што і прыродазнаўству ўласьцівы ўсе роды суб'ектывізму. І запраўды, кожны нова вынайдзены закон, кожная выкрытая ісьціна, усёроўна ў якой галіне, умацоўваліся і здабывалі агульнае прызнаньне толькі шляхам упартага, сур'ёзнага, а падчас і гэроічнага змаганьня, праходзячы, калі можна так выказацца, праз чысьцец суб'ектыўных адносін і наслаеньняў, якія ўтваралі тым большыя перашкоды, чым больш грунтоўным, значным і карысным быў даны закон і даная ісьціна.

Грунтавацца на тым, што прыродазнаўчыя навукі зьяўляюцца выключэньнем, значыць або знарок заплюшчваць вочы на агульна-вядомыя гістарычныя факты, або, што найчасьцей здараецца, бессьвядома не прыкмячаць іх, не ўяўляючы сабе іх значэньня. Што датыча індывідуальна-суб'ектыўных уласьціваасьцяў дасьледцы, то прыродазнаўчыя дасьледцы, якія, як вядома, ня падаюць з неба, а родзяцца, растуць і разьвіваюцца на грэшнай зямлі, у пэўных соцыяльных абставінах, прыналежаць да пэўнае клясы і пэўных грамадзянскіх групаў,—могуць гэтак сама, як і соцыолёгі і філёзофы гісторыі, прыступіць да дасьледваньня прыроды з вялізарным запасам рознага гатунку беспрасьветных забабонаў. І ў сучасны момант тэорытычныя аддзелы навуковых прац па прыродазнаўству перапоўнены містычнымі адхіленьнямі мысьлі. Пры выкладзе і ацэнцы вынікаў сучаснай позытыўнай навукі можна лёгка спаткацца з такім набожным поглядам, што ў канцы-канцоў пазнаныя намі пэўныя законы прыроды, якія адкрываюць перад чалавекам такія грандыёзныя кругавіды і пэрспэктывы, ёсьць нішто іншае, як мысьлі божыя. Падобная орнамэнтыка ня так ужо нявінна, як гэта можа здавацца з першага погляду. Бог заўсёды выклікае лёгічны прыпынак (паузу), дзякуючы якому абрываецца нітка крытычнай дасьледчай мысьлі, а гэта зьяўляецца бязумоўнай перашкодай на шляху навуковага дасьледваньня. І ўсе гэтыя містычныя тэндэнцыі ў філёзофіі прыродазнаўства выплываюць з тых самых крыніц, якія нібы-то зьяўляюцца прычынай суб'ектывізму ў грамадзянскай навуцы.

Яшчэ Бэкон адзначаў тыя радавыя індывідуальныя і выплываючыя з грамадзянскага асяродзьдзя суб'ектыўныя ўласьціваасьці дасьледцы, якія зьяўляюцца найвялікшай перашкодай на шляху да об'ектыўнага пазнаньня зьяваў прыроды. Разглядаючы і падкрэсьліваючы гэтыя суб'ектыўныя пачаткі, вымагаючы ад дасьледцы, каб ён іх пазбавіўся, Бэкон разам з гэтым вызначаў і мэтады, за дапамогаю якіх магчыма дабіцца дакладнага дасьледчага пазнаньня. І няма найменшага сумненьня, што з часоў Бэкона прыродазнаўства дабілася такіх рэзультатаў, аб якіх ня марыў ні Бэкон, ня гледзячы на яго буйную фантазію, ні Гоббс, ні іншыя закладчыкі сучаснай позытыўнай навукі.

Усё больш і больш умацняецца, пераважна ў буржуйнай ідэолёгіі, погляд, што ў прыродазнаўстве об'ектыўнае дасьледваньне і навуковае прароцтва магчымы, а ў грамадзянска-гістарычнай навуцы немагчымы; гэты погляд апіраецца галоўным чынам на той факт, што прыродазнаўства ў сучасны момант замыкае ў сабе шмат агульна-прызнаных законаў, у той час, як законы і вывады грамадзянскіх навук выклікаюць гарачыя, а падчас і злосныя спрэчкі. Але гэта розьніца не прынцыповага, а гістарычнага характару. Няма амаль што ніводнага з вядомых нам законаў прыроды, няма амаль што ніводнай значнай ісьціны, якія ў свой час не падлягалі-б гэткімжа злосным нападкам, якія сыплюцца сёньня на навуку Маркса аб кап-

тоўнасьцях, аб змаганьні клясаў і на ўсе палажэньні і вывады навуковага соцыялізму. Магчымасьць, хаця далёка не бязумоўная, свабоднага бесьперашкоднага разьвіцьця прыродазнаўства ў нашу эпоху тлумачыцца тым, што пазнаньне прыроды і перамога над яе сіламі канечна патрэбны і выгодны буржуйным клясам, у той час, як об'ектыўнае бесстароннае высьвятленьне грамадзянскіх адносін становіцца ўсё больш і больш пагражаючым для сучаснага грамадзянскага ладу. І зусім такі самы востры крытычны момант перажывала прыродазнаўства, калі яно зьяўлялася магутным сродкам у змаганьні супроць грамадзянскага ладу сярэдніх вякоў. Выяўляючы клясавыя інтарэсы пануючага духавенства, інквізыцыя спаліла Джыордано Бруно на вогнішчы, а Галілея трымала трыццаць году вастрозе—першага за пашырэньне і ўдасканаленьне сыстэмы Копэрніка, другога—за навуку аб вярчэньні зямлі. Ідэолёгі сучасных упрывілеёваных клясаў, якія прызнаюць цяпер рух зямлі, вынаходзяць розныя софістычныя довады, каб за дапамогаю іх прыпыніць гістарычны поступ сучаснага чалавецтва. Але як-бы там ні было, гістарычная навука ўсё-ткі пасоўваецца шпарка наперад, заваёўваючы адну тэрыторыю за другой.

(*Працяг будзе*).

**Пералажыў Ул. Дзяржынскі.**

# Новая беларуская поэма.

*Якуб Колас. Новая Зямля.*

*(Белар. кооп. выд. т-ва „Савецкая Беларусь“. Менск 8⁰, 284 стр.).*

Першае пытаньне, якое можа зьявіцца ў адносінах да новага літаратурнага твору — гэта пытаньне аб родных або падобных яму зьявах ў літаратуры.

Калі падыходзіць з гэтым пытаньнем да новай поэмы беларускага поэты Якуба Коласа—К. Міцкевіча, якая толькі-што выдадзена выдавецтвам «Савецкая Беларусь»,—яго поэмы «Новая зямля»,—дык як-бы адразу, аглядаючы зьявы мінуўшчыны, думка спыняецца на монумэнтальных творах двох вядомых пісьменьнікаў, двох знаёмцаў мінулага стагодзьдзя: творах расійскага поэты Пушкіна, асабліва на яго рамане «Евгений Онегин», і польскага поэты, славутага цёзкі беларускага пісьменьніка, Адама Міцкевіча, такіх яго творах, як «Pan Tadeusz» і, часткова, «Dziady».

Ідэя параўнаньня паміж творамі Я. Коласа і А. Пушкіна ня нова. Гэтая ідэя, напр., прыметна выступае ў Карскага ў яго III т. «Белорусы». Тут Карскі робіць параўнаньне паміж поэмай Коласа «Сымон Музыка» і раманам «Евгений Онегин» з боку іх будоўлі — «построения», знаходзячы для сябе падставу ў тэй акалічнасьці, што «Колас стал писать свое произведение отдельными частями с большими перерывами, с 1911 г. и закончил его только в 1918 г.» («Белорусы», т. III, П. 1922, стр. 305). Параўнаньне паміж творамі Пушкіна і Міцкевіча з аднаго боку і адрыўкамі поэмы Коласа, якія былі надрукаваны ў часопісах да 1921 г.—з другога, проста робіць М. Гарэцкі ў другім выданьні сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры» (стр. 160: «апісаньні па сваёй сіле стаяць побач з вялікімі творамі, як «Евгений Онегин» А. Пушкіна і «Pan Tadeusz» А. Міцкевіча»).

*Калі* трымацца крытыка-літаратурнай мэтоды Карскага (робім націск на слове *«калі»*), дык у нас ужо ў парадку напісаньня твораў маюцца некаторыя падставы для параўнаньня паміж раманам «Евгений Онегин» і поэмай «Новая Зямля»: як і „Сымон Музыка“, новая поэма славутага беларускага поэты напісана з перапынкамі.

Тут, на падставе зьвестак, атрыманых ад самога аўтора, магчыма заўважыць наступнае.

Свой твор Я. Колас пачаў пісаць яшчэ ў 1911 г., калі ён быў у Менскім вастрозе. Тады былі напісаны гэткія разьдзелы поэмы: I. «Лясьнікова пасада», II. «Раніца ў нядзелю». III. «За сталом», IV. «На першай гаспадарцы», V. „Пярэбары“, VI. «Дзядзька-кухар», VII. «Сьмерць лясьнічага». XXVII. «Па дарозе ў Вільню», XXVIII. «Дзядзька ў Вільні» і XXIX. «На замкавай гары» і пачаты пісаньнем XIV разьдзел—«Дырэктар».

Потым дзеля розных акалічнасьцяў, галоўным чынам, сусьветнай вайны, праца спынілася аж да 1919 г.

У 1919 г., знаходзячыся „далёка ад межаў родных“, у Курскай вёсцы. аўтор зноў пачаў пісаць пра «родны край». Тады быў напісаны XVIII разьдзел—«Зіма ў Парэччы».

Да 1920 г. належыць XIX разьдзел—„На рэчцы“.

У 1921 г., калі аўтор знаходзіўся ўжо ў айчыне, напісаны разьдзелы: IX. «Новы лясьнічы», X. «На панскай службе», XIII. «Падгляд пчол», XXI. «Таемныя гукі», XXII. „На глушцовых токах“, XXIII. «Панская пацеха» і XXIV. «Вялікдзень».

У 1922 г. зьявіліся разьдзелы: XI. «Дзедаў човен», XII. «Сэсія», XIII. «Начаткі», XVI. «Вечарамі», XVII. „Воўк“, XX. «Коляды», XXV. «Летнім часам» і XXVI. „Агляд зямлі“ і скончаны пісаньнем XIV разьдзел—«Дырэктар».

Урэшце ў 1922—1923 г.г. быў напісаны канчатковы разьдзел—«Сьмерць Міхала».

Неадначасна зьяўляліся разьдзелы поэмы і ў друку, у часопісах.

У «Нашай Ніве» за 1912 г. былі надрукаваны «Лясьнікова пасада» і «Раніца ў нядзелю».

Потым ужо ў 1918 г. у «Вольнай Беларусі» друкуюцца: «Па дарозе ў Вільню», «Дзядзька ў Вільні», на «Замкавай гары» і «Сьмерць лясьнічага».

Шэраг разьдзелаў зьяўляецца ў друку ў 1921 і 1922 г.г.—у часопісе: «Вольны Сьцяг»—разьдзелы: «Пярэбары», «Зіма ў Парэчы» і «На рэчцы», і ў часопісе «Адраджэньне» разьдзелы: «Каля зямлянкі», «Новы лясьнічы», «Падгляд пчол» і «Дзядзька-кухар».

Да гэтага часу зусім не друкаваліся: «За сталом», «На першай гаспадарцы», «На панскай службе», «Таемныя гукі», На глушцовых токах», «Панская пацеха», «Вялікдзень», Дзедаў човен», «Сэсія», «Начаткі», «Вечарамі»,«Воўк», «Коляды», «Летнім часам», «Агляд зямлі», «Дырэктар», «Сьмерць Міхала».

Калі з погляду парадку напісаньня параўнаць поэму Я. Коласа з повесьцю А. Міцкевіча «Pan Tadeusz», дык прыметнай падобнасьці паміж імі ў гэтых адносінах мы ня ўгледзім. Як вядома, А. Міцкевіч пачаў свой галоўны твор у канцы 1832 г. і скончыў яго ўжо ў пачатку 1834 г. (гл. K. Król i Jan Nitowski. Historya Literatury Polskiej ,s. 299). Больш падобнасьці да працы Коласа ў гэтых адносінах мелі-б «Dziady» А. Міцкевіча.

Але, агулам кажучы, парадак напісаньня тэй ці іншай літаратурнай працы, хоць і мае некаторае значэньне для літаратурнай крытыкі, аднак сам па сабе яшчэ не дае пэўнай асновы для параўнаньня паміж літаратурнымі творамі. На недахват крытыка-літаратурнай мэтоды Карскага, у часткова сьці, добра паказана с. Ул. Дзяржынскім: «шукаючы падабенства на падставе гэткіх данных, мы патрапім урэшце ўтоесаміць кітайскую літаратуру з Байранам!» (гл. Полымя, № 2, стр. 121).

І калі пры чытаньні поэмы Я. Коласа ў нас узьнікае думка аб творах А. Пушкіна і А. Міцкевіча, то тут для параўнаньня маюцца больш грунтоўныя асновы, чымся тыя, на каторых знайшоў для сябе падставу вядомы вучоны. І справа тут ня ў апісаньнях, як лічыць М. Гарэцкі, а ў *тым месцы, якое займае поэма «Новая зямля» ў разьвіцьці беларускае поэзіі*. Нашу думку мы маглі-бы выразіць гэткім спосабам: як «Евгений Онегин» азначае сабою пачатак росквіту творчай сілы вялікарускага народу і зьяўляецца першым монумэнтальным творам расійскай поэзіі, а «Pana Tadeusza» з пэўным правам можна назваць першай і раз-

з тым адзінай эпопэяй у польскай літаратуры, творам выдатнейшага поэтыцкага мастацтва, у якім знайшлі для сабе праяву здольнасьці польскага народу, так і поэма Якуба Коласа, адбіваючы ў поўнай меры росквіт сіл і здольнасьцяў беларускага народу, адчыняе сабою новую, так казаць, добу ў разьвіцьці беларускай літаратуры,—*добу апрацоўкі монумэнтальных твораў беларускай поэзіі*.

Магчыма зусім об'ектыўна зацьвердзіць, што да гэтага часу чаго-небудзь зусім падобнага да твору Я. Коласа ў беларускай літаратуры не зьяўлялася.

Яго поэма—монумэнтальнейшы поэтычны твор у беларускай мове і ў гэтых ужо адносінах—выдатнейшая зьява ў галіне беларускай поэзіі. Ня кажучы ўжо аб разьмеры поэмы—разьмеры раўным разьмеру твораў Пушкіна і А. Міцкевіча,—гэта поэма па шырыні абмалёўкі беларускай прыроды і беларускага быту, па колькасьці выведзеных тут беларускіх тыпаў (паны, падпанкі, лясьнікі, сяляне, кабеты, дзеці) і абмаляваных тут абставінах беларускага жыцьця (фольварак, вёска, горад), па лічбе твараў і душ—ня ведае роўнага сабе твору. У гэтых адносінах, нават, твор самога Я Коласа «Сымон Музыка» зьяўляецца толькі прэлюдыяй да яго галоўнай поэмы.

Такім чынам «Новая зямля»—гэта «не об'единение рассказов в духе рассказов Пшчёлкі», як вельмі неасьцярожна й наіўна кажа Карскі ў III т. «Белорусы», а запраўдна монумэнтальны твор беларускай поэзіі, падобны па свайму значэньню ў гісторыі разьвіцьця беларускай літаратуры да твораў пачынальнікаў расійскай і польскай літаратуры ў час іх красаваньня.

Поэма Я. Коласа зьявілася прыблізна на 100 год пазьней ад вялікіх поэтычных твораў расійскай і польскай літаратуры, як і сам беларускі народ толькі цяпер пасьля доўгага заняпаду выступіў на сцэне гістарычнага жыцьця, як роўны з сваімі суседзямі, сваімі братамі.

Часам параджэньня поэмы азначаюцца перш-на-перш думы і настроі аўтора.

Свой твор аўтор пачаў пісаць у эпоху рэакцыі, калі суровы сівер сваім холадам як быццам зусім спыніў пачатую вясну беларускага народу, і сам аўтор быў у вастрозе; поэма стала зноў пісацца ў 1919 г., калі абшары Беларусі знаходзіліся пад пятою паноў захопнікаў.

У цяжарных політычных абставінах Беларусі ляжыць прычына выяўленьня аўторам асаблівай любові да сваёй роднай зямлі і ў 1919 г., калі становішча ў Беларусі было асабліва цяжарным, аўтор піша:

«О, родны край, о, край пакуты,
Нягодай цяжкаю прыгнуты,
Калі-ж ты збудзеш сваё гора,
Што і цяпер тэм, як і ўчора,
Як і даўней, цябе зьнішчае
І горкім смуткам авявае?.. (XVIII р., 155 стр.).

Уся поэма дыша глыбокім нацыянальным настроем, аднак нотак смутку ўжо ня чуваць у разьдзелах, якія напісаны ў 1921—1923 гадох у Савецкай Беларусі, калі запраўдна тут пачалася вясна беларускай культуры.

Часам параджэньня беларускай поэмы азначаецца і *ідэолёгічны яе бок*—ідэалы і імкненьні яе герояў, як, само сабою разумеецца, і выведзеныя ў ёй тыпы.

Тут, у адносінах да ідэолёгічнага боку, дапушчальным і адзіночна-правільным зьяўляецца толькі *марксыцкі* падход, і ўсе іншыя падходы ня маюць ніякай навуковай вагі.

З пункту погляду марксыцкай літаратурнай крытыкі і ідэолёгія аўтора, і ідэйны зьмест літаратурнага твору неабходна азначаюцца экономічнымі і залежнымі ад гэтых апошніх клясава-соцыяльнымі фактарамі, якія дадзены ў тую ці іншую эпоху. Кожны поэта ёсьць поэтаю соцыяльнай статыкі і дынамікі сваёй эпохі й сваёй клясы. Гэтую думку Валеры Брусаў выражае ў кароткай формуле: «Поэзия—всегда выражение своего времени» («Вчера, сегодня и завтра нашей поэзии», стр. 45). Нават для буржуазнага В. Брусава зьявіўся абавязковым «марксыцкі» погляд! І здаецца, што вельмі блізка стаіць да гэтага навуковага погляду сам Якуб Колас, калі ён кажа ў самым пачатку сваёй поэмы:

> «Ніхто з граніц сваіх ня выйдзе,
> З законаў, жыцьцем напісаных...» (1 р., 5 стр.).

Ня дзіва, адгэтуль, што ў творах А. Пушкіна знайшла адбітак дваранская ідэолёгія і абмаляваны быт расійскай дваранскай клясы пачатку мінулага стагодзьдзя, а А. Міцкевіч зьяўляецца поэтаю і ідэолёгам польскай шляхты.

Падзеі, апісаныя ў поэме Коласа, як ён сам заўважае, адносяцца к часу 1890—1900 гадоў (увага на стр. 4).

Якраз у гэты час пачала выступаць на гістарычнай сцэне, як актыўная грамадзянская сіла, сялянская кляса.

Сам Колас прыналежыць да гэтай клясы. І вось, уводзячы ў сваю поэму ў значнай меры аўтобіографічны элемэнт, апісваючы тыя падзеі, якія запраўдна адбываліся ў беларускай вёсцы, ён выступае перад намі, як поэта працуючай сялянскай клясы.

Галоўныя пэрсонажы поэмы—«знаёмыя» ці, дакладней кажучы, «родныя» аўтору, гэта—беларускія сяляне-бедакі.

Поэта кажа ў пачатку VI-га разьдзелу сваёй поэмы:

> Я буду рады, калі ўдасца
> Маім знаёмым ў вашай ласцы
> Хоць на кароценькі часочак
> Заняць хоць цесьненькі куточак.
> Жыцьцё іх, праўда, няцікава
> Пра іх нідзе ня ходзіць слава,
> Аб іх гісторый не складаюць,
> Пра іх і песень не сьпяваюць...
> Каротка памятка аб людзе,
> Аб простым людзе. І такая
> Усім бедным доля выпадае:
> Прайсьці свой круг, прамарнавацца
> І невядомымі застацца
> Ды быць забытымі тут усімі—
> І сваякамі, і чужымі... (45 стр.).

Поэта жадае захаваць памятку аб гэтым простым людзе—запісаць аб тым, што праходзіла прад яго ўласнымі вачыма ў дні вясны яго жыцьця— і гэта жаданьне спаўняецца дзеля таго, што зьмяняюцца абставіны соцыяльнага жыцьця і бедны, просты народ перастае быць забытым, занядбаным народам і становіцца галоўным соцыяльным чыньнікам эпохі.

Асяродкавая асоба дзеі, гэта—лясьнік Міхал.

> Міхась... вы лепш спытайце самі
> Пра палясоўшчыка Міхала:
> Яго ўся воласьць наша знала!

Ён быў вядомы між панамі.
Да што паны?! Сам князь Антоні
Ня раз з Міхалам вёў размову.
І знаў жа-ж службу лясьнікову...
Міхал, як толькі ажаніўся,
Тады-ж ад бацькі аддзяліўся,
Бо стала цесна. З тэй прычыны
Хадзіў на сплаў ён, на віціны;
Разоў са два схадзіў у Прусы.
Куды ня трапяць беларусы!

Потым, калі «абрыдла гэта справа», зьвярнуўшыся на бацькаўшчыну, ён «быў пры падлоўчым на каморы».

Стары лясьнічы пасваему
Цаніў Міхала, як служаку:
Ганяў усюды небараку...
Лясьнічы так казаў, бывала:
Што-ж? добры конь і пягне дужа!

Пасьля некалькіх год цяжарнай службы Міхал выбіваецца на некаторы лепшы шлях:

Яму уважыў пан лясьнічы...
І сеў Міхал у страшнай дзічы,
Дзе лес адзін, хмызьняк да поле,
Да ветру посьвісты на волі...

За гаспадарку непарокам прымаецца Міхал на новым месцы.

Каня, кароўку расстараўся,
Завёў сьвіней, дзьве тры авечкі;
Тымчасам з дому для падмогі
Антось прыехаў... (IV разьдз., 31 і н. стр.).

Антось, нежанаты брат Міхала, такі-жа безьзямельны, як і сам Міхал, заўзяты пястун дзяцей, добры таварыш іх пацех, *«цягнуў ярэмца хлебароба»*.

Навакол Міхала і Антося стаяць другія члены сямейкі лясьніка: маці —Ганна, вечна занятая «то каля печы, то на полі» («Жыцьцё жаночае такое»), і дзеці, Уладзік, Алесь, Костусь, Юзік і Ганна.

Ня ўсьпеў Міхал з сваёй сям'ёй
І пяць гадкоў спазнаць пакою,

як заклікае яго к сабе лясьнічы і дае загад:

. . . . Ну, чалавеча
Зьбірай манаткі і ў Парэчча
За добры час перабірайся... (V разьдз., 35 стр.).

У Парэччы, у балоце, у зруйнаванай гаспадарцы пачалося новае жыцьцё. Прад намі ў поэме разьвінаецца малюнак гэтага працоўнага жыцьця і яго вялікія і меншыя здарэньні: пажар хаты і жыцьцё каля зямлянкі, будова новага памяшканьня, узгадаваньне і пацехі дзяцей («Дзядзька-кухар», «Дзедаў човен»), пачатак вучэньня і прыезд настаўніка—«дырэктара», хлапчука з суседняй вёскі («Дырэктар»), вясковыя працы, наезд гасьцей, сьвяты («Каляды», «Вялікдзень»), гульні, зборы лясьнікоў на «сэсію» карчму «цёткі Хрумы», іх удзел у панскіх пацехах і інш. аж да сьмерцў асяродкавай асобы дзеі—лясьніка Міхала.

Такім спосабам, галоўныя асобы поэмы гэта—беларускія *безьзямельныя сяляне*, прымушаныя жыць на чужой, панскай зямлі і знаходзіцца ў поўнай экономічнай залежнасьці ад эксплёататараў сваёй працы. Гэта—тая вясковая грамадзянская група, якая па свайму становішчу бліжэй усяго стаіць да працуючага пролетарыяту гораду і разам з апошнім прымае актыўны ўдзел у вялікай соцыяльнай рэволюцыі.

Запраўдна «нязначны» знаёмыя поэты:

Жывуць, цярпліва долю смычуць
І крыж нясуць мужычы ціха,
Дабра ня бачачы з-за ліха (VI р., стр.).

Такімі-жа самымі нязначнымі, падлеглымі эксплёатацыі, людзьмі аказваюцца і выведзеныя ў поэме лясьнікі, таварышы Міхала па службе.

Клясе падлеглых людзей—вясковага паўпролетарыяту—у поэме процістаіць кляса эксплёататараў—паноў, якая ўверсе заканчваецца ўладаром зямлі—магнатам князем Радзівілам і мае беспасярэднюю справу з лясьнікамі ў асобе паноў другога, так казаць, гатунку—паноў-лясьнічых.

Згодна гэтаму *галоўная процілегласьць*, якая выступае ў поэме, *гэта—процілегласьць клясовых інтарэсаў паміж панамі й працуючай клясай.*

Паны зацікаўлены ў сваіх землях і маемасьцях, яны зацікаўлены ў танных рабочых руках і бязьлітасна эксплёатуюць сваіх слуг, швыраючы чалавекам з аднаго кута ў другі, а ня то й зусім выкідваюць яго з пасады:

Пан лясьнічы разважае:
—«Мне чалавек там добры трэба,
А ня гультай які, нязграба,
Такі лясьнік...., каторы
Ня будзе спаць п'яны ў разоры,—

і перакідвае Міхала з аднаго месца ў другое, ні колькі не шкадуючы працы, якая ўложана лясьніковай сямейкай у зямлю. І Міхалу прыходзіцца перабірацца, бо справа тут проста:

«Ня будзеш ты з лясьнічым спорыць,
Рабі, вось, тое, што гаворыць,
А не—йдзі вон»...

Паны ня толькі не каштуюць дабрабыту свайго хлопа, але зьневажаюць яго асобу.

Сядзяць паны, як страхі тыя,
А міны важныя такія.
Ўсе няпрыступны і ўсе горды,
Рашучы погляды і цьвёрды,
А ў кожным слове, ў кожным руху
Відна зьнявага да «пся-юху».
«Пся юхі» ім усяк слугуюць... (XXIII р., 198 стр.).
Паны ў калясцы пад'яжджаюць...
І пан Абрыцкі з лясьнікамі
Скланіліся нізка прад панамі.
Паны чуць-чуць адно зірнулі,
На іх увагі не зьвярнулі,
Як-бы ня людзі то стаялі. (196 стр.).

Дакладна, для пана хлоп—не чалавек, рэч вырабчага ўжытку, рэч, якую ён эксплёатуе ў мэтах захаваньня свайго дабрабыту. І колькі-бы хлоп ні стараўся, у яго няма надзеі выслужыцца ў пана.

Ці надта выслужышся ў пана?
Усё роўна знойдзецца загана,
Як ты ні падай, ні гасай,
Не пападзеш у пана ў рай
З сваёй патрэбай, інтарэсам... (II р., 17 стр.).

У паноў свае клясавыя інтарэсы; яны чужыя і духоўна беларускаму хлопу. Яны гавораць між сабой на польскай мове і ідэалізуюць Польшчу.

Ешчэ Польска не згінэла,
Покі мы жыемы—

зачынае пан равізовы на банкеце... У думках паноў устае ня проста Польска, а Польска XVIII ст. з яе рэжымам панскай охлёкратыі, бо іншай новай Польскі, дзе быў-бы гаспадаром працоўны народ, паны ня могуць сабе і прадставіць.

Цяжар становішча працоўнага люду павялічваецца сузнаньнем іх бясправўнасьці і немагчымасьці цягацца з панам і абараняць сябе ад зьдзекаў і ўціску пры дапомозе закону.

І крыўда ў тым, мае вы людзі:
І хто ж то волю даў паскудзе?
На што зямля іх, катаў, носіць?
Ой, хто-ж ад іх не загалосіць?
А дзе на іх шукаць управы,
Бо суд «праўдзівы», суд «ласкавы»
Паноў за зьдзекі не карае.
І хто цябе тут падтрымае?
Каму. паскардзіцца і дзе? (р. X, стр. 81).

Відавочна адчынаецца перад вачыма працоўных і праўдзівы характар як быццам па-за-клясавай улады цара...

— Ото разгон і шыр якая,—

разважае сам з сабою дзядзька па дарозе ў Вільню, калі ён едзе зайцам у цягніку:

Зірнеш—ня згледзіш канца-краю,
І гэта ўся зямлі армада
Гаспадара-цара аблада!
Вялікі багач ён на сьвеце,
Ды толькі бедны яго дзеці:
Ядуць хлябок яны з мякінай,
Зайцамі езьдзяць па машыне.
Якія дворы, божа мілы!
А ўсюды бедны люд, пахілы
Кішыць, гаротны, як мурашкі,
І ўздых задушаны ды цяжкі
Гатоў з грудзей яго прарвацца,
На гоман думак адазвацца:
«Эх, дзецца людзям бедным недзе!» (р. XXVII, стр. 250).

Ня дзіва, што пры такім парадку ўсё ў жыцьці безьзямельнага хлопа залежыць ад асобы пана. Чым агідней пан, тым больш цяжарным становіцца жыцьцё хлопа. Вось чаму такое вялікае значэньне мае для лясьніка асоба лясьнічага.

Вельмі значным здарэньнем апасьля пажару хаты ў жыцьці жыхароў Парэчча зьявілася сьмерць старога лясьнічага.

На другі дзень, калі Міхась ужо крыху праспаўся,

Ў абход сягоньня ня зьбіраўся,
Другія думкі і настроі
Усё не даюць яму спакою:
За кім лясьніцтва застанецца?
Адкуль і хто сюды прыпрэцца,
Пасаду вольную заступіць?..

Урэшце аб'ежчык Ксавэры прыносіць у хату зьвестку аб новым лясьнічым:

—Не падвязло нашаму брату:
Пякельны пан!—Ксавэры кажа:—
Як ноч, на нас, на ўсіх ён ляжа:
То пан Ракоўскі з-пад Татаркі!
Як, кажуць, пан занадта шпаркі...
— А як-жа! чуў я, што за пташка!
Лядачы нораў, лае цяжка;
Яшчэ і звычай такі мае,
Што з кулакамі налятае...
І праўда, пан быў злы, паганы
І зьвераваты, падзіманы;
І мух ня мала меў у носе...
І шмат цяжей тут павялося»... (р. IX).

Пры такіх умовах у панскіх слуг няма сузнаньня забясьпечанасьці свайго дабрабыту.

Рабі, працуй, кладзі ты сілы
У гэты дол чужы, пастылы
І горкім потам аблівайся;
Зрабіў парадак—выбірайся!
Ды йзноў ідзі адсюль у госьці...
Эх, вы, паны! Эх, ягамосьці!.. (р. IV, стр. 35).

Адгэтуль уздымаецца ў грудзёх селяніна бунт-протэст процiў таго зьдзеку, які дзеліць люд на дзьве няроўныя часьціны:

На багачоў і на галоту.
Адным—сланяцца каля плоту
Сваіх задворкаў цёмна-брудных
У мысьлях-думках шэра-будных,
Жыць у гразі, хадзіць сьляпымі
Ў імгле пустой і ў едкім дыме,
Цярпець пакорліва, маліцца
І з гэтай доляю гадзіцца,
А усе надзеі на збавеньне
І на канец таго мучэньня,
Які настане ўсё-ж нарэшце,
На той бок сьмерці перанесьці!
Другім—тут рай і панаваньне
І ўсіх дабротаў спажываньне.
Ты ім служы, ты ім працуй
І нейкі страх прад імі чуй! (XXIX р., 263 стр.).

Гэты протэст, як быццам чырвонаю стужкаю праходзіць праз усю поэму і іншы раз вырываецца ў Міхала ў воклічах абурэньня, як прыкладам:

Але-б вы самі спрабавалі,
Калі б у вочы вам плявалі
І вас агіднаю зьнявагай
Па сэрцы білі-б, як тэй шлягай!
А ты маўчы, сьвяці вачамі
Перад паўпанкамі, панкамі
І перад панскім розным збродам,
Цярпеньнем скованы, як лёдам! (IX р., 74 стр).

Як малюючая процілегласьць інтарэсаў паноў і безьзямельнага сялянства, новая поэма Коласа ў істоце прадстаўляе сабою разьвітак тых думак і настрою, якія знайшлі сабе выраз яшчэ ў юнацкім вершы Коласа «Нашым ворагам», дзе поэта кліча на суд усіх паноў і багачоў:

Багачы і панства,
Нашы дабрадзеі,
Мы на суд вас клічам,
Каты і зладзеі.
І на перахрэстку
Часаў пераходных
Сьмела вас пытаем,
Жадных і нягодных...

Гэтыя думкі праходзяць і праз іншыя творы поэты.

У паказаных адносінах поэма Коласа бязумоўна адмечана адценьнем надыходзячага моманту рэволюцыйнай эпохі—і шмат якія месцы гэтай поэмы напэўнае не маглі-б лягальным спосабам убачыць сьвятло пры царскім рэжыме, ня ўбачылі-б і цяпер у Заходняй Беларусі.

Поэма ў тым відзе, у якім яна цяпер надрукавана, магла зьявіцца толькі цяпер, у час рэволюцыі—там, дзе зруйнавана дарэшты панаваньне паноў і падпанкаў, дзе працоўны люд скінуў свае путы, і сама мае *вялікае значэньне для выхаваньня рэволюцыйнай самасьвядомасьці* пролетарыяту.

Але іншым вокам павінны мы паглядзець, калі ўзьнікае пытаньне аб спосабе, якім гэроі поэмы думаюць вырашыць рэволюцыйную па сваёй істоце проблему свайго збаўленьня ад зьдзекаў паноў і падпанкаў.

А дзе-ж той выхад, дзе збавеньне
З няволі цяжкай, з паланеньня?
Адзін ён ёсьць: зямля, зямля,
Свой пэўны кут, свая ральля;
То—найнмацнейшая аснова
І жыцьця першая умова.
Зямля ня зьменіць і ня здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасьць волі, дасьць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх ня кіне,
Зямля—аснова ўсёй айчыне.

Але запытаньне: якая зямля?

Міхал у часе вандраваньня
На адзіноце сам з сабою,
З гарачым сэрцам і душою
Разьвязваў важнае пытаньне
Аб тэй зямельцы аб уласнай.

Яна сьвяціла зоркай яснай,
Яна гарнула і хіліла,
Бы нейкіх чар нязнаных сіла.
Свая зямля, свая пасада!..
Ці ёсьць мацнейшая прынада (XXVI р., 227 стр.).

Ужо даўно ў Міхала склалася ідэя, што адзіны шлях да збаўленьня, гэта—*уласная* зямля. Асабліва моцна ўскалыхнула яго, «ўсе ўверх дном перавярнула» сьмерць старога лясьнічага.

І тут у першы раз Міхала
Вось гэта думка напаткала:
*Купіць зямлю, прыдбаць свой кут,*
*Каб з панскіх выпутацца пут,*
І там зажыць сабе нанова:
Свая земля—вось што аснова. (VIII р.).

Гэта думка—лэйт-матыў, аснова ўсёй поэмы. На гэтай аснове мы можам растлумачыць і самы загаловак поэмы: «Новая зямля» прадстаўляецца перш-на-перш, як *уласная* зямля.

Няма зямлі сваёй і хаты
І мусіш гнуцца, як пракляты,
Бо ты ні мяса і ня рыба...

І вось Міхал стаў капіць грошы, патрэбныя для пакупкі зямлі... У канцы канцоў зямля была прыгледжана ў Хадыкі ў *Заблоньні* і куплена. Каб аформіць пакупку, дзядзька і езьдзіць зайцам у Вільню.

Міхалу не ўдалося гаспадарыць на новай зямлі. У хуткім часе пасьля пакупкі ён захварэў і памірае. Апошнімі яго словамі—наказам свайму брату— былі словы:

Зямля, зямля.. туды, туды, брат,
Будуй яе... ты дай ёй выгляд
На новы лад, каб жыць нанова... (р. XXX).

Зьяўляецца пытаньне: ці гэта ёсьць *«новы лад»* і ці гэта значыцца *«жыць нанова»*?

У сваіх імкненьнях да ўласнай зямлі Міхал, як відаць, трымаецца зусім буржуазнай ідэолёгіі і ідэалізуе прыватную ўласнасьць.

Яго ідэал выйсьці ў шляхту, стаць такім-жа панам, як і лясьнічы:

Гдзе Міхал—прад ім сяліба,
Засьценак добра так знаёмы
І хоць няважныя харомы
Тут гэта шляхта збудавала,
Але жыве і гора мала;
Хоць шляхціц цёмны, як саган,
Затое-ж сам сабе ён пан.. (XII р., 97 стр.).

У гэтых адносінах гэроі поэмы бязумоўна не прыналежаць да нашага часу—часу адбыўшайся ўжо соцыяльнай рэволюцыі, якая пакіравана проціў усякай прыватнай уласьнасьці, дзе якраз і знаходзіцца корань зьдзеку і ўціску адных людзей другімі. Запраўдна, зусім зразумела, што шлях, які выбраны Міхалам для збаўленьня ад векавой крыўды—ня ёсьць шляхам для разьвязаньня вялікай соцыяльнай проблемы. Тут, згодна тэзісам соцыялізму можа быць толькі адзін шлях: перабудова ўсяго грамадзянства на пачатках *супольнасьці* праз уладу *працуючага пролетарыяту*. І толькі такі лад зьяўляецца запраўдна новым ладам.

Агулам кажучы, увесь думанастрой і ўвесь уклад жыцьця гэрояў поэмы адмечаны *дробна-буржуазнымі* рысамі. Дробна-буржуазным прадстаўляецца агульны сьветапогляд Міхала і Антося, у дробна-буржуазнай абстаноўцы выхоўваюцца дзеці, і тыя радасьці, якія час ад часу выпадаюць на долю сямейкі, увы!—зусім дробна-буржуазныя радасьці. І навокал, у гушчы лясьнікоў і сялян кіпіць дробна-буржуазная стыхія. *Індывідуалізм*, як адзнака, найбольш характарызуючая істоту буржуазнага ўкладу, эгоістычных мэтаў,—вось што выразна выступае ў тварышоў Міхала па панскаму палону:

Народ жадзён, жыве у сьціску,
Гатоў у вочы сыпнуць прыску,
Зрабіць умыслу дзеля зьдзеку—
Не, не ўнаровіш чалавеку.
І свой-жа брат цябе кусае,
Бо кожны выслужыцца хоча
Адно гаворыць табе ў вочы
Але другое ў мысьлях мае... (X р., 80 стр.).
— Ох, да і людзі-ж! што за душы!—
Гаворыць маці абурліва—
— Чаму ня скажуць? ото дзіва!
Той самы «Тэш», каб падлізацца,
Гатоў хоць чорту запісацца... (р. IX, стр. 76).

У асабе «Тэша» як быццам адбілася ўся сваекарысная дробна-буржуазная істота. Але за «Тэшам» ідзе «Памдзей» і інш.

Тут гэты лад быў так збудован,
Што на даносах быў заснован;
І мелась тут навідавоку
Кусаць адзін другога збоку. (XII р., 101 стр.).
Адны другіх-бы тут паелі,
Або ўтапілі-б, каб прымелі.
Адзін другога не пакрые,
Глядзяць, як ворагі ліхія.
Гатовы ліха прыкупіць,
Каб спатайка цябе ўкусіць;
А пан з таго і карыстае... (X р., 81 стр.).

Адгэтуль вывад:

— Ну, што-ж? цярпі, маўчы зацята,
Бо так выходзе, небажаты...

І церпяць, як цярпелі ў працягу цэлых стагодзьдзяў і беларускія, і велікарускія, і польскія мужыкі...

Праўда, іншы раз не дахопіць цярпеньня, і тады абурлівы настрой можа праявіцца, як гэта й адбылося адзін (*толькі адзін*) раз з Міхалам, пакрыўджаным да глыбіні душы ад лясьнічага.

Міхал маўчаў, ды нечакана
Ён сам як рушыцца да пана!
Лясьнічы зразу ўзад падаўся.
— Чаго, пан, гэтак раскрычаўся?
Завошта, пан, мяне так лае?
Згарыць яна няхай такая
І служба гэта, і пасада,
І гэта крыўда, й гэта здрада,
І гэта панская адплата!

Няхай яна будзе праклята.
Міхал тут плюнуў, завярнуўся—
Хоць раз, да добра агрызнуўся! (X р., 85 стр.).

Але пасьля гэтага здарэньня ён ужо баіцца, як-бы ня выйшла з таго якое-небудзь ліха,—«а што, як скажа выбірацца?—і супакойваецца, калі ў той-жа дзень атрымлівае наказ ісьці сачыць ваўкоў:—«ну, значыць, квіта!»...

Значыць, застаецца зноў цярпець і толькі цішком думаць аб адплаце пану:

„За «гітал» падлу ды ў ваду!
Парваць-бы ноздры качарэжкай
Або глузды эдбіць даўбешкай",

як разважае дзядзька, і трызьніць аб «сваім куце», як трызьніць Міхал.

Нянавісьць да паноў *цішком* досыць выразна праходзіць праз усю поэму, але толькі нянавісьць і протэст *цішком і паасобку.*

Такім спосабам, гэроі поэмы не дарасьлі яшчэ да ідэі яўнага, паспалітага бунту проціў паноў—ідэі, якая ясна выступае ў вядомай «Беларускай марсэльезе».

«Мы дружна паўстанем з касамі, з сярпамі,
Прагонім з зямлі палачоў!
Няхай нас сустрэнуць палямі, лясамі
Грамады працоўных людзёў!

У паказаных адносінах поэма Коласа, бязумоўна, не прыналежыць да эпохі комуністычнай рэволюцыі—часу паспалітага паўстаньня сялян і рабочых проціў пануючай клясы, ня будзіць у нас комуністычных думак і мае толькі *гістарычнае* значэньне, як *нарыс дробна-буржуазнага настрою й быту беларускага сялянства* пераходнай да часу вялікай соцыяльнай рэволюцыі эпохі.

Апрача таго, зноў лічым неабходным падкрэсьліць, што поэма мае значэньне і як адрывак з аўтобіографіі поэты. Ён пісаў аб тым, што *было*, аб падзеях, якія запраўдна адбываліся. У асобе лясьніка Міхала магчыма прызнаць бацьку поэты, а ў асобе хлопца Костуся—самога песьняра, як і назовы «Парэчча», «Заблоньне» і інш.—зусім рэчавістыя назовы, якія і цяпер мы пачуем у Мікалаеўшчыне б. Менскага павету.

І гэтыя значэньні поэмы павялічваюцца дзеля асаблівасьцяў мастацкай творчасьці поэты.

Зьвяртаючыся цяпер да аналізу мастацкага боку поэмы, перш-на-перш адмецім *рэалізм* поэмы. Поэта творыць рэальныя вобразы, якія рэальна існуюць ў рэчавістасьці. Як Пушкін і А. Міцкевіч, Як. Колас прыналежыць к рэалістычнай школе, у якіх адносінах з ім мае падобнасьць у беларускай літаратуры рабоча-пролетарскі пісьменьнік Ц. Гартны. Поэзія «залатой пары» беларускай літаратуры і ня можа быць іншай, як не *рэалістычнай.*

Таксама зьвяртае на сябе ўвагу надзвычайная *плястычнасьць, вобразнасьць* малюнкаў, якія даны ў поэме—плястычнасьць, якая як нельга больш адпавядае запатрабаваньням мастацкага эпосу. У гэтых адносінах новы твор Коласа мае, нават, перавагу ў параўнаньні з творамі А. Пушкіна і А. Міцкевіча, зьбліжаючыся з творамі Ю. Лермантава.

Асабліва плястычна абмалявана ў Коласа прырода. Родная прырода знайшла для сябе ў асобе Я. Коласа добрага апісальніка і не дарма кажа поэта:

Малюнкі родныя і зьявы!
Як вы мне любы, як цікавы!
Як часта мілай чарадою
Вы ўстаіцё перада мною!... (р. XVI, стр. 137).

Асаблівую магутнасьць апісаньня ўжо М. Гарэцкі адмеціў у адносінах да першага разьдзелу «Лясьнікова пасада». Але здаецца, што ў гэтым сэнсе асабліва трэба падкрэсьліць XXV разьдзел поэмы:—«Летнім часам», дзе з надзвычайнаю натхненнасьцю і маляўнічасьцю апісаны розныя прыгоды і зьявы лета: раніца, поўдзень і вечар, усход і захад сонца, навальніца і летні дождж... Лета—найлепшая пара году і робіць асаблівае ўражаньне на чульлівую душу поэты-мастака,

І колькі ў ім яшчэ прывету,
Прыгод усякіх так багата!

І беларуская зіма апісана ў поэме з мастацкасьцю.

Ёсьць хараство і ў гэтых зімах
І ў мёртва-бледных тых кілімах,
Што віснуць, зьяюць хрусталямі
Пад занямелымі лясамі,
Калі ў агністым мароз троне,
У крывава-багравай заслоне
Над сьветам рукі ціха ўздыме. (XX р., 170 стр.).

Магутнае па сіле натхненьня і вобразнасьці апісаньне марозу даецца ў XIX разьдзеле (162—167 стр.).

Знаходзіць для сабе «водгульле ў душы поэты» і «зварот пары—зьніканьне лета» і прыход вясны. Мастацкі апісана ў XXI разьдзеле поэмы і зімняя росьцепель, калі ў барацьбе стыхій раджаюцца «таемныя гукі», а ў разьдзеле XXII і самая вясна...

Калі чытаем поэму Коласа, беларуская прырода выяўляецца ва ўсім багацьці сваіх колераў і магутнасьці сваіх праяваў.

І гэта—ня мёртвая, а жывая, адушаўлённая прырода, каторая б'ецца у ўнісон з біцьцём чалавечага серца.

Эх, выйдзі ў поле, брат, дасьвету:
Ня будзеш каяцца ніколі.
Зірні, прыслухайся наўкола:
Як ціхамірна, як вясёла!
І ў кожным дрэве, і былінцы,
І ў малюпасенькай расьлінцы—
Ну, ва ўсім чысьценька дазваньня—
Блукае радасьць спадзяваньня;
Куды ні глянь—усё ў настроі
І ў добрай згодзе між сабою.
Само паветра жыва, дыша,
Бы ў ім хтось хвалы жыцьцю піша
Праменна-сьветлы, яснавокі... (XXV р., 222 стр.).

Ня дзіва, што сам поэта аб'ядноўваецца з прыродай.

І люб і смуцен час прыгоды,
Калі душа ўсяе прыроды
З тваёю злучыцца душою
Ў адным суладзьдзі і настрою. (XIV р., 121 стр.).

У гэтым пантсыхічным або віталістычным поглядзе поэты на прыроду адчыняецца шлях да зблізэньня яго поэмы з творамі заходня-эўропэйскіх, як Мэтэрлінк, і расійскіх, як Бальмонт, поэтаў *сымболістаў* і разам з творамі жывой *народнай* поэзіі: дарэчы, у народнай поэзіі знаходзіцца праўдзівая крыніца ўсякай запраўдна-мастацкай поэзіі.

Дзеля таго, поэма і багата метафарамі, параўнаньнямі, упадабленьнямі і іншымі поэтычнымі зваротамі, уласьцівымі народнаму вершу. У вочах поэты „ёлкі шэпчуцца з хвоямі» (6 стр.), «дзярэўцы вясёла пазіраюць на сьвет» (9 стр.)

А гэты ветрык дурасьлівы
Траве зялёнай чэша грывы,
У садку жартуе з верабінай,
Як голец-хлопец той з дзяўчынай,
І валасы зялёным стрэхам
У лесе гойдае са сьмехам.
А кругаверхія асіны
Разносяць нейкія навіны
І так гутораць, так сьмяюцца,
Што ад іх лісьцікі трасуцца... (р. Пр, стр. 14);

самыя «хмаркі на захадзе ў тужлівым нікнуць задуменьні» (VI, стр. 50), «агонь сярдуе» (51), «мароз штукар і жарты любіць» (XX, 164 стр.). вясною «бор глядзіць з усьмехам» (XXV, 210 стр.), а «гром пярун сталёвым бічам, бы нейкі зьвер страшэнным бічам, арэ, трасе, калоціць хмары» (стр. 217.

Запраўдны мастацкія вобразы!

Бытавая абстаноўка прадстаўлена ў мастацкіх апісаньнях раніцы ў лясьніковай сямейцы ў нядзелю (II р.), сьняданьні перад пярэбарамі (V р.), дзядзькава кухарства, (VII р.), сэсіі (XII), папоек лясьніковых у цёткі Хрумы, прыёму гасьцей у Парэччы (XIII р., стр. 110—120), вучэньня хлопцаў (XV р.), Калядаў (XX р.) і Вялікадня (XXIV р.), паляваньня (XXII і XXIII), касавіцы і сенажаці (XXV р.), агляду новай зямлі (XXVI р.), паездкі дзядзькі ў Вільню зайцам (XXVII р.).

У апісаньні рознастайных сцэнак вясковага жыцьця дадзены ў поэме мастацкі нарыс беларускага сялянскага быту да-рэволюцыйнай эпохі, што яшчэ больш падкрэсьлівае яе значэньне, як *нацыянальнай* беларускай поэмы.

Вельмі мастацкі ў поэме апісана і гарадзкая абстаноўка—горад Вільня з яе прыгожымі відамі (від з Замкавай гары—XXIX разьдз.) і гарадзкімі сцэнамі.

Але Якуб Колас—ня толькі мастацкі апісальнік прыроды і знадворнай абстаноўкі быту: прад ім сьвет адчынены ва ўсёй многавобразнай рознастайнасьці сваіх зьяваў.

Бо сьвет і жыцьце многалучны
І многавобразны, выключны,
Таемна схаваны, цікавы
І рознастайны іх праявы,
Дзе кожны момант хвалі новай
Нам штось гутрыць сваёй мовай
Для сэрца і для разуменьня,
Дзе поўна ўсё свайго значэньня,
Прыгожства, чар і глыбіні. (XXVII разьдз., 241 стр.).

Успрыймаючы сьвет і жыцьцё ў match рознастайнасьці іх зьяваў, Я. Колас, выступае перад намі, як і вельмі мастацкі знаўца чалавечага твару, як мастак-*партрэтысты і фізіогномісты*.

Яму выключна ўдаюцца чалавечыя партрэты. Ледзь не найбольш удалым зьяўляецца ў поэме партрэт дзядзькі Антося, сталага таварыша дзяцей, на каторым поэта застанаўліваецца з асабліваю любоўю ў розных мясцох поэмы.

Вось як жывога, дзядзьку бачу.
Я тут партрэт яго зазначу.
Ён нявысок, ня надта ёмак,
Ды карчавіты і няўломак,
А волас мае цёмна-русы
І зухаўскія яго вусы:
Умеру доўгі, густаваты,
Угору чуць канцы падняты;
А вочы шэры, невялічкі,
Глядзяць прыветна, як сунічкі,
Але раптоўна і адразу
Не расчытаеш іх выразу,—
То сьмех, то хітрасьць з іх бліскае,
То дабрата, але якая!
А нос... я глянуць мушу ў неба,
Бо не патраплю, як пачаць
І з чым нос дзядзькаў параўнаць,
Каб выйшаў ён такі, як трэба:
Ну, нос кароткі і таўсматы,
Ды досыць спрытны, хоць кірпаты. (XVI р., 140 ст.).

Быццам жывыя ўстаюць перад намі і задуменна-сур'ёзны твар Міхала, і задуменна-радасны філёзофскі тварык Костуся, і тварыкі яго братоў, і клапатлівы, адмечаны вечнай турботай, твар маці, і твары лясьнікоў, і наздраваты, падзіманы твар пана Ракі з-пад Татаркі. Як быццам жывы стаіць перад намі і прадавец зямлі Хадыка з сваім: «ядзяць іх мухі з камарамі!»

Вельмі ўдалы ў поэме апісаньні і выразаў асобных псыхолёгічных станаў. Вось, напр., апісаньне сердаваньня Міхала:

Міхал стаіць, зьнявагі поўны,
І погляд кідае бязмоўны.
О, колькі крыўды ў ім, абразы!...
Э! лепш змаўчаць ёй, лепш тры разы,
І не адказываць нічога.
Ён толькі ў бок плюе з парога,
Ідзе—сам гнеў і сама бура,
Са лба на бровы зьбегла скура,
А губы шчыльна-шчыльна сьцяты;
Дзьвярмі ён грукнуў, выйшаў з хаты
І злосьць душы і сэрца пляму
Выносіць з дому аж за браму. (XII р., 95 стр.).

Па тонкасьці пагляданьня, па анатомічнай правільнасьці фізіогномічныя апісаньні, якія даны ў поэме Коласа, можна сьмела паставіць на адзін ровень з фізіогномічнымі малюнкамі найлепшага расійскага поэты фізіогномістага І. Ю. Лермантава.

І падобна Ю. Лермантаву, Колас не абмяжоўваецца толькі фізіогномічным аналізам; ён дае глыбокі аналіз унутраных рухаў чалавечага мозгу і сэрца.

Ёсьць адна галіна душэўнага жыцьця, на каторай беларускі поэта застанаўліваецца з асаблівою любоўю, гэта—душэўнае жыцьцё дзяцей. Па тонкасьці аналізу дзіцячай душы, па маляўнічасьці вобразаў дзіцячага жыцьця поэма Коласа ня мае сабе роўнай, нават, сярод твораў багатай расійскай поэзіі.

Мы з намерам ня будзем застанаўлівацца ў гэтай дэталі творчасьці Я. Коласа, бо тут дана тэма для цэлага нарысу. Магчыма толькі адмеціць вельмі цікавую і зусім адпавядаючую сучаснасьці сцэнку ў XV разьдзеле з «начаткамі», дзе апавядаецца, як Алесь парваў ненавісныя «начаткі».

Вос вам, Абрам, Ісак і Якаў!
Паплачце вы, бо я ўжо плакаў!

Няма неабходнасьці асабліва застанаўлівацца і на ўсім добра вядомым *гуморы* Я. Коласа, які раскідан бісерам і ў яго новым творы.

У цэлым, новую поэму Я. Коласа па *ўнутраным асаблівасьцям* мастацкай творчасьці аўтора можна з поўным правам прызнаць *клясычным* творам беларускага прыгожага пісьменства.

Яна сьведчыць аб *поўным разьвіцьці поэтычнага таленту аўтора*, у каторым, як у фокусе, адбіваецца *росквіт здольнасьцяў беларускай нацыі*.

Што тычыцца *знадворнага тэхнічнага* боку поэты, дык у гэтых адносінах зусім магчыма згадзіцца з водзывам, які зроблены М. Гарэцкім у другім выданьні яго «Гісторыі беларускае літаратуры» ў адносінах да надрукаваных да 1921 г. яе адрыўках: «тэхніка вершу стаіць дужа высока» (стр. 160). Нават тэхніка вершу ненадрукаваных да гэтага часу адрыўкаў стаіць вышэй у параўнаньні з тымі адрыўкамі, якія ўжо друкаваліся. Але нельга адмаўляць таго, што з тэхнічнага боку верш Коласа ўступае вершу Пушкіна, Ад. Міцкевіча і ў рамках беларускай літаратуры вершу Я. Купалы і М. Чарота. М. Гарэцкі, у частковасьці, лічыць недахватамі вершу Коласа нягучнае зграмаджэньне зычных і ўжываньне нягучнага, быццам зьлішняга «ў». Гэтыя дэфэкты выступаюць і ў новай поэме, як у першых, так і апошніх разьдзелах. Тут асабліва прыметны недахват «багатых» рыфмаў, і часта сустракаюцца толькі «сугалосьсі»—асонансы, напр., у 1 разьдзеле:

крушыны—верабіны (стр. 6)
абступалі—хвалі (7)
вокам—шырокім (7)
раўніною—травою (7)
раняе—пакідае і інш.

у апошнім XXX разьдзеле ў апошніх страніцах:

хваёвы—размовы (стр. 280)
якая—набывае (281)
тленьню—адзеньня (282)
Міхаська—цяжка (283)
людзкія—крывыя (284).

Недахватам тэхнікі трэба прызнаць і аднастайнасьць ямбічнага вершу.

У вершы іншы раз прымячаюцца «перабоі» і мабыць зьлішне часта вершавальны націск не адпавядае граматычнаму.

Недахватам з боку апрацоўкі зьяўляецца несуразьмернасьць у ахопе адзіночных разьдзелаў. Напр., 1 разьдзел мае 260 строф, 2-гі—ужо 322, V-ты—352, VII мы—294, XII-ты—416, а XIII ўжо каля 650.

Урэшце, заўважым прысутнасьць паўтарэньняў на адну і тую жа тэму ў розных разьдзелах. Ледзь ня ў кожным разьдзеле спатыкаем разважаньне аб уласнай зямлі і сваім куце.

Недахваты мае й мова поэмы. Як і ў іншых творах Я. Коласа, яго мова ў новай поэме багата «русіцызмамі». Прыводзіць прыклады гэтых «русіцызмаў» асабіста няма патрэбы: іх даволі знойдзецца ў вышэйзробленых ужо выпісах.

Калі-б аўтор затрымаўся на сваёй працы, калі-б, асабліва, ён пераапрацаваў ужо надрукаваныя да 1923 г. адрыўкі, а пераапрацаваныя і зноў апрацаваныя часткі праглядзеў некалькі разоў, дык поэма выйшла-бы з друку ў больш дасканалым з тэхнічнага боку відзе. Але быстры тэмп рэволюцыйнай эпохі, эпохі зруйнаваньня старых і будаўніцтва новых формаў соцыяльнага жыцьця і ўтварэньня маладой беларускай культуры не даюць сучаснаму аўтору магчымасьці застанаўлівацца доўгі час на сваім літаратурным творы і прымушаюць яго імкнуцца да ўсё новых і новых літаратурных дасяганьняў. І ў гэтым імкненьні дано забясьпечаньне далейшага разьвіцьця формаў беларускай монумэнтальнай поэзіі, пачатак каторай зроблены Я. Коласам. Цяпер ад яго монумэнтальнага эпічнага твору шлях разьвіцьця беларускай поэзіі йдзе да закончанага беларускага раману.

Г. Менск
1923—VI—3.

**М. Байкоў.**

# Па шляху соцыяльных перабудоў.

Чацьвёртая сэсія Ц.В.К. Р.С.Ф.С.Р., якая адбылася ў кастрычніку мінулага году, трохі ня ўся была занята грунтоўнай заканадаўчай—кодыфікацыйнай працай. Гэтая сэсія разгледзіла і зацьвердзіла грамадзянскі кодэкс, угалоўна-судовы кодэкс, закон аб працы і шмат іншых. Сярод усіх гэтых законаў першае месца мы павінны аддаць зямельнаму, таксама ўхваленаму сэсіяй і замацованаму пастановаю Ў.Ц.В.К. ад 30 кастрычніка. Важнасьць гэтага закону заключаецца ў тым, што ён канчаткова парашае з зямельным пытаньнем, быўшым такім балючым для расійскага селяніна на працягу вякоў; значнасьць яго вялікая і праз тое, што ён мае сваім об'ектам важнейшы экономічны фактар — зямлю; гэты закон мае вялікую гістарычную значнасьць, як першы на ўсім сьвеце закон, зьніштажаючы прыватную ўласнасьць на зямлю. Замацаваньне гэтага закону нашым урадам і прыпасаваньне яго да жыцьця сьведчыць усім быўшым уласьнікам зямлі— паном, гандляром, рэлігійным установам, што іх валадарства скончылася, і надзеі на адход зямлі да іх назад мусяць змарнець. Вось у чым важнейшае значэньне зямельнага закону.

У нас, на Беларусі, зямельны закон быў разгледжаны шмат пазьней, чымся ў Р.С.Ф.С.Р. Праз тое, што зямельныя адносіны ў мінулым у нас былі крыху іншыя, як у Расіі, што наша сялянская гаспадарка мае асаблівасьці ў структуры ад гаспадаркі расійскага селяніна, а таксама і праз тое, што Беларусь знаходзіцца ў умовах ускраіны Савецкай Фэдэрацыі, трэба было агульна-фэдэратыўны закон паправіць, прыпасаваць да нашых мясцовых умоваў. Уся падгатоўчая праца заняла досыць часу, але ўсё-ж к другой сэсіі Цэнтровага Выканаўчага Комітэту Саветаў Беларусі закон быў падгатаваны, і 29 сакавіка гэтаю сэсіяю быў разгледжаны і прыняты.

Уперад, чымся зьвярнуцца да разгляду самога закону, затрымаемся некалькі на пытаньні аб карыстаньні зямлёю да соцыяльнай рэволюцыі ў кастрычніку 1917 году.

Сярод усіх зямель так званага раней Заходняга краю, Меншчына займала асаблівае месца па ўмовам карыстаньня зямлёю. Знаходзячыся па свайму географічнаму палажэньню бліжэй іншых заходніх зямель (Смаленскіх, Полацкіх) к Літве і Польшчы, Менская, Наваградзкая, Тураўская і іншыя драбнейшыя княжствы Меншчыны раней іншых увайшлі ў склад Літвы, а пасьля вуніі—Польшчы. Але ўсё-ж такі Менскія землі разглядаліся, як чужыя, і праз гэта польскія каралі не шкадавалі раздаваць іх сваім магнатам вялікімі кавалкамі. На Менскіх землях залажыліся вялікія па абшары княжствы-майораты такіх князёў, як Радзівілы, Огінскія, Патоцкія, Тышкевічы і інш. Гэтыя знатныя магнаты раздавалі ўжо ад сябе землі драбнейшым паном, як Скірмунты, Храбтовічы, Любамірскія і г. д. на за-

кладзіне чыста фэўдальных адносін. З часаў другога разьдзелу Польшчы Меншчына зрабілася тым зямельным рэзэрвуарам, з якога дарылася багата расійская арыстократыя (напрыклад, грап Зубаў у Рэчыцкім павеце). Такім чынам, як пераходны пляц між Расіяй і Польшчай, Меншчына ўва ўсіх гістарычных пэрыпэтыях разглядалася, як ускраіна і зьяўлялася об'ектам, з якога надзяляліся зямлёю знатныя арыстократы. Праз гэта панскае землекарыстаньне ўмацавалася тут так, як нідзе. Нават, пасьля вольнасьці сялянства ад паншчыны ў 1861 годзе прыватная землекарыстаньне засталося надта значным. К 1905 году яно па Меншчыне займала 60,5 проц. усяе зямлі ў той час, як у сярэднім па Расіі было 25,8 проц. Па велічыні прыватнага землекарыстаньня Меншчына стаяла ніжэй толькі Прыбалтыцкіх губэрняў (у Эстляндзкай губ. 73,9 проц.), дзе фэўдальная сыстэма ў свой час была выяўлена надта моцна.

У прыватным землекарыстаньні па Меншчыне пераважвала *аднаасабовае валаданьне*. Панству належала 83,6 проц. усіх прыватных зямель, гандляром—6,4 проц.,—сялянам-уласьнікам—2,6 проц. і таварыствам і вобчаствам—8 проц. Такім чынам, аднаасабовым валадаром належала 92 проц. усіх прыватных зямель. З прыватных уласьнікаў, як бачым, найбольш значная частка зямель належала панству (дваране, шляхта): іх землі займалі 50,6 проц. усяго абшару губэрні. Панскія маёнткі былі надта значнымі. Абшар зямлі сярэдняга прыватнага валадара наогул быў 298,6 дзес., а сярэдні панскі маёнтак меў каля 600 дзесяцінаў. Лік прыватных уласьнікаў разьмяркоўваўся вось як: дробных гаспадарак (да 50 дзес.) было 70 проц., сярэдніх (ад 50 да 1000 дзес.)—22,8 проц. і вялікіх (больш 1000 дзес.)—6,4 проц. Але агульны абшар зямлі, належаўшай прыватным валадаром, разьмяркоўваўся якраз наадварот: найбольшым паном, меўшым у валаданьні больш 1000 дзес. на гаспадарку, належала ў 1905 годзе 79,6 проц. усіх прыватных зямель; сярэднім, меўшым ад 100 да 1000 дзес.—14,6 проц. і драбнейшым (да 100 дзес.)—5,8 проц. Праз гэта прыватнае землекарыстаньне ў Меншчыне ў прошласьці можна лічыць ня толькі аднаасабовым, але і *магнацка-валадарскім*.

Што належыць да казённых зямель, то яны займалі толькі 9 проц абшару губэрні. Гарадзкія, манастырскія, царкоўныя і іншых ўстаноў землі ў 1905 годзе налічваліся толькі ў 0,2 проц. усяе зямлі, а разам з казённымі—9,2 проц.

Сялянскія надзельныя землі займалі такім чынам у 1905 годзе 24,3 проц. усяго зямельнага абшару губэрні. Гэта было шмат ніжэй сярэдняга па Эўроп. Расіі, дзе сялянскія землі займалі ў гэтым годзе 35,1 проц. Сярод надзельных сялянскіх зямель найбольш налічвалася быўшых прыватных панскіх і шмат менш казённых (быўшых прыватных 84,2 проц., а казённых 15,8 проц.), бо пры нодзеле сялян пасьля вольнасьці даваліся ім прыватныя землі, якіх было шмат больш, як казённых. Апрача надзельных зямель, сялянства з часам пачало пашыраць сваю зямельную маемасьць праз куплю. Больш за ўсяго зямля скуплялася сялянамі ў паноў. Панская зямля, асабліва ў дробных панкоў, патрабавала значных стратаў для гаспадарства на ёй. Гэтыя страты ў найменш урадлівых паветах губэрні (усходніх) бадай што не зварочваліся цалком, а праз гэта паны, асабліва з тых, якія ня мелі падтрыманьня ў карыстаньні лесам, з часам пачыналі ліквідаваць сваю гаспадарку. Усяго сялянамі было куплена з пачатку вольнасьці да 1905 году 484.219 дзес. зямлі па ўсёй Меншчыне. Але ў нас купля зямлі сялянамі не пашыралася так, як у іншых мясцох; залежала гэта ад таго, што наш селянін заўсёды быў бедным і ня меў сродкаў, каб здабыць значны кавалак зямлі; таксама і панства ў нас ня надта згодна

йшло на прадаж зямлі: дзякуючы беднасьці сялянства, яно ўва ўсе часы мела надта танную працоўную сілу, што дазваляла вясьці ўласную гаспадарку ў маёнтках. Але ўсё-ж абшар панскіх зямель паменшваўся. Калі ў 1877 годзе панскія землі займалі 93,1 проц. усіх прыватных зямель і ў 1887 годзе—83,6 проц., то ў 1897 годзе яны налічваліся ўжо ў 79,4 проц.

Разам з купляю зямлі сялянамі разьвівалася і арэнда. На 1905 год валасных і натарыяльных арэндаў, большаю часткаю доўгіх (на 9 гадоў і больш), было па Меншчыне 11.192 з абшарам у 264.074 дзес., якія састаўлялі 13,6 проц. надзельных зямель. Са ўсіх арэндаў 68,6 проц. былі на панскіх землях, 16,1 проц. гарадзкіх і 7,6 проц. казённых і іншых устаноў.

Забясьпека аднае сялянскае гаспадаркі ў 1905 годзе была такая:

Надзельнай зямлі 9,1 дзес. (сярэдняя па Расіі 11,1 дзес.)
Купленай „ 2,2 „
Арэндованай „ 1,2 „

Усяго 12,5 дзес.

Лічачы толькі надзельную і купленую зямлю, у 1905 годзе прыходзілася на сялянскую гаспадарку 11,3 дзес.; пры гэтым гаспадарак, на якія прыходзілася менш 5 дзес., налічвалася 11.5 проц.; ад 5 да 10 дзес.—61,9проц.; ад 10 да 15 дзес.—13,8 проц.; ад 15 да 20 дзес.—6,9 проц. і больш20 дзес.—5,6 проц. На душу ўсяго жыхарства сялянскага падала 1,17 дзес. усяе зямлі.

Карыстаньне зямлёю ў 1905 годзе відаць вось з якіх лічбаў:

| ПАВЕТЫ | Усяе зямлі | Прыватн. асобаў | | Сялянскай зямлі | | | | | Казен., гарадз. царкоун. і інш. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Лік зямлі ў дзесяц. | 0/0 у агульным абшар. | Лік гаспадарак | Надзельнай зямлі дзесяц. | Купленай зямлі дзес. | Усяе зямлі дзес. | 0/0 у агульным абшары | Лік зямлі ў дзесяц. | 0/0 у агульным абшар. |
| Менскі | 463.113 | 273.594 | 59, 1 | 18.233 | 137.754 | 29.521 | 167.275 | 36, 1 | 22.244 | 4, 8 |
| Бабруйскі | 1.013.151 | 474.746 | 46, 9 | 23.739 | 251.629 | 156.351 | 407.980 | 40, 2 | 130.425 | 12, 9 |
| Барысаўскі | 880.063 | 597.328 | 67, 8 | 25.176 | 196.636 | 7.311 | 203.947 | 23, 2 | 78.788 | 9, 0 |
| Ігуманскі | 857.553 | 569.719 | 66, 4 | 22.963 | 178.531 | 61.668 | 240.199 | 28, 0 | 47.635 | 5, 6 |
| Мазырскі | 1.466.053 | 1.030.086 | 70, 2 | 19.022 | 239.764 | 24.646 | 264.410 | 18, 0 | 171.557 | 11, 7 |
| Навагрудзкі | 468.541 | 216.548 | 46, 2 | 29.539 | 178.382 | 36.026 | 214.408 | 45, 8 | 37.585 | 8, 0 |
| Пінскі | 1.116.045 | 766.408 | 69, 5 | 19.799 | 200.338 | 17.698 | 218.036 | 19, 5 | 121.601 | 11, 0 |
| Рэчыцкі | 1.112.472 | 474.019 | 42, 6 | 28.315 | 369.167 | 96.714 | 465.881 | 41, 9 | 172.572 | 15, 5 |
| Слуцкі | 646.462 | 370.310 | 57, 3 | 28.138 | 193.797 | 54.284 | 248.081 | 38, 4 | 28.071 | 4, 3 |
| УСЯГО | 8.013.453 | 4.772.758 | 60, 5 | 213.924 | 1.945.998 | 484.219 | 2.430.217 | 30, 3*) | 810.478 | 9, 2 |

Сялянская зямля, паказаная ў гэтай табліцы, дзялілася вось як: палявое 1.701.152 дзес. ці 69,9 проц.; сенажатнай і пасьбішнай 470 962 дзес. ці 19,3 проц.; лясоў 32.372 дзес. (1,3 проц.) і кепскай 135.731 дзес. (9,7

*) Купленая зямля 6% і надзельная 24,3%. Я. П.

проц.). На душу ўсяго сялянскага жыхарства прыходзілася: поля 0,83 дзес., сенажаці і пасьбы 0,23, іншых зямель 0,08 дзес.

Пасьля 1905 году агульны лік сялянскіх зямель павялічваўся праз куплю іх ад прыватных валадароў. Але забясьпека сярэдняй сялянскай гаспадаркі не падымалася, бо лік гаспадарак, а таксама і жыхарства ўзрастаў шмат хутчэй, як ішло павялічэньне зямель праз куплю. Напрыклад, лік гаспадарак у 1905 годзе па ўсёй тагдашняй Меншчыне быў роўным 213.924; к 1921 году ён узрос да 227.535 толькі ў тых паветах, якія засталіся ў межах С.С.Р.Б. Сялянская гаспадарка драбнела ўсё больш аж да 1916 году, абясьсільваючыся ў сярэдзіне самой сябе. Гэтая дробнасьць, малазямельле. якое выяўлялася на Беларусі больш, як у другім месцы, чакала свайго канца і знайшла яго ў соцыяльнай Рэволюцыі кастрычніка для тых частак Меншчыны, якім давялося зрабіцца Савецкімі. Трэба адмеціць, што значнага павялічэньня сялянская гаспадарка пасьля рэволюцыі не атрымала, і вось чаму. Большую частку быўшых прыватных і казённых зямель займалі лясы (52,4 проц.), якія цалкам адышлі ў дзяржаўную маемасьць; потым каля 19,2 проц. гэтых зямель зьяўляліся некарыснымі. Толькі 28,4 проц. усіх зямель непрацоўнага карыстаньня зьяўляюцца вартнымі, як поле ці сенажаць.

Па вынікам сельска-гаспадарчага перапісу 1917 году агульны лік зямель у межах сучаснай С.С.Р.Б. вось які. Усяе зямлі 4.741.166 дзес., сядзібы 73.733 дзес., поля 1.348.706 дзес., сенажацей 654.991 дзес., лесу 1.617.184 дзес., пад кустамі 71.918 дзес., пасьбішчаў 221.704 дзес., іншай карыснай 27.859 дзес., неўстаноўленае вартасьці 169.676 дзес. — усяго карыснай 4.185.831; бескарыснай—555.335 дзес. З гэтай зямлі ў мінулым годзе пад савецкімі гаспадаркамі было 28.547,5 дзес. поля і 31.141 дзес. сенажацей. Такім чынам пад сялянскія гаспадаркі можа быць аддана 2.992.316 дзес., выкінуўшы з рахунку лес і кусты, якія зьяўляюцца дзяржаўнымі. На адну гаспадарку селяніна павінна ў сярэднім прыходзіцца 13,15 дзес., а на душу ўсяго вясковага жыхарства—2,25 дзесяціны: поля і сядзібы 1,05 дзес., сенажаці і пасьбішча 0,64 дзес., іншай карыснай 0,15 дзес. і бескарыснай 0,41 дзес. Значыцца, забясьпека сялянскай гаспадаркі зямлёю ў 1922 годзе павялічылася на 16,37 проц. супроць 1905 году, а на душу сялянскага жыхарства на 92 проц. Праўда, значная частка гэтага павялічэньня ідзе за лік малавартных зямель, але гэтыя землі з часамі зробяцца ў руках селяніна вартнымі.

Вось у чым выявіліся вынікі соцыяльнай рэволюцыі. Дзякуючы ёй работніча-сялянская дзяржава вырвала з рук прыватных асобаў вялізарнай вартасьці багацьці нашых лясоў і можа карыстаць іх, як дзяржаўную маемасьць, для патрэбаў агульнай гаспадаркі і дзяржаўнага ўпраўленьня; дзякуючы рэволюцыі, селянін атрымаў магчымасьць дарэмна павялічыць сваю ўласную гаспадарку. Зямельны кодэкс толькі зацьвярджае тое, што зрабіла ў гэтых адносінах рэволюцыя, умацоўвае канчаткова рэволюцыйныя жаданьні працоўнага народу і выяўляе волю ўсіх пастаноў аб зямельным пытаньні з боку вышэйшай улады—Зьездаў Саветаў.

Артыкулам першым зямельнага кодэксу права прыватнай уласнасьці на зямлю, яе нутро, вадзяныя абшары і лес у Соцыялістычных Рэспубліках касуецца назаўсёды. Гэты артыкул зьяўляецца значнейшым і мае сэнс закладзіны для ўсяго кодэксу: з часу апавяшчэньня яго ніхто на абшары Савецкай Рэспублікі ня мае права мець уласную зямлю, якая-б належала яму і з якою-б можна рабіць, што хочаш. Уся зямля цалкам адыходзіць пад уладаньне Работніча-Сялянскай Дзяржавы і зьяўляецца яе ўласнасьцю. Дзяржава ўжо ад сябе дарue права *карыстаньня зямлёю* аддзельным працоў-

ным хлебаробам і іх аб'яднаньням, гарадом і дзяржаўным установам і прадпрыемствам. *Такім чынам, зямельны закон не дазваляе перадачы зямлі ва ўласнасьць, а толькі ў карыстаньне.*

Права карыстацца зямлёю ў Савецкай Рэспубліцы маюць усе грамадзяне, якія толькі захочуць самі, сваёю працаю абрабляць яе. Той, хто хоча абрабляць і карыстацца зямлёю, можа жыць, як ён захоча—ці асабіста ці ў складзе зямельнага вобчаства—і весьці сваю гаспадарку па сваім жаданьням: ён можа жыць на выселку, вотрубе ці ў вёсцы, маючы ў сваім карыстаньні нарэзкі зямлі, або можа весьці супольную з другімі гаспадарку. Закон, як бачым, ніколькі ня мінтрэнжыць сялянства, не пераварочвае іх звычаяў у гаспадарцы, а дарує магчымасьць кожнаму трымацца тае гаспадарскай сыстэмы, да якой ён мае большую здатнасьць і прыхільнасьць. Таксама закон дае магчымасьць і належнага разьвіцьця гаспадаркі, бо зямля даецца ў карыстаньне працоўніку бяз тэрміну. Права на зямлю канчаецца толькі тады, як уся сям'я па сваёй волі адцураецца ад яе, ці гаспадарка зробіцца такою кволаю, што яна ня можа больш лічыцца гаспадаркай, або ў выпадку перасяленьня ў іншае месца, дзе заводзіцца другая гаспадарка, ці пры патрэбе ўзяць зямлю для дзяржаўных і грамадзянскіх патрэбаў. Таксама пастановаю суда можа быць скасавана права грамадзяніна на карыстаньне зямлёю. У тым выпадку, як грамадзянін павінен пакінуць сваю гаспадарку часова для службы ў Чырвонай арміі ці для службы па выбарным пасадам, зямля, якая была ў яго карыстаньні, застаецца за яго гаспадаркай, а калі ён адыходзіць на заработкі ў іншае месца, то зямля застаецца за ім толькі два севаабароты, пасьля чаго яна ўжо адбіраецца ад яго, калі ён не захоча вярнуцца. Не зьяўляючыся прыватнай уласнасьцю, зямля ня можа ні прадавацца, ні аддавацца ў залог, ні дарыцца ні адказвацца іншым асобам (артыкул 26). Але-ж за тое, усе будынкі, хлеб, усялякія расьліны, скаціна і ўсё, *што маецца ў гаспадарцы, апрача зямлі, належыць гаспадару і зьяўляецца яго прыватнай уласнасьцю,* з якою ён можа рабіць усё па свайму жаданьню. Права бястэрміновага карыстаньня зямлёю і права ўласнасьці на ўсё тое, што дае зямля гаспадарцы, зьяўляецца двума закладнымі артыкуламі закону для селяніна, які да самага выхаду гэтага закону падчас коса пазіраў на Савецкі ўрад, думаючы, што яго сілком прымусяць закладаць зямельную камуну, да якой ён яшчэ не прылажыўся і якое ня можа ясна ўтлумачыць сабе.

Замацаваўшы адсутнасьць прыватнай уласнасьці на зямлю, кодэкс наогул не дазваляе перадачы зямлі з адных рук у другія. Але ў некаторых выпадках дазваляецца перадача зямлі ў арэнду. Гэтымі выпадкамі могуць быць: паслабленьне гаспадаркі ад няшчасьця (недарод, пажар, памор на скаціну і інш.), альбо недастача сельска-гаспадарчага начыньня і прыладзьдзя, а таксама і працоўнікаў праз сьмерць іх ці прызыў у армію, выбар на пасаду, адбытак на заработкі і інш. Вось такім гаспадаркам і дазваляецца здаць усю зямлю ці частку яе ў арэнду. Той, хто бярэ ў арэнду зямлю, павінен абрабляць яе сваёю працаю; калі-ж у яго самога столькі зямлі, што арэндованай ён ужо ня зможа абрабіць, то арэнда яму не дазваляецца. Такім чынам, *арэнда павінна быць працоўнаю;* гэта мае вялікае значэньне, бо ўжо наперад закон адбірае магчымасьць аб'яднаньня зямлі ў адных руках і злажэньня новых непрацоўных карысьнікаў зямлі. Артыкулам 34 закону не дазваляецца арэндатару перадаваць арэндную зямлю іншым асобам. Немагчымасьць аб'яднаньня вялікіх кавалкаў зямлі ў адных руках праз арэнду яшчэ забясьпечана і кароткім тэрмінам арэнды, якая дазваляецца ня больш, як на два севаабароты (гадоў 6—8), пасьля чаго, калі здаўшы ў арэнду і далей ня можа сам справіцца з гаспадаркаю, зямля пераходзіць у зямельны запас.

Стоячы на закладзіне толькі працоўнага карыстаньня зямлёю, закон наогул не дазваляе карыстацца нанятаю працаю. Толькі ў асаблівых выпадках, калі гаспадарка ня мае патрэбнага начыньня, панараду і працаўнікоў, можа быць дазволена наймаць людзей збоку. Але гэта дазваляецца толькі пры тых умовах, як ўся сям'я разам з нанятымі прымае ўдзел у працы. Гэтым ізноў такі падкрэсьліваецца працоўны напрамак сельскай гаспадаркі: *той, хто сам не працуе на зямлі, ня зможа і карыстацца ёю, бо яму закон не дае права карыстацца нанятым працоўнікам.*

Аб'яднаньне працоўных земляробаў, маючых агульнае карыстаньне зямлёю, лічыцца зямельным вобчаствам. Да іх могуць быць аднесены сёлы, вёскі, пасёлкі, а таксама сельска-гаспадарчыя камуны, таварыствы і добраахвотныя аб'яднаньні аддзельных гаспадарак. Гурток гаспадарак, маючых агульнае карыстаньне полем, ва ўсякім разе лічыцца зямельным вобчаствам. Таксама зямельным вобчаствам лічацца і гаспадаркі, якія маюць агульнае карыстаньне дапаможнымі землямі (сенажаці, пасьбішчы і інш.), хоць бы гэтыя гаспадаркі па карыстаньню полем уваходзілі ў склад розных іншых вобчастваў. Умовы карыстаньня зямлёю ў вобчастве ўстанаўляюцца асаблівым статутам яго, які павінен быць замацованы належнымі зямельнымі кіраўнічымі ўстановамі, разглядаючымі ўмовы статуту з боку адказнасьці іх закону. Вышэйшаю ўстановаю кіраваньня вобчаствам зьяўляецца агульная сходка, якой падведамы вось якія пытаньні: а) устаноўленьне і зьмена парадку карыстаньня рознымі землямі ў вобчастве; б) установа зямельнага статуту; в) дазвол аб залічэньні ў склад вобчаства новых таварышаў і аб выхадзе з зямлёю старых; г) пастановы аб разьмеркаваньні зямлі і парадку пасяленьня і падзелу; д) парашэньне аб агульным севаабароце, пасьбе скаціны і інш.; е) скарыстаньне агульных зямель; ж) выбар паўнамоцніка па зямельным пытаньням вобчаства, калі зямельнымі справамі ня ведае сельскі савет, што бывае ў тых выпадках, як зямля вобчаства ня сыходзіцца з межамі таго сяла, дзе вобчаства існуе. Кожнае зямельнае вобчаства можа выбраць які захоча спосаб карыстаньня зямлёю. Калі які-небудзь сябар вобчаства не належна карыстае зямлю ці шкодзіць усяму вобчаству, то апошняе можа праз зямельную камісію ня даць яму права карыстацца зямлёю на тэрмін да 3-х гадоў ці на адзін севаабарот. Такім чынам, зямельнае вобчаства мае вялікія паўнамоцтвы ва ўсіх выпадках карыстаньня зямлёю. Трэба спадзявацца, што з часамі гэтыя паўнамоцтвы будуць яшчэ пашыраны, як сродкі барацьбы супроць багацеяў-сялян.

Новы зямельны закон зусім у інакшы ўхіл ставіць разуменьне аб працоўнай земляробнай гаспадарцы (аб двары). Старыя законы царскіх часоў у гаспадарцы лічыліся перш усяго з гаспадаром, потым з мужчынаю; кабеты зусім ня прымаліся на ўвагу і, нават, у надзелах, у лічбах зямлі «за душу» прымаўся толькі мужчына. Савецкі ўрад-жа ня робіць розьніцы між мужчынаю і кабетаю і з 18 гадоў яны ўсе лічацца паўнамоцнымі; права-ж на карыстаньне зямлёю і маемасьцю гаспадаркі належыць усёй сям'і—як сталым так і малым. Прадстаўніком двара па гаспадарчым справам зьяўляецца яго гаспадар—мужчына ці кабета бяз розьніцы. Калі гаспадар дрэнна вядзе гаспадарку, раскідае яе, то сям'я можа прасіць Валасны Выканаўчы Камітэт паставіць гаспадаром каго небудзь другога з сям'і. У забясьпеку двара ад шкадлівасьці гаспадара закон не дазваляе прысуджаць гаспадарцы плаціць пазычкі, якія былі зроблены для сабе кім-небудзь з сям'і на ўласныя патрэбы. Артыкул гэты (69) забясьпечвае гаспадарку ад стратаў, якія могуць быць зроблены кепскім для гаспадаркі сем'янінам. Дзеля таго, каб гаспадарка не павялічвалася зямлёю праз замужства ці прымачаства, асобы, увходзячыя такім спосабам у склад іншай сям'і і гаспадаркі, трацяць пра-

ва карыстацца зямлёю і маемасьцю агульнага значэньня ў тэй гаспадарцы, з якое яны выйшлі. У гэтым сэнсе новы зямельны закон таксама строма разыходзіцца з царскімі законамі, калі ўласнасьць па сямейным адносінам ніколі не касавалася, у васаблівасьці дзеля мужчынаў.

Калі выявіцца патрэбнасьць, можа быць дазволены падзел гаспадаркі на часткі, як у сэнсе зямлі, так і маемасьці агульнага карыстаньня і значэньня. Зямля можа быць падзелена толькі ў тым выпадку, калі аддзеленая частка пачне новую гаспадарку, новы двор, іначай дзеліцца толькі маемасьць. Аддзельвацца ня маюць права тыя, каму няма 18 гадоў альбо тыя, хто шэсьць гадоў не сядзеў на гаспадарцы і не дапамагаў ёй. Пры спрэчках аб падзеле валасная зямельная камісія перш усяго павінна зьвярнуць увагу, ці нельга абысьціся без падзелу гаспадаркі, даўшы таму, хто аддзяляецца, зямлю з запасу; толькі калі зямлі ў запасе няма, то падзел павінен быць дазволены. *Пры падзеле аднакавым правам на зямлю і маемасьць карыстаюцца ўсе асобы сям'і: кабеты і мужчыны, сталыя і малыя.* Тут ізноў мы знаходзім вялікую розьніцу са старымі законамі, якімі даваліся аднакія правы пры падзеле толькі асобам мужчынскага полу, якія мелі паміж сабою аднакую ступень сроднасьці. Гэты падзел у старыя часы, большаю часткаю між братамі, ня быў нічым абмежаваны, і праз гэта гаспадарка з часамі магла зрабіцца надта дробнаю. Савецкі закон дае права зямельным установам і зямельным вобчаствам не дазваляць дробнасьці гаспадаркі: установы і вобчаствы павінны распрацаваць нормы зямлі, драбней якіх гаспадарка не павінна быць. Калі пастанова вобчаства ці асаблівага двара аб немагчымасьці далейшага раздробу гаспадарак будзе замацована Валасным Выканаўчым Камітэтам, то той, хто выходзіць з гаспадаркі, ня мае ўжо права на зямлю і можа патрабаваць толькі свае часткі маемасьці, якая павінна выплачвацца застаўшаюся на месцы часткаю двара ўжыўнымі рэчамі ці грашмі, пры чым выплата можа быць разложана на тэрмін да 5 гадоў.

Што належыць да карыстаньня зямлі, то яно можа быць ці падворным ці супольным. Падворнае карыстаньне зямлёю зацьверджвае за кожнаю гаспадаркаю раз устаноўлены кавалак зямлі, які можа быць дадзены ці нарэзкамі, ці адсекамі, ці выселкамі. Пры нарэзках зямля знаходзіцца ў розных мясцох, ідучы палоскамі ў чарод з зямлёю іншых гаспадароў; гаспадарка адсекам мае адзін кавалак зямлі ў адным месцы, пры гэтым сядзіба застаецца ў вёсцы; выселак (хутар) зьяўляецца гаспадаркаю, якая мае адзін кавалак зямлі з сядзібаю на ім. Падворнае карыстаньне, істнаваўшае на Беларусі заўсёды, такім чынам атрымае сваё падмацаваньне і ў новым законе. Супольнае карыстаньне прызнае за кожным сябром вобчаства права на агульны надзел, без адводу асаблівым сябром таварыства зямлі ў важнейшых угодзьдзях. Супольнае карыстаньне мае сваёю мэтаю найлепш затраціць працу і найлепш вясьці сельскую гаспадарку праз аб'яднаньне ці ўсяе ці часткі зямлі ў агульнае землекарыстаньне. У зямельным вобчастве з супольным парадкам карыстаньня, долі зямлі, належачыя кожнаму сябру, могуць быць ці ўстаноўлены (таварыствы з грамадзянскім абрабляньнем зямлі) або пакінуты без абмежаваньня (сельска-гаспадарчыя камуны). Праз тое, што зямля вобчаства зьяўляецца супольнаю, кожны выходзячы з суполкі сябар мае права трэбаваць толькі часткі маемасьці і платы за патрачаную працу; зямлі-ж ён атрымаць ня можа. Зямля можа быць дадзена толькі ў тым выпадку, калі ўсё таварыства захоча перайсьці к падворнаму карыстаньню: тады зямельная доля кожнага сябра ўстанаўляецца ці па статуту вобчаства, ці пастановаю сходкі. У кожным зямельным вобчастве, як-бы ў ім ні карысталіся зямлёю, пастановаю большасьці паўнамоцных сяброў яго

можа быць уведзена агульнае абрабляньне зямлі праз агульную працу і скарыстаньне сельска-гаспадарчага начыньня і панараду. Лічачы агульнае абрабляньне зямлі пераходам да камунізму, закон дарue льготы тым грамадзянам, якія пераходзяць да супольнасьці. Калі, напрыклад, меншасьць вёскі захоча агульна абрабляць зямлю, а большасьць будзе гэтаму спрачацца, то меншасьці вёскаю павінен быць выдзелены асобны кавалак зямлі, мяркуючыся так, каб здатнасьць карыстаньня зямлёю не парушалася. Апроч таго, землі, якія будуць абрабляцца супольна, застаюцца за супольшчыкамі пры ўсіх перакроях, і агульны абшар ня можа быць паменшаны, хоць-бы гэта і перавышала той лік зямлі, які прыходзіўся-б на долю кожнага супольшчыка пры перакроі і разьмеркаваньні ўсіх зямель у вакрузе.

Апрача зямель працоўнага карыстаньня, яшчэ адводзіцца зямля і для гарадоў. Горад сам па сабе сельскай гаспадаркі вясьці ня можа, але зямля патрэбна яму пад будоўлю, розныя прадпрыемствы, сады, агароды і інш. Дзякуючы таму, што да гораду нельга прылажыць закону аб працоўным карыстаньні зямлёю, зямельны кодэкс і не разглядае ўмоваў карыстаньня гэтых зямель. Тыя землі, якія прызнаюцца гарадзкімі, адыходзяць з-пад ведама зямельных кіраўнічых установаў, і горад сам карыстаецца імі на асаблівых умовах. Для таго, каб мець поўнае веданьне аб гарадзкіх землях, трэба пільна абмежаваць гарады. У нас, на Беларусі, якраз у апошнія часы вядзецца гэтая работа, і для Менску і Ігуману яна ўжо скончана. Гарады не застаюцца ў тых межах, якія былі пры старым парадку, а пашыраюцца і надта значна. Але закон дазваляе замацоўваць за гарадамі і тыя землі, якія ляжаць і за гарадзкою мяжою; гэта—тыя землі, якія могуць быць патрэбны пад вадаправод, палі абваднення і інш.

Усе тыя землі, *якія застаюцца неразьмеркаванымі сярод працаўнікоў і аддадзены гарадом і прадпрыемствам, зьяўляюцца дзяржаўнаю маемасьцю*, за выключэньням з іх лясоў, руднікоў, чугунковых зямель, вайсковых пляцоў, якія маюць сваё асобнае палажэньне. Гэтыя дзяржаўныя землі дзеляцца на савецкія гаспадаркі—асобныя часткі, якія могуць быць скарыстаны дзяржаваю—і землі агульна-дзяржаўнага запасу. Усімі дзяржаўнымі землямі ведае Камісарыят Земляробства, які можа сам закладаць гаспадаркі ці аддаваць зямлю розным установам, а таксама й прыватным асобам. У апошнім здарэньні зямля перадаецца ў карыстаньне на асобых умовах на нейкі тэрмін, па канцы якога зямля зварачаецца ізноў у запас. З агульнадзяржаўнага зямельнага запасу зямля можа аддавацца працоўным гаспадаркам на заўсёднае карыстаньне, калі па ўмовах зямельнага ладу будзе немагчымым надзяліць зямлёю працаўнікоў з перададзенай раней зямлі. Як толькі зямля будзе такім чынам перададзена, яна выключаецца з дзяржаўнай маемасьці і залічваецца ў зямлю працоўнага карыстаньня.

Кволасьць нашай сялянскай гаспадаркі, старадаўнасьць спосабаў абрабленьня зямлі, невялікае навуковае разьвіцьцё нашай вёскі патрабуе вялікай культурнай працы. Гэтую працу належыць вясьці наўперад усяго спосабам жывога паказу. Вось гэтую культурную працу зямельны кодэкс ускладае на так званыя *савецкія гаспадаркі*, якія зьяўляюцца дзяржаўнымі ўстановамі. Апрача культурнай працы па належнай пастаноўцы сельскай гаспадаркі, савецкія гаспадаркі закладаюцца з мэтаю паступовага пераходу нашай сялянскай гаспадаркі да соцыялізму. Такім чынам, савецкія гаспадаркі, па думцы творцы закону, павінны стаць школаю культуры і соцыялізму.

На гэтым можна было-б і скончыць агульны абрыс зямельнага кодэксу. Але ёсьць яшчэ адно вельмі важнае пытаньне. Справа ў тым, што з часоў соцыяльнай рэволюцыі і фактычнага скасаваньня прыватнай уласнасьці на зямлю, да астатніх пор, ня было магчымасьці прывясьці ў парадак кары-

станьне зямлёй. Быўшыя панскія землі з скасаваньнем маёнткаў ці былі падзелены прымітыўным спосабам сялянамі ці засталіся ў аблогах. Нават сялянскія землі, значная частка якіх яшчэ з часоў нямецка-расійскай вайны была закінута і не абраблялася, у зьвязку з падзелам двароў у апошнія гады, з стратаю зямельных дакумэнтаў у валасьцёх, пераблыталіся так, што трэба доўгая праца, каб разабраць гэтую блытаніну. Асабліва гэтая блытаніна мае месца ў нас, на Беларусі, якая перабачыла ўсякія окупацыі. Разам з гэтым шмат зямлі застаецца нявымеранаю належна, бо яна часта нікім не карыстаецца. Тымчасам сялянства наша і да гэтых часоў скардзіцца на недахваткі зямлі. Вось і вынікае задача—прывясьці ў парадак карыстаньне зямлёю, выявіць дзяржаўную зямельную маемасьць. Гэтая задача і ставіцца часткаю 3-га кодэксу аб зямельным упарадкаваньні. На гэтае ўпарадкаваньне ўскладаюцца артыкулам 150 вось якія заданьні:

а) адача зямель для карыстаньня дзяржаўным установам і прадпрыемствам, гарадом і пасяленьням гарадзкога тыпу, аб'яднаньням працоўных земларобаў, а таксама па асаблівых умовах (арэнды, канцэсіі і інш.) другім установам, вобчаствам і асобам; б) залажэньне зямельных запасаў з асаблівымі мэтамі (перасяленчага, канцэсійнага, сенажатнага і інш.) і перавод зямлі з аднаго запасу ў другі; в) выемка зямлі для дзяржаўных і грамадзянскіх патрэбаў; г) устанаўленьне гарадзкой мяжы; д) падзел зямель, якія састаяць у карыстаньні зямельных вобчстваў; выдзел зямлі асобным гаспадаркам і гуртком іх; разьмеркаваньне ўсіх ці некаторых зямель вобчаства па розным спосабам карыстаньня; падзел зямель асаблівых працоўных гаспадарак; е) скасаваньне ці памяншэньне цераспалосіцы асобных гаспадарак, укліньваньне і ўкрапліваньне іх, далёкасьці ад сядзібы і іншых няпрыемных умоваў землекарыстаньня; ж) прылажэньне, перамена альбо скасаваньне дарогаў, адвод вадапою і зьмена землекарыстаньня ў залежнасьці ад патрэбы зрабіць закладныя зямельныя палепшаньні (мэліорацыя); з) распланаваньне сельскіх месцоў пасяленьня; і) устанаўленьне і перамена валасных межаў.

З гэтага артыкулу відаць, што перад зямельным ладам ляжаць надта вялікія заданьні, выкананьне якіх патрабуе доўгага часу. Але гэтыя заданьні стаяць перад намі і даўно ўжо чакаюць свайго чароду. Зямельны кодэкс ня толькі ставіць заданьні зямельнага ўпарадкаваньня: ён дае належнае навучэньне для вядзеньня самое працы па ўладжаньню. Пералічваць гэтыя практычныя палажэньні кодэксу мы ня будзем, бо яны маюць толькі інструктыўны сэнс, а не прынцыповы. Мы зьвернем толькі ўвагу на неадкладную патрэбнасьць у зямельна-парадкаўных работах і працы.

Раней, у гэтым артыкуле мы бачылі, што сучасная забясьпека працоўнага сялянства досыць значная; яна шмат вышэй, чымся была ў 1905 годзе. На адну гаспадарку павінна прыходзіцца ў сярэднім па 13,15 дзес., а на душу 2,25 дзесяціны, у тым ліку карысной 1,84 дзесяціны. Узапраўды-ж, зямлі сялянства мае шмат меней. Падлікам Камісарыяту Харчаваньня ў мінулым 1922 годзе ўстаноўлена па Савецкай Беларусі толькі 869.557 дзес. поля і 351.660 дзес. сенажацяў, разам 1 221.217 дзесяцінаў. Такім чынам каля палавіны (больш трохі) зямель засталіся непадлічанымі, ня кажучы ўжо аб бескарысных землях. Падзяліўшы гэтыя землі на лік гаспадарак і жыхароў, мы будзем мець: на адну сярэднюю гаспадарку, выключаючы савецкія гаспадаркі, 5,17 дзес., а на душу сялянскага жыхарства 0,88 дзес. Каб усе землі былі разьмяркованы і выяўлены, то было-б адказна 13,15 дзес. і 2,25 дзес. Вось чаму трэба неадкладна па прынцыпы зямельнага кодэксу зьвярнуцца да ўпарадкаваньня і разьмеркаваньня зямель. У кожным павеце Беларусі ёсьць вялізарныя абшары зямлі, якія зусім не карыстаюцца, ляжаць так сабе толькі праз тое, што яны не абмераны, не падзелены,

не замацованы належным актам. У той-жа самы час сялянства мае патрэбу ў зямлі і чакае яе. Вядома, работа па абмеры і разьмеркаваньні зямлі не такая, каб яе зразу абхапіць можна было. Але нам здаецца, што яе можна кратануць з месца, толькі ня трэба рабіць такіх умоваў, якія запынялі-б работу. Адным з такіх прыпынкаў зьяўляецца плата за зямельнае ўпарадкаваньне. Праўда, зямельным кодэксам плата трэбуецца, але колькі плаціць—там не ўстаноўлена. Артыкулам 161 кодэксу трэбуецца вось што: з тых асобаў і установаў, якія жадаюць правясьці ў сябе зямельнае ўпарадкаваньне—даць памяшканьне землеўстраіцелю, матар'ял для работы і межавых адмецін, падводы для перавозкі прыладаў і матар'ялу і працоўную дапамогу. Апрача гэтага, трэба яшчэ асобная грашовая плата. Але гэтую плату належыць зьбіраць у такой мерцы, каб яна была магчыма для селяніна. Запраўды-ж каморнікі ў некаторых мясцох бяруць 1 р. 50 кап. золатам і больш з дзесяціны. Такая высокая плата можа павясьці к таму, што сяляне будуць старацца ад усякай думкі на зямельнае ўпарадкаваньне. Трэба памятаць, што ў сучасны момант сялянская гаспадарка перажывае экономічны крызіс у зьвязку з таннасьцю яе продукцыі і праз гэта зьяўляецца вельмі шкодным такі формальны падход да такой балючай, неадкладнай справы. Трэба памятаваць працоўнікам па зямельным справам, што ўпарадкаваньне зьяўляецца патрэбным ня толькі селяніну, абрабляючаму зямлю, але таксама яно патрэбна і работніча-сялянскаму дзяржаўнаму ўраду. А праз гэта пры правядзеньні зямельнага ўпарадкаваньня трэба мець на ўвазе не сваю толькі прыватную выгаду, але таксама не забывацца і аб дзяржаўных інтарэсах. Нагляд, кіраўніцтва і кантроль Камісарыяту Земляробства, устаноўленыя артыкулам 151 кодэксу, павінны быць асабліва пільнымі і шчырымі ў адносінах да зямельнага ўпарадкаваньня.

Нам яшчэ застаецца разглядзець пытаньне аб парашэньні зямельных спрэчак. Для гэтай мэты ўстанаўляюцца асаблівыя зямельныя камісіі: валасныя, павятовыя і Вышэйшая Зямельная Камісія пры Ўпраўленьні Зямельнага ўпарадкаваньня Камісарыяту Земляробства (у губэрнях—губэрскія). Справы, якія належаць парашэньню зямельных камісіяў, вось якія: «Веданьню зямельных камісіяў належаць усе спрэчныя справы, якія могуць пачацца пры зямельным упарадкаваньні, а таксама і ўсе спрэчкі аб правох на карыстаньне зямлёю, як, напрыклад: гурткавое ці асабістае карыстаньне зямлёю, выдзел зямлі з вобчаства, поўнае або частковае атабраньне па ўстаноўленым законам здарэньням зямлі ад асобаў ці ўстановаў, якія ёю карыстаюцца, перамены ў велічыні, межах, месцы і складзе гаспадаркі (па прычынам зямельнага ўпарадкаваньня, паляпшэньня зямлі, дарожным справам, выемка для дзяржаўных і грамадзянскіх патрэбаў і г. д.), сямейныя падзелы і іншыя спрэчкі па землекарыстаньню» (артыкул 191). Коратка кажучы, усе зямельныя справы і спрэчкі вырашаюцца ў зямельных камісіях, і ніякія іншыя ўстановы непавінны мяшацца ў гэтыя справы. Валасныя зямельныя камісіі знаходзяцца пры Вал. Вык. Камітэце і складаюцца з трох чалавек: старшыні з ліку сяброў Камітэту, які назначаецца самым Выканаўчым Камітэтам і 2-х сяброў, якія выбіраюцца валасным зьездам Саветаў. Увесь склад Валаснай зямельнай камісіі зацьвярджаецца Павятовым Выканаўчым Камітэтам. Павятовыя зямельныя камісіі састаяць пры Павятовых зямельных установах і таксама, як валасныя, складаюцца з трох чалавек, пры гэтым старшыня выбіраецца, а сябры зацьвярджаюцца па назначэньні іх адказнымі ўстановамі. Усе сябры зямельных камісіяў у час сваё знарочыстай працы маюць правы народных судзьдзяў. Выбарныя сябры камісіяў маюць паўнамоцтвы на адзін год. Вышэйшая Зямельная Камісія складаецца пры Упраўленьні Зямельнага ўпарадкаваньня Камісарыяту Земляробства і, апроч

старшыні, мае двух сяброў: аднаго ад Камісарыяту Юстыцыі, другога—загадчыка аддзелу Зямельнага ўпарадкаваньня. Усе сябры Вышэйшай Зямельнай Камісіі назначаюцца Саветам Народных Камісараў па хадатайніцтву Камісарыяту Земляробства. Вышэйшая Камісія разглядае касацыі на пастановы павятовых камісіяў і, калі знойдзе, што скарга мае належны доказ, касуе пастанову павятовай камісіі і варочае справу на новы разгляд у тую-ж самую ці іншую павятовую камісію. Вышэйшы нагляд па спрэчным зямельным справам і разгляд касацыйнай скаргі на пастановы Вышэйшай Зямельнай Камісіі робіцца Камісарыятам Земляробства разам з Камісарыятам Юстыцыі ў Асаблівай Калегіі Вышэйшага нагляду па зямельным спрэчкам, пры гэтым і старшыня калегіі і два сябры яе зацьвярджаюцца Прэзыдыумам Цэнтровага Выканаўчага Камітэту: старшыня і адзін сябар Калегіі выстаўляюцца Камісарыятам Земляробства, а другі сябар—Камісарыятам Юстыцыі. Уся структура зямельных камісіяў зьнізу да верху аналёгічна і мае самы сьцісны зьвязак з зямельнымі кіраўнічымі ўстановамі.

Канчаючы разгляд зямельнага кодэксу, мы павінны спыніцца яшчэ на той розьніцы, якая маецца паміж кодэксам Р. С. Ф. С. Р. і нашым, беларускім. Розьніца павінна быць, бо ўмовы гістарычнага разьвіцьця і эканомічных адносін у цэнтровай Расіі і на Беларусі былі розныя. Наогул кажучы, ва ўсім Савецкім Хаўрусе зямельны кодэкс будзе зьменены пакрысе ў кожнай рэспубліцы. Калі возьмем, напрыклад, Туркэстан ці Каўкаскія рэспублікі і будзем разглядаць іх побач з Украінаю, то мы пабачым вельмі значныя асаблівасьці як у сыстэме земляробства, так і ў гістарычным складзе эканомічных адносін. Вядома, што між Беларусьсю і Цэнтровай Расіяй няма такое вялікае розьніцы, як між Туркэстанам і Украінаю; але ўсё-ж розьніца ёсьць.

Найбольш значнаю асаблівасьцю нашай сельскай гаспадаркі было тое, што яна мела падворнае валаданьне і карыстаньне зямлёю. На Меншчыне толькі 4 проц. сялянскіх зямель належалі да так званай парасійску «общины», усе-ж астатнія землі знаходзіліся ў падворным валаданьні. «Община» ў расійскіх умовах мела вялікіе фактычныя і юрыдычныя правы; яна магла адбіраць ад гаспадара зямлю, магла сама надзяляць ёю. Гэтыя правы засталіся за «общиной» і ў зямельным законе Р. С. Ф. С. Р., які ёй даруецца магчымасьць раўняць зямлю між гаспадаркамі, весьці перадзел і г. д. Вядома, што ўводзіць ў Беларускі зямельны кодэкс «общину» ня мела сэнсу, бо яе ў нас фактычна і няма. Сама-ж па сабе «община» зьяўляецца надта застарэлаю, нярухомаю к разьвіцьцю сельскай гаспадаркі формаю землекарыстаньня і даваць ёй магчымасьць жыцьця зусім непатрэбна. Праз гэта артыкулы 92—95 кодэксу Р. С. Ф. С. Р. у нас выкінуты зусім, а іншыя артыкулы, як, напрыклад, 12 і 14 зьменены. Таксама зьменены і тыя артыкулы расійскага кодэксу, якія даруюць права зямельным вобчаствам надзяляць зямлёю сваіх сяброў. Для аб'яднаньня работы па зямельнаму ўпарадкаваньню трэба, каб надзел рабіўся толькі праз кіраўнічыя зямельныя ўстановы; калі-ж самі вобчаствы пачалі-б надзяляць зямлёю, то гэта ўнясло-б яшчэ больш блытаніны ў зямельныя справы. Далейшым адрозьненьнем нашага кодэксу зьяўляецца адхіленьне з яго ўсякіх ўспамінаў аб «разверстании» зямлі. Справа ў тым, што Беларусь мае значны запасны зямельны фонд, з якога і можна даваць зямлю ў карыстаньне пры патрэбе, «разверстание»-ж, дазволенае кодэксам Р. С. Ф. С. Р., цягне за сабою часты агульны перадзел у сёлах ці зямельных вобчаствах. Праз гэта зьменены артыкул 17, а артыкулы 136 і 137 заменены ў нас пунктамі 5 і 6 закону аб працоўным землекарыстаньні. Вось тыя прынцыповыя зьмены, якія былі зроблены ў кодэксе Р. С. Ф. С. Р. Іншыя зьмены мелі больш дробны, рэдакцыйны характар.

**Я. Пятровіч.**

# Уступамі да Акцябра.

## I.

*(Да гісторыі Савецкае Беларусі).*

Фэўральская рэволюцыя ў Расіі застала беларускі рух у досыць нявыразным партыйным расслаеньні. Асобныя гурткі беларускіх дзеячоў з рабочых, пісьменьнікаў, студэнтаў, служачых і рэдкіх асоб з лібэральнай шляхоцкай інтэлігэнцыі ў Петраградзе, Менску, Маскве і інш. гуртаваліся, пасьля заняцьця немцамі Вільні й разбурэньня ў ёй беларускага культурна-нацыянальнага асяродку, вакол адзінай думкі-праграмы — нацыянальнага вызваленьня Беларусі і пабудаваньня яе незалежнай. Праграма гэта ў сваю чаргу была цьмянай, неапрацаванай і грунтавалася фактычна на адных прагных жаданьнях гарачых галоў.*) Акольваючая сытуацыя, у зьвязку з заняцьцем немцамі заходняй Беларусі і праз гэта з зацягам вайны на нявыясьнены тэрмін, уносіла розныя сумненьні й няпэўнасьць на больш-менш блізкае ажыцьцяўленьне хоць мінімальных мажлівасьцяў пашырэньня беларускага руху. Перамога над немцамі саюзьнікаў сузнавалася кожным беларускім адраджэнцам; яна хавала ў сабе пагрозу разгулаў агіднага расійска-самаўладнага нацыянал-шовінізму з усімі яго прыгожасьцямі. Вось кожная вестка аб няўдачах расійскага войска на фронтах прачышчала паветра й падагравала ружовыя надзеі на лепшае. У кожнага беларуса-культурніка*)— усё роўна ці то быў рабочы, ці інтэлігэнт ці, нават, і ксёндз—пяшчотліва хавалася і яскрава сьвяцілася думка перамогі царскай арміі. Дзякуючы гэткаму настрою, уся ўвага зьбіралася на падзеях вайны і ад павароту ваеннага шчасьця тэй ці іншай стараны фармаваліся пагляды сярод беларускіх адраджэнцаў. У кожным разе размах і сілы іх былі яшчэ настолькі слабы, што зусім не патрабавалася конкрэтызаваць сталай праграмы бліжэйшых патрабаваньняў. Праўда, мелася ўсё-ж старая праграма Беларускай Соцыялістычнай Грамады, але яна зусім не падыходзіла ні к часу, ні к месцу, ні к людзям, якія ў палітычных і соцыяльных поглядах былі да цікавага рознаколерны. Пры гэтым, страшэннае зацішша ў рабочым і палітычным руху казала ўпэўнена за безнадзейнасьць організацыі тых сілаў, якія-б маглі прыняць гэту праграму. Аставалася, на часе, толькі нацыянальная ідэя, якая будзіла варожасьць да пануючага ладу і гуртавала на падставе гэтай варожасьці ўсе беларускія адраджэнскія элемэнты.

---

*) Некаторыя прыхільнікі праграмы Бел. Сац. Гр. паддаваліся агульнаму настрою.

*) У гэтым артыкуле я, галоўным чынам, буду датыкацца тых беларускіх адраджэнцаў, якія гуртаваліся ў Пецярбурзе, лічачы, што цэнтрам руху з пачатку вайны да 1918 году быў Пецярбург.

У гэткіх умовах захапіла беларускіх культурнікаў неспадзявана выбухнуўшая фэўральская рэволюцыя. Усе карты адразу перамяшаліся. Для ўсіх пакрыўджаных старым ладам, а ў тым ліку й для беларускіх дзеячоў, адчыніліся шырокія небасхілы. Усё ўчарашняе адляцела, паказалася занадта мізэрным, малым, пустым. Зразу вырасьлі настойныя патрэбы організацыйнай чыннасьці. Размах рэволюцыі йшоў далёка ў бок дэмократычнасьці. Петраградзкі Савет Рабочых дэпутатаў і яго вялікі аўторытэт, нават, перашагаўшы ў гэтых адносінах аўторытэт часовага ўраду, паказваў на тое, што рэволюцыя ня спыніцца на сваёй першай буржуазнай квэдры, а ў сваім разьвіцьці сягне далёка ўлева. У кожным разе, у беларусаў узрасла надзея на атрыманьне, калі ня поўнай незалежнасьці, то ва ўсякім разе аўтономіі. А калі так, то трэба было расшавельвацца, зьбіраць сілы, гуртаваць іх і адначасова намячаць тыя асновы, на якіх можна было-бы ўзводзіць будынак сталай грунтоўнай працы. Дзеля гэтага, аднак, патрабавалася праграма, ды такая, якая магла бы зьяднаць найбольшы лік людзей на найбольшым ліку пунктаў. Аднаго нацыянальнага элемэнту стала зусім мала. Гэта паказала першая пашыраная нарада беларускіх дзеячоў зразу-ж пасьля рэволюцыі, у першых днёх марта 1917 г., якая адбылася ў будынку беларускага бежанскага камітэту (Знаменская вул., 36). На гэтай нарадзе, налічваўшай да 30 чалавек старых працаўнікоў, зразу вынiклі гарачыя спрэчкі па пытаньні аб далейшай працы. Знайшлося некалькі зусім розных, нават, варожых адзін другому поглядаў. Большасьць праводзіла думку Беларускай Соцыялістычнай Грамады з марксіцкімі адценьнямі (Б. Тарашкевіч, К. Душэўскі, Э. Будзька, Х. Чарнушэвіч і інш.), клічучы ўсіх згуртавацца навакол яе, як самай сталай і апраўданай жыцьцём у мінулым. Але асноўныя моманты патрабаваньняў Б. С. Г. выклікалі рашучую опозыцыю з двух бакоў—з боку несоцыялістычных элемэнтаў (інтэлігэнцыя, служачыя) і з боку абаронцаў тут-жа ўпяршыню выяўленай вобласьнічаскай агляцкі. Выказаныя прыхільнікамі гэтай думкі асновы й довады павароту беларускага руху на шлях вобласьнічаства*) урэшце былі адкінуты. Большасьць сабрала Б. С. Гр. *Гэта нарада паказала, што нельга гуртаваць людзей на адным нацыянальна-культурным руху, што мацнейшым фактарам ёсьць фактар клясавы.* Дзякуючы тэтаму кіраўніком і організатарам беларускіх нацыянальна-соцыялістычных элемэнтаў зрабілася Беларуская Соцыялістычная Грамада. Яна стала цэнтрам, куды пацякла паводка стыхійна ўзьнятага беларускага руху ў Пецярбурзе. Другое організацыі ня было пакуль, а таму на маяк Грамады пацягнуліся ўсе тыя, хто адчуваў сябе *беларусам* і меўся прыняць удзел у вызваленьні свайго краю. Дзесяткамі прыходзілі запісвацца ў Грамаду сябры розных соцыялістычных партыяў і непартыйныя.

Асабіста загастрылася цікавасьць да беларускага руху сярод беларусаў у Пецярбурзе пасьля мітынгу, які быў зроблены Белар. Сац. Грамадою ў сакавіку месяцы ў цырку «Модэрн» на Каменнаастроўскім проспэкце. Мітынг быў надзвычайна многалюдны: сабралася да двух тысячаў народу, галоўным чынам рабочых і салдат. Увесь вагромністы будынак цырку быў бітком набіты. Прамовы сяброў грамады, датыкаючыя пытаньня аб вызваленьні Беларусі і пабудаваньні яе асобнай рэспублікай, выклікалі агульную спагаду мітынгу. Цэлы шэраг прамоўцаў перабываў на эстрадзе. Мітынг прайшоў цалкам пад лёзунгам Бел. С. Грамады.

Пасьля мітынгу тут-жа запісалася ў Соцыялістычную Грамаду да

*) Тут прыводзіліся досыць знаёмыя, ужываныя с.-р. мотывы адзінства ў імя рэволюцыі, нявыразнасьць беларускага пытаньня, як нацыянальнага, і інш.

пяцідзесяцёх чалавек, выключна рабочых з Выбарскае стараны. Кожны з запісаных настайваў хутчэй склікаць організацыйны сход Грамады і апрацаваць плян далейшай працы.

Але гэта на нейкі час адцягнулася. Якраз на 25 сакавіка ў Менску, па пачыну менскіх беларусаў, быў назначаны зьезд «беларускіх грамадзянскіх дзеячоў». Зьезд мусіў падлічыць беларускія сілы, наладзіць грамадзянскую думку і ад яе заявіць патрабаваньні Часоваму ўраду на-конт правоў беларускага народу. Прадстаўнікамі ад пецярбурскіх беларусаў паехалі на зьезд выключна сябры Б. С. Г. Зьезд быў на часе, бо трэ' было разам зрабіць і нараду Б. С. Г. Дзеля гэтай мэты маскоўская організацыя Грамады ад сябе запрасіла пецярбурскую выслаць людзей на зьезд абавязкова. На зьезд сабралося да дзесяці сяброў з Грамады, якія мелі вялікі ўплыў на зьезьдзе.

Пасьля канчатку працы зьезду, які выбраў «Беларускі нацыянальны комітэт», сябры грамады зрабілі сваю партыйную нараду. Нарада падрабязгова абгаварыла пытаньні тактыкі й організацыі грамады, пастанавіўшы вясьці працу самастойна ад другіх беларускіх організацыяў. Пастановы нарады Б. С. Г. ўхвалена было апублікаваць у расійскай прэсе ў сталіцах. Гэтая нарада падлажыла аснову для далейшай організацыйнай працы, якая на другі-ж дзень пасьля нарады пасьпешна распачалася кожнай організацыяй.

Як ня дзіўна, Пецярбургу суджана было стаць цэнтрам гэтае працы. Цэлы шэраг прычын дапамог гэтаму. Аднэй з гэтых прычын быў вялікі ўплыў беларускага руху на тыя шырокія гушчы беларускіх рабочых, якія запаўнялі пецярбурскія фабрыкі і заводы, і сталічныя ўмовы, больш цярплівыя да беларускага руху. Той жупел і страх, што маляваўся русыфікатарскай эсэраўшчыне з усіх бакоў, вынікаў і ад разьвіцьця беларускага руху, вырастаючы ў страшылішча ў провінцыяльным Менску*), ня мелі месца ў Пецярбурзе. Як і наогул, беларускі рух у Петраградзе мог захапіць толькі працоўныя элемэнты. Малы лік інтэлігэнцыі зрусыфікаванай пасунуўся ў агульную партыю эсэраў, спаланізаваная крыха інтэлігэнцыі, да рэволюцыі нібы радыкальная й ваяўнічая, запужалася здані соцыялізму і распылілася. На Знаменскую 36, дзе заснавалася бюро Беларускай Соцыялістычнай Грамады, пацягнуліся беларускія рабочыя з-за Нараўскай і Нэўскай застаў, з Выбарскае стараны, з Васілеўскага востраву ды салдаты.

Організацыйны сход Грамады, назначаны на 12 красавіка, сабраў звыш двухсот чалавек. Пераважна прышлі рабочыя з Пуцілаўскага заводу, салдаты і зусім лічаныя адзінкі інтэлігэнцыі. Выбраная гэтым сходам Управа, у ліку 11 чалавек, складалася, за вылучэньнем трох сяброў, з рабочых і салдат. Далейшыя сходы, якія йшлі адзін за другім праз кожныя чатыры дні, папаўнялі лік сяброў Грамады, галоўным чынам рабочымі. Само сабою вядома, што тактыка ўправы пецярбурскай організацыі Б.С.Г. мусіла паступова ўхіляцца ўлева. Усе дэлегаваньні ў тыя ці іншыя рэволюцыйныя ўстановы падалі на сяброў грамады—рабочых. Гэтак прадстаўнікамі ў раённыя думы Петраграду былі пасланы ад Б. С. Г. выключна рабочыя: у Васілевавостраўскую—М. Здановіч з Балтыцкага заводу, у Выбарскую —П. Дзежка з Гэсьлераўскага, у Нэўскую—С. Нядзьведзь з Нэўскага, у Гаванскую—В. Дышан і г. д. Пераважнасьць рабочых у Пецярбурскай

---

*) Эсэры і родныя ім вобласьнікі толку Солоневіча ды Карапкевіча запужалі рабочых і сялян ад беларускага руху Скірмунтам, які ў той час выпадкова прыліп да яго для самаахоўы.

організацыі Соцыялістычнай Грамады прыдавала ёй выгляд чыста пролетарскай беларускай організацыі. Гэта, зразумела, не здавальняла ні тых элемэнтаў, якія марылі аб адзіным беларускім нацыянальным фронце, ні тых, якія думалі павярнуць беларускі рух у бок эсэраўскага вобласьнічаства ці кадэцка-чорнасоценнага аўтономізму. Трэба перараказаць удвойчы, што ў разьвіцьці беларускага руху ў Пецярбурзе пасьля фэўральскай рэволюцыі літаральна вызначаліся ўсе асабістасьці процэсу разьвіцьця рэволюцыі па ўсёй Расіі. Ды ня дзіва таму: агульныя законы ў ходзе здарэньняў не маглі выдзяляць з-пад свайго ўплыву асобныя грамадкі людзей.

Якраз у красавіку месяцы ў Пецябурзе адбыўся першы крызіс часовага ўраду. Нота Мілюкова, міністра заграпічных спраў, да саюзных дзяржаў аб згодзе Расіі весьці вайну «да пабеднага канца» і супроцьрэволюцыйная політыка міністра вайсковага Гучкова, выклікалі страшэннае абурэньне сярод рабочых і войска. З патрабаваньнем адстаўкі гэтых міністраў вышлі на вуліцу грамады рабочых і цэлыя палкі войска. У свой чарод, не драмала й буржуазія. Падняўшы голаў пасьля першых аглушаючых громаў рэволюцыі, яна хутка організавала свае сілы навокал розных контр-рэволюцыйных організацыяў і партыяў, як камітэт Дзяржаўнай Думы, партыя кадэтаў, штаб Пецярбурскае вакругі, афіцэрскі савет і інш., і таксама 21 красавіка выйшла на вуліцу. Праз цэлы дзень у горадзе йшлі маніфэстацыі й мітынгі двух варожых сілаў. У многіх мясцох буржуйныя маніфэстанты нападалі на рабочых і вырывалі з іх рук чырвоныя сьцягі. Былі стычкі і некалькі выстралаў. Гэта было першае сур'ёзнае спаткненьне рабочых з буржуазіяй, якое прачыніла на далей дзьверы да запяжнай, крывавай грамадзянскай бойкі. На Знаменскай, 36, у штабе беларускім гэтыя здарэньні таксама знайшлі сабе водгук. Вечарам, калі сабралася ўправа Соцыялістычнай Грамады, каб абгаварыць пытаньне аб перажываных політычных здарэньнях і выявіць да іх свае адносіны, сабралося каля дзесятку беларусаў вайсковых і інтэлігентаў і, на чым сьвет стаіць, дэмонстрацыйна прыняліся лаяць і бэсьціць «чэрнь», падняўшых руку на гэткіх «паважаных людзей і чыстых дэмократаў, як П. М. Мілюкоў». Громы й пяруны пасылалі яны на «разбазыраных мяцежнікаў, рабочых і войска» і на іх натхніцеляў, безадказных бальшавікоў. Гэта была першая акцыя беларускай белагвардзейшчыны, якая адзначыла сабою яго далейшае клясавае расслаеньне. Управа організацыі Соцыялістычнай Грамады ясна выявіла сабе пагрозу з гэтага боку і, пільна праверыўшы сьпіскі сваіх сяброў, падбліжала шчыльней да сябе рабочую частку організацыі, як адзіную рэальную базу для свае рэволюцыйнае працы. Тымчасам з узростам рэакцыі наогул, адмеціўся ае наступ і на беларускім соцыялістычным руху. Штодзень сталі ўзрастаць новыя беларускія організацыі з яўна чорнасотніцка-русыфікатарскім адценьнем. Выплылі напаверх розныя дзеячы, раней працаваўшыя пад эгідаю губэрнатараў паўночна-заходнага краю, а цяпер перафарбаваныя ў кадэты, эсэры, вобласьнікі ды інш. Узрост беларускага нацыянальна-соцыялістычнага руху і яго ўплыў на масы ў зьвязку з ростам нацыянальна-рэволюцыйнага руху сярод усіх нацыянальнасьцяў былай царскай Расіі, узмацоўваў здань сьмерці буржуазна-рэакцыйнаму яднаньню. Трэба было спыніць яго загадзя. І рэакцыя хутчэй-жа пастаралася гэта зрабіць. У яе хапала сілаў на ўсіх фронтах—пусьціла яна іх і супроціў беларускіх рэволюцыянэраў. Зразу знайшліся організатары вайсковых беларусаў, беларусаў аўтономістаў, беларусаў вобласьнікаў. Мэта гэтых організацыяў і іх канаводаў была ў тым, каб супыніць пашырэньне беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху, які захапіла Грамада, усякімі магчымымі способамі. Сярод гэтых способаў ужываўся і способ «узрыву знутры», пасьля да сэрца прыняты во-

рагамі Савецкай Улады. Прыкладам можа служыць выступленьне «узрыўнікаў» на сходзе беларусаў, склікaным Б. С. Г. 23 красавіка на Кіеўскай вуліцы. На сход, ня гледзячы на слабае апавяшчэньне, сабралася да пяцісот чалавек. І вось, толькі пачаў адзін з прамоўцаў казаць мову пабеларуску, як з гушчы некалькі чалавек выгукнулі протэст супроціў зьбрыджанай мовы. Праўда, гэтыя выкрыкі не атрымалі спагады й засталіся бяз уплыву. Але не надоўга: пасьля першага прамоўцы выскачыў на трыбуну адзін з узрыўнікаў і спляча заляментаваў на ўвесь будынак лаянку й бэшчаньне беларускае мовы і тых, хто яе ўжывае. Пры гэтым паляцелі байкі й брахня наконт модных тады памешчычых інтрыгаў і, пэўна, грошаў, за якія, нібы, працуе Беларуская Соцыялістычная Грамада. Узрывацель, вядома, дастаў сабе падтрыманьне ад дзесяткаў двух сваіх, улітых у сход з мэтаю «выказаць волю...» Сход прыняў бурны характар: разгарэўся настрой і пачуцьцё, завязаліся гарачыя спрэчкі. «Узрывацелі» ўжо пацiралі рукі ад здавольства, што інтрыгі Грамады разьбіты, і звалі людзей кінуць сход. Але адзін за другім прамоўцы Грамады і спачуваючых ёй разьясьнілі сабраным усе хітрыкі «узрывацеля» і пераканалі сход у праўдзівасьці й чыстаце беларускіх соцыялістых з Грамады і пастаўленых імі перад сабою ідэяў. Сход астаўся палкам на баку тых, хто яго наладзіў... За гэтым выпадкам ішлі й другія. Поруч з Петраградам узьнялася хваля супроціў соцыялістычнага руху беларусаў у Маскве і ў провінцыі. У Маскве з боку організацыі, многа слабшай ад Пецярбурскай Бел. Соц. Грамады, з'організавалася досыць моцная Беларуская Народная Грамада. Пад свой полаг гэта апошняя зьбірала беларусаў розных політычных напрамкаў і розных станаў, ад папоў да пролетарыяў бежанцаў. Беларуская Народная Грамада вяла больш шырокую работу, чым Маскоўская організацыя Соцыялістычнай Грамады, адцягваючы ад апошняй сваёю падозранаю «народнасьцю» шырокія бежанскія колы.

Але ўсё-ж-ткі Маскоўскай Народнай Грамадзе, хоць і нявыразнай, блядой політычна, далёка было да «Беларускага Саюзу» у Вітабску і да беларускага аб'яднаньня ў Гомлі і др. мясцох. «Беларускі Саюз» у Вітабску ўзглаўляўся вядомымі чорнасотнікамі Палонскім і Грыгаровічам*) і злучаў сабою ўсё, што было ў краі ісьцінна-расійскага. Гомельскае аб'яднаньне кіравалася таксама ня менш знатным чорнасотнікам Каранкевічам, які зьбіраў да сябе ўсё контр-рэволюцыйнае, жыўшае на сродкі, якія даваліся царскаю ўладаю за працу па абрусеньню і аправаслаўленьню «Северо-Западного края».

Агульным сьпетым хорам трубілі ўсе гэтыя контр-рэволюцыйныя процібеларускія організацыі аб непатрэбнасьці беларускай культуры і беларускага руху, аб шкодзе для «адзінае Расіі раздрабленьня цэлае дзяржавы». Як і сьлед да часу, свае даказы яны падмацнялі «павіннасьцю абараніць рэволюцыю і давясьці краіну да Ўстаноўчага Сойму». Гэтыя «рашучыя словы» падносіліся меншавіком і эсэрам, як задатак за лояльнасьць, як штрахоўка ад нібы пакінутага імі чорнасотніцтва.. І эсэра-меншавіцка-кадэцкая ўлада здавальнялася... Яшчэ-б ня быць здаволенай! Гэтая служка буржуазіі, фактычна, сама вяла (ды цяпер вядзе!) у нацыянальным пытаньні політыку Каранкевічаў ды Палонскіх.

Беларускі нацыянальна-соцыялістычны рух, шыбаючы ўперад стомільнымі крокамі, прыцягаў на сябе нядрэмнае вока эсэраў. Яны пільна сачылі за яго разьвіцьцём і, патвараючы псэўда-беларускім чорнасотніцкім організацыям, вышуквалі магчымасьці змагацца й беспасрэдна. Гэтае апошняе заданьне выпаўнялі эсэраўскія губэрскія й павятовыя камісары, старшыны

*) Абодва растрэлены Савецкаю ўладаю ў 1918 г.

сялянскіх зьездаў і пасьля вядомыя паўэсэры, паўкадэты магілёўскія вобласьнікі. У Магілёве, Менску, Бабруйску і інш. гар. ішлі нясупынныя выступленьні й афіцыяльная компромітацыя беларускага соцыялістычна-нацыянальнага руху ў яе кіраўніку, Беларускай Соцыяліст. Грамадзе. У Магілёве нёс гэта на сабе нейкі Гольман, у Бабруйску—Караткевіч, у Менску—Несьцераў, пасьля ў 1918 г. кіраўнік чэхаславацкіх мяцежнікаў на Волзе. Для контрагітацыі беларускаму нацыянальна-соцыялістычнаму руху, апроч сілы ўласьці, імі ўжываліся й нячэсныя спосабы хлусьні ды маны. Квінтэсэнцыяй для розных плётак служыў злопалучны Р. Скірмунт, якога надало ліха зьезду беларускіх грамадзянскіх дзеячоў 25 сакавіка 1917 г. выбраць у нацыянальны комітэт. Ня гледзячы на тое, што Соцыялістычная Грамада мела гістарычную заслугу, як рэволюцыйная партыя Беларусі, і стаяла пасьля фэўральскай рэволюцыі лявей эсэраў і меншавікоў, апошнія называлі яе памешчычай партыяй, абы апаганіць перад працоўнымі беларускімі масамі патрэбу іх нацыянальнага вызваленьня...

Агульны ўзрост і ўзмацаваньне контр-рэволюцыйнага руху, чым далей ад фэўраля да чэрвеня, зрабіў уплыў і на напраўленьні новапрынятых сяброў у петраградзкую организацыю Беларускай Соцыяліст. Грамады. Побач з наплывам рабочых, які ня сьціхаў, а захопліваў завод за заводам, у Пецярбурскую організацыю Б. С. Г. паціху прасочваліся й нявыразныя соцыялісты. Левыя лёзунгі і рашуча-рэволюцыйная тактыка іх палохала, і яны пакладалі ўсе стараньні, каб адцягаць организацыю ўправа. У ліку гэткіх быў Я. Варонка, які выпадкова папаў у Грамаду, зьявіўшыся на яе сход па прапазыцыі Э. Будзькі і выказаўшы свае паслугі выдаваць «на ўласныя сродкі» беларускую газэту.

Збавеньнем ад ухілу ўправа Пецярбурскай организацыі Б. С. Г., зразумела, былі яе сябры з рабочых. Колькасьць іх і перавага да таго былі значны, што нельга было баяцца нічога. Тым болей забясьпечыла гэта заснаваньне раёнfamous організацыяў Б. С. Г. Нясупынны наплыў рабочых з ваколіц гораду рабіў працу Пецярбурскай організацыі сумбурнай і некарыснай. Каб яе палегчыць і накіраваць у належны бок, у пачатку траўня была адчынена Нараўская раённая організацыя Б. С. Г. За ёю заснавалася Выбарская, Васілеваостроўская і Нэўская. Кожная з іх сумела павясьці шырокую працу сярод беларусаў-рабочых заводаў сваіх раёнаў. Але самая моцная работа расхілілася ў Нараўскай раённай организацыі. Рабочыя-беларусы, якіх працавала вельмі многа на Пуціла ўскім заводзе, шчырэй другіх адгукнуліся на агітацыю Б. С. Г. і масамі пачалі запісвацца. За кароткі час па адчыненьні Нараўскай раённай организацыі Б. С. Г. у яе запісалася да 200 чалавек выключна рабочых Пуцілаўскага заводу. Організацыя расла не па днёх, а па часох, гуртуючы навакол сябе першыя кадры для Савецкай Беларусі і робячыся надзейным ахоўнікам шчыра-пролетарскіх ідэяў у беларускім соцыялістычным руху.

Цэнтральнай Пецярбурскай организацыі Б. С. Г., пасьля заснаваньня раённых, стала шмат лягчэй праводзіць левы напрамак і наогул выступаць ад беларускіх соцыялістычных масаў. Таксама лягчэй зрабілася адкідаць ліхамысныя закіды ў Грамаду з боку эсэраў. Як-ні-як, а рабочая падстава беларускага руху ў Пецярбурзе была нясумненнай. Можна было пазавідваць і меншавікам-эсэрам. Вось за гэтым перш управа Пецярбурскай организацыі Б. С. Г., а пасьля 4—5 чэрвеня і Цэнтральны Комітэт, часова застаўлены ў Петраградзе, звярнулі галоўную ўвагу на падтрыманьне Нараўскай і другіх раённых організацый. Адзін за другім скліканіся бюром Нараўскай организацыі рабочыя мітынгі, на якія сыходзілася шмат людзей, у якіх прамоўцы Грамады карысталіся агульнай прыхільнасьцю, а

праграма яе сустракала спагаду й падтрыманьне. Манолітная маса некалькіх сотняў беларускага пролетарыяту надзейна брала пад свой ахсў беларускі рэволюцыйна-культурны рух. Гэта заўжды адмячалася ў выступленьнях, пастановах і рэзолюцыях беларускіх рабочых у Пецярбурзе. На мітынгу Б. С. Г., які адбыўся 1 чэрвеня 1917 г. ў будынку Пуцілаўскага заводу, і на якім было звыш 300 рабочых, была ўхвалена вось якая рэзолюцыя: «Вітаючы лёзунг «вольнае самаўсьведамленьне» мы, беларусырабочыя Нараўскага раёну, бяром яго пад сваю ахову і лічым яго адным з важнейшых пунктаў нашае праграмы. Побач з другімі і беларускаму працоўнаму народу павінна быць дадзена права на культурна-нацыянальнае сам ўсьведамленьне... Толькі вольным злучэньнем паасобных нацыяў складаецца сіла й моц цэлай дзяржавы і толькі праз нацыянальнае ўсьведамленьне ёсьць пэўны шлях да Інтэрнацыяналу. Адабраньне гэтага права ад нацыяў і перашкоды на гэтым грунце на руку прыхільнікам гвалту ў самых жорсткіх яго праявах, а тактыка ўціску над нацыянальна-вызваленчым рухам толькі карысна рэакцыянэрам усіх толкаў і афарбовак.

Небясьпека для нацыянальнага самаўсьведамленьня беларускага працоўнага народу вельмі вялікая і пагражае яму з двух бакоў: з боку мясцовых польскіх земляўласьнікаў, буржуазіі і ксяндзоў, маючых на мэце прылучэньне Беларусі да Польшчы, і з боку чорнасотнікаў-расійцаў і мясцовых беларускіх перакінчыкаў, каторыя, захістаўшы сябе дэмократычнымі лёзунгамі, лемянтуюць аб гэрманскіх інтрыгах, пагражаючых адзінасьці Расіі.

Мы, беларусы-рабочыя Нараўскага раёну, як дзеці і сыны працоўнага дэмократычнага 10-ці мільённага беларускага народу, павінны ўзяць долю Беларусі ў свае рукі і абараніць яе ад гвалту, як польскага, гэтак і расійскага, вольна вядучы справу яе культурна-нацыянальнага адраджэньня.

Азнаёміўшыся з праграмаю Беларускае Соцыялістычнае Грамады, як партыі, маючай сваім грунтам інтэрнацыянальны рэволюцыйны соцыялізм, прызнаём яе сапраўднай паказчыцай волі працоўнага беларускага народу і становімся пад яе штандар змаганьня за соцыялізм, за інтэрнацыянал, праз самаўсьведамленьне ўсіх народаў наогул і беларускага ўасобку»*)

Гэта і другія падобныя рэзалюцыі былі адказам тэй завірусе контррэволюцыйнай і кадэцка-эсэраўскай брахні на беларускі нацыянальна-соцыялістычны рух, якая ўсё вышэй і вышэй разьлівалася ў незабранай Беларусі і ў сталіцах. Збоку сьвядомых пролетарскіх беларускіх колаў, якія бачылі ў беларускім руху выяўленьне рознастойнай свабоды, а пасьля, у кастрычніку, падмацаванай «Дэклярацыяй правоў прыгнечаных», мусілі атрымаць належны адпор і паны-памешчыкі з ксяндзамі, падпаўшымі пад беларускі колер, і эсэры-кулакі, працягаючыя на зьездах расійскую шовіністычна-мураўёўскую думку.

Беларусы-рабочыя ў Петраградзе добра разумелі, чым пахне цкаваньне нацыянальнага руху наогул. Яны разумелі, што хавалася ў нападах і гвалтах буржуйна-коаліцыйнага ўраду над Фінляндыяй і подвігі розных Оберучавых**) і Несьцеравых у Менску. Клясавы інстынкт падсказваў рабочым, што ў загоне нацыянальнага руху наогул хаваецца ня што іншае, як заядлая контр-рэволюцыя, хутка гатаваўшая карніла ўшчыну. І сьледам за пасыўным адпорам гэтаму наступу ў выглядзе рэзолюцыяў, яны паступова пераходзілі да актыўнага адбою ў выглядзе выступаў на зьездах, на сходах і спрэчак у сярэдзіне Б. С. Г.

*) «Вольная Беларусь», 24 чэрвеня 1917 г.

**) Губэрскі камісар у Кіеве ў 1917 г., расійскі эсэр.

Адно з цікавых выступленьняў гэткага роду адбылося ў канцы траўня 1917 г. на сходзе беларускіх прадстаўнікоў першага сялянскага зьезду ў вялікім тэатры народнага дому ў Пецярбурзе. На гэтым зьезьдзе, адчыненым у траўні, дэлегаты ад беларускіх губэрняў аб'ядналіся ў адно зямлячаства, ад якога й вялі выступленьні на сялянскім зьезьдзе. Аб'яднаньне мела вялікую сілу, налічваючы за пяцьдзесят чалавек, і выступала ад беларускага працоўнага народу ў кірунку эсэраўскай праграмы. Амаль ня ўсе аб'яднаныя былі з'агітаваны эсэрамі і ў сэнсе нацыянальнага пытаньня трымаліся абаронцамі поўнага ігнараваньня беларускага руху, ці ў крайнім разе, вобласьнічаскага погляду. Гэта давала козыр у рукі эсэрам і меншавіком, якія, бачачы «благонадежность» у нацыянальным пытаньні «прадстаўнікоў» беларускага сялянства, пасьмейваліся над патрабаваньнямі Бел. Сац. Гр. Запраўды сярод беларускіх дэлегатаў зьезду сялян было няпрыметна; увесь склад быў з афіцэраў, чыноўнікаў, настаўнікаў і іншых дробна-інтэлігэнцкіх элемэнтаў. Усё-ж, каб паперашкодзіць іх антыбеларускім выступленьням, на нарадзе ўправы цэнтральнай арганізацыі Бел. С. Гр. з прадстаўнікамі раёнsocных арганізацыяў, ухвалена было пайсьці да «беларускіх» дэлегатаў сялянскага зьезду й перагаварыць з імі аб наладжаньні сумеснай працы на падставах праграмы Бел. С. Г. Найбольш налягалі на гэтым пуцілаўцы, якія выдзелілі ад сябе чатырох чалавек у дэлегацыю для перагавораў. Ад цэнтральнае арганізацыі далучылася трое, і ўсе семера грамадзістаў пайшлі ў народны дом. Там, якраз, засталі агульнае сабраньне прадстаўнікоў ад Беларусі на сялянскім зьезьдзе. Дастаўшы дазваленьне зайсьці, пасланцы Грамады папрасілі слова і расказалі, зачым прыйшлі; разам з гэтым выказалі свае погляды на беларускае пытаньне ў шэрагу прамоў. Пры гэтым сябры Грамады ад рабочых наразускае арганізацыі горача баранілі патрэбнасьць самавызначэньня беларускага працоўнага народу. Прамовы і запраўдныя рабочыя-грамадзістыя зусім нечакана для кіраўнікоў аб'яднанцаў-дэлегатаў сялянскага зьезду, расказолі іх надвое. Меней з'агітаваная эсэрамі частка цалкам была на баку грамадзістаў і пляскала ў далоні іх прамовам. Затое сьвядома-эсэраўская частка ўвайшла ў абурэньне і пачала ганіць і паганіць і беларускую мову, і беларускі рух, і беларускіх соцыялістых. «У мяне самога мякіна на языку, я сам селянін», расьпінаўся чыноўнік Пашкоўскі з Магілёўшчыны: «а нічога ніякага беларускага не прызнаю». Усьлед за ім пайшлі лаянкі і кпіны над прышоўшымі да іх ад Б. С. Г. Упарта, са шчырасьцю й гарачнасьцю ды ўмела аддавалі адбой эсэрам і эсэрствуючым сябры Грамады, рабочыя. Спрэчкі зацягнуліся надоўга і мелі тое значэньне, што ў многіх ворагаў выклікалі спагаду да справы беларускага нацыянальна-культурнага руху ў яго належным вырашэньні.

Бязумоўна, радыкалізм беларусаў-рабочых у справе нацыянальнай выходзіў з крыніцы іх радыкальнага погляду на ўсе пытаньні бягучага часу. Эсэраўства, якога так ня любілі пролетарскія элемэнты за яго згодніцтва з буржуазіяй, падпадала пад іх падозранасьць на кожным кроку. Ваюючы з русыфікатарскай політыкай эсэраў у нацыянальным пытаньні, сябры Б. С. Г. рабочыя-беларусы з няверай глядзелі на некаторых сяброў управы Пецярбурскае арганізацыі і Цэнтральнага Камітэту. Пасьля зьезду Б. С. Г. ў Пецярбурзе 4 чэрвеня, у Цэнтральны Камітэт папаў Я. Варонка і яшчэ дзьве правыя асобы, хоць яны мелі меншасьць і не маглі ўплываць на Ц. К., усё-ж у вачох раёных арганізацыяў Грамады яны былі стромкамі, якія трэ' было выняць з цела досыць левае Пецярбурскае гарадзкое арганізацыі Б. С. Г. З-за многіх прычын, па таму часу незалежных ад самае арганізацыі, ачысьціць яе ад правых соцыялістаў было немагчыма. Трэ' было, мабыць, паступова даходзіць да політычнае дыфэрэнцыяцыі, каб

завяршыць поўную фазу разьвіцьця беларускага соцыялістычнага руху. Але ў гэтым поступе ў значнай меры працавала рука беларускага пролетарыя. Районныя організацыі Б. С. Г. нясупынна накіроўвалі пуціну пахілаў яе ўлева. Даклады на агульных сходах районных організацыяў, якія (даклады) рабіліся сябрамі Цэнт. Камітэту, абгаварваліся да дробязі і сьвядома, з погляду інтэрнацыяналізму, заядла крытыкаваліся. Калі пападалі з дакладамі правыя сябры Грамады, іх нараўцы няшчадна разьбівалі і бралі пад сумненьне. Дзякуючы гэтаму, Пецярбурская організацыя і Ц. К., пакідаючы ўмеранасьць Маскоўскай, Вітабскай, Пскоўскай і інш. організацыяў, крок за крокам адхіляўся ўлева, раўнуючыся па Пецярбурскім районным організацыям.

Гэта тактыка Пецярбурскай організацыі ў хуткім часе намеціла выразны раскол у Соцыялістычнай Грамадзе, які хутка прывёў яе да сьмерці. Нарысы расколу засталі яе больш-менш 15 кастрычніка, калі адбываліся аднача́сна трэці зьезд Грамады і другая сэсыя Цэнтральнай Рады Беларускіх організацыяў.

То было перад дзьвярыма Вялікай Рэволюцыі Кастрычніка.

**Ж. Х. З.**

# Менская вежа.

Стаіць яна, вежа-званьніца, у асяродку старога гораду, што шаволіцца пад ёй сваімі вулкамі і прысадамі. Пануе яна над афарбаванымі цаглінамі мураў, над шматкаляровымі дахамі, нават над птушынымі гняздоўямі, на-што-ўжо,—апошнімі паверхамі гарадзкога жыцьця...

Трэба высока ўскінуць вочы, каб пабачыць галаву гэтага Самсона-волата.

А ля ног яго рупяцца спрытныя стварэньні, рупяцца пешма і коньма, ганяюцца на самабегах-аўто, на самакатах-коніках...

Раніцай па ўсіх кірунках-сьцежках выбіваюць брук тыя, што твораць жыцьцё і тыя, што плятуцца ў хвасьце яго, тыя, што сустракаюць першую вясну каханьня і тыя, што апіраюцца на апошні кій свайго доўгага шляху—вераб'і-вучні і буцлы-настаўнікі; палітычныя вароны-каўкі і сакалы з войстрым дзюбам і кіпцямі...

Вось праляцеў на аўто адказны працаўнік, які чытае у вачох натоўпу таксама лёгка, як і ў апошнім нумары газэты; вось прайшоў гурток работнікаў з кляўцамі у руцэ, з вагнём будучыны ў зрэнках...

Сьпяшаецца засесьці за канцалярскі стол марна пекная дзяўчына на высокіх абсацах... Прайшоў у друкарню пясьняр, каб наглядаць за выйсьцем маладых твораў, унукаў яго натхненнага гуканьня... Прасьмяяліся міма слухачы і слухачкі, што нікога ня слухаюць, апрача голасу маладога жыцьця.

Прайшоў дарогу друг пясьняр і заспыніўся з першым, і стаяць яны ля вежы-званьніцы, абодвы звычайныя з выгляду і нязьмераныя яшчэ ў творчай працы... Стаяць яны, ці гавораць—не гавораць, а толькі часам узьнімуцца думкай пад вежу і аглядаюць адтуль жыцьцё...

Памалу, як дзед, прайшоў у свой камісарыят другі адказны працаўнік з поглядам спакою і прыгатаванай кожнаму рады ў сініх вачох...

Чырвоны коньнік нёсься па вуліцы і круць—зьвярнуў каля ля вежы...

Яшчэ падбавіла мурашкаў людцоў. Высокі, сутулы шырокім крокам прайшоў сярод іх чалавек. Куды ён? Ці сьпяшаецца кінуць каму ў вочы праўду, ці спыніць няўмелую руку? А мо гукне з катэдры нечаканае слова, каб напомніць аб тых, што яшчэ не дацягнуліся да менскае вежы?...

Надойдзе якое Новае Сьвята, пойдуць міма вежы-званьніцы шэрыя хвалі, а над галовамі іх—Чырвань прызываў і сьцягаў... Чырвань прызываў і сьцягаў—карабелі бурнага мора..

У гарышчы гэнае вежы ходзіць укруг вартаўнік; ён здаецца маленькім. Увесь горад, стары горад працы, барацьбы, голасу і жартаў—як на далоні. Пільным вокам сачыць ён праменьні ўсходу-заходу, поўначы-поў-

дня... Пара вачэй няўздраманых сачаць там уверсе, на вежы. Супакойна працуе ў дні супрацоўнік і маці можа спачыць ля дзіцяці ўночы, бо ведаюць вежу яны і на ёй пару вачэй вартаўнічых.

Толькі ўбачыць ён дым ці смурод у паветры пачуе—раптам ударыць у бом, выкіне галы-сыгналы, або токам запаліць ліхтарні...
І зашаволяцца людзі ўнізе; медзяныя шлемы апрануць; коні трывалыя ўзнуздаюць, і вось ужо да валкі гатовы: гасіць стыхію-варожасьць.

* * *

Высіцца вежа над мурамі, вышэй і вышэй... угару, здаецца, расьце... Здаецца, хмаркі палошчаць сьцяг яе, сьцяг працы-змаганьня.

Акалічныя вёскі, што хаваюцца яшчэ ў пушчах, як і тыя, што агаліліся сярод узворанага поля, бачаць гэную вежу са сьцягам і кіруюць на яе баразны бліскучых плугоў. Маладзіца, што перасекла упоперак дзедзіну ральлю, павязала галаў хусткай таго-ж колеру, як і сьцяг той на вежы.

Сівы дзед, канчаючы да заходу працу-сяўбу, зьняў звыклай рукою шапку і зірнуў на вежу-сьцяг.

Вясковы настаўнік у часе навучаньня выводзіць на дошцы літары сьцягу, а вучні срэбным хорам сьпяваюць прызывы.

Стаіць нярухома менская вежа. Гэта хмаркі-здарэньні плывуць над яе верхавінай, а здаецца тым, што ўнізе, нібы гэта яна зварухнулася ў хмарах.

І сочыць той вартаўнік па ўсіх кірунках-праменьнях.

Яшчэ вышэй узьнімаецца вежа.

Мімаволі глядзяць на яе гарады, што ляжаць па Віліі і Нёмну: угледаюцца ў сьцяг, у галы сыгналы, і слухаюць бомаў. І слухаюць Вільня і Коўна а, нават, і чэская Прага:

Злучайцеся вы, пролетары, што мову і тую згубілі! Уся ваша маёмасьць—вы самі. Што засталося ў вас, апроч гэных рук, якія вы прымушаны прадаваць тым ці тым гаспадаром сваім? Што засталося ў вас, апрача думак-хмарак, што гоняць вятры з боку ўбок? Што засталося ад хат вашых, апрача комінаў, а наўкол іх будуюцца асаднікі?

Што засталося ад пушчаў вашых—пні спарахнелыя з грыбаміпорхаўкамі!

«Злучайцеся!» гукаюць сыгналы менскае вежы: «бо адсюль відаць далей, як з вашых балькона-гарышчаў, а ветры даносяць да менскае вежы смурод пажарышчаў далёкіх!

Чаму разьдзьмухае вас, як насеньне непатрэбнае? Чаму не расьсявае вас рука сейбіта, каб узьняцца збожжам працы і яднаньня?

Дзе бацькаўшчына ваша, пролетары Віліі і Нёмна? Вы знойдзеце яе толькі тагды, як здолееце карыстаць з працы рук сваіх. Вы знойдзеце яе—калі перапплавіце званы модлаў вашых у войстрыя мячы змаганьня, а пацеркі на руках вашых пераўтворыце ў мазалі на руках вашых, каб не балюча было трымаць стрэльбы... Хай чарадуецца ў руцэ алавок вашых газэтных спрачак з сякерай, што павінны зарубаць насечкі-помнікі на пнёх павысечаных пушчаў...» Так гудзе з гары менская вежа-званьніца, што вырасла ў асяродку старога гораду. Яна вырасла, каб запанаваць над цаглінамі муроў, за якімі сядзелі пролетары, пакуль не знайшлі сваёй бацькаўшчыны.

Трэба высока ўскінуць вочы, каб угледзіць голаў-сьцяг гэтага волату рэволюцыі і пабачыць ля сьцягу сьвядомага пролетара!

**М. Грамыка.**

# Кнігапіс.

**Крывічанін»**, *месячнік літаратуры, культуры і грамадзянскага жыцьця № 2. Ліпень 1923 г., Коўна.*

«Крывічанін»—выданьне купкі ковенскіх беларусаў, якія гуртуюцца вакол так званага «Правіцельства Беларускай Народнай Рэспублікі». Галоўным рэдактарам месячніка зьяўляецца сам В. Ластоўскі—экс-старшыня ўлады памянёнай «рэспублікі».

Пасьля доўгага часу гуляньня ў вышэйшую політыку, на якую шмат пайшло «розных» грошы і якая ўрэшце нічагуткі рэальнага не дала, быўшы старшыня перайшоў да культурнае працы. Скуткам гэтае працы і ёсьць выданьне «Крывічаніна».

Другі нумар яго, які трапіў да нас, налічвае 64 стар. густога ўборыстага друку. Зьмест яго займае цэлую старонку і з першага погляду робіць уражаньне багатага і размаітага па матар'ялу месячніка.

Але, калі прыглядаешся да тэматаў, та зразу натыкаешся на іх чэрствасьць, старызну і поўную вермішэльнасьць. У дадатак да гэтага, усе тэмы выпадковы, нязьвязаны паміж сабою літаральна ніякай сувязьзю. Нават літарацкі аддзел, які, здавалася-б, павінен ажыўляць часопісь, мёртвы па сваім складзе. Ён адчыняецца вершамі самога рэдактара В. Ластоўскага. Усе вершы—адбітак уражаньня аўтора з дарогі, калі ён, быўшы старшынёю міністраў Б.Н.Р., разьяжджаў па Эўропе з мэтамі вышэйшае політыкі. Тут і «Рэйнскі вадапад», і «Кёльнскі Сабор», тут і „Альпы“ і «Сабор сьв. Марка ў Вэнэцыі» і „Гэнуэскі рынак“ (усё па дарозе на Гэнуэскую конфэрэнцыю). Вершы напісаны вольным памерам і перасыпаны спрэс незразумелымі словамі, як: «валва» «смыч», «ручва», «кіпежа», «тутніць», «сьвятарны», «пачвар», «уздойм», кудзьбіт», «старэтны» і соткі іншых. Нечым на спадоб'е модэрнізованага футурызму, а la Северанін, нясе ад кожнага вершу. Для прыкладу прыводзім выпіску з вершу «Кёльнскі Сабор».

«Пазбыт ланцуг!!!
І богу ў чэсьць, кудзьбіт старэтны,
Зьмяняў скалу у хвальны сьпеў,
Шыбаў да зор; хоць апраметну
Глыбежу знаў, ды шчасьця міг
Багоміць ўмеў».
Ці з вершу ў «Альпах».
«Італьская зямля!
Лепш наша бедная калыска
Жыцьцём напоўнена у шчэрць,
Як ваш трупехлы гроб,
З якога зеціць сьмерць».

Мудрыя вершы, як была мудрая політыка! За вершамі йдуць чарадою пераклады з Рабіндраната Тэгора, з Гэргарта Гаўптмана; чамусьці афорызмы апошняга гэткага зьместу: «яна была запраўдная жанчына: дзень у дзень цешылася сваімі сандальчыкамі», ці «Сужэнства—гэта такая дзяржаўная ўстанова, як і катарга, толькі іншай катэгорыі». За гэтымі мудрасьцямі сьледуе даўжэрны апіс таго-ж В. Ластоўскага, як ён разьяжджаў па Беларусі і выслухоўваў розных памешчыкаў

«аб высокай культуры нашых продкаў, якія, нават (!!) мелі назовы розных сузор'яў».

Далей зьмешчаны йзноў пераклады з А. Толстого, з Іонаса Білюнаса і з запісное кніжкі Н. Каржанскага. Гэтым літаратурны аддзел канчаецца.

У аддзелах «культурным» і «грамадзянскага жыцьця» зьмешчаны гэткія рэчы, як «Даваенны бюджэт Беларусі» К. Душэўскага, «Побыт Ieроніма пражскага ў Беларусі», «царкоўна-парахіяльныя шпіталі ў Магілёве ў XVI-XVIII стал.» і інш.

На манер «культурнага» і «грамадзянскага» аддзелаў зложаны і аддзел «Запіскі», бач нешта нібы «Кроніка». Нумар канчаецца аглядамі культурнага жыцьця Беларусі і прэсы. Ад усяго зьместу яго пахне трупцеласьцю й мяртвячынай. Здаецца, трудна было-б падабраць гэткі матар'ял, каб і хацеў, і яшчэ мудрэй знайсьці ў кагокольвечы хоць якую цікавасьць да гэткага матар'ялу.

Для каго і для чаго ён, гэты «Крывічанін?» Хоць-бы з боку нацыянальнага, каму ён патрэбен? Няўжо толькі дзеля лішняга радка ў беларускай бібліографіі? Ці дзеля пасьведчаньня таго, што на руінах зданнае дзяржавы, чым была «Беларуская Народная Рэспубліка», узыходзіць толькі пустацьвет культуры.

Мабыць...

**Комель.**

**«Жизнь национальностей»**, *ежемесячный журнал по вопросам политики, экономики и культуры национальностей. Издание Комиссариата по делам национальностей. Книга 3—4.*

Гэта кніжка, як і папярэдняя, зусім бедна артыкуламі прынцыповага зьместу. У галоўным, політыка-экономічным, аддзеле яе зьмешчана пяць невялічкіх стацеек, з якіх дзьве—гэта даклады т. І. Сталіна на XII з'езьдзе Р. К. П. б. па нацыянальнаму пытаньню. Яны зьяўляюцца галоўнай каштоўнасьцю кніжкі, бо другія носяць скорапераходны, газэтны характар. Другія аддзелы, якіх налічваецца ажно сем, можна падвясьці пад агульную назву «абзоры» (агляды), якая прыдадзена другому за пачатку аддзелу. «Агляды» захопліваюць сабою многія галіны нацыянальнага жыцьця і яго культуры. Па некаторых пытаньнях агляды робяцца ў досыць вялікіх артыкулах, другія—у простых хронікерскіх заметках. Больш-менш грунтоўна сабран матар'ял у аддзеле «За рубяжом». У гэтым аддзеле крануты моманты нацыянальнага жыцьця ў суседніх рэспубліках, былых частках царскае Расіі. Відавочна адмячаецца астаўленьне бяз увагі другіх дзяржаў, што робіць досыць цікавы аддзел «за рубяжом» куртатым.

Наогул трэба сказаць, што цалкам журнал, як і папярэдняя кніжка, ня мае саліднасьці (па зьместу) і таму падходзіць пад тып тыднёвіка, пры гэтым запозьненага. Кідаецца ў вочы, што зьбіраньне матар'ялу йдзе туга і з вялікімі нацяжкамі, чаму журнал цярае сьвежасьць і цікавасьць. А, тымчасам, гэткага роду грунтоўная часопісь вельмі й вельмі патрэбна ўдзяржаве, складзенай з багатага букету нацыянальнасьцяў.

Думаем, што ў далейшым гэта будзе прынята на ўвагу і «Жизнь национальностей» прыме належачую яму вахкасьць і саліднасьць ня толькі па грубіні і тэхніцы выданьня, а і па зьместу.

**Вока.**

**«Труды Белорусского Государственного Университета в Минске»**. *№ 2—3. 1922 г.*

Навуковае жыцьцё і праца ў сьценах Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту ўсё шырэй і шырэй разгортваецца; бясспрэчным гэтага довадам зьяўляецца № 2—3 „Трудов". Шмат рознастайных навуковых пытаньняў і проблем знайшлі сабе тут тое ці іншае распрацаваньне і разьвязаньне. Пачынаючы з артыкулу В. В. Ляпёшкіна «О свертывании белка», які, бязумоўна, мае глыбока навуковае значэньне і, апрача таго, мае самы блізкі

стасунак да так званай проблемы аб «абмаладжваньні», пераходзячы затым да прац М. П. Сакалоўскага «К вопросу об элиминации бактерий из брюшной полости», В. Н. Івапоўскага «Логика истории, как онтология единичного» і «Ассоционизм у А. Бэна», Н. М. Нікольскага «Керубы по данным библии и восточной археологии» і шм. інш.—мы бачым, што Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, ня гледзячы на сваю моладасьць, даволі багат навуковымі, у запраўдным значэньні гэтага слова, працаўнікамі. З гэтага боку Б. Дз. У. ня ўступае іншым расійскім унівэрсытэтам, а некаторых з іх, бязумоўна, і перавышае. І калі глядзець на Б. Дз. У., як на адзін з раскіданых у вялізнай кольказьці на абшарах С.С.С.Р. расійскіх унівэрсытэтаў, то можна толькі цешыцца, што наш юнак такімі шпаркімі крокамі імкнецца наперад, каб зраўняцца са сваімі старэйшымі сябрамі, расійскімі унівэрсытэтамі, а некаторых з іх ужо, нават, і выпярэджвае. І мы бачым, што шмат хто шчыра цешыцца, гледзячы на наш Унівэрсытэт якраз з вышэй адзначанага пагляду.

Аднак нельга адчуваць гэтае ўцехі, калі глядзець на наш унівэрсытэт, як на *Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт*, якім ён быць *павінен*, бо толькі з гэтай умовай ён і пакліканы да жыцьця. Што значыць быць *Беларускім*? Гэта значыць, наш Унівэрсытэт у першую чаргу павінен распрацоўваць навуковыя проблемы, якія маюць беспасрэдныя адносіны да нашага краю.

Падыйшоўшы з гэткай меркай да «Трудов» мы бачым, што беларускім навуковым проблемам ахвяравана ў кніжцы ўсяго дзьве працы: А. А. Савіч—«Западно русские униатские школы XVII—XVIII веков» (працяг) і В. І. Пічэта—«Наказ старостам и державцам и волочная устава". Спынімся на першай з іх.

Пытаньні вуніяцкае школы на Беларусі—папраўдзе вельмі цікавыя пытаньні, асабліва ў сучасны момант, калі энэргічна адбываецца гэтак званая беларусізацыя нашых школ. Даць яскравы і больш-менш дакладны малюнак вуніяцкіх школ, якія ў свой час густой сеткай былі апляталі Беларусь, выявіць іх нацыянальную фізіогномію, іх пэдагогічна-ідэёвую аснову — вось папраўдзе нязьмерна-важнае, а разам з гэтым і пачэснае заданьне беларускага вучонага.

Як-жа падыходзіць да гэтых пытаньняў А. А. Савіч? «*Западно-русские* униатские школы»—вось тэрмін, які спатыкаем мы ў самым загалоўку. І гэты тэрмін як нельга лепш характарызуе ўсю гэтую працу. Гісторыя тэрміну „Западно-русский" даволі ўсім вядома, і нам ня хочацца тут яшчэ раз падкрэсьліваць тую тэндэнцыйнасьць расійскіх «вучоных», якія, ідучы насустрэч абрусіцельнай політыцы вялікадзяржаўнага расійскага царскага ўраду, прыдумалі гэты штучны тэрмін. І папраўдзе вялікім кур'ёзам зьяўляецца, бачыць гэты тэрмін на старонках «Трудов» Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Але на гэтым не канец. Удаўшыся ў дэталі, паважаны вучоны страціў усялякую гістарычную пэрспэктыву; дзеля браку навуковае эрудыцыі, часта-густа не патрапіць аб'яднаць, зьвязаць у вадно цэлае паасобныя моманты ў гісторыі вуніяцкае школы, а ў рэзультаце гэтага яго праца прадстаўляецца часта, як купа сырога матар'ялу, сабранага бяз усякага ладу й сыстэмы. Апрача таго, на кожным кроку разглядаемай працы адчуваецца ўплыў на нашага вучонага расійскіх гісторыкаў пецярбурскай і маскоўскай школ (гісторыкаў—тыпу азначаных намі вышэй), часта ён карыстаецца вывадамі гэтых вучоных, як апошнім і самым моцным аргумантам, часта ўжывае да гістарычнага матар'ялу іх комэнтарыі. А сваё ўласнае орыгінальнае бадай што цалкам няпрыметна. Адным словам, відаць, што А. А. Савіч вельмі працавіты вучоны... і толькі, але ў яго няма самабытнага размаху, які-б дапамог яму пазбыцца старых традыцый, падыйсьці да працы, як належыць. І хаця нам вядома разгляданая праца толькі ў адрыўках, але

ўжо можна сказаць, што спадзявацца ад яе няма чаго. Запраўдная гісторыя вуніяцкае школы на Беларусі будзе напісана не А. А. Савічам; і калі гэта ёсьць першы корань, якім Б. Дз. У. хацеў урасьці ў беларускі грунт, то трэба прызнаць, што гэты выбар надта няўдалы: сточаны чарвяком традыцый, якія паходзяць ад «гісторыкаў» вялікадзяржаўна-расійскай тэндэнцыі, —гэты корань ня можа карміцца мясцовымі сокамі і на беларускім грунце яму застанецца проста зачахнуць.

Але, як кажуць, першы блін комам. Спадзяёмся, што Б. Дз. У. памятае аб сваім галоўным прызначэньні і раз-пораз будзе выпушчаць новыя карэньні —здаровыя і загартаваныя ў агні запраўднай навукі (а не фальсіфікату!), і гэтымі карэньнямі ўсё глыбей і глыбей будзе ўрастаць у беларускі грунт, сокі гэтага грунту будзе выносіць на сьвет, на сонца. І мы ў праве чакаць паяўленьня гэтых новых карэньняў у бліжэйшых нумарох «Трудов». Мы гэтага і чакаем.

**Адам Г—ба.**

# Хроніка Беларускай Культуры.

**Вечар памяці Максіма Багдановіча.**
*(16 чэрвеня г.г.).*

Пад гукі Інтэрнацыяналу старшыня Інбелкульту тав. Некрашэвіч адчыняе вечар памяці без пары сыйшоўшага ў магілу беларускага поэта Максіма Багдановіча і, азнаёміўшы з кароткім жыцьцём поэта, зазывае ўсіх вітаць прысутнага тут бацьку Адама Багдановіча. Уся паўнюткая заля зашугала бурнаю авацыяй.

— Я некалі адарваў свайго сына ад радзімы, цяпер я зьвяртаю ўсё, што ён па сабе пакінуў. Аддаю ўсё тым людзям, якіх любіў мой сын, і якія яго любяць,—сказаў Адам Юравіч. Гукі «Славы» з маладых грудзей хору Беларускага Пэдтэхнікуму пакрылі яго словы.

— Сёньня сярод нас госьць, Адам Юравіч Багдановіч,—выступае т. Дыла і ў сьціслых словах дае малюнак жыцьця й працы бацькі поэта.

Адзначыўшы яго пахаджэньне з сялянства, яго працу настаўнікам, яго ўдзел у партыі народавольцаў, ён кажа, што, пасьля роспуску партыі, Адам Юравіч пераходзіць да «мірнае» працы ў банк. Потым адцяняе працы А. Ю. па этнографіі, якія зьмяшчаліся ў розных выданьнях Акадэміі Навук, а таксама выдаваліся й асобнымі кніжкамі, як «Пережитки древнего миросозерцания белоруссов». Нарэшце зазначае яго замілаваньне да працы сына, якую А. Ю. выратаваў у крытычны момант яраслаўскага белагвардзейскага паўстаньня, і зазывае яго працаваць гэтта на Беларусі. У адказ Адам Юравіч кажа:

— Я ў моладасьці даў клятву служыць народу. Гэтай клятве я не зьмяніў і надалей; колькі хопіць сілы, буду яму служыць.

Пасьля гэтага з аглядам матываў творчасьці Максіма Багдановіча выступае профэсар Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту Пятуховіч.

— Яго вершы—гэта люстра яго перажываньняў,—кажа ён і дае сьціслы сілуэт Багдановіча.

— Рана ён пачаў пісаць вершы і ўжо 17—18 гадоў дае добра апрацаваныя вершы, у якіх адсьвечваецца яго дума. Кідаецца ў вочы замілаваньне поэты да народнае фантастыкі, бо яе вобразы многа казалі яго пачуцьцю, адбівалі шматфарбнасьць сьвету, адсьвечвалі ўнутраны сьветапагляд народу. Адгэтуль поэта ўспрыймае пансыхізм прыроды, на лоне якое душа яго набывае дзіцячае чыстасьці, а сам робіцца рыцарам цудоўнае казкі.

Апрач вобразаў народнае фантастыкі поэту захапляюць вобразы мінулае Беларусі. Яны вабяць яго сваёю беспасярэднасьцю, сваёю цэльнасьцю. Адтуль поэта выхапляе такія жывыя вобразы, як «Перапісчык», «Летапісец» і др.

Стварае Максім Багдановіч і індывідуалістычныя вершы, як «Страцімлебедзь». Гэты вобраз гордага лебедзя далёкі ад эпічнасьці. Тут прасочваецца настрой поэты і гучаць байранаўскія матывы, і гэты настрой, настрой змаганьня й барацьбы ў поэты мацнее.

«Рушымся брацьця, хутчэй», заклікае ён, бо барацьба—істотная адзнака жыцьця. Пад гэты настрой поэта аблюбоўвае й абмалёўвае такія-ж зьявішчы і ў прыродзе. «Удар, цыклон, удар па моры!...» Шлях барацьбы—адзіны шлях да лепшае будучыны. І поэта апавядае пра дзядоў, якіх акружвалі лясы, па зьнішчэньню каторых стала прасторна жыць. Але змаганьне мае сэнс пры асьвятленьні яго ідэалам. Ім для М. Б. было парэньне ўвысь, і поэта пераказвае грэцкую міфу пра Ікара, у васобе якога ён адчувае штось уласнае свае душы. А скрыдлы гэтыя рана былі падрэзаны рэфлексіяй, чыннасьцю халоднага розуму. Поэта сам падкрэсьлівае сваю раздвойнасьць між пачуцьцём і розумам: «Думкі розумам снуюцца, пачуцьцё праз край бяжыць». Шуканьне цэльнасьці—вось скарб поэта. Ён падвойна ўспрыймае ўсе зьявішчы і бачыць, як багна адбівае зорылілії. Рэфлексія накідае мрочнасьць на ўсе вершы.

У роднай старонцы поэта складае лепшыя песьні. Беларусь—гэта крыніца жывое вады, і яго жаданьне—быць пахованым у роднай старонцы хоць у гліне. Беларусь—гэта дзяўчына з заплаканым тварам. Айчына—гэта насеньне, якое захавалася ў эгіпецкай зямлі. Гэты вобраз— сымболь магутнасьці духа беларуса. Беларусь—гэта дыяманты, і поэта верыць: «Ня згасла сонца, сонца ўстане. Ён, гэты дзень, яшчэ настане, і ачуняе старана». Так пры пачуцьцёвым успрыйманьні, а разумовае ў жудасных фарбах рысавала народнае гора. І поэта разумеў, што, каб перамагчы яго, трэба барацьба, якая ў сваю чэргу патрабуе ахвяраў. Вось чаму з аднаго боку вера, а з другога сумненьне: «ці знойдуцца сілы». Тое-ж бачым і ў вершах эстэтычнага характару. Добра коласам быць, але лепш васільком. Такое пакланеньне харастну збліжае поэта з романтыкамі, хоць да думкі іх, што «душа поэта нябесным агнём абагрэта», ён адносіцца скэптычна, бо ведае, што «пекна сьпяваюць і жабы». Паддаўшыся рэфлексіі, поэта разбурвае адну за другой ілюзіі. Лірыка каханьня пабудована на сумны лад. Ён зазначае труднасьць адшуканьня «родных душ». Злы лёс іх разлучае, калі й спаткаюцца. Сямейнае жыцьцё? Ён шмат поэзіі бачыць у вобразе маткі, але пад пекным надворным пакровам сямейнага шчасьця поэта бачыць і «гняздо, зьлепленае з бруду». Разбурвае ён і рэлігійную ілюзію. У душы нашага поэты дзьве струі: парыўчасьць Дон-Кіхота і самааналіз Гамлета. Прычынамі пэсымізму зьяўляюцца, з аднаго боку—хвароба, а з другога—соцыяльны фактар. Поэта жыў у часы царскае рэакцыі. Поэта—індывідуалісты да шырокае працы, да шырокае чыннасьці, а рэакцыя на кожным кроку ёй ставіла перашкоды. Душа поэта пяшчотная як астры, але вокал яе турма рэакцыі. Парваліся струны, але акорд рыдае. Ён заве нас да хараства, да ўсяго лепшага, у што верыў поэта. Гэты акорд робіць яго бесьсьмяротным“.

Хор пяе «Слава...» І з аглядам навуковае працы Максіма Багдановіча выступае рэктар Б.Д.У. профэсар Пічэта і з уласьцівай яму шчырасьцю дае малюнак маладога беларускага вучонага.

— У сьнежні 1915 г. у маёй кватэры пачуўся званок. Я адчыніў дзьверы і ўгледзіў маладога студэнта. Гэта быў Максім Багдановіч,—пачаў Пічэта. І далей апавядае, як Багдановіч—студэнт Яраслаўскага Юрыдычнага ліцэю, зьвярнуўся да яго за дапамогаю займацца гісторыяй роднага краю, і якое ўражаньне ад М. Б. засталося пры першай і апошняй стрэчы.

— Ён быў прадстаўніком тых, на штандары каторых было напісана: адраджэньне нацыянальных культур.

Далей, адцяніўшы супрацоўніцтва М. Б. ў журнале «Украинская жизнь», Пічэта высьвятляе значэньне Максіма Багдановіча ў культурна-нацыянальным адраджэньні. Ён адцяняе галоўныя моманты з гісторыі культурнага нацыянальнага руху Беларусі. Падкрэсьлівае моманты ўпадку й росквіту, што мае мейсца ва ўсіх народаў, галоўную ўвагу на моманце зьмены беларусафільства беларусазнаўствам і пер-

шае мейсца ў гэтым апошнім адводзіць М. Багдановічу. Асобы, вышаўшыя з народу, разумеюць народ, любяць яго. Яны адшліфоўваюць мову, твораць літаратуру. Кожны народ, па думцы М. Б., мае права разьвівацца на агульна-сусьветным фоне і ў працэсе гэтага разьвіцьця дыфэрынцыравацца. Як з культуры сярэднявякоўя вылучаліся нацыянальныя культуры, так і з агульна-рускай беларуская і ўкраінская, стрымаць ходу якіх немагчыма. М. Багдановіч даў схэму культурна-нацыянальнага руху, выказаўшы добрае разуменьне гістарычнага працэсу. Дасьледжваючы гісторыю Захаду, ён такую-ж мерку прылажыў і да гісторыі Беларусі. Гэта трэба будзе мець на ўвазе будучым гісторыкам. Багдановіч не казаў, што трэба ствараць, а тварыў сам харасство мовы, літаратуры і інтэлігэнцыю. Багдановіч — факт першасьцяпеннай значнасьці ў гісторыі культурна-нацыянальнага руху. Ён першы з гораду пайшоў насустрэч ішоўшым з вёскі. Ён памёр,—заканчвае праф. Пічэта, ня даўшы прастору магутным крыльлям. Каб жыў у сучасны момант М. Багдановіч, ён быў-бы ў ліку тых беларусаў, якія чытаюць лекцыі з катэдраў Б. Д. У.

Выступае А. Смоліч, які дадае, што М. Б вызначаўся сваёю бадзёрасьцю і не шкадаваў сваіх сілаў для бацькаўшчыны.

Грамыка чытае мастацкі эцюд і пекнымі вобразамі абвівае песьняра сноў і чараў Багдановіча (Гэты эцюд надрукованы ў «Полымі, № 3—4).

Як жа гэты пясьняр выхаваўся, як гадаваўся і якія крыніцы яго разьвіцьця? У сьціслых словах гэта высьвятляе бацька Максіма, Адам Юравіч.

— Цэласнасьць—вось прынцып, які быў асноваю выхаваньня Максіма,— кажа Адам Юравіч і знаёміць з тымі сродкамі і мэтадамі, цераз якія гэтая цэласнасьць дасягалася. Кажучы п[illegible] падручнікі, якія даводзілася ўкладаць самому, А. Ю. кажа:

— Народныя казкі—вось першыя кніжкі Максіма. Яны—гэта сувязь з народам. Яны і абуджаюць у яго прагнасьць аўладаць родным беларускім словам. І Максім ужо 13 год пробуе свае сілы ў беларускай мове.

Далей А. Ю. некалькімі рысамі адцяняе годы Максіма ў школе, з якіх супыньваецца на некаторых эпізодах. Нарэшце гады ў ліцэі, культурная праца й адзінокая сьмерць у Ялце.

Апошнім выступае Дыла і знаёміць з тымі матар'яламі, якія бацька Максіма перадаў Інбелкульту. Ён падкрэсьлівае некаторыя мэманты самай творчасьці Максіма Багдановіча, як прыклады для пачынаючых песьняроў.

— Гэтыя матар'ялы,—заканчвае Дыла,—выявяць перад намі Максіма Багдановіча ва ўсёй паўнаце й вышыні. Будзем-жа чакаць нецярпліва выхаду іх у сьвет!—Закончваецца вечар выкананьнем хору кантаты Александровіча, прысьвечанай М. Багдановічу. Праясьніўся вобраз М. Б. і пашырыўся ва ўяўленьнях прысутных. Новыя думкі аб ім ва ўсіх залуналі.

**А. Б—ка.**

## 15-х-гадовы юбілей Ўл. Галубка.

29 красавіка. Красуецца Дом Працаўнікоў Асьветы. Вясёла гарыць электрычнасьць. Сягоньня шануецца 15-хгадовая праца Ўл. Галубка на ніве беларускай культуры. І тудзе заля роем пчаліным, што зьляцеўся ад гушчаў працоўных на сьвята Ул. Галубка, на пятнацёхгадовы юбілей яго працы. І вось сьціхаецца—гэта заслона павольна закалыхалася ўгору. Шухам прыцішным узьнімаецца заля —гэта гукі беларускай марсэльезы гучна паліліся з трубаў мядзяных. Бурагучны ўзрыў воплескаў пакаціўся па Доме—гэта стрэча-вітаньне юбіляра Галубка, якога запрашае Рэктар Унівэрсытэту праф. Пічэта заняць пачэснае месца за сталом на сцэне. А навокал прадстаўнікі розных культурных установ, арганізацый і г. д. Зіхаціць урачыстасьць, ліюцца прывітаньні, прамовы. З сэрцам адказвае й аддзячыць Галубок.

Адгалоўнага Інспэктарыяту Наркамасьветы вітае т. Каранеўскі, зазначаючы, што юбіляр шмат дапамог Наркамасьветы сваёй шчырай і бескарыснай працаю на ніве асьветы працоўных масаў. «Галубок ня раз атрымліваў ад Наркамасьветы заданьні і, не зважаючы на цяжкія матар'яльныя варункі, іх шчыра й сумленна выконваў». Жадаючы й на далейшы час плададворчай працы, Каранеўскі перадае юбіляру падарунак ад Наркамасьветы. Шчыра аддзячвае Галубок, абяцаючы й надалей працаваць па заданьнях Наркамасьветы.

—Ваша сьвята —наша сьвята. Ваша радасьць—наша радасьць. Ваша гора—наша гора,—так вітае ад Унівэрсытэту праф. Пічэта.

—У гэты дзень,—кажа ён, калі мы вольна сьвяткуем гэтта Ваш юбілей, тамка за рубяжом дэнацыяналізуюць беларусаў. Тамака ліюцца горкія сьлёзы.—І характарызуючы тыя абставіны, у якіх Галубок пачаў сваю працу, Пічэта выказвае гарачую надзею, што зьнікне панства і за рубяжом.

—Мы верым, што Беларусь Заходняя аб'яднаецца з Беларусьсю Савецкай, і Вы і Ваша трупа закалёсіць па аб'яднанай Беларусі. Культурны дзеяч займе пачэснае мейсца.

Далей Пічэта гаворыць аб першых уражаньнях ад працы Галубка й параўноўвае яго з украінскім культурным працаўніком Карпенка, Карым.

—Яны былі такімі-ж бескарыснымі, як і Вы. Яны верылі ў будучыну, як і Вы. Народная маса, гледзячы на Вашы п'есы, узьнімаецца да новых ідэалаў. Вы працуеце па акрайнах места й па вёсках, дзе патрэбны не беларучкі, і, калі яны выходзяць з тэатру, яны выходзяць іншымі, чымся ўвайшлі ў яго—яны выходзяць новымі. Юбіляр зойме адно з першых месц сярод працаўнікоў Беларусі.

Адзначаючы працу Галубка й ва Унівэрсытэце, Пічэта кажа, што навуковая мысьль сярод асьвячаючых шлях убачыць і Галубка.—Хай Ваша жыцьцё будзе доўгім. Тварэце сьмела. Хай цярністасьць Вас ня пужае, і калі ня сучасьнікі не ацэняць, то ацэняць потым. Вас любіць народ, а каго ён любіць—той ісьціны яго сын. І аб'яднаная Беларусь створыць новыя песьні й гымны сонцу й красе,—закончыў Пічэта.

—Вы зьявіліся да нас зоркамі, адказвае Галубок.—Вы—кветкі ў нашым блакіце. Наш народ Ваша імя будзе ў сэрцы насіць. Мы нядаўна разьбілі кайданы й да шчасьця йдзём. Разаб'юцца яны й там, дзе жандары гарцуюць і ў промінах Вашай навуковай думкі заквітнее вольна Беларусь.

Ад імя навуковых працаўнікоў вітае праф. Замоцін.

—Вам выпала прыглядная доля працаваць на ніве беларускай літаратуры.

Гэты прывет ня толькі ад групы, але й ад той навукі, якая дае магчымасьць сказаць аб рабоце драматурга. Драматург павінен быць зьвязан з народам, павінен чэрпаць адтуль мэтар'ялы. Вы з дакладнасьцю этнографа малюеце яго быт. Адна ўмова, якую ўскладае гісторыя літаратуры на драматурга, Вамі выканана. Другая—гэта жывая мова. Вашы п'есы ўжо па словах крытыкі больш для сцэны, чымся для літаратуры. Гэта ўмова выканана. Трэцяя—гэта тыпізацыя жыцьця. Яна ёсьць у п'есах «Забытая хатка», «Доля мужыка». Адбіваецца тыпізацыя ў п'есах, дзе малююцца адносіны селяніна да інтэлігэнцыі, к паном. У чацьвёртай умове—ідэалёгіі драматург павінен будзіць народную сьвядомасьць. У мінулай працы Галубка мы спатыкаем цеплату. У практыцы—зьлівалася літаратурная праца Галубка з плошчаю. Сялянскі й павятовы тэатры бачылі п'есы Галубка. Вы прарабілі падгатоўчую працу, якая й другіх штырхане йсьці й разьвіваць драматургію. Расійская рэвалюцыя адчыніла шырокія магчымасьці, і перад беларускай літаратурай шырокі шлях. Мы жадаем, каб беларуская драматургія вырасла ў пышны й багаты цьвет.—

— Хочацца кінуць пагляд на Вашу творчасьць,—гаворыць, вітаючы Галубка, праф. Пятуховіч.

— Многа перамен адбылося за 15 год. Сярод гэтай зьмянлівасьці вы заставаліся пэўным сабе на шляху культурна-соцыяльнага адраджэньня. Вы адбілі ў сваіх творах быт селяніна, далі абразкі змаганьня. Вы арганізавалі трупу, якая набывае вялікія сымпатыі ад тых, дзеля каго ставіць спэктаклі. Прафэсура Унівэрсытэту Вас вітае.

— Ад гарачага сэрца вітае цябе Інбелкульт,—гаворыць Якуб Колас;— Вітае, як лепшага сына народу. Твае думы з ім. 15 год ты моцна трымаў сьцяг святла й нёс яго ў цёмныя куточкі й кідаў зярняты засеву Яны ўзышлі, і мы нізка табе кланяемся.

Ад прафсаюзу раб'асьветы вітае т. Ахрамовіч і ацэньвае работу Галубка.

— Галубок у сваіх п'есах высьмейвае буржуазію. Ён паказвае, як зараджаецца пролетарыят. Творы Галубка даюць магчымасьць чэрпаць матар'ялы для выхаваньня моладзі, і ў гісторыі клясавай барацьбы Галубок зойме пачэснае месца.

І цэлы шэраг прывітаньняў ад вучняў, студэнтаў, артыстаў, моладзі ліюцца ад шчырага сэрца Галубку. Ільлінскі ўспамінае супольную працу ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры. Апаціонак ад студэнтаў Б. Д. У., Паскробка ад студэнтаў Б. І. С. Г. і Галубок верыць, што новыя кавалі скуюць сусьветны інтэрнацыянал, што новыя агрaномы й каморнікі разьмяркуюць зямлю й там, дзе цяпер топчацца панскі конь.

Александровіч ад студэнтаў пэдтэхнікуму падносіць адрас і чытае цэлы шэраг прывітальных вершаў сваіх сяброў. А вос студэнт-рабфакавец:

— Калі-б спытаць, чые мы творы лепш ведаем, мы адкажам Галубка— і Галубок з імі.

Вітаюць і ад акрайных клюбаў і ад дзіцячых дамоў, для якіх Галубок ня раз уладжваў дармовыя спэктаклі.

Позна зацягнуліся вітаньні. У бурных воплесках, у гуках беларускай марсэльезы ўсе шанавалі юбіляра. Зіхацела ўрачыстасьць, якую толькі працоўны люд пад чырвонымі сьцягамі вольнай зямелькі і можа ўладзіць свайму сыну. Чулася, што Галубок блізка дайшоў сэрца працоўнай гушчы, якая горача і шчыра ўмее й прывітаць свайго добрага працаўніка.

Пасьля ўрачыстага пасяджэньня група Галубка гожа адыграла яго п'есу «Ганка» з быту панскага. Ад шчырага сэрца ўсе пасьмяяліся нэд гніўшым панскім гняздом і яго паралюшовымі птушанятамі, запаляючыся нязгаснаю ненавісьцю да ўсіх тых, што яшчэ ня спораны з гнёздаў, што яшчэ разьлётваюць над заходнімі блакітамі і высмоктваюць сокі з працоўных гушчаў. 29 красавіка—гэта сьветлая старонка з гісторыі разьвіцьця беларускага тэатру й яго дзеячоў. Ва ўвесь рост на ёй—Уладыслаў Галубок.

**А. Рэка.**

### З майго жыцьця.

(*Аўтобіографічны нарыс*).

Радзіўся 19-га студзеня (ст. ст.) 1892 году ў Капылі Слуцкага павету, Менскай губэрні. Бацькі займаліся хлебаробствам; апроч таго, бацька меў адукацыю вэтэрынара. З двух братоў і дзьвёх сёстраў я быў старэйшы На 15 годзе жыцьця скончыў капыльскую пачатковую школу. Жаданьне бацькоў і настаўнікаў было пусьціць мяне па пэдагагічнаму шляху, а маё—вучыцца дзе-б то ні было. Але лёс судзіў другое: неўзабаве памёрла маці, бацька запіў, і на мяне, як на старэйшага, лёг увесь цяжар гаспадарскае працы. Цяжкая праца, боль душы за сям'ю прымушалі шукаць уцехі, і гэтай уцехай была кніжка, якая і на полі ў часы спачынку, і па дарозе да хаты ці на поле, і дома да глыбокай ночы была маім сябром. У гэтую пору яшчэ клекатаў прыліў рэволюцыі 1905 году, і маё маладое сэрца імкнулася быць капляй гэтай стыхіі. Капыль у той час жыў нейкім асабістым ад іншых глухіх куткоў жыцьцём: моладзь складала розныя гурткі ў залежнасьці ад сталасьці, а разам з гэтым і патрэб душы. Былі і асьветныя, істнаваўшыя

яўна, і тайныя палітычныя, былі і адпавядаўшыя тэй і другой мэце разам. Я, Чарнушэвіч (беларускі поэта) і іншыя прагнёмся ўсёй душой мець сувязь з гэтымі гурткамі і, здаецца, у 1908 годзе знаёмімся з выдатнымі ўдзельнікамі рэволюцыйнага руху Капыля (Жылуновічам, Станілевічам) і ўваходзім роўнапраўнымі сябрамі ў іх гурток. Душа рвецца к дзейнасьці; хочацца шырокага размаху, але рэволюцыйны прыліў супакойваецца, мацнее сіла рэакцыі; Капыль да 1905 году ня бачыўшы настаяшчага паліцэйскага, цяпер дрыжыць ад конных і пешых стражнікаў.

Яшчэ на школьнай лаўцы ў многіх маіх таварышоў меўся нахіл пісаць; спрабаваў і я, але гэтае пісаньне вылівалася ў нязграбныя сатыры, якія пушчаліся па адрасу адзін другога. Але к гэтай пары ўжо некаторыя пачалі друкаваць свае творы; у Капыль нейкім чынам папала «Наша Ніва», дзе Жылуновіч прымаў ужо відны ўдзел. Вось выпадак, які штурхнуў мяне да літаратурнай працы. Прыходзіць да мяне ў гумно, дзе я малаціў, Хведар Чарнушэвіч і кажа:

„Вось я напісаў некалькі вершаў пабеларуску і думаю паслаць у «Нашу Ніву»; можа ты што-небудзь напішаш, дык разам пашлём“.

Я напісаў прозаічны жарт «Ласун», які можа праз тыдзень быў надрукаваны ў № 52 «Нашае Нівы» за 31 сьнежня 1909 году. З гэтай пары пачынаецца пастаяннае супрацоўніцтва ў «Нашай Ніве» раней прозай, а пасьля поэзіяй, і наогул літаратурная праца ў беларускай прэсе.

К 1910 году ў Капылі засноўваецца нашым гурком выдавецтва рукапіснага журналу „Зара“ на расійскай мове, а праз некаторы час журналаў—«Голас Нізу» таксама на расійскай мове і журналу на мове беларускай (назвы ня памятаю), дзе таксама прымаю ўдзел; апроч гэтага, супрацоўнічаю ў журнале «Агні», які выдаваўся ў Кіеве.

Але ўжо Капыль і яго жыцьцё пачынае нездавальняць маіх духоўных патрэб, і душа рвецца к больш культурнаму цэнтру, хочацца паглядзець на сьвет. І вось у канцы 1911 году пры дапамозе Станілевіча, які зрабіў уплыў на бацьку, і пры яго дапамозе адначасна з ім пераехаў у Пецярбург. Цяжка было першыя часы: жыцьцёвы запас выходзіў з кішэні, а працы ня было, і ня раз, праходзячы мастамі праз Няву, лезьлі ў галаву дрэнныя думкі...

Потым завялося знаёмства й знашлася праца. Шум роднай прыроды зьмяніўся на шум заводзкіх машын, якія першы раз палохалі, а потым мяне спадабалі, і спадабаў іх я... Рабочыя, сьперш пазіраўшыя на мяне коса, потым зразумелі мяне і пабраталіся я з імі. Матар'яльная забясьпека таго часу было кепская, але для душы было многа стравы. І тут увесь вольны час я аддаю кніжцы і пяру, уваходжу ў сябры клюбаў, знаёмлюся з літаратарамі, бываю на сходах гуртку маладых расійскіх пісьменьнікаў пад старшынством Чапыгіна, трымаю цесную сувязь з беларускім выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша ваконца» і супрацоўнічаю ў яго журнале «Маладая Беларусь».

Але надышоў год прызыву, які крута павярнуў жыцьцё і разьбіў мае маладыя спадзевы. У восені 1913 году я быў забраны на вайсковую службу і назначаны ва флёт. Кранштадт, які пасьля мы называлі другім Сахалінам, пакінуў надта кепскае ўражаньне; штодзённыя муштры выбівалі з галавы кожную іскру жывога пачуцьця, дні здаваліся гадамі і думалася, што гэтаму ня будзе ні просьвету ні канца. Але праз чатыры месяцы папаў у машынную школу, дзе вальней уздыхнуў і аддаўся ўсёй душой навучаньню тэхнікі. Праз два гады вытрымаў экзамены на штатнага машыніста і на машыннага старшыню, але асьвету ў гэтай галіне цягнуў далей, рыхтуючыся на стопень мэханіка другога разраду.

З 1915 году пачынаю жыцьцё сапраўднага марака... Наведваюся часта ў розныя гарады Прыбалтыкі, атрымліваю баявое крашчэньне. Але гэтае

пачынае давіць грудзі, хочацца ўцячы ад гэтага страхацьця, але, закованы ў бранявыя сьцены, ня мог выбрацца. Ніколі, нідзе ня можа быць гэтулькі думак, мукаў душы, як тут, у гэтых абставінах, калі адрэзаны ад людзкога і свайго жыцьця і думаеш аб магчымасьці сьмерці. Можа міліёны раз мігнуць перад вачыма розныя вобразы, родная сям'я. Толькі і адпачнеш душой, калі ўп'ешся вачыма ў шырокую даль мора і пад яго гоман супакоішся, нібы засьнеш. .

Ня гледзячы на ўвесь прыгнёт з боку маючых уладу, на караблёх кіпела жыцьцё, кавалася моцная воля і вітаў здаровы дух. Трумы—гэтыя норы—ня раз агалашаліся клічам незадаволеньня, і гэты кліч нярэдка выліваўся яўна наверх. Былі выпадкі, калі матросы голасна заяўлялі свой протэст наконт харчу, і іх патрабаваньні здавальняліся. А былі выпадкі, калі ўчыняліся, нават, пакусы на шкодных асоб.

І гэты цесны саюз, гэтае братэрства не давала заснуць майму пачуцьцю і я разам з пакрыўджанымі выліваў свой голас.

У 1917 годзе быў камандыраваны ў Унівэрсытэт Салдат-Рэспубліканцаў пры Пецярбурскім Дзяржаўным Унівэрсытэце і спадзяваўся, астаўшыся там, працягнуць асьвету, але бойкі за аўладаньне Рыжаскай затокай адцягнулі мяне назад і прымусілі быць сьведкай яе падзеньня.

За час рэволюцыі траплялася прымаць удзел ва ўсіх стадыях яе ходу ў Пецярбурзе, і займаць шмат адпаведных выбарных пасад па месцу службы.

У час, калі немцы займалі Гэльсінгфорс, я быў камандыраваны морскай уладай у Ніжні-Ноўгарад, як член эвакуацыйнай камісіі для здачы маемасьці Сьвяабарскага порта, дзе 2-га ліпеня і быў цяжка ранены двумя асобамі Тамердзьяро і Шахавым, з якой прычыны — і па гэты час невядома. Праляжаўшы 11 месяцаў у больніцы, атрымаў пасаду ў Ніжагародзкім порце, дзе і праслужыў да 7-га жніўня 1921 году, пасьля чаго быў загадам Наркамасьветы адазван у Менск.

**А. Гурло.**

---

* У сьнежні гэтага году спаўняецца *пятнаццаць гадоў літарацкай працы* беларускага пісьменьніка *Цішкі Гартнага.* У нумары 25 «Наша Ніва" за 4 сьнежня 1908 году была надрукавана яго першая корэспондэнцыя з мястэчка Капылю, у якой Цішка Гартны апісваў настрой капыльскага жыхарства, апаўшы ў брудную будзёншчыну пасьля ўздыму 1905—6 гадоў.

* Цішкай Гартным знойдзены і прывезены ў Менск *рукапісы нябожчыка Ф. Шантыра.* Рукапісы хаваліся ў ядынай яго сястры, Гурскай, якая пражывае ў м. Слуцку. Яны адносяцца да першага пэрыяду творчасьці пісьменьніка, 1910—1912 г. г. і пазьнейшых гадоў. Рукапісы ёсьць на беларускай, польскай і расійскай мовах, якімі добра валадаў Ф. Шантыр і на якіх у пачатку свае літарацкай працы спрабаваў пісаць. Сярод знойдзеных рукапісаў ёсьць 12 вершаў, некалькі абразкоў поэтычнай прозы і апавяданьні «К волі», «Пад шум лесу», „Адзінокі", «У вялікі дзень», «Песьня прарваная» і інш. Больш позьнія рукапісы Ф. Шантыра на вялікую шкоду дзесьці прапалі.

* 29 ліпеня ў Слуцку на палітычна-пэдагогічных курсах адбыўся *вечар разьвітаньня з песьняром Я. Коласам,* які чытаў слухачом мэтодыку роднай мовы. Я. Коласа шчыра віталі ўсе слухачы курсаў, зрабіўшы яму овацыю.

* Рэжысэр Беларускага Дзяржаўнага Тэатру Е. Міровіч напісаў гістарычную драму «Каліноўскі»—з часоў польскага паўстаньня 1863 г., якая пойдзе ў Б. Д. Т. ў наступным сэзоне.

* Загадчыкам мазырскага павятовага аддзяленьня госархіву т. Доўгаполавым знойдзена *грамата Магдэбурскага права,* дараваная Мазыру польскім каралём Янам Трэцім. Грамата памечана 1680 г. і напісана на

вялікім пэргамантным лісьце з уласнаручным подпісам „Ян-круль“.

*Археолёгам М.В. Мялешкам напісаны досьлед *«Каменныя помнікі беларускай старасьведчыны»*. Праца складаецца з двух разьдзелаў. *I—«Камень у забабонных прадстаўленьнях беларусаў»*, дзе разглядаецца: а) камень у вераваньні дрэўніх народаў; б) зьяўленьні каменя па народнаму погляду; в) камені-ісцэліцелі; г) камені «краўцы» і «шаўцы»; д) абярнуцьце ў камень; е) каменьні з выбітымі знакамі; ж) вітаўтавы камені; з) каменныя паганскія багі; і) каменьні з хрысьціянскімі эмблемамі. II. *«Каменьні гісторыка-археолёгічнай значнасьці»* які складаецца з: а) каменьні з надпісамі і лічбамі; б) Пнявішчанскі камень з фінікійскім надпісам; в) Усьвяцкі камень; г) каменны помнік 1569 г. на Лепельшчыне; д) каменны помнік 1242 г. на Шыйбак-полі (на Віленшчыне); е) камень Рагволада 1171 г.; ж) Барысавы каменьні на р. Дзьвіне; з) Барысаў камень у Высокім-Гарадцы; і) Барысаў камень на Вялейшчыне; к) Барысаў камень у м-ку Раманаве на Гомельшчыне.

Да рукапісу прыложаны адпаведныя ілюстрацыі і паказана літаратура прадмету.

### Беларуская этнографічная экспэдыцыя.

Складзеная Інбелкультам Беларуская этнографічная экспэдыцыя ў часе з 8 па 19 мая зрабіла першую паездку на Ігуменшчыну па маршруту: ст. Рудзенск, в.в. Цытва і Сяргеевічы Цытвянскай в., м-ка Шацк, в. Хатляны, м-ка Лоша, в. Даўгінічы, м-ка Узда і праз ст. Негарэлае назад у Менск.

За гэты час экспэдыцыя сабрала каля 340 розных этнографічных рэчаў і зрабіла 73 фотографічных здымкаў. У лік рэчаў увайшлі галоўным чынам вясковая тканіна, сярод якой маецца некалькі штук мастацка-вытканых посьцілак; сабрана больш 30 штук разматых па ўзору беларускіх паясоў; гэтак сама часткай сабраны ручнікі і вышыўкі; некаторыя рэчы апрацоўкі лёну, музычныя народныя інструмэнты, вопратка, рэчы адносныя да народнай мэдыцыны, народных вераваньняў, хатніх прыладаў і т. п.

Фотографічныя здымкі зроблены з беларускіх тыпаў. Гэтак сама сфотографавана тыповая беларуская сядзіба, сялянская праца, малюнкі сямейнага быту і пэйзажы беларускай прыроды.

Апрача гэтага, рабіліся географічныя нагляды. Між іншым экспэдыцыі належыць першае дасканалае ўстанаўленьне месца вытыкаў Нёмна і Лошы, што да гэтага часу яшчэ нікім ня было зроблена.

### Камісія беларусазнаўства.

Пры Слуцкім аддзеле народнае асьветы са сьнежня месяца 1922 г. існуе камісія беларусазнаўства, якая дзень-ата-дню ўсё шырэй ды шырэй разьвівае сваю працу, захопліваючы новыя й новыя галіны народнае асьветы. Камісыю з'арганізаваў інспэктар соцыяльнага выхаваньня М. Касьпяровіч. У склад яе, апрача М. Касьпяровіча, уваходзіць аграном Барташэвіч, загадчык с.-г. тэхнікуму Сабалеўскі, настаўнікі Бараноўскі і Яновіч і сябар колегіі народнае асьветы Яфімаў. Камісія між іншым мае мэтаю падрыхтоўку выкладчыкаў прадметаў беларусазнаўства з боку пэдагогікі, мэтодыкі, радзімазнаўства, а таксама ўсебаковае ізучэньне краю, асабліва Случчыны. Для выкананьня гэтых мэтаў комісія беларусазнаўства наладжвае цэлы шэраг літаратурных і навуковых лекцыяў і дакладаў. Организавана лектарскае бюро і наладжваецца шэраг гурткоў самаасьветы і каротка-тэрміновыя курсы. На апошнім пасяджэньні камісіі былі выстаўлены даклады «аб беларускай аповесьці і рамане» (Гарэцкага і Гартнага) і «аб гісторыі нацыянальнага і рэволюцыйнага руху і гісторыі народнае асьветы на Беларусі». Камісіяй распрацаваны і праводзіцца ў жыцьцё шырокі плян экскурсыяў вучняў школ гораду і павету. Мэта экскурсыяў—прыродазнаўчыя і гісторычныя досьледы краю.

Баявым заданьнем камісіі белару-

сазнаўства зьяўляецца організацыя ў Слуцку музэю краязнаўства. Музэй павінен мець аддзелы: пэдагогічны, этнографічны і прамысловы з пад'аддзеламі—сельска-гаспадарчым, тэхнічным і кустарна-мастацкім. Дзеля гэтага выдзелена музэйнае бюро ў складзе старшыні Яфімава і сяброў Барташэвіча, Бараноўскага і Яновіча.

### Культурная праца ў Даўгінічах на Ігуменшчыне.

У вёсцы Даўгінічах Ігуменскага павету ўжо з 1922 году вядзецца шырокая праца па пашырэньню беларускае культуры. Кіраўніком гэтае працы зьяўляецца Язэп Шабуня. Першай справай Шабуні была організацыя народнага дому з пастаноўкаю ў ім беларускіх п'ес. Дзеля гэтага Шабуня згуртаваў з вясковых дзяўчат і хлопцаў беларускую трупу. За 1922 г. трупаю зроблена каля 20 пастановак. Апроч свае вёскі,ЯзэпШабуня езьдзіў са сваёю трупаю ў другія вёскі, як Слабада-Пурышаўская і м. Лоша. За мінулую зіму было зроблена дзесяць паездак. З сябраў свае трупы Язэп Шабуня з'організаваў беларускі хор, з якім справа стаіць вельмі добра.

### Асьвета.

* Пры Камуністычным Унівэрсытэце Захаду з наступнага году адчыняецца *беларускі сэктар* з 60 студэнтамі. Кіраўніком сэктару назначаны ЦБКПБ А. Сянкевіч.

* З наступнага году *бабруйскі пэдтэхнікум* пераходзіць да навучаньня на беларускай мове. Загадчыкам пэдтэхнікуму назначаны т. Х. Імшэньнік. Добра адрамантаваны будынак.

*Партыйная школа на беларускай мове.* У 1923—24 годзе маюць быць праграмы ўсіх партыйных школаў на Беларусі апрацаваны згодна мясцовым умовам. У цэнтральную партыйную школу ўводзіцца, як абавязковы прадмет, беларуская мова і гісторыя Беларусі, а ў Менскай павятовай партыйнай школе ўсе галіны навук будуць выкладацца на беларускай мове.

* *У Гомельшчыне* да гэтага часу адчынена шэсьць беларускіх школ: у Гомельскім павеце—2 школы (вёска Пералёўка і в. Беразкі), у Рагачоўскім —1 шк. (вёска Азяраны) і ў Магілёўскім павеце—3 школы (у вёс. Сасьноўка, Нова-Бахань і Новабаяршчына). Пры Азяранскай школе маецца беларуская бібліотэка, выпісваецца «Савецкая Беларусь», якая чытаецца настаўнікам для сялян. Як да школаў, гэтак і да газэты сялянства й настаўніцтва адносіцца дужа прыхільна.

### Выдавецтва.

*Беларуская кніжка.* Зараз на агульным кніжным рынку адмячаецца застой. Кніжка стала маладаступным здавольствам для таго новага чытача, якога нарадзіла рэволюцыя. Неадпаведнасьць між заработкам і цаною кніжкі (якая ўсё-ж ня вышэй цаны даваеннага часу) робіць кніжку дарагою рэччу. Вось чаму, галоўным чынам, яна ня мае пашырэньня і застаецца на складзе непраданай.

Так адносна расійскай кнігі. Амаль што тыя-ж асабістасьці адмячаюцца і ў датырканьні беларускай кніжкі. Ня гледзячы на тое, што беларускае выдавецтва «Савецкая Беларусь» расцэньвае свае выданьні процантаў на 30 таней расійскіх кніжак, беларуская кніжка робіцца таксама недаступнай беларускаму чытачу. Але тут ёсьць больш гострая неадпаведнасьць між беларускім чытачом і беларускай кніжкай, як-то мы бачым гэта між расійскім чытачом і расійскай кніжкай. Справа ў тым, што для беларускае кніжкі, якая, фактычна зьявілася на рынку за апошнія два гады, маецца выключна аднастайны пакупацель—сельскае настаўніцтва, студэнцтва і сялянская местачкова-працоўная інтэлігэнцыя—самыя незабясьпечныя слаі грамадзянства. Ні нэпаўцаў ні буржуазнай інтэлігэнцыі, ні інтэлігэнтных партыйцаў беларуская кніжка пакуль ня знае, што мае за сабою расійская кніга.

Прымаючы ўсё вышэйпаказанае пад увагу, трэ' адзначыць, што, як-ні-як,

беларуская кніжка прадаецца шмат байчэй ад расійскай, уважаючы пропорцыянальна-рознастайныя ўмовы, якія ўжыўны расійскай кніжцы да тых-жа ўмоў адносна беларускай кніжкі.

Што датыча прадажы беларускай кніжкі адпаведна яе зьместу, то, як і на расійскім кніжным рынку, уперадзе йдуць беларускія падручнікі (бяручы пад увагу колькасьць назваў). Кідаючы ў баку заказы Наркамасьветы, за чатыры месяцы г.г. распрадана беларускай кнігарняй падручнікаў: Лемантар «Зорка», Гісторыя Беларускай літаратуры»—М. Гарэцкага, «Географія Беларусі» А. Смоліча, ч. І і ІІ, Задачнікі Юрэвіча, ч. І і ІІ і Валасковіча, Гісторыя Беларусі Ігнатоўскага, «Роднае Слова»—Некрашэвіча і г. д.=1894 экз.

За імі йдзэ часопісная літаратура: «Полымя», «Вольны Сьцяг», «Зоркі», «Саха» і «Крапіва» (старыя)—675 экз.

Далей—мастацкая літаратура, вершы, проза, п'есы, казкі (Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Богушэвіч, З. Бядуля і інш.)=1147 экз. З-заду йдуць кніжкі па розным галінам ведаў («Гутаркі аб небе і зямлі», «Кармовыя травы», «Як ратаваць уздутую жывёлу», «Беларускі рух», «Матывы лірыкі беларускага поэты М. Чарота» і інш.), якіх прадана звыш 200 экз. Зусім асобна йдуць песельнікі Тэраўскага і Равенскага і каляндар «Праца» і Табель-календар, якіх прадана за 4 месяцы 556 экз.

У адносінах да аўтораў трэба адмеціць, што сучасныя нам ідуць амаль што роўна ўсе, прымаючы пад увагу колькасьць іх асобных выданьняў, тэрмін выданьняў і іншыя парожніваючыя прычыны. Гэтак, Янкі Купалы (4 назвы) прадана—179 экз., З. Бядулі (2 назвы)—242 экз., Якуба Коласа (1 назва)—129 экз., Цішкі Гартнага (3 назвы)—316 і г. далей. Не адстаюць і пісьменьнікі, як Багушэвіч, Марцынкевіч і др.

* Коопэрацыйным Выдавецтвам «Савецкая Беларусь» падрыхтаваны да выданьня беларускі дэкляматар «*Чырвоны дудар*». Над рэдагаваньнем дэкляматару працавала знарок выбраная рэдакцыйная колегія ў складзе т. т. С. Некрашэвіча, Янкі Купалы й Цішкі Гартнага. Застаўкі й канцоўкі ў тэксьце намаляваны беларускім мастаком М. Філіповічам. Дэкляматар будзе абагачаны многасьцю патрэтаў беларускіх пісьменьнікаў, песьняроў, артыстаў і аматараў.

* Тым-жа выдавецтвам хутка выпускаецца ў сьвет другая кніжка «*Сцэнічных твораў*», у якую увайшлі гэткія рэчы: «Соцыялістка» Ц. Гартнага, «Каліcь» Ф. Аляхновіча і інш. Друкуецца збор вершаў Янука Журбы.

* Вышлі з друку «*Пачатковая Географія*» М. Грамыкі і «*Новая Зямля*» Якуба Коласа.

* Ў. Луцэвіч падрыхтавала да друку зборнік дзіцячых песень і гульняў «*Вясёлка*». Зборнік прызначаецца для дзяцей малодшага ўзросту, зьмяшчае ў сабе сто нумараў—усе з нотамі.

* Цэнтральны Камітэт КСМ Беларусі разам з Наркамасьветы Беларусі маюць выдаваць на беларускай мове месячнік для юнацтва «*Маладняк*». У першым нумары месячніку будзе зьмешчана шмат малюнкаў і патрэты беларускіх пісьменьнікаў.

* У Коўне пад рэдакцыяй В. Ластоўскага выходзіць часопісь „*Крывічанін*". Ужо вышла два нумары часопісі.

* У Цэнтрабелдруку вышла кніжка Я. Пятровіча на беларускай мове „*Зямельны кодэкс у запытаньнях і адказах*".

* Музыкальным сэктарам Дзяржаўнага выдавецтва ў Маскве выданы чатыры беларускія песьні са зборніку Янчука: «*Доля*», «*Бяда*», «*Вясенняя*» і «*Калысная*» у гармонізацыі вядомага расійскага кэмпазытара А. Грэчанінава.

* Выдавецтвам «Савецкая Беларусь» даручана т. І Цьвікевічу складаньне *беларускага календара-кніжкі на 1924 год*. Кніжка будзе мець багаты

зьмест справачнага, патрэбнага для сялянства, матар'ялу.

* У выдавецтве «Савецкая Беларусь» друкуецца збор вершаў А. Гурло «*Барвенак*».

* Інстытут Беларускае Культуры выпускае з друку трэці і чацьвёрты выпускі «Беларускай Тэрмінолёгіі».

* У Віленскім выдавецтве Б. Клёцкіна вышла апавяданьне Якуба Коласа «*У Палескай глушы*» і другое выданьне вершаў Я. Купалы «Шляхам жыцьця».

* Калегія Камісарыяту Земляробства пастанавіла ў працягу 2 месяцаў перавясьці дзелаводзтва на беларускую мову. Пры Камісарыяце організуюцца двухмесячныя курсы па навучаньню беларускай мовы, абавязковыя для ўсіх супрацоўнікаў.

* Пасланы на Ўсесаюзную выстаўку ў Маскве Беларускі дзяржаўны тэатр з хорам і нацыянальнымі струмэнтамі (дуда, цымбалы) зрабіў вялікае ўражаньне на маскоўцаў і на ўсіх экскурсантаў на выстаўку. Беларускім тэатрам вельмі цікавіліся й маскоўскія рабочыя, якія напарарыў запрашалі яго ў свае клюбы, дзе ставіліся «На купальле» і «Машэка». Гэтыя п'есы таксама граліся і ў Крэмлі.

* Вядомы беларусавед Сержпутоўскі даставіў у Інстытут Беларускае Культуры капітальную сваю працу «Быт беларуса» і зборнік прыказак у ліку 7.000, якія ім сабраны на Беларусі. Таксама Сержпутоўскі апрацоўвае беларускі слоўнік, для якога ўжо зарэгістравана ім больш 30000 слоў.

* Народны Камісарыят Асьветы Беларускай Рэспублікі даручыў архэолёгам Ляўданскаму і Сушчынскаму зрабіць архэолёгічныя раскопкі курганаў у районе Барысава. Усе знойдзеныя пры раскопках рэчы будуць перададзены ў Беларускі дзяржаўны музэй.

* Загадчыкам мазырскага павятовага аддзелу Дзяржаўнага архіву т. Доўгаполавым знойдзена ў мазырскім касьцёле багатая бібліотэка, выключна з польскіх кніжак, якая перададзена дзяржаўнай беларускай бібліатэцы.

* Пры вітабскім доме асьветы адчыняецца гурток беларусазнаўства.

* Сярод аглядчыкаў Усесаюзнай выстаўкі ў Маскве адмячаецца вялікая цікавасьць да беларускае літаратуры. З-за гэтага беларускім выставачным камітэтам высланы ў Маскву ўсе беларускія выданьні.

* Пашырэньне *Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі* адбываецца шпарка. Пад бібліотэку перададзены суседні будынак, дзе дагэтуль памяшчаецца ЧОН і Камісарыят Унутраных Спраў. Дзякуючы гэтаму, можна будзе павялічыць чытальныя покоі і кнігахавальні. У старым памяшчэньні пакідаецца аддзел гуманітарных навук, беларускі аддзел і новаорганізаваныя аддзелы марксізму і савецкага будаўніцтва. У новым будынку будуць разьмешчаны аддзелы прыродазнаўчых і мэдыцынскіх навук, польскі і жыдоўскі аддзелы, пэрыодычныя выданьні і другая чытальня. Адчыненьне другога аддзяленьня Б-кі адбудзецца 10 кастрычніка г.г.

* З 10 кастрычніка пры Б-цы пачне функцыянаваць сталы бібліатэчны і бібліографічны практыкум, які мае на мэце падрыхтаваньне і кваліфікацыю бібліатэчных працаўнікоў і наладжаньне бібліографічных заняткаў праз організацыю бібліографічных гурткоў паміж студэнтамі Б.Д.У. У першы чарод намечаны кружкі па марксіцкай і беларускай бібліографіі.

* З наступнага № „Полымя“ пачнецца друкаваньне матар'ялаў па Беларускай бібліографіі.

**Беларуская культура за рубяжом.**

*Матэматычны слоўнік.* Інж. К. Душэўскі і В. Ластоўскі ўлажылі слоўнік матэматычнай тэрмінолёгіі.

(«Сьцяг Народу» № 1).

* Беларуская гімназія ў Радашковічах атрымала пісьмо з Чыкага (Амэрыка), у якім беларускі народны камітэт у Амэрыцы дакляруе матар'яльную дапамогу гімназіі. («Сьцяг»).

* Люцынская беларуская гімназія т-ва «Бацькаўшчына» (у Латвіі) перадаецца беларускаму аддзелу пры

латыскім міністэрстве асьветы і пераймяноўваецца ў другую Ўрадавую Беларускую Гімназію (першая ў Дзьвінску). («Сьцяг Народу» № 1)

* У Чыкага беларусы прыгатаваліся да зімовага сэзону культурнай працы. Дзеля гэтага ўжо зьняты залі на концэрты і спэктаклі і запрошаны выдатныя артыстычныя сілы. Увесь даход пастуніць на карысьць культурных спраў заходняй Беларусі.

(«Сьцяг Народу»)

* У Вільні друкуецца кніжка Сулімы: «Што такое «Wyzwolenie» з беларускага пункту гледжаньня».

(«Сьцяг Народу»)

* Беларускі музэй імя Яна Луцкевіча ў Вільні, у якім хаваюцца вялікія вартасьці для навукі, для гісторыка і поэты, зьвярнуўся да інтэлігэнцыі вёскі з адозваю зьбіраць і вынаходзіць граматы і рэчы мінулага, якіх багата марнуецца на Беларусі.

(«Падняты Сьцяг»)

* За восем месяцаў 1923 г. польскай адміністрацыяй у Вільні зачынена пяць беларускіх газэт: «Наша Будучына», «Новае Жыцьцё», «Саха», «Нашае Жыцьцё» і «Наш Сьцяг» і сканфіскован 15 нумар.

(«Падняты Сьцяг»)

* Дзьвінску (Латвія) 10, 11 і 12 жніўня адбыўся конгрэс вучыцялёў беларускіх пачатковых школ. На конгрэс сабралася 75 чалавек. Конгрэс пастанавіў утварыць хаўрус беларускага настаўніцтва ў Латвіі, выдаваць пэдагогічную часопісь, утварыць беларускі культурны фонд у Латвіі шляхам штомесячных адлічэньняў ад пэнсіі, весьці школьныя летапісы ў школах, залажыць беларускі этнографічны музэй і пачаць збор мясцовых асаблівасьцяў беларускае мовы для састаўленьня мясцовага слоўніка провінцыялізмаў.

* З гэтай восені ў Рызе адчыняецца беларуская пачатковая школа. У школу ўжо запісалася 100 вучняў, якія ў большасьці зьяўляюцца дзяцьмі рабочых з фабрык і заводаў.

**Рэдактор**—*Рэдакцыйная Калегія.*

**Выдавец**—*«Савецкая Беларусь».*

## Да чытачоу ПОЛЫМЯ.

Приступаючы да выданьня нашай часопісі, мы спадзяваліся весьці яе пэрыядычна, выпускаючы штомесяц, а ў крайнім разе, у паўтары месяцы адну кніжку. Аднак гэтаму паперашкодзілі друкарскія ўмовы, і з сьнежня 22 году да красавіка мы маглі выдаць толькі чатыры №№ (у гэтым ліку адзін двайны). Чародны № 5—6 меўся выйсьці ў палове чэрвеня месяца, будучы здадзеным у друк у канцы мая. Тымчасам становішча друкарні (няйменьня беларускага шрыфту) вымусілі адцягнуць выпуск нумару да паловы верасьня.

У далейшым рэдакцыя прыложыць усе стараньні, каб часопісь выходзіла рэгулярна.

**Рэдакцыя.**

# Зьмест 5—6-га нумару.



Глаўлітбел № 1780. 1-я дзярж. друк. з. № 2312 друк. у ліку 1000 экз.

## Зьмест № 3—4 (люты—сакавік 1923 г.)

